**Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў**
Studium Europy Wschodniej
Uniwersytet Warszawski

**Rada Redakcyjna**
Prof. dr Thomas Bohn (Justus-Liebig-Universität Gießen), dr hab. Piotr Cichoracki (Uniwersytet Wrocławski), dr. prof. Eriks Jekabsons (Latvijas Universitate, Riga), prof. dr hab. Mikołaj Haustowicz (Uniwersytet Warszawski), prof. dr hab. Jan Jurkiewicz (Uniwersytet im. Adama Mickiewicza w Poznaniu), dr Rūstis Kamuntavičius (Vytauto Didžiojo universiteto, Kaunas), dr Andrej Kotljarchuk (Södertörn University in Stockholm), dr Jan Jerzy Milewski (Polskie Towarzystwo Historyczne, Białystok), prof. dr hab. Eugeniusz Mironowicz (Uniwersytet w Białymstoku), dr Rimantas Miknys (Lietuvos istorijos instituto, Vilnius), dr Per A. Rudling (Lund University), dr hab. prof. Henadź Sahanovich (Uniwersytet Warszawski), prof. dr hab. Elżbieta Smułkowa (Uniwersytet Warszawski), prof. dr hab. Leszek Zasztowt (Uniwersytet Warszawski), праф., доктар гіст. навук Аляксандр Вабішчэвіч (Брэсцкі ўніверсітэт ім. А. С. Пушкіна), проф., доктор істор. наук Леонід Зашкільняк (Львівський національний університет ім. Івана Франка), праф., доктар гіст. навук Рыгор Лазько (Гомельскі ўніверсітэт ім. Францыска Скарыны), доктар филол. наук Николай Николаев (Российская национальная библиотека).

**Kolegium redakcyjne**
dr hab. Aleksander Smalianczuk (redaktor naczelny), dr hab. Anna Engelking (zastępca redaktora naczelnego), dr Anatol Wialiki (zastępca redaktora naczelnego), dr Tatsiana Kasataya (sekretarz redakcji), dr Andrej Czarniakiewicz, dr hab. Tadeusz Gawin, dr hab. Aleksander Kraucewicz, dr hab. Siarhiej Tokć, mgr Filip Urbański.

**Recenzenci**
Prof. dr hab. Eugieniusz Mironowicz, dr hab. Oleg Łatyszonek, dr Jan Jerzy Milewski, dr hab. Anna Engelking, dr hab. Jolanta Żyndul, д-р гіст. навук Сяргей Токць, д-р гіст. навук Аляксандр Краўцэвіч, д-р гіст. навук Захар Шыбека, Андрэй Вашкевіч.

**Redakcja techniczna:** Aksana Danilewicz, Filip Urbański.
**Tłumaczenie i korekta** streszczeń na język polski — Filip Urbański, na język angielski — Christopher Moore.
**Opracowanie graficzne, skład, druk:** Zmicier Hupianiec.
**Okładka:** Manuel Prada.

**Adres redakcji:**
Krakowskie Przedmieście 26/28, 00–927 Warszawa
wydawnictwa.studium@uw.edu.pl
ISSN 2450–8144

**Druk i oprawa:**



# Spis treści / Змест

## DIALOGI / ДЫЯЛОГІ



## ŻYCIE NAUKOWE / НАВУКОВАЕ ЖЫЦЦЁ

### Рэцэнзіі



### Канферэнцыі



### Pro Memoriam

# АД РЭДАКТАРА

## Шаноўныя сябры!

На пачатку хачу падзякаваць першаму рэдактару *Гадавіка* Генадзю Семенчуку, які кіраваў выданнем да канца мінулага года. Пад яго кіраўніцтвам выйшлі з друку шэсць тамоў (2015–2020) часопіса, які заняў пачэснае месца сярод іншых перыядычных выданняў Студыюма Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта.

Узяўшыся за гэту адказную працу, лічу сваім абавязкам найперш прадставіць новую канцэпцыю *Гадавіка*.

**Канцэпцыя**

*Гадавік* з'яўляецца навуковым выданнем Цэнтра беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта, створанага ў 2015 г. Цэнтр існуе ў рамках Студыюма Усходняй Еўропы, якія за 30 гадоў зрабілі надзвычай шмат дзеля развіцця гуманітарных даследаванняў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе.

Да тэматычных прыярытэтаў *Гадавіка* належыць праблематыка мінулага Польшчы і Беларусі ў кантэксце гісторыі народаў былой Рэчы Паспалітай або рэгіёна Украіна–Літва–Беларусь (УЛБ) паводле канцэпцыі Ежы Гедройца (1906–2000) і Юльюша Мерашэўскага (1906–1976) і з улікам уплываў Польшчы і Расіі. У цэнтры ўвагі будуць таксама даследаванні гісторыі народаў УЛБ і стасункаў паміж імі, а таксама аналіз сучаснай культуры памяці.

Іншай важнай задачай *Гадавіка* з'яўляецца прэзентацыя беларускай гістарыяграфіі і вывучэнне праблем

**Koncepcja**

*Rocznik* jest naukowym wydaniem Centrum Studiów Białoruskich Uniwersytetu Warszawskiego, które powstało w 2015 roku. Centrum istnieje w ramach Studium Europy Wschodniej, które w ciągu 30 lat odgrywało znaczącą rolę w rozwoju badań humanistycznych w Europie Środkowo-Wschodniej.

Priorytety tematyczne *Rocznika* obejmują problematyką przeszłości Polski i Białorusi w kontekście historii narodów dawnej Rzeczypospolitej czyli regionu Ukraina–Litwa–Białoruś (ULB) według koncepcji Jerzego Giedroyca (1906–2000) i Juliusza Meraszewskiego (1906–1976), uwzględniając przy tym wpływy Polski i Rosji na los regionu. Rocznik skupi się też na dziejach narodów ULB i stosunkach między nimi (głównie polsko-białoruskich), a także analizie współczesnej kultury pamięci.

Innym ważnym zadaniem *Rocznika* jest prezentacja białoruskiej histo-

яе развіцця. Рэдакцыя будзе імкнуцца ператварыць часопіс у пляцоўку для дыялогу розных нацыянальных гістарыяграфій і гістарычных школ УЛБ, а таксама ўнутрыбеларускага дыялогу. Дзеля гэтага заяўляем пра адкрытасць да абмеркавання вострых пытанняў гісторыі міжнацыянальных і міждзяржаўных адносін у рэгіёне, а таксама іх адлюстравання ў сучаснай гістарычнай палітыцы і калектыўнай памяці.

Рэдакцыя вітае прыхільнасць аўтараў да метадалагічных навацый сучаснай гістарыяграфіі (*memory study*, гістарычная антрапалогія, *oral history*, *gender study,* біяграфістыка ды інш.).

Тэксты будуць публікавацца на ўсіх славянскіх мовах, якія прысутныя ў рэгіёне УЛБ, а таксама на англійскай мове з абстрактамі па-беларуску, па-польску і па-англійску.

riografii oraz badania problemów jej rozwoju. Jednocześnie Redakcja będzie starała się stworzyć platformę dialogu różnych historiografii narodowych i szkół historycznych ULB, w tym dialogu wewnątrzbiałoruskiego. W tym celu deklarujemy otwartość na dyskusję o najbardziej palących kwestiach z historii stosunków międzynarodowych i międzypaństwowych w regionie, a także o ich odbiciu we współczesnej polityce historycznej i pamięci zbiorowej.

Redakcja także wita zaangażowanie autorów w metodologiczne innowacje współczesnej historiografii (*memory study*, biografistyka, *oral history*, antropologia historyczna, *gender study*, itp.).

Teksty będę opublikowane we wszystkich językach słowiańskich obecnych w regionie ULB, a także w języku angielskim ze streszczeniami w językach białoruskim, polskim i angielskim.

Główne działy *Rocznika* / Галоўныя раздзелы *Гадавіка*:

**Dyskusja / Дыскусія**

**Artykuły i komunikaty / Артыкулы і паведамленні**

**Dokument / Дакумент** (publikacja dokumentów historycznych, przeglądy zasobów archiwalnych)

**Dialogi / Дыялогі** (wywiady, rozmowy)

**Życie naukowe / Навуковае жыццё** (informacje o wydarzeniach z życia naukowego: recenzje, przeglądy literatury naukowej, informacje o konferencjach itp.)

Чарговы том *Гадавіка* прысвечаны 100-годдзю Рыжскага трактата, падпісанне якога 18 сакавіка 1921 г. прынесла народам Цэнтральна-Усходняй Еўропы доўгачаканы мір. Аднак трываласці гэтага міру ў значнай ступені перашкодзіла ігнараванне савецкай і польскай дэлегацыямі права нацый на самавызначэнне, што найбольш датычыла беларусаў і ўкраінцаў.

На старонках выдання вядомыя гісторыкі Беларусі, Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Расіі і Нямеччыны разважаюць пра значэнне Рыжскага міру ў гісторыі як УЛБ, так і ўсёй Еўропы. Гэтую праблематыку істотна дапаў-

няе даследаванне польска-савецкіх перамоў на іх „менскім этапе” ў жніўні–верасні 1920 г. (Анатоль Вялікі).

Таксама публікуюцца дапрацаваныя рэфераты шэрагу ўдзельнікаў міжнароднай навуковай анлайн-канферэнцыі Цэнтра беларускіх студыяў „Збройнае змаганне за беларускую дзяржаўнасць у 1917–1923 гг.” (Варшаўскі ўніверсітэт, 13.11.2020). У артыкулах Ніны Стужынскай (Менск), Heleny Głogowskiej (Bydgoszcz), Ігара Мельнікава (Менск) і Сяргея Токць (Варшава) разглядаюцца важныя аспекты беларускай паўстанцкай і партызанскай барацьбы за ўласную дзяржаўнасць (1921–1923), спробы фармавання беларускіх частак у складзе Польскага войска (1919–1920) ды інш. Гэтыя даследаванні дапаўняюць успаміны палкоўніка Аляксандра Успенскага пра раззбраенне польскімі вайскоўцамі 1-га Беларускага палка ў Гародні (1919), падрыхтаваныя да друку Тамашам Блашчакам (Коўна).

Гісторык Ежы Мілеўскі (Беласток) прааналізаваў польскія дыскусіі вакол постаці і дзейнасці Рамуальда Райса (Буры). У студзені і лютым 1946 г. падчас „пацыфікацыі” яго атрадам беларускіх вёсак на Беласточчыне загінулі 79 мірных жыхароў, у тым ліку жанчыны і дзеці. Памяць пра гэтую трагедыю апошнім часам стала прадметам палітычных і ідэалагічных маніпуляцый.

Пэўным водгукам на падзеі „гарачага беларускага лета 2020 г.” стала даследаванне лёсу беларускай нацыянальнай сімволікі падчас Другой сусветнай вайны (Ежы Гжыбоўскі (Варшава)), а таксама ўспаміны першага амбасадара Польскай Рэспублікі ў незалежнай Беларусі прафесара Эльжбеты Смулковай (1991–1995). Са спадарыняй Смулковай размаўляла Ганна Энгелькінг (Варшава).

У *Гадавіку* публікуюцца рэцэнзіі на выданні, якія прыцягнулі да сябе ўвагу:

A. Biały, *Mniejszość polska na Białorusi Sowieckiej w latach 1921–1939.* Prasnysz: Towarzystwo Przyjaciół Ziemi Przasnyskiej, 2018, s. 839 (Аляксандр Смалянчук);

*Węzeł polsko-białoruski 1918–1921: dokumenty i materiały.* Wybór i opracowanie Wojciech Materski; współpraca Uładzimir Snapkouski (Białoruś). Warszawa: Instytut Studiów Politycznych Polskiej Akademii Nauk, 2018, s. 859 (Андрэй Чарнякевіч);

В. Іванова, *Лipляны: біяграфія і штодзённасць беларускай вёскі.* Мінск: Галіяфы, 2019, 404 с.) (Таццяна Касатая, Ірына Чарнякевіч);

Е. Ахманскі, *Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннай эпохі да XVI стагодзьдзя,* „Arche”, 2016, № 2 (147), с. 13–96 (Аляксандр Краўцэвіч).

На старонках выдання можна знайсці інфармацыю пра шэраг важных для нашага рэгіёна навуковых канферэнцый, а таксама развітацца з калегамі, якія пакінулі нас у 2020 г. (Pro Memoriam).

**Д-р гіст. навук Аляксандр Смалянчук**

# ДЫСКУСІЯ

## РЫЖСКІ МІР У ЛЁСЕ НАРОДАЎ І ДЗЯРЖАЎ РЭГІЁНА УКРАІНА–ЛІТВА–БЕЛАРУСЬ

### Неюбілейны форум

18 сакавіка 1921 г. у Рызе дэлегацыі Польшчы, савецкай Расіі і савецкай Украіны падпісалі канчатковы тэкст мірнай дамовы, якая закончыла амаль 7-гадовыя ваенныя дзеянні. Як вядома, ні савецкая Беларусь (ССРБ), ні дэмакратычная Беларуская Народная Рэспубліка да ўдзелу ў мірнай канферэнцыі не былі дапушчаны. Ад імя савецкай Беларусі канчатковую дамову падпісала дэлегацыя РСФСР. У сярэдзіне красавіка мірная дамова была ратыфікавана ўсімі ўдзельнікамі перамоў.

100-годзе гэтай падзеі прымушае яшчэ раз задумацца над яе значэннем не толькі для тых краін, прадстаўнікі якіх падпісвалі яе ў зале рыжскага палаца Шварцкопф, але таксама для народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы і ўсяго еўрапейскага кантынента. Тым больш што распад СССР і г. зв. „сацыялістычнага лагера", аднаўленне незалежнасці Прыбалтыйскіх краін і Польшчы, суверэнітэт Украіны і Беларусі стварылі новую перспектыву ацэнкі Рыжскай мірнай дамовы.

Рэдакцыя Гадавіка Цэнтра беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта прапанавала шэрагу гісторыкаў з Польшчы, Беларусі, Літвы, Латвіі, Украіны, Расіі і Германіі прыняць удзел у форуме, прысвечаным гістарычнаму значэнню Рыжскай мірнай дамовы. Удзельнікам форума было прапанавана адказаць на тры пытанні:

1. Якім было значэнне Рыжскага трактата для народаў рэгіёна Украіна–Літва–Беларусь? / Jakie było znaczenie traktatu ryskiego dla narodów regionu Ukraina-Litwa-Białoruś?
2. Якое значэнне Рыжскі трактат меў для гісторыі Еўропы, асабліва для яе палітычнай архітэктуры міжваеннага перыяду? / Jakie było znaczenie traktatu ryskiego dla historii Europy, a zwłaszcza dla jej politycznej architektury okresu międzywojennego?

3. Якое месца польска-савецкая вайна і Рыжскі мір займаюць сёння ў гістарычнай памяці? / Jakie miejsce wojna polsko-sowiecka i pokój w Rydze zajmują dzisiaj w pamięci historycznej?

### Удзельнікі:

- прафесар, доктар гістарычных навук Уладзімір Снапкоўскі (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Менск)
- прафесар, доктар гістарычных навук Рыгор Лазько (Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны)
- прафесар, доктар гістарычных навук Мікалай Мязга (Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны)
- profesor, dr hab. Marek Kornat (Instytut Historii PAN, Warszawa)
- profesor, dr hab. Wojciech Materski (Instytut Studiów Politycznych PAN, Warszawa)
- profesor, dr hab. Roman Jurkowski (Uniwersytet Warmińsko-Mazurski, Olsztyn)
- професор, доктор історичних наук Леонід Зашкільняк (Львівський національний університет імені Івана Франка)
- професор, доктор історичних наук Владислав Верстюк (Інститут історії України НАНУ)
- PhD Algimantas Kasparavičius, senior research fellow (Lithuanian Institute of History, Vilnius)
- Dr Česlovas Laurinavičius, principal investigator (Lithuanian Institute of History, Vilnius)
- кандидат исторических наук Леонтий Ланник, старший научный сотрудник Института всеобщей истории РАН (Москва)
- Dr Ēriks Jēkabsons, associate professor (University of Latvia, Riga)
- Dr Diana Siebert (Universität Gießen, Historisches Institut).

## I. Якім было значэнне Рыжскага трактата для народаў рэгіёна Украіна–Літва–Беларусь?

### Прафесар, доктар гістарычных навук Уладзімір Снапкоўскі:

Ва ўсходняй палітыцы Польшчы ў час савецка-польскай вайны Беларусь займала падпарадкаванае ў параўнанні з Украінай і Літвой становішча. Вырашэнне „беларускага пытання” польскія кіраўнікі, перш за ўсё Юзаф Пілсудскі, ставілі ў залежнасць ад рашэння „ўкраінскага” і „літоўскага пытанняў”. Федэралісцкія планы Пілсудскага былі накіраваны або на стварэнне Літоўска-беларускай дзяржавы ў цеснай федэрацыі з Польшчай,

або на стварэнне беларускай нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў складзе Польшчы.

У перыяд мірных перамоў Варшава ў якасці рэакцыі на прапагандысцкія лозунгі Масквы пра самавызначэнне народаў пагадзілася на ўключэнне ў тэкст мірнага дагавора палажэнняў аб прызнанні незалежнасці Украіны і Беларусі, бо ўбачыла ў гэтым магчымасць рэалізацыі канцэпцыі федэралізму. Насамрэч яна разглядала гэтыя дзве савецкія рэспублікі як бальшавіцкія фікцыі, што кіраваліся з Масквы. Падпісанне Рыжскага міру савецкае кіраўніцтва ацаніла як адмову Польшчы ад стварэння буферных дзяржаў, што ўяўлялі пагрозу для адзінства савецкай Расіі.

Паўторна абвешчаная па ініцыятыве Масквы ССРБ павінна была выконваць службовую ролю ў знешняй палітыцы РСФСР. Найбольш ярка залежнае становішча Беларускай савецкай рэспублікі выявілася напярэдадні і ў ходзе савецка-польскіх мірных перамоў. Нададзены Ваенна-рэвалюцыйным камітэтам (ВРК) ССРБ ураду РСФСР мандат на вядзенне перамоў з Польшчай і вызначэнне межаў Беларусі (верасень 1920 г.) быў сведчаннем крайняй палітычнай слабасці ВРК, яго залежнасці ад Масквы і адначасова нацыянальнага нігілізму шэрагу яго членаў.

Наданне мандата ўвасабляла рэдкі ў гісторыі дыпламатыі выпадак, калі адна дзяржава ўпаўнаважыла іншую падпісаць мірны дагавор, які абмяжоўваў яе тэрыторыю падзелам напалову. Ні да, ні пасля Рыжскага міру беларуская дзяржава не падпісвала дамовы з наданнем іншай дзяржаве падобных паўнамоцтваў, хоць эпоха падзелаў Беларусі не скончылася ў чаканні Другой сусветнай вайны. Каб паказаць, што мандат быў невыпадковы, Другі Усебеларускі з’езд саветаў (снежань 1920 г.) пацвердзіў яго, як і „правільнасць” палітычнай лініі расійска-ўкраінскай дэлегацыі ў „адстойванні” інтарэсаў Беларусі.

Патрабаванні беларускіх камуністаў аб удзеле ў мірных перамовах пасля падпісання прэлімінарнага міру, як і пашырэння межаў „карлікавай” ССРБ, вымусілі савецкае кіраўніцтва прыняць захады па ўпарадкаванні адносін з ёю паводле ўзору федэратыўных адносін з УССР.

## Прафесар, доктар гістарычных навук Рыгор Лазько:

Значэнне Рыжскай мірнай дамовы не было аднолькавым для гісторыі народаў рэгіёна Украіна–Літва–Беларусь. Тая ацэнка Рыжскага трактата, што была выказана падчас яго падпісання беларускімі публіцыстамі і паэтамі як акта падзелу Беларусі, учыненага „чужаніцамі”, як трагедыі беларускага народа, з перспектывы часу выглядае цалкам слушнай. Народ, які ў сваім гістарычным развіцці распачаў стварэнне нацыянальнай дзяржавы, не знайшоў у сабе сілы, каб не дапусціць трагедыі падзелу. У Рызе беларускі народ стаў ахвярай змовы двух сваіх суседзяў — адроджанай Польскай дзяржавы і савецкай Расіі, якія вялі барацьбу за кантроль над геапалітычнай прасторай былой Рэчы



**„Дом Чорнаголовых” (нем. Das Schwarzhäupterhaus, латыш. Melngalvju nams) у Рызе, дзе праходзілі пасяджэнні мірнай канферэнцыі**

Паспалітай, намерваючыся пераўтварыць яе ў зыходную пазіцыю для рэалізацыі ўласных геапалітычных планаў. Для абодвух праціўнікаў беларускі дзяржаватворчы рух быў толькі інструментам рэалізацыі гэтых планаў.

Аднак ацэнка Рыжскага трактата як змовы двух буйнейшых суседзяў Беларусі, накіраванай супраць беларускага народа, цягне за сабой пытанне аб наяўнасці альтэрнатывы падзелу. Пры гэтым неабходна вызначыць той гістарычны перыяд, калі такая альтэрнатыва сапраўды існавала. У той пераломны час сітуацыя змянялася хутка і адпаведна змяняліся ўмовы развіцця Беларусі і ўсходнееўрапейскага рэгіёна ў цэлым. Адна сітуацыя існавала на мяжы 1918–1919 гг., калі абодва суседы Беларусі ўцягваліся ва ўзброеную барацьбу паміж сабой, другая — падчас паходу Чырвонай арміі на Варшаву, да г. зв. „цуду на Віслe”, і зусім іншая — восенню 1920 г., калі ўзброеная барацьба двух праціўнікаў змянілася змаганнем дыпламатаў. На працягу 1919–1920 гг. праціўнікі неаднойчы адхілялі варыянты кампраміснага і менш цынічнага заканчэння сваёй тэрытарыяльнай спрэчкі. Урэшце пасля двух гадоў крывавай барацьбы падзел усё ж адбыўся. Беларускі народ, які быў адной з тых сіл, што прымусіла абодвух „чужаніц” сесці за стол перагавораў, здолеў уратаваць для сябе толькі савецкую квазідзяржаву на частцы тэрыторыі Мінскай губерні, і каля 10 год часу для больш-менш спакойнага развіцця.

Трагедыя падзелу затрымала завяршэнне працэсу фармавання беларускай нацыі, прычым, магчыма, у найбольшай ступені — яе свядомаснага кампанента. Нават пасля завяршэння Другой сусветнай вайны яшчэ доўга беларусы з даваеннай БССР будуць успрымаць сваіх суайчыннікаў з даваеннай Заходняй Беларусі як „заходнікаў", а тыя іх — як „восточников", знаходзячы для гэтых акрэсленняў шмат зусім не „геаграфічных" аргументаў.

Разам з тым, ацэньваючы акт падзелу як фактар, што аслабляў патэнцыял беларускай нацыі і стрымліваў яе развіццё, нельга не ўлічваць, прынамсі, адзін яго кампанент, які ў нейкай ступені змяншаў негатыўны ўплыў. Гаворка ідзе аб з'яўленні на кароткі час феномена беларускага „П'емонта" на тэрыторыі савецкай Беларусі. Яго ставрала палітыка савецкага кіраўніцтва, накіраваная на тое, каб „расшыць" польскую дзяржаву па „нацыянальных швах", г. зн. выкарыстаць дзеля яе аслаблення нацыянальныя рухі падзеленых народаў. Прыклад паспяховага нацыянальнага развіцця „савецкіх" беларусаў павінен быў стаць прыцягальным для „польскіх" беларусаў. Такая ж роля адводзілася ўкраінскаму нацыянальнаму руху.

З часу заключэння польска-савецкага дагавора аб ненападзе ў 1932 г. мы бачым зусім іншую сітуацыю: паралельную барацьбу двух дыктатарскіх рэжымаў — бальшавіцкага і санацыйнага — супраць беларускага руху ва ўсіх яго праявах.

Гаворачы аб значэнні Рыжскага трактата для гісторыі ўкраінскага народа, неабходна прыняць да ўвагі больш значны патэнцыял Украіны, назапашаны да моманту яе падзелу — дэмаграфічны, эканамічны, культурны — і больш высокі ў параўнанні з Беларуссю ўзровень мадэрнізацыі тых яе раёнаў, якія „выпалі" з Аўстрыйскай імперыі ў перыяд яе распаду ўвосень 1918 г.

Заходнія ўкраінцы, што пачалі свой шлях да мадэрновай нацыі ў межах імперыі Габсбургаў, мелі значны вопыт самаарганізацыі ў выглядзе ўдзелу ў кааператыўным руху, у дзейнасці органаў мясцовага самакіравання. Яны некаторы час карысталіся ўсеагульным выбарчым правам, мелі свае палітычныя партыі. Выдатнае значэнне мела існаванне такога культурнага цэнтра (хоць і рэальна дуалістычнага) як Львоў, іншых украінскіх асяродкаў у Галіцыі і за мяжой. Усходнегаліцыйскі ўкраінскі „П'емонт", існаваўшы яшчэ да 1918 г., выконваў сваю мабілізуючую ролю і пасля 1921 г.

Гэты патэнцыял дазволіў украінскай нацыі з меншымі стратамі перажыць траўму падзелу і забяспечыць яе большую ўстойлівасць адносна палітыкі дэнацыяналізацыі, якую ўласцівым ім метадамі праводзілі абодва антыўкраінскія рэжымы — бальшавіцкі і санацыйны.

Сваё адметнае значэнне Рыжскі трактат меў і для літоўскага народа. Устаноўленая ў Рызе польска-савецкая граніца, зафіксаваўшы перадачу ў склад Польшчы шырокай паласы беларускай зямлі, „адгарадзіла" Літоўскую Рэспубліку ад яе кан'юнктурнага саюзніка ў барацьбе супраць польскай экспан-

сіі — савецкай Расіі. Акрамя таго, адно з палажэнняў трактату забараняла савецкаму ўраду ўмешвацца ў справы тэрыторый, што засталіся на захад ад гэтай мяжы. Сухі юрыдычны сэнс гэтага палажэння датычыў і той часткі Гарадзеншчыны, якую савецкі ўрад перадаў Літоўскай Рэспубліцы за некалькі тыдняў да другога абвяшчэнная Беларускай Савецкай Рэспублікі. Праз некалькі месяцаў, забяспечыўшы сябе з усходу Рыжскім дагаворам, Варшава арганізавала свой паход на Вільню. Абвостраны гэтай акцыяй польска-літоўскі канфлікт застаўся закансерваваным амаль на два дзесяцігоддзі як траўма нацыянальнай свядомасці літоўцаў, цягнуўся ён і далей, і невядома, ці залагоджаны цалкам сёння.

Такім чынам, мы бачым ланцуг несправядлівасці і бяспраўя. Рыжскі дагавор, рассекшы беларускі край напалам, заблакіраваў савецка-літоўскі дагавор 1920 г., падпісаны без уліку інтарэсаў беларускага народа. Разам з тым, ліквідацыя Рыжскага трактату праз 19 гадоў, якая дапамагла літоўцам атрымаць Віленшчыну, прыкрывае іншае бяспраўе, а менавіта савецкую акупацыю Літвы. Можна згадзіцца са сцвярджэннем літоўскіх гісторыкаў, што Рыжскі дагавор адтэрмінаваў на 20 гадоў саветызацыю Літвы, а разам з ёю, як можна меркаваць, і іншых Прыбалтыйскіх рэспублік. Але адначасна ўзнікае пытанне аб альтэрнатыве Рыжскаму дагавору.

## Прафесар, доктар гістарычных навук Мікалай Мязга:

Для Беларусі было важна тое, што пры падпісанні Рыжскага дагавора Польшча адмовілася ад федэралісцкай канцэпцыі Юзафа Пілсудскага, г. зн. ад ідэі стварэння саюзнай Польшчы беларускай дзяржавы. Фактычна палякі пагадзіліся прызнаць БССР як беларускую дзяржаву, а таксама кантроль савецкай Расіі над цэнтральнай і ўсходняй часткай беларускіх зямель. Адзначым, што на мяжы 1920–1921 гг. у Польшчы наўрад ці была магчымасць рэалізаваць федэралісцкія планы.

Для Беларусі вызначальным момантам у Рыжскім дагаворы стала тое, што ён замацаваў падзел беларускіх тэрыторый. Заходняя Беларусь была ўключана ў склад Польшчы, а цэнтральная і ўсходняя часткі Беларусі аказаліся пад кантролем савецкай Расіі. Рыжскі дагавор зафіксаваў няўдачу спробы стварыць незалежную беларускую дзяржаву ў яе этнічных межах. Беларускі этнас аказаўся ўключаным у склад некалькіх дзяржаў. На першы план выйшла задача тэрытарыяльнага аб'яднання беларускіх зямель. У якой форме гэта адбудзецца залежала ад геапалітычнай сітуацыі ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе.

Трэба адзначыць і станоўчы для беларусаў момант Рыжскага дагавора. У ім на міжнародным узроўні было заяўлена пра існаванне незалежнай Беларусі. Праўда, не канкрэтызавалася, якое дзяржаўнае ўтварэнне маецца на ўвазе. Захавалася БССР, якая пры адсутнасці рэальнага суверэнітэту ўсё ж пакідала ў парадку дня пытанне аб існаванні беларускай дзяржавы.

Для Польшчы пасля падпісання Рыжскай дамовы найважнейшай задачай станавілася трывалая інтэграцыя ў свой склад тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Паколькі польскія правячыя колы бачылі шлях да вырашэння гэтай задачы толькі праз правядзенне палітыкі асіміляцыі, то беларускае насельніцтва „ўсходніх крэсаў" станавілася яе аб'ектам. Кіраўніцтва савецкай Расіі са свайго боку імкнулася да аслаблення пазіцый Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. На гэта быў накіраваны і партызанскі рух на гэтых тэрыторыях. Пасля Рыжскага дагавора мяжа паміж БССР і Заходняй Беларуссю ў складзе Польшчы выступала як мяжа вострага супрацьстаяння.

Рыжскі дагавор спарадзіў праблему нацыянальных меншасцей на тэрыторыі савецкіх рэспублік і Польшчы. Савецкае кіраўніцтва імкнулася выступаць у ролі абаронцы інтарэсаў беларусаў у Польшчы. Але гэта не была самамэта. Стаяла задача заваяваць сімпатыі беларусаў, каб тым самым стварыць перадумову для далучэння Заходняй Беларусі да БССР.

Што тычыцца польскай меншасці ў БССР, то спачатку яна разглядалася бальшавікамі як сіла, якую можна выкарыстаць для падтрымкі сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы. Калі ж у сярэдзіне 1930-х гг. сталінскае кіраўніцтва адмовілася ад канцэпцыі сусветнай рэвалюцыі, палякі на тэрыторыі СССР сталі разглядацца як „пятая калона" і падвергліся масавым рэпрэсіям.

Палітыка Масквы ў адносінах да БССР у значнай ступені вызначалася Рыжскім дагаворам і супрацьстаяннем з Польшчай. Такія крокі савецкага кіраўніцтва, як палітыка беларусізацыі, вяртанне ў склад БССР Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны між іншым былі абумоўлены жаданнем супрацьпаставіць савецкую нацыянальную палітыку палітыцы нацыянальнага прыгнечання ў Польшчы.

## Profesor, dr hab. Marek Kornat:

Oczywiście dla Polski było ono inne, a dla innych „narodów sukcesyjnych" Rzeczypospolitej Obojga Narodów inne (Posługuję się tu kapitalnym określeniem Tymothy'ego Snydera z jego książki *The Reconstruction of Nations: Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus, 1569–1999,* 2003). Inaczej być nie mogło. Status wszystkich tych narodów nie był identyczny.

Dla Polaków pokój w Rydze stanowił dopełnienie pragnienia, aby odrodzone państwo objęło w swych granicach wszystkie te terytoria, na których występowały znaczące skupiska ludności polskiej oraz te, które uważano za niezbędne dla jego pomyślności i bezpiecznej egzystencji. Dla Ukraińców i Białorusinów pokój ryski oznaczał podział ich narodowych terytoriów między dwa państwa: Polskę i Rosję Sowiecką. To, że taki podział był rzeczywistością — nie może ulegać wątpliwości. Historyk polski powinien tylko przypomnieć, że nie nastąpił żaden rozbiór Białorusi czy Ukrainy, bo narody te, w ówczesnych realiach, nie uzyskały jeszcze

własnej państwowości. Dzielono ziemie (terytoria) będące przedmiotem aspiracji narodów sukcesyjnych przedrozbiorowej Rzeczypospolitej. Tyle i tylko tyle.

Po stu latach od pokoju ryskiego byłoby ze wszech miar pożyteczne, aby elity narodów ukraińskiego i białoruskiego podjęły próbę refleksji nad pytaniem o los tych narodów w granicach państwa polskiego i państwa sowieckiego — na tle porównawczym.

Na pewno godzi się odnotować, że jako mniejszości narodowe obie te społeczności (białoruska i ukraińska) nie mogły cieszyć się takim położeniem, które zadowalałoby ich aspiracje. Nie bez podstaw można mówić w odniesieniu do nich o obywatelach drugiej kategorii. Ale — moim zdaniem — nie powinno się zapominać o zbrodniczej, eksterminacyjnej polityce sowieckiej. Kolektywizacja na Ukrainie i wywołany w ten sposób Wielki Głód (1932–1933) symbolizuje politykę ludobójstwa, czyli wyniszczenia całych społeczności narodowych.

Co do Litwinów — sprawa jest inna. Oni uzyskali własne państwo i pragnęli za wszelką cenę opanować Wilno, do którego mieli tylko tytuł historyczny, gdyż miasto było w ogromnej większości zamieszkałe przez Polaków. W godzinie wielkiej próby dla Polski, jaką przyniosło lato 1920 r. przywódcy Litwy wybrali taktyczne zbliżenie z Sowietami, aby wejść w posiadanie tego miasta. Wyrażał to traktat od 12 lipca 1920 r., na mocy którego Moskwa oddawała Wilno Republice Litwy. Marsz Żeligowskiego przyniósł odebranie im miasta. Litwini mieli prawo do swoich pretensji. Proklamowali bojkot Polski, który realizowano do marca 1938 r.

W rzeczywistości jednak polskie zwycięstwo nad Sowietami w roku 1920 dało Litwie możliwość niepodległej egzystencji przez 20 lat, co było bezcenne z punktu widzenia ich narodowej świadomości dzisiaj. Nie sposób sobie nawet wyobrazić przetrwania wszystkich państw bałtyckich, gdyby Polska upadła. Trafnie wyraził to swego czasu szwajcarski historyk Alfred Erich Senn, który pisał, że zwycięstwo polskie nad Wisłą kosztowało Litwę Wilno, ale zaoszczędziło jej narodowi doznania „dobrodziejstw leninizmu".

Czy pokój ryski był kompromisem między dwoma państwami? — jak często utrzymują historycy Polscy. I tak, i nie. Istotnie był to kompromis, obie strony wyrzekały się realizacji celu maksymalnego — jak to powiedział to swego czasu Piotr Wandycz (*Soviet-Polish Relations 1917–1921*, Harvard 1969). Polacy nie zrealizowali swej koncepcji federalistycznej w duchu Piłsudskiego, która zakładała federację ziem litewsko-białoruskich z Polską oraz oderwanie od Rosji Ukrainy, złączonej sojuszem z Warszawą. Sowieci nie zdołali narodowi polskiemu narzucić reżimu komunistycznego. Jednak rzeczywisty kompromis wymaga pogodzenia się zwaśnionych stron, co do jego kształtu. To zaś nie zaistniało ze strony Moskwy. Wszystko wskazuje na to, że bolszewicy pojmowali pokój zawarty w Rydze jako nowy manewr taktyczny na wzór pokoju brzeskiego z marca 1918 r. Dodajmy też, że potępienie terytorialnych postanowień pokoju z Polską ze strony „białych" Rosjan było bardzo silne.

### Profesor, dr hab. Roman Jurkowski:

Odpowiedź na to pytanie podzielę na trzy części, a mianowicie:

I. Znaczenie traktatu ryskiego dla Polaków z całej II Rzeczypospolitej;

II. Znaczenie traktatu ryskiego dla Polaków zamieszkujących ziemie białorusko-ukraińskie;

III. Znaczenie traktatu ryskiego dla Białorusinów, Ukraińców i Litwinów.

I: Dla wszystkich Polaków, którzy nie mieszkali na ziemiach białorusko-ukraińskich, znaczenie traktatu było dwojakie: a) kończył faktycznie długą, wyczerpującą wojnę rozpoczętą jeszcze w 1914 roku, dawał spokój, nadzieję na normalne życie w swoim państwie; b) był po klęskach powstania kościuszkowskiego, listopadowego, styczniowego pierwszą wojną wygraną z najgorszym z zaborców, jakim była Rosja. I nie miało większego znaczenia czy była to Rosja biała czy czerwona. Istotne było tylko to, że traktat ryski kończył zwycięską dla Polaków wojnę z Rosją i Rosjanami.

II: Dla Polaków zamieszkujących ziemie białorusko-ukraińskie, te, które zostały na wschodzie poza granicami ryskimi — był on hańbą i klęską jednocześnie. Hańbą, bo zwycięska Rzeczpospolita dobrowolnie wyrzekła się zrealizowania sprawiedliwości dziejowej, czyli odtworzenia swoich granic sprzed rozbiorów. A tak powinno być w ich mniemaniu. Gdy państwo zaczęło upadać w 1772 r., miało przecież swoje granice na wschodzie. Gdy odrodziło się ponownie — powinno wrócić do tych samych granic — zwłaszcza, że wygrało wojnę. A klęską było także i to, że mogąc w Rydze dyktować warunki, Polska dla partyjnych interesów endecji i ludowców, nie tylko nie odtworzyła swoich granic z 1772 r., ale także nie zadbała o Polaków pozostałych poza granicą ryską i pozostawiła ich oraz i ich dobytek na pastwę bolszewizmu. Oznaczało to także zaprzepaszczenie całego wielowiekowego dorobku unii Korony Królestwa Polskiego z Wielkim Księstwem Litewskim.

III. Dla Białorusinów traktat ryski był tragedią gdyż dzielił terytorium Białorusi i naród białoruski na dwie części, które zmuszone były do funkcjonowania w całkowicie odmiennych warunkach politycznych i kulturowych. Niweczył także już nie tylko plany federacyjne obozu belwederskiego, ale nawet projekty autonomiczne wysuwane przez część inteligencji białoruskiej, środowiska krajowców wileńskich i grupy mądrych konserwatystów pokroju Edwarda Woyniłłowicza.

Ale z drugiej strony, patrząc na eksterminację niemal całej białoruskiej elity narodowej w BSSR, na kolektywizację i inne represje polityczne w latach 30. XX wieku dokonane przez stalinowski Związek Radziecki, to fakt, że dzięki traktatowi ryskiemu część narodu białoruskiego mogła spokojnie żyć w państwie polskim, odegrał niebagatelną rolę w jego dziejach, nawet mimo katastrofalnie błędnej polityki narodowościowej państwa polskiego (a zwłaszcza rządów pomajowych) w stosunku do mniejszości białoruskiej.

Jeśli spojrzeć na traktat ryski tylko z punktu widzenia istnienia narodu ukraińskiego, to przychodzi mi na myśl tylko jedna refleksja: to dzięki traktatowi w Ry-

dze, Wielki Głód na Ukrainie, ta Ukraińska Apokalipsa — zaplanowana i zrealizowana przez Stalina w ZSRS, była przerażającym doświadczeniem tylko jednej części tego narodu.

Odnosząc się do państwa litewskiego zadam pytanie: czy antypolscy politycy rządzący Litwą w 1920–1921 r. mieli świadomość, że pokonanie bolszewików pod Warszawą i potem w bitwie niemeńskiej uratowało także ich niepodległość? Bo przecież nie trzeba było być znawcą ideologii bolszewickiej, a wystarczyło tylko rozumieć istotę rosyjskiego (choćby tylko carskiego!) imperializmu (a to chyba rozumieli znając historię własnego narodu?) aby nie łudzić się, że Lenin i Trocki po pokonaniu i zajęciu Polski pozostawią Litwę w spokoju?

## Profesor, dr hab. Wojciech Materski:

Ryski traktat pokojowy z Sowietami w zasadzie zakończył proces kształtowania granic wschodnich państwa polskiego, aczkolwiek kwestia rozgraniczenia z Litwą formalnie ciągnęła się jeszcze dwa lata. Wraz z traktatami sojuszniczymi zawartymi z Francją i równie zagrożoną przez Sowiety Rumunią ustabilizował międzynarodową pozycję Rzeczpospolitej, radykalnie poprawił poziom jej bezpieczeństwa.

Zarazem ostatecznie przekreślił koncepcję federacyjną obozu belwederskiego (marszałka Józefa Piłsudskiego), resztki szans na utrzymanie się Białoruskiej Republiki Ludowej i Ukraińskiej Republiki Ludowej. Natomiast pośrednio umocnił bezpieczeństwo Litwy, niestety na pozycjach wyraźnie wrogich Rzeczpospolitej, bazujących na sojuszu z Sowietami.

## Dr Diana Siebert:

Хоць я немка, я не магу казаць, што ў гэтым форуме я прадстаўляю Германію. Даследчык гісторыі, таксама як прадстаўнік кожнай іншай навукі, павінен імкнуцца пераадолець ідэю „прадстаўляць" пэўную краіну, хоць гэта зрабіць і няпроста.

Нямецкамоўная Вікіпедыя, якую чытаюць не толькі ў Германіі, фіксуе ў сярэднім штодня 23 прагляды для Рыжскага мірнага дагавора за апошнія 90 дзён, а Версальскага мірнага дагавора штодня — 1 222 прагляды. Розніца відавочная. Для калектыўнага тэрміна „Парыжскія дамовы" гэта значэнне складае 65 праглядаў; для Сэн-Жэрменскай дамовы — 167, для Трыянонскай дамовы — 140, для дамовы Нёй-сюр-Сен — 9, для Сэўрскай дамовы — менш за 1 прагляд штодня, для Лазанскай дамовы — 2 штодзённыя прагляды.

У той час Рыжскі мірны дагавор азначаў для Германскага рэйха „мір на Усходзе". Акрамя таго, дагавор быў вельмі важны для нямецка-польскіх палітычных адносін. Пражыванне 10 мільёнаў людзей, якія не былі этнічнымі палякамі, разглядалася ў кантэксце 1 мільёна этнічных немцаў у гэтай дзяржаве. Дэмакраты, камуністы, нацыяналісты, фашысты — кожны, хто хацеў, мог убачыць у Польскай Рэспубліцы сезонную дзяржаву. А гэтага хацелі многія.

Што датычыць сённяшняга дня, то можна сцвярджаць, што Рыжскі мірны дагавор не мае вялікага значэння для Германіі. Немцы, якія цікавяцца палітыкай і гісторыяй, бачаць сябе часткай інтэграванай Еўропы. Той, хто ўвогуле ведае пра гэты Рыжскі дагавор, пахваліць яго як канец грамадзянскай вайны і гвалтоўных пагромаў, а значыць, як спробу мірнага ўрэгулявання канфліктаў у Еўропе.

## Професор, доктор історичних наук Леонід Зашкільняк:

„Мирний договір між Росією та Україною, з одної сторони і Польщею — з іншої", підписаний 18 березня 1921 р.,— саме так він називався — ознаменував завершення творення нової геополітичної ситуації в регіоні Центрально-Східної Європи і європейського континенту в цілому й був наслідком краху та розпаду імперій, які впродовж попереднього століття формували географічну мапу і політику в цій частині світу і глобальну. Багатонаціональні імперії Романових, Габсбургів і Гогенцоллернів не витримали модернізаційних „випробувань" і розпались під натиском національних, соціальних і релігійно-культурних рухів й воєнних катаклізмів Першої світової війни. Особливо потужні національні і соціальні заворушення охопили Російську імперію Романових, володіння якої включали низку народів Центральної та Східної Європи, які впродовж тривалого історичного часу були споживачами і „трансформаторами" поступових модерних ідей на Схід, які приходили із західної частини континенту — просвітництва, лібералізму, соціалізму, демократії, націоналізму. Саме в Росії ці ідеї і рухи зустрічалися з потужним імперським протистоянням і поборюванням. Проте, стримати ці рухи було неможливо, і, знаходячи поширення в масах, вони готували ґрунт для постановки питання про самовизначення націй, про права людини і громадянина, соціальну справедливість, демократичне управління та інші суспільні зміни.

Розпад Російської імперії супроводжувався потужними національними рухами, які спричинили виникнення незалежних національних держав насамперед на її західних окраїнах — України, Польщі, Бєларусі, Литви, Латвії, Естонії. Зрозуміло, що процеси державотворення цих країн були відмінні і визначалися багатьма соціальним, політичними, культурними і воєнними чинниками. Однак у Росії знайшлися політичні сили, які під виглядом проведення „світової революції" й творення „нового комуністичного світу" поставили в порядок денний збереження багатонаціонального державного організму з метою використання його ресурсів в „знищенні старого порядку". Національні рухи і новопосталі в 1917–1918 рр. національні держави були перешкодою в реалізації російсько-більшовицької стратегії „світової революції". Різними способами із воєнними включно російські більшовицькі керманичі, захопивши владу в центрі, прагнули поширити свої впливи і підпорядкувати ці молоді держави і народи своїм впливам

і планам, спираючись на поширення комуністичної ідеології, що вносила розкол у національні спільноти під гаслами „соціальної солідарності трудящих". Це був парадокс історії — зміни в обгортці соціальних реформ служили збереженню напівфеодального утворення з імперським присмаком.

Наведені вище стислі оціночні твердження нам вкрай необхідні для опертя наступних розважань. Ризький мирний договір 1921 р. став певною межею, яка відокремила період агресивних війн створеної більшовиками РКП(б) Російської Соціалістичної Федеративної Радянської Республіки (РСФРР) проти новоутворених держав Центрально-Східної Європи –України, Бєларусі, Польщі і Литви, політичні еліти яких прагнули будувати самостійні держави. В історіографії та історичній політиці керівників майбутнього СРСР і сучасної Росії цей період скромно називають „громадянською війною", спеціально не бажаючи визнавати суб'єктності молодих держав, що виникли і трактуючи їх як внутрішню проблему Росії. На жаль, і більшість правителів тогочасних західних демократій не хотіли прощатися з баченням великодержавної Росії, прагнучи тільки усунути від влади в ній агресивних більшовиків.

В умовах агресивної політики радянської Росії і розгортання у 1918 р. російсько-української війни Українська Народна Республіка (УНР) опинилася в складній ситуації пошуку зовнішніх союзників. Незважаючи на великодержавні устремління західного сусіда — Польщі, керівники УНР змушені були шукати союзу з її правителями, зокрема і тимчасовим Начальником держави Ю. Пілсудським, всупереч посяганням останніх на західноукраїнські землі та їх суверена — Західноукраїнську Народну Республіку (ЗУНР) в обмін на визнання факту Української Держави. „Непотрібна" польсько-українська війна 1918–1919 рр. зіграла на руку російським більшовикам, які використали її для послаблення позицій Української Революції в цілому. Наслідком стала поразка українських визвольних змагань і встановлення влади російських більшовиків на більшій частині України в 1920–1921 рр.

Ризький мир 1921 р. знаменував тимчасову поразку українців і білорусів в боротьбі за самостійну державність і водночас давав шанс іншим національним державам регіону — Польщі і Литві розпочати національне будівництво. У становленні нових держав виявилося чимало „старих історичних проблем", які послаблювали їхні позиції в Європі і створювали прецеденти для зовнішнього втручання, передусім з боку більшовицької Росії, перейменованої в 1922 р. на СРСР.

Договір у Ризі закріплював нову організацію геополітичної ситуації на Сході континенту, яка характеризувалась невирішеністю багатьох територіальних, національних, соціально-політичних проблем впорядкування постімперського простору. Агресивний тоталітарний СРСР під виглядом „світової революції" прагнув насамперед опанувати цей „втрачений" простір, а тоді і розвиток експансії в західному і південному напрямах.

Для України і Бєларусі як суб'єктів міжнародних відносин Ризький мир знаменував етапну поразку національно-державної ідеї, але не крах їх визвольних змагань, котрі продовжувались і тривали все XX століття аж до чергового розпаду нового російського імперського утворення — СРСР і проголошення незалежної України і Бєларусі в 1991 році. Для незалежних Польщі і Литви він означав невблаганний пошук нових гарантій самостійного існування перед обличчям загроз як зі Сходу, так, згодом, і Заходу. Як виявилось, таких противаг зовнішнім загрозам знайти аж до початку Другої світової війни не вдалось. Ця війна знову поставила перед політичними провідниками всіх народів Центрально-Східної Європи питання переформатування стратегічних візій і союзників перед обличчям повного поглинання тоталітарними режимами — Росії чи Німеччини. Друга світова війна та її наслідки створили ще більші проблеми для народів Центрально-Східної Європи, які їм довелося розв'язувати упродовж пів століття.

## Професор, доктор історичних наук Владислав Верстюк:

Значенне Ризького договору 1921 р. для історії України і народів регіону УЛБ было фатальним. Іноді українські історики називають його другим Андрусово, порівнюючи з Андрусівським договором 1667 р., який поділив територію України між Росією та Польщею. За Ризьким миром сталося щось подібне, лише Росії дісталося значно більше. Багато хто з сучасників вбачав у Ризькому мирі аналог поділів Польщі. Іноді зауважують, що Варшавська угода 1920 р. теж була побудована на територіальних поступках Польщі, але вона мала іншу філософію, поступки робилися українською стороною заради продовження боротьби за незалежність.

Ризький мир, до участі у виробленні якого делегації УНР і ЗУНР не допустили, поставив крапку на цій боротьбі. Його підписання стало тріумфом інкорпораційної концепції Р. Дмовського, політика зорієнтованого на Росію, який, так як і росіяни, не визнавав права українців на національне самовизначення і у якого не було жодних симпатій до українців. П'ята стаття договору робила неможливим перебування в Польщі антибільшовицьких організацій, передусім Директорії та уряду УНР. У польському сеймі 12 квітня 1921 р. відбулася гостра дискусія щодо подальшого перебування на її території Державного Центру УНР. Націонал-демократи наполягали на його ліквідації. Український уряд мусив скорочувати штат і кількість міністерств, маскувати їх під неполітичні громадські організації. Нема сенсу переповідати хід подій того часу, вони добре відомі.

Можна лише констатувати, що питання про українську незалежність, хоч і не було знято з порядку денного, проте відтерміновано на багато десятиліть, а народ і територія поділені поміж сусідніх держав.

**Algimantas Kasparavičius, PhD, senior research fellow:**

Значение Рижского мирного договора от 18 марта 1921 г. для истории Литвы и всего литовско-белорусско-украинского региона двойственно и довольно неоднозначно. С одной стороны, договор закончил польско-большевистскую войну, способствовал восстановлению мира между сторонами и стабильности всего региона почти на целое 20-летие. Это значит, Рижский мир в том плане был выгоден для Литвы и для всего литовско-белорусско-украинского региона, так как создал определенные условия для мирного созидательного труда и культурно-социального прогресса этих народов.

С другой стороны, результаты этого мирного договора по большому счету не устраивали никого из подписантов. Большевистская Россия на последнем этапе войны потерпела поражение, была вынуждена отступить и потеряла огромные территории, которые считала своими,— Западную Украину и Западную Беларусь. А также и границу с Литвой, зафиксированную в Московском мирном договоре между Литвой и Россией, а значит и непосредственное сообщение через Литву с Восточной Пруссией и Германией. Очевидно, что в этом плане Рижский мир для Советской России, а позже — и для СССР, означал моральное, геополитическое и экономическое поражение. Образно говоря, Россия получила от Польши довольно звонкую пощечину. Не удивительно, что практически сразу после подписания документов Москва начала большую дипломатическую подковерную игру против этого договора с целью расшатать политические позиции Польши в ее „восточных крэсах". В 1921–1924 гг. морально, финансово и оружием она тайно поддерживала здесь антипольское партизанское движение. Иногда эта *деятельность* координировалась с Литвой, которая после потери Вильнюса в 1921 — весной 1923 г. тоже поддерживала антипольское партизанское движение на Виленщине.

Что касается Польши, то здесь тоже не все однозначно. С одной стороны, Рижский мир олицетворял определенную политическую позицию, которой придерживались только польские правые — партия национал-демократов (эндеки), которая в то время имела большинство в Сейме и контролировала правительство страны. Но если смотреть шире и исходить из геополитических амбиций польской элиты 1916–1921 гг. и особенно ее первого руководителя маршала Юзефа Пилсудского, которые стремились восстановить национальное польское государство в границах Речи Посполитой 1772 г., то Польша в свою очередь тоже только частично могла считать Рижский мир своей победой. Этот договор покидал вне Польши не только эмоциональные центры украинцев и белорусов — Киев, Минск, но также большие территории бывшей Речи Посполитой. По сути он перечеркнул все надежды Пилсудского создать сильное федеративное Польское государство, которое стало бы новым геополитическим центром в Европе. Этот центр при-

тягивал бы к Польше и объединял в геополитическое единое целое страны от Венгрии и Румынии на юге и до Эстонии, Финляндии на севере. Фактически он создал бы в континентальной Европе в противовес Западу и Востоку (России) „третью Европу" и третью геополитическую силу, которая наравне с двумя первыми поддерживала бы стабильность и мир на „старом континенте". Этот план мог бы превратить Центрально-Восточную Европу в самодостаточного геополитического игрока, не зависящего от сил и воли извне. Однако Рижский мир эти надежды перечеркнул, и в геополитическом плане оставил Польшу в опасном „подвешенном" состоянии, когда страна в силу того что более трети ее населения составляли национальные меншинства, не могла быть только национальным образованием, но в то же время отвергла федеративную модель внутреннего устройства.

Для Литвы и народов Беларуси и Украины Рижский мир имел еще другое значение. Если иметь в виду факт, что граница между Польшей и Россией была оговорена и согласована еще во время прелиминарных переговоров 4–5 октября 1920 г., то можно констатировать, что в силу этого договора Литва почти на целое двадцатилетие потеряла свою столицу Вильнюс и практически всю юго-восточную часть страны, что составило примерно треть ее территории, на которой проживало около полумиллиона населения.

Для Литовской Республики это был тяжелый удар. Она стала единственным государством в Европе, а может быть и во всем мире, которое в силу геополитических амбиций своего исторического соседа лишилась столицы. Вильнюс почти на 20-летие стал провинциальным городом Польши. Естественно, это привело к иррациональному раздору между Литвой и Польшей, который продолжался вплоть до начала Второй мировой войны. В геополитическом плане это негативно повлияло как на положение Польши, так и Литвы. Политическая война с Литвой в межвоенные годы не позволила Польше *объединиться* с Балтийскими странами в единый Балтийский союз для противостояния угрозам извне. Таким образом, Польша осталась лишь „героем-одиночкой", борющимся с влиянием Кремля в регионе, а литовско-латышско-эстонский политический союз, оформленный в сентябре 1934 г., без Польши являлся своего рода „бумажным тигром", не способным к практическим действиям. Более того, по сути он был создан с подачи Москвы, и в ее руках стал даже определенным политическим оружием против той же Польши.

Еще более жестокий удар Рижский мир нанес Беларуси и Украине. Договор фактически поделил эти народы и земли между Россией и Польшей. Несомненно, что такой политический раздел перечеркнул надежды белорусов и украинцев создать свои национальные государства, сильно задержал политическое развитие этих народов и их превращение в единые нации с четко выраженным национальным самосознанием. Советский режим, используя террор и идеологическое давление, старался превратить белорусов и украинцев в т.н. „советский народ", искоренить у них чувство гордости, национального духа и идентичности и по сути — русифицировать эти народы.

чэнне. І ў савецкай Беларусі, і ў Беларускай Народнай Рэспубліцы (БНР) таксама мелася „гістарычнае права" на тыя ж тэрыторыі, на якія прэтэндавала Польшча. Тады становіцца зразумелым рэзкая крытыка і непрыняцце Данішэўскім „гістарычнага права" Польшчы на частку тэрыторыі Беларусі.

Аднак не трэба мець ілюзій наконт заявы Данішэўскага, які быццам бы бараніў „гістарычныя правы" беларусаў на іх тэрыторыю. Гэта была звычайная савецкая дэмагогія. Беларускія землі, як і частку польскай тэрыторыі, савецкая Расія сама разглядала з пункту гледжання „свайго гістарычнага права". Толькі параза пад Варшавай і далейшыя няўдачы на польска-савецкім фронце вымусілі яе часова адмовіцца ад „новага расійскага імперыялістычнага права" на гэтыя тэрыторыі. Зрэшты, адмовіцца толькі часова. Наперадзе быў 1939 г.

У сваю чаргу, Ян Домбскі адкінуў усе заявы савецкага боку і зноў паўтарыў, што савецкая Расія не мае ніякага права дыктаваць суверэннай Польшчы такія ўмовы перамір'я, якія па сваёй сутнасці з'яўляюцца ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Польскай Рэспублікі. Але дэмагагічныя заявы кіраўніка савецкай дэлегацыі ўжо не мелі ніякага значэння. Савецкі ўрад, улічваючы склаўшуюся сітуацыю, пайшоў на саступкі.

„Советская Беларусь" без ніякіх каментароў вельмі лаканічна ў артыкуле „Мірныя перагаворы з Польшчай" паведамляла:

1. Урад РСФСР, прымаючы пад увагу заяву польскай дэлегацыі аб немагчымых для яе першапачатковых умовах расійска-ўкраінскай дэлегацыі аб памяншэнні ліку польскай арміі, аб дэмабілізацыі яе ваеннай прамысловасці, аб выдачы ёй зброі і перадачы ў поўную ўласнасць РСФСР чыгункі Ваўкавыск — Граева, адмаўляецца ад гэтых умоў і выказвае згоду ў гэтым жа сэнсе зрабіць прапазіцыю саюзнай Украінскай Рэспубліцы.

2. РСФСР гатова зараз жа падпісаць перамір'е і папярэднія ўмовы міру на аснове прыняцця мяжы паміж Польшчай і Расіяй па лініі, якая праходзіць значна на ўсход ад мяжы, вызначанай Вярхоўным саюзным саветам з снежня 1918 г., з тым, што ўсходняя Галічына застаецца на захад ад гэтай мяжы"[31].

Вось так гэтыя два пункты вызначылі ў Менску „гістарычнае права" Польшчы на частку тэрыторыі Беларусі, што надалей было замацавана ў Рызе.

2 верасня адбылося пятае і апошняе пасяджэнне менскіх мірных перамоў. Яно было самым кароткім. Ужо было прынята рашэнне аб іх пераносе ў Рыгу. Пра гэта заявіў раніцай старшыня савецкай дэлегацыі Смідовіч, які адзначыў, што „ў парадку сённяшняга пасяджэння значацца тэхнічныя пытанні, звязаныя з працягам працы мірнай канферэнцыі, а дакладней, з пытаннем дзе, як і калі будуць працягвацца мірныя перагаворы"[32]. Разам

[31] НАРБ, ф. 60п, воп. 3, спр. 452, арк. 29.

[32] *Документы и материалы по истории советско-польских отношений,* т. III, с. 359.

з тым і польскі, і савецкі бакі адзначылі важнасць менскага этапу перамоў, які даў магчымасць абодвум бакам абмеркаваць прапановы, выказаць свае пазіцыі і дамовіцца пра працяг абмеркавання ў Рызе. Такім чынам, менскі этап перамоў скончыўся. Наперадзе была Рыга.

Пасля заканчэння перамоў афіцыйны Менск, хутчэй за ўсе з падачы Масквы, цынічна схлусіў. У „Звяздзе" з'явіўся артыкул „Менск — Рыга", у якім адказнасць за зрыў перамоў ускладалася на польскую дэлегацыю. У артыкуле падкрэслівалася (стыль і арфаграфія захаваныя — *А.В.*): „Мы чэсна работалі ў Менску [...] Не тое было з панамі. Яны ўхіляліся ад простага адказу, яны адцягвалі перагаворы, яны чакалі калі палепшыцца іхняе становішча на хронце, яны спачатку аткінулі нашыя мірныя ўмовы, а калі мы прыгразілі перарваць перагаворы, яны згадзіліся разглядзець нашыя ўмовы, але дзеля гэтага іхняму галаве Домбскаму трэба было параіцца з сваімі міністрамі — Дашынскім і Сапегай"[33]. Вышэй ужо было адзначана, што менавіта польская дэлегацыя заявіла пратэст у сувязі з загадам М. Тухачэўскага, і наркам замежных спраў Г. Чычэрын прызнаў яго памылковасць і недапушчальнасць.

У айчыннай гістарыяграфіі менскі этап мірных перамоў аб перамір'і і прэлімінарных умовах міру паміж Польскай Рэспублікай і савецкай Расіяй застаюцца, што дзіўна, своеасаблівай лакунай. Аднак гэты этап надзвычай важны з шэрагу прычын. Першая сусветная вайна, дзве расійскія рэвалюцыі зрынулі імперыі Раманавых, Габсбургаў і Гогенцолернаў у нябыт. На іх руінах паўсталі нацыянальныя дзяржавы, якія заявілі і патрабавалі міжнародна-прававога прызнання і замацавання дзяржаўных межаў. Для Польшчы гэта пытанне было адназначна вырашана палітычнымі элітамі краіны і асабіста Начальнікам Польскай Рэспублікі Юзафам Пілсудскім, менавіта як шлях да суверэннай і незалежнай дзяржавы.

Беларусь з-за збегу шэрагу абставін пайшла па іншым шляху. Менскі этап польска-савецкіх перамоў яскрава паказаў гэты шлях. У Менску, дзе разглядаліся важнейшыя пытанні яе нацыянальна-дзяржаўнага развіцця,— тэрыторыя і межы — не прысутнічалі ні прадстаўнікі савецкай Беларусі, ні БНР. Гэта азначала, што Польшча і Расія разглядалі яе толькі як аб'ект узгодненай палітыкі. І ў Рызе не было паўнамоцных прадстаўнікоў Беларусі. Аляксандр Чарвяков, які прысутнічаў у Рызе „інкогніта", у лік не бярэцца і не разглядаецца.

У айчыннай гістарыяграфіі цвёрда пануе міф, што менавіта ў Рызе было прынята рашэнне аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад Польскай дзяржавы. Але прынцыпова гэта пытанне было вырашана ўжо ў Менску, а ў Рызе яно было толькі замацавана і юрыдычна аформлена.

[33] НАРБ, ф. 60п, воп. 3, спр. 452, арк. 116. Заключение мирного договора с Польшей (Переговоры в Борисове, Минске, Риге). 16 апреля 1919 г.— 18 марта 1921 г.

У Менску голас БНР не быў пачуты, а беларускія нацыянал-камуністы не мелі ніякага ўплыву на рашэнні Масквы. „Рэванш" за страчаную Заходнюю Беларусь яны ўзялі ў 1924 і 1926 гг. у час так званага „ўзбуйнення" Беларусі.

Беларуская партыйная арганізацыя, з'яўляючыся ў адпаведнасці са статутам КП(б)Б адной з абласных арганізацый РКП(б), а таксама Беларускае бюро ЦК КП(б)Б, якое ўзначальваў Вільгельм Кнорын, не мелі і ў прынцыпе не маглі мець пазіцыі адносна лёсу Беларусі, адрознай ад пазіцыі Масквы.

Эліты Беларусі? У поўным сэнсе гэтага слова іх не было. Народ „безмолвствовал". Усё гэта ў сукупнасці і прывяло да таго, што на менскім этапе, а затым і ў Рызе Беларусь была падзелена.

**Dr Anatol Wialiki, *W cieniu Rygi: miński etap radziecko-polskich rozmów pokojowych (17 sierpnia—2 września 1920 r.)***

17 sierpnia 1920 r. w Mińsku rozpoczęły się radziecko-polskie rozmowy o rozejmie i wstępnych warunkach preliminariów pokojowych. Pomimo, że wpłynęły one w istotny sposób na postanowienia ostatniego — ryskiego — etapu negocjacji, to nie zostały dotychczas należycie zbadane przez polskich i białoruskich historyków. Na czele delegacji sowieckiej, składającej się z przedstawicieli RSFRS i USRR, stał Karl Daniszewski, na czele polskiej — Jan Dąbski. W rozmowach nie uczestniczyli przedstawiciele BSRS. Faktycznie, głos w ich imieniu zabrała Moskwa.

W Mińsku odbyło się pięć posiedzeń, na których przebieg istotny wpływ miały sukcesy militarne Wojska Polskiego i klęska bolszewików pod Warszawą. Z ich powodu delegacja sowiecka została zmuszona do porzucenia koncepcji bezwarunkowej kapitulacji Polski, proponowanej od samego początku, i pójścia na znaczące ustępstwa. 2 września 1920 r. odbyło się ostatnie posiedzenie, na którym podjęto decyzję o przeniesieniu rozmów do Rygi.

Problematyka białoruska została poruszona tylko raz. Nastąpiło to z inicjatywy strony polskiej, która oświadczyła, że władza radziecka przemocą narzuca swą wolę narodowi białoruskiemu. W odpowiedzi Daniszewski powiedział o imperialnych „marzeniach polskich panów". W rzeczywistości los Białorusi i jej narodu nie interesował uczestników rozmów. Taki stan rzeczy w pełni znalazł swe odzwierciedlenie dopiero w Rydze, gdzie nastąpił podział ziem białoruskich pomiędzy Rosję Sowiecką i Rzeczpospolitą Polską.

**Dr Anatol Wialiki, *In the shadow of Riga. The Minsk round of the negotiation between Soviet and Polish delegation (17 august—2 september 1920)***

The article is devoted to the Minsk round of the Soviet-Polish negotiations at the final stage of the Polish-Soviet war. Despite the fact that military operations were conducted on the territory of Belarus, the plenipotentiary representatives of Belarus and the Belarusian people did not participate in the negotiations.

However, during the negotiations, the issue of the territory and borders of Belarus. Belarus was not a subject of international relations and was considered as their object based on the geopolitical interests of Poland and Soviet Russia.

In total, 5 meetings of the Soviet-Polish negotiations took place in Minsk.

It should be noted that the history of the Minsk period of negotiations was falsified in the historical literature and collections of documents published in Soviet times. Currently, there is a need to publish a collection of documents dedicated to these negotiations.

**Ежы Гжыбоўскі, д-р габ.**
**(Варшава)**

# Выкарыстанне беларускай нацыянальнай сімволікі падчас Другой сусветнай вайны

Гербы і штандары заўсёды адыгрывалі ў гісторыі істотную ролю. Яшчэ ў Сярэднявеччы яны служылі як распазнавальны знак, які на полі бітвы дазваляў адрозніваць сваіх ад ворагаў. У пазнейшы час гэтыя сімвалы набылі новае і значна шырэйшае значэнне. У эпоху фармавання мадэрных нацый і станаўлення нацыянальных дзяржаў герб і сцяг сталі важнымі элементамі нацыянальнай і дзяржаўнай тоеснасці. Яны ўвасабляюць нацыянальна-дзяржаўныя імкненні і аспірацыі, а таксама фармуюць пачуццё гонару за прыналежнасць да нацыянальнай супольнасці.

Беларускі выпадак XX ст. адметны тым, што ўжо працяглы час яму ўласціва прысутнасць дзвюх геральдычна-вексілалагічных традыцый. Гэта тлумачыцца падзеямі драматычнай найноўшай гісторыі Беларусі. За кожнай з гэтых традыцый хаваецца ўласнае бачанне гістарычнага і дзяржаўнага развіцця Беларусі і адрозныя сістэмы грамадска-палітычных і нацыянальных каштоўнасцей. Адна з традыцый сягае сваімі каранямі да пачатку XX ст. і нараджэння беларускай нацыянальнай ідэі, якая ўвасобілася ў абвяшчэнні ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі. Другая ж атаясамліваецца з іншай формай беларускай дзяржаўнасці — БССР. У незалежнай Беларусі гэты падзел набыў новае значэнне і змест.

У гісторыі беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай сімволікі, як і ў гісторыі Беларусі наогул, хапае як славутых, так і змрочных старонак. У дадзеным артыкуле мы засяродзімся на адным з эпізодаў, які заняў трывалае месца ў беларускім навуковым і грамадска-палітычным дыскурсе, дасюль выклікаючы шмат эмоцый і спрэчак. Гаворка ідзе пра выкарыстанне падчас Другой сусветнай вайны беларускай нацыянальнай сімволікі — бела-чырвона-белага сцяга і герба „Пагоня”.

Беларуская нацыянальная сімволіка мае сваю багатую гісторыю. Герб „Пагоня” вядомы на беларускіх землях з часоў Вялікага Княства Літоўскага, калі ён быў дзяржаўным сімвалам гэтай шматэтнічнай краіны. Тым часам, бела-чырвона-белы сцяг з’явіўся на пачатку XX ст. на хвалі Беларускага нацыянальнага адраджэння.

Лічыцца, што яго аўтарам з’яўляецца вядомы дзеяч беларускага руху архітэктар Клаўдзій Дуж-Душэўскі (1891–1959). Ёсць звесткі, што сцяг прысутнічаў падчас I Усебеларускага з’езду ў снежні 1917 г. у Менску. Павод-



**Настаўнікі і вучні Віленскай беларускай гімназіі. Сярэдзіна 1930-х гг.**

ле даследчыка Алега Латышонка, найстарэйшы дакумент з беларускім сцягам, які захаваўся да сёння,— гэта ўлётка арганізацыі „Беларускі гай", створаная ў снежні 1917 г. у Адэсе. Упершыню беларускі сцяг быў вывешаны ў Менску пасля выгнання бальшавікоў з горада 19 лютага 1918 г. У жніўні 1918 г. урад БНР зацвердзіў бела-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоня" як дзяржаўную сімволіку. Пачынаючы з 1919 г. гэтая сімволіка атрымала шырокае распаўсюджанне ў беларускім нацыянальным лагеры[1].

Вышэйзгаданыя сімвалы былі актыўна экспанаваныя дзеячамі БНР як сярод насельніцтва, так і на міжнароднай арэне. Нацыянальны сцяг і герб услаўляліся таксама беларускімі паэтамі Максімам Багдановічам (верш „Пагоня", 1916) і Макарам Краўцовым (марш „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", 1919). Больш за тое, у 1919–1921 гг. пад гэтымі сімваламі адбывалася ўзброенае змаганне за беларускую дзяржаўнасць[2].

У міжваенны перыяд нацыянальная сімволіка шанавалася многімі беларусамі, якія жылі ў Польшчы, Латвіі, Літве, Чэхаславакіі і іншых краінах. На беларускіх землях яна актыўна распаўсюджвалася ў Заходняй Беларусі. Пры

[1] O. Łatyszonek, *Symbolika państwowa Białoruskiej Republiki Ludowej*, [w:] *Białoruś w XX stuleciu w kręgu kultury i polityki*, Toruń 2007, s. 215–217.

[2] Гаворка ідзе пра Слуцкае паўстанне 1920 г., беларускія аддзелы ў складзе літоўскага і польскага войскаў, Асобны атрад войск БНР у Балтыі, аддзелы на Румынскім фронце ды інш. Гл. больш: O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923*, Białystok 1995.

гэтым яе лічылі сваёй прадстаўнікі розных палітычных плыняў мясцовага беларускага руху: ад незалежнікаў-хадэкаў да прадстаўнікоў левага крыла (напр., Беларуская сялянска-работніцкая грамада), якія прытрымліваліся арыентацыі на СССР. Актыўнымі папулярызатарамі нацыянальнай сімволікі былі культурна-асветніцкія арганізацыі — Таварыства беларускай школы і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Падчас арганізаваных урачыстасцей, а таксама ў сядзібах гэтых арганізацый прысутнічаў герб „Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг[3]. Нацыянальная сімволіка не была чужой перадусім сярод беларускай вучнёўскай моладзі ў вышэйзгаданых краінах. Гэтаму спрыяла дзейнасць моладзевых арганізацый, а таксама тое, што веды пра гэтыя сімвалы распаўсюджваліся ў мурах беларускіх гімназій (напр., у Вільні і Дзвінску).

У сувязі з гэтым не павінна здзіўляць, што 13 лютага 1930 г. тагачасны заходнебеларускі камсамольскі актывіст і малады паэт Максім Танк напісаў верш, у якім услаўляў герб „Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг. Радкі, прысвечаныя сімволіцы, гучаць наступным чынам:

Глядзі ў будучыню смела!
Настаў доўгачаканы час,
Пад сцягам бел-чырвона-белым
Чакае перамога нас.

Няхай жа меч Пагоні ззяе!
Гартуйма нашу еднасць, моц!
Вядзі нас, Воля прасвятая,
Да новай славы, новых сонц![4]

Такім чынам, нацыянальныя сімвалы яшчэ да вайны сталі неадʼемнай часткай і распазнавальным знакам беларускага нацыянальнага і незалежніцкага руху.

Не зніклі яны таксама падчас Другой сусветнай вайны. Імі працягвалі карыстацца прыхільнікі стварэння беларускай дзяржавы на несавецкай аснове. Гэтыя людзі ў той ці іншай ступені лічыліся спадкаемцамі ідэі БНР, таму шанавалі сімволіку, з ёй звязаную. Напярэдадні Другой сусветнай вайны пэўная частка беларускага нацыянальнага лагера летуценіла, што вайна III Рэйха супраць СССР створыць шансы для незалежнай беларускай дзяржавы.

3 А. Вашкевіч, *Нашы сцягі над Заходняй,* „Архэ" 2007, № 4, с. 78–90.
4 М. Танк, *Збор твораў у 13 тамах. Т. 9. Лісткі календара. Дзённікі (1941–1959),* Мінск 2009, с. 428.

Пры гэтым трэба падкрэсліць, што стаўленне да нацыстаў было розным. Паслядоўныя прыхільнікі супрацоўніцтва з Берлінам, якія ў той ці іншай ступені падзялялі ідэалогію Рэйха, складалі невялікую жменьку дзеячаў (група Фабіяна Акінчыца). Іншыя кіраваліся халодным палітычным разлікам і ілюзорнай надзеяй на падтрымку немцамі беларускай незалежнасці, паколькі не бачылі альтэрнатывы ў тагачаснай міжнароднай сітуацыі. Сведчыць аб гэтым факт, што супрацоўніцтва з Берлінам было вынікам працяглых унутраных дыскусій і ваганняў. Акрамя таго былі таксама дзеячы, якія разглядалі калабарацыю з немцамі як часовую з’яву, а ў сапраўднасці рабілі стаўку на заходніх саюзнікаў. У 1940–1944 гг. яны актыўна шукалі кантактаў з польскім эміграцыйным урадам[5].

Нягледзячы на тое, што нацысты ніколі не разглядалі беларускіх дзеячаў як палітычных партнёраў і не збіраліся ствараць нават марыянеткавай беларускай дзяржавы, усё ж з іх боку рабіліся пэўныя саступкі на карысць беларусаў, асабліва ў культурнай і адукацыйнай галіне. Гэтая палітыка была абумоўлена патрэбай выкарыстання беларусаў як супрацьвагі ў адносінах да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, перадусім палякаў і рускіх. Такім чынам акупанты дзеля паспяховага кіравання захопленымі тэрыторыямі рэалізоўвалі старажытны прынцып „падзяляй і пануй”.

Паколькі да вайны беларуская нацыянальная сімволіка ўжо стала неад’емнай часткай беларускага нацыянальнага і незалежніцкага канону, то не павінен выклікаць здзіўлення факт, што беларускія дзеячы не цураліся гэтай атрыбутыкі. Да пачатку нападу Германіі на СССР на тэрыторыі III Рэйха і залежных ад яго тэрыторыях (Генеральнае губернатарства, Рэйхсгаў Вартэланд, Пратэктарат Чэхіі і Маравіі) дзейнічаў шэраг беларускіх грамадскіх арганізацый. Аднак, паводле нямецкага заканадаўства, экспанаванне якіх-колечы ненацысцкіх нацыянальных сімвалаў у грамадскіх месцах было забаронена. Выкарыстанне сцягоў, павязак і значкаў дазвалялася толькі падчас унутраных мерапрыемстваў. Такія захады нямецкага боку выйікалі з жадання не псаваць адносін з савецкім бокам, паколькі ў адпаведнасці з пактам Рыбентропа — Молатава Берлін і Масква былі саюзнікамі[6].

З пачаткам нямецка-савецкай вайны немцы ўжо не мусілі азірацца на СССР. Гэта выкарысталі беларускія дзеячы, якія намагаліся экспанаваць свае нацыянальныя сімвалы паўсюль, дзе толькі гэта было магчыма. Так, напрыклад, мініяцюры герба і сцяга аздобілі загаловак „Менскай газэты” (ад лютага 1942 г. — „Беларускай газэты”), галоўнага беларускамоўнага перыядычнага выдання ў акупаванай Беларусі.

Ці не ўпершыню ў акупаванай Беларусі нацыянальны сцяг з’явіўся ў публічнай прасторы ў снежні 1941 г.? Тады два беларускія сцягі аздобілі залу

[5] Ю. Туронак, *Беларускае пытанне ў палітыцы лёнданскага лягеру (1941–1944),* [у:] *Мадэрная гісторыя Беларусі*, Вільня 2006, с. 464–484.

[6] Bundesarchiv Berlin-Lichterfelde (BArch.), R 58/459, k. 194–198.

Менскага гарадскога тэатра, у якой адбыўся (пад кіраўніцтвам кс. В. Гадлеўскага) з’езд акруговых і раённых школьных інспектараў[7]. Таксама сцяг эпізадычна выкарыстоўваўся там, дзе яшчэ да вайны існавалі моцныя асяродкі беларускага жыцця. Захаваліся звесткі пра тое, як жыхары Жодзішак з бела-чырвона-белым сцягам віталі свайго колішняга пробашча кс. В. Гадлеўскага, які наведаў мястэчка 12 ліпеня 1942 г.[8]

Натуральным крокам беларускага актыву было імкненне да легітымізацыі гэтых сімвалаў з боку акупацыйных улад. У сярэдзіне ліпеня 1942 г. кіраўнік Беларускай народнай самапомачы (БНС) Іван Ермачэнка апрацаваў праект беларускіх нацыянальных сімвалаў, якія базаваліся на сімволіцы БНР, і папрасіў дазволу генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ на іх выкарыстанне ў грамадскім жыцці на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь (ГАБ). Гэты праект быў перададзены кіраўніку аддзела прапаганды ГАБ Леапольду Юрда. Апошні падрыхтаваў адпаведнае распараджэнне, якое потым прадставіў на подпіс генеральнаму камісару[9].

27 ліпеня 1942 г. генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ выдаў распараджэнне, якое дазваляла выкарыстоўваць беларускія нацыянальныя сімвалы на тэрыторыі падлеглай яму акругі. Дазвол тычыўся герба „Пагоня”, бела-чырвона-белага сцяга і адпаведнай нарукаўнай павязкі для сяброў БНС. Выкарыстанне гэтай сімволікі дакладна рэгламентавалася і дазвалялася толькі падчас пэўных урачыстасцей, а таксама „для пазнаньня беларускае нацыянальнасьці”[10].

Дадзены крок меў, аднак, не зусім законны характар. Пра тое, што нямецкія ўлады не надалі гэтай справе належнай увагі, сведчыць факт, што вышэйзгаданае распараджэнне гаўляйтара нават не было апублікавана ў выданні „Amtsblatt der Generalkommissars für Weißruthenien” (Урадавы веснік генеральнага камісара Беларусі), на старонках якога размяшчаліся ўсе акты, якія набывалі юрыдычную моц. Нягледзячы на тое, што, на думку супрацоўніка ГАБ Маўха, з палітычнага гледзішча беларускія сімвалы не выклікалі засцярог[11], рашэнне гаўляйтара выклікала сумневы ў яго законнасці з боку шэрагу кіраўнікоў адміністрацыі Кубэ. Загадчык аддзела кіравання ГАБ урадавы дарадца В. Геман не бачыў патрэбы выкарыстання беларускай сімволікі. Ён лічыў, што дэманстраванне беларускіх сімвалаў немэтазгоднае па эканамічных меркаваннях. Акрамя таго немец звяртаў увагу на тое, што выкарыстанне герба з выявай вершніка непажадана яшчэ і таму, што ён нагадваў дзяржаўную сімволіку Літвы[12].

7 *Канфэрэнцыя школьных Інспэктароў Беларусі,* „Беларуская Школа” 1942, № 1, с. 10.
8 А. Вашкевіч, *Вінцэнт Гадлеўскі. Насуперак часу,* Менск 2018, с. 138.
9 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 510, воп. 1, спр. 247, арк. 1136.
10 *Ibidem*, арк. 1139–1140.
11 *Ibidem*, арк. 1160.
12 *Ibidem*, арк. 1153–1158.

Нягледзячы на вышэйзгаданыя супярэчнасці, беларускія дзеячы, згуртаваныя вакол БНС, успрынялі крок Кубэ як дазвол на афіцыйнае ўжыванне нацыянальнай сімволікі. Чыноўнік ГАБ Юрдэн адзначаў, што хоць нямецкі бок не прыняў ніякага канкрэтнага рашэння па гэтай справе, „беларусы летуценяць найлепшымі думкамі”[13]. Сведчыць аб гэтым факт, што берлінская „Раніца” 6 верасня 1942 г. пасьпяшалася нават надрукаваць вышэйзгаданае распараджэнне Кубэ[14]. Нямецкае следства, якое мела на мэце вызначыць, хто нясе адказнасць за гэты крок, не прынесла вынікаў. Верагодней за ўсё, што кіраўнік БНС Ермачэнка самавольна паінфармаваў рэдакцыю берлінскай газеты, чым увёў у зман як немцаў, так і беларусаў[15].

Пасля гэтага на вуліцах некаторых гарадоў і мястэчак Генеральнай акругі Беларусь з'явіліся людзі з бела-чырвона-белымі павязкамі і шэўронамі. Гэта былі сябры БНС і Беларускай самааховы (БСА), што сведчыла аб іх прыналежнасці да гэтых арганізацый. Пры гэтым у выпадку Самааховы гэта адбывалася без фармальнай згоды, паколькі ў адпаведнасці з загадам шэфа СС і паліцыі Карла Цэнера ад 7 ліпеня 1942 г. абавязковым было нашэнне самааховоўцамі нарукаўнай павязкі са свастыкай, а не нацыянальнымі сімваламі[16]. Тым не менш сімвалы былі прадэманстраваны 1 жніўня 1942 г. у Менску падчас урачыстага адкрыцця першага падрыхтоўчага курса афіцэраў БСА[17].

Нацыянальныя сцягі з'яўляліся таксама на некаторых будынках, у якіх месціліся сядзібы БНС альбо кватараваліся аддзелы Беларускай самааховы. Аналіз фотадакументаў дазваляе сцвярджаць, што нацыянальная сімволіка таксама сустракалася на будынках некаторых раённых упраў цывільнай адміністрацыі, якія складаліся з сяброў БНС[18].

Апрача таго беларускі сцяг можна пабачыць на здымках пахаванняў вядомых дзеячаў. У гэтым выпадку нацыянальным палотнішчам пакрывалася дамавіна. Напрыклад, бела-чырвона-белым сцягам была пакрыта труна Вацлава Іваноўскага падчас жалобнай працэсіі, якая адбылася ў Менску 11 снежня 1943 г.[19] У выніку таго, што беларуская сімволіка мімаволі акупантаў атрымала распаўсюджанне, улады ГАБ былі вымушаны пагадзіцца з гэтым фактам і падрыхтаваць праект новай пастановы[20].

---

13 *Ibidem*, арк. 1141.

14 *Беларускія нацыянальныя азнакі й эмблемы*, „Раніца”, 1942, 6 верасня, с. 2.

15 НАРБ, ф. 510, воп. 1, спр. 247, арк. 1154.

16 НАРБ, ф. 3500, воп. 2, спр. 48, арк. 103.

17 А. Літвін, *Беларуская самаахова: да пытання стварэння і дзейнасці*, [у:] *Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі*, Мінск 1998, ч. 2, с. 50.

18 Беларускі дзяржаўны архіў музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ), ф. 3, воп. 3, спр. 131, арк. 1–4.

19 J. Grzybowski, *Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956,* Warszawa 2011, s. 857.

20 НАРБ, ф. 510, воп. 1, спр. 247, арк. 1153–1158.



**Пахаванне Вацлава Іваноўскага. Менск, 11 снежня 1943 г.**

Напрыканцы 1942 г. справа выкарыстання беларускіх нацыянальных сімвалаў у ГАБ выпадкова звярнула на сябе ўвагу Берліна. У лістападзе 1942 г. дзеячы Люблінскага аддзела Беларускага камітэта звярнуліся да ўлад Генеральнага губернатарства з просьбай дазволіць выраб беларускіх эмблем, а таксама выкарыстанне нацыянальнай сімволікі на пячатках, штампах і іншай дакументацыі. Сваю просьбу яны абгрунтавалі наяўнасцю вышэйзгаданага распараджэння Кубэ, якое тычылася ўжывання нацыянальных сімвалаў у ГАБ[21]. Нічога не ведаючы, улады ў Кракаве зрабілі адпаведны запыт у Міністэрства ўсходніх акупаваных абшараў (Остміністэрыюм). Справа выкарыстання беларускай сімволікі стала прадметам дыскусіі на ўзроўні ведамства Альфрэда Розенберга ў Берліне і кіраўніцтва Рэйхскамісарыята „Остланд" у Рызе.

У выніку распараджэнне гаўляйтэра Беларусі было афіцыйна прыпынена. Тым не менш беларускі актыў працягваў фарсіраваць справу выкарыстання нацыянальных сімвалаў у грамадскай сферы. Гэта магло стварыць у вачах грамадства ўражанне пэўнай самастойнасці беларускіх дзеячаў. У чэрвені 1943 г. Беларуская рада даверу звярнулася да Кубэ з просьбай дазволіць выкарыстанне беларускай нацыянальнай эмблемы з выявай кветкі васілька на бела-чырвона-белым фоне. 27 жніўня 1943 г. гаўляйтар зрабіў спробу атрымаць згоду Остміністэрыюма на зацвярджэнне гэтага сімвала.

21 *Ibidem*, арк. 1136.

Заслугоўвае ўвагі абгрунтаванне, якім карыстаўся Кубэ, матывуючы прысутнасць кветкі васілька. У звароце генеральнага камісара Беларусі да Остміністэрыюма адзначалася: "Я меў перамовы з рознымі мясцовымі кіраўнікамі. Мне былі прадстаўлены прыклады эмблем, якія далучаю. З мэтай абгрунтавання гэтай эмблемы я хацеў бы заўважыць, што колер васілька ў беларускага народа з'яўляецца сімвалам беларускай нацыі, то бок сімвалам усіх тых, хто залічвае сябе да сапраўдных беларусаў. У шэрагу беларускіх народных песень узгадваецца гэта кветка, бо блакітным, як кветка, ёсць беларускае неба, вочы беларускіх хлапцоў і дзяўчат. «Душа беларуса гэтак нябесна празрыстая, мяккая і чыстая, як васілёк»,— кажа беларускі паэт. Беларускія паэты часта ўзгадваюць «васількова-блакітныя колеры беларусаў». Сусветнай вядомасцю карыстаюцца слуцкія паясы, якія ў сваёй аснове нярэдка ўтрымліваюць васілёк. Адзін з вядомых беларускіх лірыкаў Багдановіч услаўляе кветку васілька як «сімвал беларускага мастацтва». Зыходзячы з вышэйзгаданых разваг, мясцовыя жыхары выказаліся за тое, каб уключыць у іх беларускую нацыянальную дзяржаўную сімволіку кветку васілька. Колер бела-чырвона-белы павінен у будучыні стаць знакам сапраўдных беларусаў"[22].

Генеральны камісар Беларусі далучыў да прапановы эмблемы таксама праект распараджэння, якое юрыдычна замацавала б права яе выкарыстання на тэрыторыі ГАБ. Гаўляйтар прасіў згоды Берліна на зацвярджэнне гэтага дакумента. У № 1 праекта распараджэння чытаем: „У Генеральнай акрузе Беларусь дазваляецца на выпадак свят і нацыянальных урачыстасцей вывешваць і насіць беларускія нацыянальныя эмблемы, але з агаворкай, што заўсёды ў такіх выпадках адначасова і ў такім жа годным выглядзе будзе прадстаўлена сімволіка нямецкай дзяржаўнай улады падчас аздаблення будынкаў, сцэн і памяшканняў"[23]. Падрыхтоўка звароту і праекта распараджэння была апошнім крокам Кубэ, накіраваным на легалізацыю беларускай сімволікі. Ужо праз месяц гаўляйтар загінуў у замаху, таму распачатая ім справа мела працяг ужо без яго ўдзелу.

Аднак пытанне зацвярджэння беларускай сімволікі не знайшло хуткага вырашэння. Спачатку разгляд справы значна замарудзіўся па прычыне таго, што высланыя Кубэ ў Берлін эскізы былі знішчаны падчас бамбардзіроўкі нямецкай сталіцы. Тым не менш не тэхнічныя цяжкасці паўплывалі на вырашэнне пытання.

Варта больш уважліва прасачыць думкі нямецкіх чыноўнікаў. Кіраўніцтва Рэйхскамісарыята „Усход" і Остміністэрыюма паставіліся непрыхільна да спробы надання беларускай сімволіцы афіцыйнага статусу, прызнаючы яго неабгрунтаваным перабольшваннем. З ліста Остміністэрыюма да

[22] *Ibidem*, арк. 1161–1162.
[23] *Ibidem*, арк. 1157–1158.

выконваючага абавязкі генеральнага камісара Беларусі Курта фон Готберга ад 10 кастрычніка 1943 г. вынікае, што нямецкія ўлады не могуць зацвердзіць беларускіх нацыянальных сімвалаў, бо гэта азначала б прызнанне пэўнай самастойнасці альбо аўтаноміі Беларусі. Акрамя гэтага ў Берліне непакоіліся, што падобны крок можа абудзіць надзеі беларускіх нацыянальных актывістаў на падтрымку Германіяй стварэння суверэннай беларускай дзяржавы. А гэта, як вядома, не ўваходзіла ў планы нацыстаў[24]. Яскрава сведчыць аб гэтым ліст чыноўніка ўсходняга міністэрства доктара Лабса да Готберга, у якім чытаем: „Эскіз праекта беларускай нацыянальнай эмблемы ў якасці беларускай «дзяржаўнай атрыбутыкі ўлады» не можа быць мной падтрыманы, паколькі «дзяржаўная атрыбутыка ўлады» прадугледжвае дзяржаўную самастойнасць альбо прынамсі аўтаномію. Будучае фармаванне Беларусі ў яе агульных рысах пакуль яшчэ з поўнай упэўненасцю не вызначана такім чынам, каб ужо сёння мы маглі казаць пра яе «дзяржаўную» атрыбутыку. Пастаноўка гэтага пытання можа выклікаць пэўныя надзеі ў беларускім лагеры, якія, як вядома, у цяперашніх умовах не могуць быць споўнены"[25].

У сувязі з гэтым Берлін раіў замест „беларускай дзяржаўнай сімволікі" зацвердзіць „агульнабеларускі знак", які маглі б насіць сябры Беларускай рады даверу і СБМ, а таксама старасты цывільнай адміністрацыі[26]. Адпаведнае рашэнне было падпісана кіраўнікамі Остміністэрыюма 3 снежня 1943 г. пасля чаго накіравана ў Менск. 11 снежня 1943 г. Герхард Мэндэ паведамляў новаму гаўляйтару Беларусі Готбергу: "З Вашай прапановай увесці для беларусаў нацыянальны беларускі знак у выглядзе кветкі васілька на бела-чырвона-белым фоне я згодзен. Аднак я прашу не называць і не лічыць гэтую эмблему атрыбутыкай «беларускай дзяржаўнай улады», бо яна ў такім статусе можа стаць перадумовай да стварэння дзяржаўнай улады, якая ў Беларусі адсутнічае. Аб ухваленні гэтай эмблемы я прашу праінфармаваць беларускае насельніцтва не ў выглядзе афіцыйнага заканадаўчага акта, а толькі шляхам фармальнага паведамлення Беларускай рады даверу з публікацыяй у прэсе"[27].

Аднак ужо пасля гэтага ў Берліне з'явіліся пэўныя засцярогі да вышэйзгаданай сімволікі. Шэф аддзела палітыкі Остміністэрыюма обер-групэнфюрэр Бергер (6 студзеня 1944 г.) не раіў выкарыстоўваць выяву васілька як агульнабеларускую эмблему па прычыне таго, што раней Гітлер прадугледзеў падобную адзнаку для фольксдойчаў, якія служылі ў войсках СС[28]. У сувязі

[24] А. Літвін, *Акупацыя Беларусі. Пытанні супраціву і калабарацыі (1941–1944)*, Мінск 2000, с. 284–286.
[25] НАРБ, ф. 510, воп. 1, спр. 247, арк. 1161–1162.
[26] *Ibidem*, арк. 1162.
[27] *Ibidem*, арк. 1165–1166.
[28] *Ibidem*, арк. 1164.

з гэтым Остміністэрыюм вырашыў устрымацца ад інфармавання беларускіх дзеячаў аб сваім рашэнні наконт васілька. Такім чынам, распараджэнне ведамства Розенберга не было нават абвешчана насельніцтву, не кажучы ўжо аб тым, што яно набыло нейкую юрыдычную моц[29].

Паколькі выява васілька выклікала пэўныя засцярогі, у лютым 1944 г. Берлін прасіў ГАБ даслаць на разгляд іншыя прапановы адносна агульнабеларускага знака[30]. Пры гэтым нямецкае кіраўніцтва як у Берліне, так і ў Менску ставілася да яго як да нечага неістотнага і непатрэбнага. Так, напрыклад, персанальны рэферэнт ГАБ дзяржаўны арадца Маркус быў перакананы, што стварэнне беларускай нацыянальнай эмблемы зусім не пільнае, таму можна яго адкласці на нявызначаны час. Тым часам гаўтштурмфюрэр СС Брандэнбург 4 лютага 1944 г. адзначыў, што спачатку належыць апрацаваць нацыянальны знак для беларускіх остарбайтэраў, які мог бы ўтрымліваць стылізаваны васілёк, а ўжо потым на яго аснове стварыць „агульнабеларускі знак"[31]. Трэба адзначыць, што ўвесну 1944 г. сапраўды з'явіўся праект адзнак для ўсходніх работнікаў — беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Ён павінен быў замяніць агульную для ўсіх нашыўку з надпісам „Ost". Беларускі варыянт прадугледжваў выяву коласа з нацыянальнымі колерамі[32].

Такім чынам, урэгуляванне на юрыдычным узроўні ўжывання беларускіх сімвалаў пад нямецкай акупацыяй не адбылося. Тычылася гэта не толькі Генеральнай акругі Беларусь, але таксама іншых абшараў, на якіх існавалі беларускія арганізацыі і суполкі. Так, напрыклад, толькі 22 студзеня 1944 г. улады Генеральнага губернатарства атрымалі адказ з Остміністэрыюма аб тым, што належыць устрымацца ад выдання дазволу тамтэйшым беларусам на выкарыстанне нацыянальных сімвалаў да моманту прыняцця нямецкімі ўладамі канчатковага рашэння[33].

Нягледзячы на гэта сімволіка ў абмежаваным памеры выкарыстоўвалася беларускімі актывістамі ў Генеральным губернатарстве, Генеральнай акрузе Латвія, Пратэктараце Чэхіі і Маравіі. Адбывалася гэта альбо нефармальна, альбо ў якасці афіцыйнай эмблемы грамадскай арганізацыі. Так, напрыклад, выява герба „Пагоня" была размешчана на афіцыйных запрашэннях удзельнікам урачыстай Акадэміі з нагоды 24-й гадавіны абвяшчэння БНР, якую ў сакавіку 1942 г. зладзіў Пражскі аддзел Беларускага камітэта самадапамогі ў Германіі[34]. У якасці прыкладу можна таксама прывесці пахаванне Васіля Захаркі 19 сакавіка 1943 г. у Празе на Альшан-

29 *Ibidem*, арк. 1171–1172.
30 *Ibidem*, арк. 1174.
31 *Ibidem*, арк. 1175, 1177.
32 *Нацыянальныя адзнакі для работнікаў з Усходу*, „Беларускі Работнік" 1944, 7 траўня, с. 2.
33 НАРБ, ф. 510, воп. 1, спр. 247, арк. 1170.
34 Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ), ф. 5875, оп. 1, д. 38, л. 76.

скіх могілках. Труна прэзідэнта БНР была аздоблена шматлікімі вянкамі з бела-чырвона-белымі стужкамі[35].

Герб „Пагоня" знаходзіўся на афіцыйнай пячатцы Беларускага камітэта ў Генеральным губернатарстве[36]. У 1943 г. старшыня Беларускага аб'яднання ў Генеральнай акрузе Латвія Кастусь Езавітаў рабіў захады атрымаць ад немцаў дазвол на ўжыванне значкоў з выявай нацыянальнага сцяга. Па замове беларускага дзеяча была нават выраблена партыя значкоў, якія знайшлі попыт сярод мясцовай беларускай інтэлігенцыі[37].

На падставе аналізу вышэйзгаданых звестак можна зрабіць выснову, што выкарыстанне беларускай нацыянальнай сімволікі на працягу большага перыяду нямецкай акупацыі мела паўфармальны і эпізадычны характар. Сітуацыя крыху змянілася ў апошняе паўгоддзе акупацыі. Пад уплывам штораз горшай для немцаў сітуацыі на фронце ўлады ў Берліне былі вымушаны ісці на пэўныя саступкі на карысць мясцовых антыкамуністаў у акупаваных краінах, каб максімальна мабілізаваць мясцовае жыхарства на барацьбу з СССР. Такім чынам акупанты намагаліся ўзмацніць антысавецкія настроі сярод насельніцтва. Меркавалася, што ў выпадку вымушанага адыходу Вермахта з занятых абшараў тут узнікне мясцовы рух супраціву, які, ведучы ўзброеную барацьбу ў тыле Чырвонай арміі, здолее аблегчыць сітуацыю нямецкіх войскаў на фронце.

У снежні 1943 г. выконваючы абавязкі генеральнага камісара Беларусі Курт фон Готберг дазволіў стварэнне Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) на чале з прэзідэнтам Радаславам Астроўскім. Паколькі Рада лічылася прапагандысцкай фікцыяй, то выкарыстанне сцяга і герба таксама ўспрымалася немцамі як элемент, неабходны для прыцягнення да супрацоўніцтва беларускіх сіл. У сітуацыі, калі нямецкія войскі адступалі на ўсіх франтах, у прапагандысцкіх мэтах акупанты былі схільныя заплюшчыць вочы на прысутнасць беларускай сімволікі. Перадусім гэта знайшло адлюстраванне падчас мерапрыемстваў з удзелам БЦР: урачыстасцей, маніфестацый і сходаў на вуліцах Менска і іншых гарадоў. Сярод найбольш масавых мерапрыемстваў беларускіх актывістаў у 1944 г. было святкаванне чарговай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (25 сакавіка), Дня працы і вясны (1 траўня) і г. зв. Дня вызвалення з-пад бальшавіцкай акупацыі (22 чэрвеня)[38]. Беларускі актыў, згуртаваны вакол БЦР і звязаных з ёй арганізацый, намагаўся пашыраць сімволіку шляхам экспанавання яе ў якасці сваіх атрыбутаў (на пячатках, сяброўскіх пасведчаннях і г.д.). Ёсць сведчанні, што нацыянальны герб і сцяг з'явіліся на будынках, у якіх месціліся акруговыя намесніцтвы БЦР[39].

---

35 А. Глагоўская, *Васіль Захарка — другі прэзыдэнт БНР*, „Спадчына" 1994, № 1, с. 73.

36 Archiwum Akt Nowych (AAN), sygn. 214, I, t. 7, k. 3.

37 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, арк. 5.

38 У часопісе „Архэ" (2008, № 5) ёсць шмат здымкаў, якія дэманструюць розныя эпізоды выкарыстання нацыянальнай сімволікі ў часе існавання БЦР (вясна—лета 1944 г.).

39 Я. Малецкі, *Пад знакам Пагоні. Успаміны,* Таронта 1976, с. 129.

Нацыянальныя сімвалы прысутнічалі на інаўгурацыйным пасяджэнні БЦР (22 студзеня 1944 г.), а таксама на г. зв. II Усебеларускім кангрэсе (27 чэрвеня 1944 г.). Паводле ўспамінаў відавочцаў, у дзень правядзення кангрэсу бела-чырвона-белыя сцягі лунал не толькі на будынку Менскага гарадскога тэатра, у якім адбылося мерапрыемства, але таксама імі аздаблялі трамваі беларускай сталіцы[40].

Тое самае тычылася Беларускай краёвай абароны (БКА). Гэта фармаванне разглядалася як істотная частка нямецкіх планаў накіраваных на мабілізацыю мясцовага жыхарства на змаганне з СССР. 13 сакавіка 1944 г. кіраўнік СС і паліцыі Беларусі дазволіў жаўнерам БКА выкарыстоўваць нацыянальныя адзнакі. Яны прысутнічалі як у абмундзіраванні (цэшкі, нарукаўныя і каўняровыя нашыўкі), так і ў выглядзе штандара падчас урачыстасцей (напр., прыняцця прысягі), аздаблення будынкаў кашар і мабілізацыйных пунктаў. Гэта павінна было пазітыўна ўплываць на маральны стан і настроі жаўнераў.

Быў зацверджаны наступны ўзор мундзіра для шарагоўцаў, падафіцэраў і афіцэраў БКА: на шапцы — герб „Пагоня", устаўкі на каўнерах (4 x 6,5 см) з размешчаным па цэнтры шасціканцовым крыжам Ярылы (2 x 4 см) на чырвоным полі. У афіцэраў двукрыжы былі залатыя, у падафіцэраў і шарагоўцаў — срэбныя. На левым рукаве насіліся нашыўкі ў выглядзе шчыта бела-чырвона-белага колеру з размешчаным па цэнтры гербам „Пагоня". Музыкі аркестра БКА насілі згаданыя нашыўкі на абодвух рукавах[41].

Аднак ва ўмовах ваеннага часу і недахопу матэрыяльных сродкаў загады адносна ўніформы не заўсёды выконваліся. У мундзіры БКА былі апрануты толькі некалькі батальёнаў і камандны склад. Жаўнеры іншых батальёнаў амаль не адрозніваліся ад цывільнага насельніцтва. Камандаванне неаднаразова атрымлівала скаргі, у якіх сцвярджалася, што лясныя партызаны апрануты лепш, чым вайскоўцы БКА[42].

Некаторыя вайскоўцы БКА не перасталі выкарыстоўваць нацыянальныя адзнакі нават пасля эвакуацыі на захад улетку 1944 г. Паводле распараджэння прэзідэнта БЦР ад 25 кастрычніка 1944 г., а таксама загада начальніка Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў (ГКВС) БЦР № 6 ад 25 кастрычніка 1944 г. для беларускіх вайсковых фармаванняў на чужыне да моманту іх вяртання ў Беларусь прызначаліся адзнакі БКА. Новым было ўвядзенне нашыўкі, якую насілі на правым рукаве вышэй локця. Яна мела выгляд шчыта з бела-чырвона-белымі паласкамі, размешчанымі пад вуглом 45% справа налева. У верхняй частцы на цёмна-шэрым фоне быў размешчаны надпіс „Беларусь". Згодна з загадам кіраўніка ГКВС БЦР № 43 ад 3 сакавіка

40 А. Гардзіенка, *Беларуская Цэнтральная Рада: стварэнне, дзейнасць, заняпад 1943–1995*, Мінск 2016, с. 94–95.

41 А. Літвін, *Акупацыя Беларусі*…, с. 190.

42 НАРБ, Ф. 382, воп. 1, спр. 4, л. 113; А. Літвін, *Акупацыя Беларусі*…, с. 193.

1945 г. нашэнне такога элемента абмундзіравання было абавязковым для ўсіх афіцэраў, падафіцэраў і жаўнераў, якія служылі ў шэрагах 1-га Кадравага батальёна БКА ў Берліне[43].

Падобная сімволіка была распрацавана для 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС (1-й беларускай), фармаванне якой распачалося ў студзені 1945 г. у Баварыі. Яе жаўнеры павінны былі насіць на каўнерах чорныя нашыўкі з белым падвойным крыжам Ярылы. Такі ўзор быў зацверджаны рэйхсфюрэрам СС Гімлерам 29 студзеня 1945 г. Меркавалася, што беларускія грэнадзёры будуць таксама насіць на плячы бела-чырвона-белы шчыт, у верхняй частцы якога на чорным фоне будзе змешчаны надпіс *Weissruthenien*. Падобна, што гэты ўзор уніформы ніколі не выкарыстоўваўся, паколькі часу на яе вытворчасць ужо не было. У красавіку 1945 г. камандаванне прыняло рашэнне аб расфармаванні злучэння[44].

Пасля адыходу нямецкіх войск з Беларусі ўлетку 1944 г. кіраўніцтву ІІІ Рэйха ўжо было абыякава, дзе і якую сімволіку выкарыстоўваюць беларусы. У сітуацыі, калі хуткая параза Германіі рабілася непазбежнай, нямецкую цэнзуру гэтая праблема не цікавіла. У выніку на старонках берлінскай „Раніцы" ў лістападзе 1944 г. з'явіўся вялікі артыкул Антона Адамовіча, прысвечаны беларускім сімвалам. Аўтар пісаў пра іх у катэгорыях не толькі нацыянальных, але і дзяржаўных атрыбутаў Беларусі[45].

Крыху іншы характар мела выкарыстанне беларускіх нацыянальных сімвалаў у парамілітарных арганізацыях, а таксама вайскова-паліцэйскіх фармаваннях. Хоць сцяг і герб выкарыстоўваліся Саюзам беларускай моладзі (СБМ) і Беларускай службай Бацькаўшчыне, яны былі прадстаўлены не ў кантэксце нацыянальнай сімволікі, а толькі ў кантэксце сімволікі гэтых арганізацый.

Асабліва трэба падкрэсліць выпадак СБМ. Аналіз даступных фота- і кінаматэрыялаў дазваляе зрабіць выснову, што значная частка выкарыстання беларускіх нацыянальных сімвалаў у 1943–1944 гг. звязана менавіта з гэтай арганізацыяй. Гэта тлумачыцца асаблівым статусам Саюза ў іерархіі калабарацыйных арганізацый, якія існавалі са згоды акупантаў. Апошнія ўскладалі на СБМ значныя вайскова-гаспадарчыя і ідэалагічныя заданні, таму дбанне пра сімволіку разглядалася як сродак узмацнення аўтарытэту арганізацыі сярод моладзі. Эмблема Саюза ў выглядзе ромба ў нацыянальных колерах упрыгожвала мундзіры юнакоў і юначак (цэшкі, нарукаўныя знакі на левым рукаве). Бела-чырвона-белы сцяг з эмблемай арганізацыі пасярэдзіне з'яўляўся афіцыйным штандарам СБМ.

43 НАРБ, ф. 383, воп. 1, спр. 11а, арк. 233–234, 313.

44 J. Gdański, *Zapomniani żołnierze Hitlera*, Warszawa 2005, s. 75.

45 Г. Альгердзіч, *Нашыя нацыянальныя эмблемы*, „Раніца" 1944, 22 лістапада, с. 5; 26 лістапада, с. 5; 29 лістапада, с. 3.



**Сябры СБМ маршыруюць вуліцамі Менска. Вясна 1944 г.**

Акрамя таго кожны звяз, круг і акруга таксама мелі ўласныя сцягі. Яны адрозніваліся ад агульнасаюзнага штандара тым, што з левага боку на ўсю шырыню палотнішча быў размешчаны трохкутнік колеру, які адпавядаў узроставай групе адзінкі: зялёнага (моладзь 10–14 гадоў), блакітнага (15–18) і чырвонага (19–20). На трохкутніку знаходзілася таксама назва адзінкі і сімвал юнацкай арганізацыі: дубовыя лісты з жалудамі (юнакі) альбо кветка васілька (юначкі)[46]. Юнакоў і дзяўчат ва ўніформе СБМ можна было пабачыць не толькі ў Беларусі, але таксама па-за яе межамі. Гэта былі члены Працоўнай групы СБМ „Германія" і ўдзельнікі дапаможнага персаналу Люфтвафэ. Маладыя беларусы, якія належалі да гэтай службы, мелі на левым рукаве эмблемы СБМ[47]. Дзяўчаты на службе Люфтвафэ насілі замест павязкі на левым рукаве толькі простакутную эсбээмаўскую эмблему[48]. Апрача таго амаль усе вядомыя прапагандысцкія плакаты Саюза ўтрымлівалі нацыянальныя сімвалы. Такім чынам, менавіта СБМ можна лічыць галоўным „папулярызатарам" нацыянальных сімвалаў у разглядаемы перыяд[49].

У гістарыяграфіі існуе меркаванне аб паўсюдным выкарыстанні нацыянальнай сімволікі беларускай дапаможнай паліцыяй, але такое насамрэч

[46] А. Каваленя, *Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. Вытокі. Структура. Дзейнасць*, Мінск 1999, с. 120–121.

[47] „Раніца" 1944, 23 ліпеня, с. 3.

[48] *Ibidem*, 3 верасня, с. 3.

[49] Ю. Туронак, *Людзі СБМ; Беларусь пад нямецкай акупацыяй*, Смаленск 2008, с. 115.

было немагчыма. Мясцовая служба парадку не з'яўлялася самастойнай структурай, а была часткай акупацыйнай машыны, якая падпарадкоўвалася вайсковай дысцыпліне і загадам. Паліцыя „шума" была апранута ў нямецкія мундзіры з адпаведнымі адзнакамі, а ўсялякая „самадзейнасць" з нацыянальнымі праявамі не віталася.

Але, паводле сведчанняў удзельнікаў ваенных падзей, нягледзячы на фармальную забарону нашэння беларускіх нацыянальных пазнак, яны ўсё ж сустракаліся ў некаторых адзінках. Прыкладам можа паслужыць 68-ы шума-батальён[50] у Наваградку. Яго камандзір Барыс Рагуля рупіўся аб нацыянальным абліччы адзінкі, што знайшло адлюстраванне ў прысутнасці ўласнага штандара, які ўяўляў сабой бела-чырвона-белы сцяг з надпісам „Першы беларускі швадрон", а таксама гербам „Пагоня" і гербам Наваградка ў левай частцы палотнішча. Паводле непацверджаных звестак, у батальёне выкарыстоўваліся таксама аблогі на каўнеры ў нацыянальных колерах[51].

Ёсць таксама ўзгадка пра тое, што жаўнеры 60-га шума-батальёна (месца кватаравання: Баранавічы) выразалі з бляшанак ад кансерваў нарукаўныя адзнакі ў выглядзе бела-чырвона-белых шчытоў, якія насілі на левым рукаве[52]. Да вышэйзгаданых сведчанняў належыць аднак ставіцца вельмі крытычна, паколькі яны не знаходзяць падмацавання ў іншых крыніцах. Калі выпадкі такой „самадзейнасці" сапраўды былі, то яны мелі адзінкавы характар. Звесткі аб выкарыстанні нацыянальных сімвалаў у вышэйзгаданых фармаваннях паходзяць ад іх кіраўнікоў, якія пасля вайны апынуліся ў эміграцыі і ўжо там намагаліся ўмацаваць свой аўтарытэт у вачах аднадумцаў прыпісваючы сабе патрыятычную актыўнасць у гады акупацыі[53].

Адзіным шума-фармаваннем, якое паводле ўставу ў абмундзіраванні мела беларускія знакі, быў 13-ы батальён СД. Гэта была нарукаўная нашыўка ў нацыянальных колерах. Яе насілі на левым рукаве вышэй локця. Аднак даступныя фотаматэрыялы дазваляюць меркаваць, што вышэйзгаданыя элементы прысутнічалі на ўніформе далёка не ўсіх шуцманаў 13-га батальёна.

Інфармацыю аб выкарыстанні пэўных нацыянальных элементаў ва ўніформе вышэйзгаданых вайскова-паліцэйскіх адзінак не варта ўспрымаць як прызнанне нейкіх прывілеяў для беларусаў. Пазначэнне нацыянальнымі колерамі іншаземных легіёнаў было з'явай паўсюднай у III Рэйху. У гады вайны ў структурах Вермахта, Люфтвафэ і СС існавалі шматлікія фармаванні, якія складаліся з іншаземцаў. Гэта тычылася як народаў Заходняй Еўропы, так і народаў СССР. Нацыянальныя колеры прысутнічалі на мундзірах

---

50 Гаворка ідзе пра атрады дапаможнай паліцыі (нем. Schutzmannschaft) (заўвага рэд.).

51 Л. Юрэвіч, *Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі*, Мінск 1999, с. 190, 203.

52 Ф. Кушаль, *Спробы стварэньня беларускага войска*, Мінск 1999, с. 61.

53 Ю. Грыбоўскі, *Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі: вядомае і невядомае,* „Białoruskie Zeszyty Historyczne" 2008, z. 30, s. 101–114.

палявых частак Вермахта і СС, якія складаліся з прадстаўнікоў балтаў, нярускіх народаў Расіі, Закаўказзя, а таксама ў казацкіх аддзелах, у частках Рускай вызваленчай арміі і іншых усходніх легіёнах. Ужыванне нацыянальных элементаў у абмундзіраванні гэтых фармаванняў было прадыктавана не столькі палітычнымі матывамі, колькі практычнымі меркаваннямі, якія дазвалялі вонкава адрозніваць часткі, у якіх служылі іншаземцы ад злучэнняў, што складаліся з немцаў.

Нацыянальныя элементы ў абмундзіраванні некаторых ваенна-паліцэйскіх адзінак не сведчылі аб іх нацыянальным складзе. Акрамя беларусаў там знаходзілася значная колькасць прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Наяўнасць беларускіх элементаў у абмундзіраванні вышэйзгаданых калабарацыйных фармаванняў не адлюстроўвала ідэйных перакананняў людзей, якія там служылі. Прысутнасць элементаў беларускай сімволікі на ўніформе гэтых частак таксама не азначала, што яны складаліся з беларускіх нацыяналістаў. Нягледзячы на тое, што актыў БНС і БЦР хацеў бачыць у іх зародак нацыянальнага войска, насамрэч яны былі толькі элементам брутальнай акупацыйнай машыны тэрору[54].

Праведзенае даследаванне дазваляе зрабіць пэўныя высновы. Беларуская нацыянальная сімволіка ніколі не была зацверджана акупантамі ў якасці сімвалаў нават асобна ўзятай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі (напр., Генеральнай акругі Беларусь). Яна лічылася не больш чым распазнавальным знакам беларускіх арганізацый (БНС, БЦР, БКА, СБМ і г.д.), якія дзейнічалі з дазволу акупантаў. У 1941–1943 гг. выпадкі экспанавання нацыянальных сімвалаў мелі эпізадычны характар. Толькі ў 1944 г. яны пачалі выкарыстоўвацца больш шырока, чым дагэтуль. Аднак гэта зусім не азначала, што яны набылі афіцыйны статус.

Беларускі сцяг і герб падчас нямецкай акупацыі выкарыстоўваліся ў прапагандысцкіх мэтах, таму найчасцей яны экспанаваліся падчас урачыстасцей з удзелам мясцовых актывістаў. Да нашых дзён захавалася дастаткова шмат фота- і кінаматэрыялаў, якія сведчаць пра выкарыстанне нацыянальнай сімволікі падчас нямецкай акупацыі. Аднак трэба памятаць, што ў большасці выпадкаў гэта былі пастановачныя здымкі, зробленыя з нагоды розных прапагандысцкіх мерапрыемстваў, якія не адлюстроўваць штодзённага жыцця. У сувязі з гэтым няма падстаў сцвярджаць, што сімволіка моцна ўрэзалася ў памяць насельніцтва, якое зведала жахі акупацыі. Яскрава сведчыць аб гэтым факт, што ў архіўных крыніцах і мемуарыстыцы звесткі пра гэты эпізод акупацыйнага жыцця сустракаюцца вельмі рэдка. Пераважная большасць жыхароў Беларусі была занята штодзённым выжываннем ва

54 А. Литвин, *Местная вспомогательная полиция на территории Беларуси (июль 1941-июнь 1944 г.),* [у:] *Беларусь у ХХ стагоддзі*, вып. 2, Мінск 2003, с. 216; J. Grzybowski, *An Outline History of the 13 (Belarussian) Battalion of the SD Auxiliary Police,* „The Journal of Slavic Military Studies" 2010, vol. 23, nr 3, p. 461–476.

заслугі перад Бацькаўшчынай. Ордэн меў пяць ступеняў і дзве катэгорыі — вайсковую і цывільную[16].

У лістах Кастуся Езавітава да дырэктара Беларускага нацыянальнага музея Вацлава Ластоўскага ў 1926–1927 гг. адзначалася, што мундзір Асобнага атрада БНР і „Полацкі беларускі крыж" былі перададзены на захоўванне ў згаданы музей. Тады ў музейнае сховішча, між іншым, трапілі фуражка з дзвюма кукардамі, цясак з цемляком у беларускіх колерах і ўзнагародны ордэн, які меў выгляд шасціканцовага крыжа, пакрытага белай эмаллю, з пазалочанымі кантамі[17].

У 1929 г. мундзір Асобнага атрада БНР усплыў у бальшавіцкім фільме „Народжаная ў агні", у якім адзін з персанажаў, а менавіта беларускі нацыяналіст, якраз выступаў ва ўніформе палкоўніка ўзгаданай вайсковай фармацыі. Мундзір складаўся з фуражкі брытанскага ўзору, гімнасцёркі, на якой былі нашыты пятліцы, а таксама афіцэрскага рыштунку тыпу „Сэм Браўн".

Цікавым момантам было і тое, што Асобны атрад БНР выдаў серыю паштовых марак пяці наміналаў, якімі пазней карысталася Вайскова-дыпламатычная місія БНР у Латвіі і Эстоніі.

Жаўнеры войска пад камандаваннем Станіслава Булак-Балаховіча ў асноўным мелі ўніформу былога расійскага войска, пры гэтым на галаўных уборах яны насілі эмблему „чэрап і косці". Эмблема была ўзята з сімволікі, якую выкарыстоўвалі ў партызанскім атрадзе Пуніна, у якім у гады Першай сусветнай вайны ваяваў Станіслаў Булак-Балаховіч. У 1920 г. жаўнеры Балаховіча працягвалі насіць розную ўніформу: ад польскай *wz. 19*, да амерыканскай, брытанскай і, зразумела, расійскай вайсковай вопраткі[18]. Афіцэрскія званні ў войску Станіслава Булак-Балаховіча пазначаліся на каўнярах у выглядзе палосак і зорак.

Асобнай старонкай у гісторыі войска БНР былі беларускія вайсковыя злучэнні перыяду Слуцкага збройнага чыну. 15–16 кастрычніка 1920 г. беларусы правялі ў Слуцку з'езд, на якім была абрана Слуцкая рада. 17 лістапада 1920 г. Рада абвясціла мабілізацыю. Хутка была сфармавана 1-я Слуцкая стралковая брыгада ў складзе Слуцкага і Грозаўскага палкоў. З 28 лістапада па 31 снежня 1920 г. случчакі мужна змагаліся супраць бальшавікоў[19]. Зразумела, што ў кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну не было часу, каб распрацаваць уласную вайсковую форму. Жаўнеры і афіцэры Слуцкай брыгады выкарыстоўвалі элементы ўніформы розных войскаў (расійскага, польскага, германскага і бальшавіцкага), а таксама цывільную вопратку. У якасці

---

16 *Балахоўцы. Сведчанні, дакументы, даследаванні*, Смаленск 2014, с. 139.

17 Тамсама, с. 139–140.

18 А. Дерябин, И. Дзысь, *Гражданская война в России 1917–1922. Войска интервентов*, Москва 1998, с. 35–43.

19 А. Грыцкевіч, *Нескароныя. Да 90-годдзя Слуцкага збройнага чыну*, „Народная Воля". 23–25 лістапада 2010 г.

нацыянальных элементаў слуцкія паўстанцы мелі бела-чырвона-белыя нарукаўныя павязкі і кукарды з выявай „Пагоні". Першы Слуцкі стралковы полк меў і сваю палкавую святыню — штандар, які ён атрымаў перад самым адыходам за дэмаркацыйную лінію з Польшчай. Сцяг быў выкананы ў нацыянальных колерах. На ім была выява дзяржаўнага герба БНР „Пагоня" і надпіс: „Першы слуцкі полк стральцоў Беларускай Народнай Рэспублікі". На адваротным боку сцяга чырвонымі літарамі на белым палотнішчы былі вышыты словы: „Тым, хто пайшоў паміраць, каб жыла Бацькаўшчына"[20].

Лёс большасці беларусаў, якія пачыналі ў 1918 г. ствараць беларускае войска, склаўся трагічна. Кіраўнік БЦВР, член Рады БНР Сымон Рак-Міхайлоўскі пасля польска-бальшавіцкай вайны жыў на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай, аднак у 1930 г. вырашыў пераехаць у сталіцу БССР. У 1933 г. Рак-Міхайлоўскі быў арыштаваны ДПУ. У 1938 г. „тройка" прысудзіла яго да расстрэлу.

Пасля вызвалення Менска ад бальшавікоў у 1918 г. Кастусь Езавітаў быў камендантам Менскага гарнізона, а пазней выконваў абавязкі сакратара па вайсковых справах БНР. Падчас польска-бальшавіцкай вайны беларускі афіцэр актыўна займаўся дыпламатычнымі справамі. Дзякуючы яго высілкам войска Станіслава Булак-Балаховіча перайшло на службу БНР. У міжваенны час жыў у Латвіі. У канцы Другой сусветнай вайны займаў пасаду вайсковага міністра Беларускай цэнтральнай рады. Пазней трапіў у рукі СМЕРШ і ў маі 1946 г. памёр ад сухотаў у савецкай турме.

Увосень 1918 г. генерал Кіпрыян Кандратовіч планаваў сфармаваць 200-тысячнае беларускае войска. Што было б, каб у яго гэта атрымалася? Пытанне рытарычнае. Пазней афіцэр пераехаў у Вільню. Падчас польска-бальшавіцкай вайны ён удзельнічаў у фармаванні розных беларускіх вайсковых падраздзяленняў. У міжваенны час Кандратовіч жыў у маёнтку на Лідчыне, дзе і памёр у 1932 г. Сёння беларусам трэба вывучаць і шанаваць сваю ўласную гісторыю і памятаць тых, хто пайшоў паміраць, каб жыла Бацькаўшчына.

Перыяд 1918–1920 гг. быў вельмі цяжкім для Беларусі і яе жыхароў. Тым не менш беларусы паспрабавалі ў гэты час стварыць сваю дзяржаву і войска. Уніформа беларускіх узброеных фармаванняў за гэты час прайшла пэўную эвалюцыю ад простай „царскай" гімнасцёркі да шыкоўных фрэнчаў з аксельбантамі і нацыянальнай сімволікай. Праўда, у той перыяд важную ролю адыгрываў хутчэй не знешні выгляд жаўнера, а яго ўзбраенне і падрыхтоўка. Тым не менш працы па распрацоўцы і вырабу ўніформы беларускіх нацыянальных вайсковых фармаванняў, а таксама знакаў адрознення адбываліся на ўзроўні Менскага пяхотнага палка, Беларускай вайсковай камісіі, у беларускіх частках літоўскага войска, падраздзяленнях С. Булак-Балаховіча,

[20] І. Мельнікаў, *Сцяг, якім варта ганарыцца* [online], https://kyky.org/columns/stsyag-yakim-varta-ganarytstsa [дата доступу: 11.11.2020].

а таксама ў вайсковых частках Слуцкага збройнага чыну. На жаль, большасць з праектаў і прапаноў, звязаных са стварэннем уніформы беларускага войска, так і засталася на паперы. Тым не менш яны заклалі грунт для таго, каб ужо ў сучаснай Беларусі мундзір беларускага вайскоўца быў створаны з улікам нацыянальнай гісторыі, а не савецкіх традыцый.

### **Ihar Melnikau.** ***Umundurowanie białoruskich formacji wojskowych w latach 1918–1920. Od teorii do praktyki***

Jeszcze w maju 1917 roku Białoruski Komitet Narodowy opowiedział się za utworzeniem białoruskich komitetów wojskowych w Armii Rosyjskiej. 24 października 1917 r. została utworzona Centralna Białoruska Rada Wojskowa (CBRW). Umundurowanie i wyposażenie ówczesnego białoruskiego wojska było niemal identyczne z umundurowaniem i wyposażeniem byłej armii carskiej. Pierwszym i najbardziej rozpowszechnionym znakiem rozpoznawczym białoruskich żołnierzy była biało-czerwono-biała wstążka, którą zgodnie z zarządzeniem CBRW należało nosić pomiędzy klapą munduru a otworem drugiego guzika od góry. Jednakże najczęściej białoruscy żołnierze i oficerowie mocowali kokardy zrobione ze wstążek w barwach narodowych na płaszczu, kieszeni kurtki lub bluzy mundurowej.

Latem 1919 r. Białorusini po raz kolejny powrócili do kwestii stworzenia własnej armii. W czerwcu 1919 r. na białoruskim zjeździe Wileńszczyzny i Grodzieńszczyzny została powołana Białoruska Komisja Wojskowa (BKW), której celem miała być koordynacja organizacji białoruskich formacji wojskowych w składzie Wojska Polskiego. Białoruski mundur był koloru szarego, dlatego też przypominał mundur armii kajzerowskiej oraz Strzelców Wielkopolskich Wojska Polskiego. W 1920 r. mundur BKW zbliżył się wyglądem do mundurów Wojska Polskiego. Żołnierze białoruscy wchodzący w skład armii litewskiej nosili w większości mundury niemieckie. Wyróżniali się wstążką w barwach biało-czerwono-białych noszoną przy otworze drugiego guzika.

Jeszcze jedną białoruską formacją zbrojną w tym czasie były oddziały formowane pod dowództwem Stanisława Bułak-Bałachowicza. „Samodzielny oddział BRL" powinien był mieć własne umundurowanie. W 1920 r. żołnierze Bałachowicza nosili rozmaite umundurowanie: od polskiego wz. 1919, przez amerykańskie i brytyjskie, aż do rosyjskiego.

Osobną kartę w historii armii BRL stanowiły białoruskie oddziały wojskowe okresu powstania słuckiego. Żołnierze i oficerowie Brygady Słuckiej wykorzystywali elementy umundurowania różnych wojsk (rosyjskich, polskich, niemieckich i bolszewickich), a także ubrania cywilne. Elementem narodowym w umundurowaniu powstańców słuckich były biało-czerwono-białe opaski na rękawach oraz kokardy z wizerunkiem Pogoni.

## Ihar Melnikau, Uniforms of the Belarusian armed formations in 1918–1920. From theory to practice

In May 1917 the Belarusian national Committee spoke about the creation of Belarusian military committees in Russian military forces. On October 24, 1917, the Belarusian Central military Council was established. The uniform and equipment of the Belarusian army in that period almost completely corresponded to the uniform of the former Russian imperial army. The first and most common insignia of the Belarusian army soldiers was a white-red-white ribbon, which, by order of the Belarusian Central military Council, had to be worn between the side of the uniform and the slot of the second button on top. However, most often Belarusian soldiers and officers fastened a bow with a ribbon of national colors on their overcoat, on the pocket of their jacket, or on their tunic.

In the summer of 1919, Belarusians returned to the topic of creating their own army. In June 1919, at the Belarusian Congress of the Vilna and Hrodna regions, the Belarusian military Commission was created, which was to coordinate the creation of Belarusian armed formations in the Polish Army. At the same time, work began on the uniform of this military formation. The Belarusian uniform was gray, so it resembled the uniform of the Kaiser's army, or the Greater Poland Riflemen units of the Polish Army. In 1920 the uniform of the Belarusian military Commission approached the uniforms of the Polish Army.

The Belarusian military, as a part of Lithuanian army, used German uniforms. At the same time, the Belarusian soldiers had a ribbon of the national white-red-white color in the slot for the second button on their tunic.

Another Belarusian Military unit at this time was formed under the command of Stanislau Bulak-Balakhovich. The „Separate detachment of the Belarusian people Republic" was to have there own uniform. In 1920, Balakhovich's soldiers continued to wear different uniforms: from the Polish tunics of 1919, to American, British, and, of course, Russian military clothing.

A separate page in the history of the Belarusian people Republic army was the Belarusian military formations of the Slutsk armed uprising. Soldiers and officers of the Slutsk brigade used elements of the uniform of various troops (Russian imperial army, Polish, German and Bolshevik), as well as civilian clothing. As national elements, the Slutsk rebels had white-red-white armbands and cockades with the image of „Pahonia".

**Сяргей Токць,**
**доктар гіст. навук (Варшава)**

# Беларуска-літоўскія партызаны ў Гродзенскім павеце Беластоцкага ваяводства і Лідскім павеце Наваградскага ваяводства ў 1922–1923 гг.

Заканчэнне савецка-польскай вайны і заключэнне мірнай дамовы ў Рызе ў сакавіку 1921 г. не азначала канчатковага ўсталявання міру на „ўсходніх крэсах" Польскай дзяржавы. Узброеныя групы з тэрыторыі СССР увесь час пераходзілі дзяржаўную мяжу і праводзілі дыверсіі супраць дзяржаўных установ і служачых, рабавалі памешчыцкія маёнткі. Падобная сітуацыя склалася таксама і на літоўска-польскім памежжы, дзе ў 1922–1923 гг. дзейнічала „беларуска-літоўская партызанка". Гэты тэрмін выкарыстоўвалі ў афіцыйным справаводстве прадстаўнікі паліцыі і мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі. Праблематыка беларуска-літоўскай партызанкі атрымала на сённяшні дзень дастаткова грунтоўнае асвятленне ў працах беларускіх і польскіх гісторыкаў[1]. Недаследаваным аднак застаецца вельмі важнае, на

[1] E. Mironowicz, *Antypolska konspiracja białoruska w latach 1919–1925*, [w:] *Europa nieprowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej (Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodnie pogranicze III RzeczypospolitejPolskiej)*, red. K. Jasiewicz, Warszawa 1999, s. 877–884; ён жа, *Пра дзеячаў і герояў*, „Ніва", 2003, № 11, c. 4; ён жа, *Партызаны ці тэрарысты?*, „Ніва", 2000, № 20, c. 4; J. Kalina, *Związek Włościan Białorusinow*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne",1994, nr 1, s. 29–38; І. Коўкель, А. Чарнякевіч, *Партызанскі рух на Гродзеншчыне 1921–1925* [у] *Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў: матэр'ялы рэгіянальнай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 750-годзю г. Слоніма і 70-годзю заснавання Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя І. І. Стаброўскага,* Слонім 2002, с. 254–259; А. Чернякевич, *Белорусское партизанское движение в Польше и его вожди* [в] *От „германской" к Гражданской: становление корпуса народных вожаков русской смуты*, Москва 2014, с. 393–406; W. Śleszyński*, Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach połnocno-wschodnich II Rzeczypospolitej,* Warszawa 2007; ён жа, *Białoruska działalność dywersyjna w pierwszej połowie lat wudziestych iformowanie się Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady,* „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2008, nr 29, s. 183–191; ён жа*, Walka instytucji państwowych z białoruską działalnością dywersyjną 1920–1925,* Białystok 2005; ён жа, Litewsko-białoruska działalność dywersyjna przeciwko państwu polskiemu w latach 1920–1923, „Europa Orientalis. Studia z Dziejów Europy Wschodniej i Państw Bałtyckich", 2010, t. 2, s. 75–81; T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940*, Białystok 2017, 368 s.; С. Токць, *Беларуска-літоўская партызанка ў Гродзенскім павеце Беластоцкага ваяводства ў 1922–1923 гг.,* „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2018, № 50, c. 61–96.

нашу думку, пытанне складу шараговых удзельнікаў гэтай партызанкі, матывы іх далучэння да партызанскага руху, іх нацыянальнай самасвядомасці.

Даследчыкі беларуска-літоўскай партызанкі пагаджаюцца з тым фактам, што галоўным чыннікам утварэння партызанскага руху выступаў знешні чыннік, а менавіта мэтанакіраваная дзейнасць літоўскіх спецслужбаў. Варта нагадаць, што адносіны паміж польскай і літоўскай дзяржавамі былі ў той перыяд надзвычай складаныя. Фактычна можна іх акрэсліць як замарожаны збройны канфлікт.

У верасні 1920 г. у Літве быў створаны галоўны штаб парамілітарнай арганізацыі Стралецкага фронту „шаўлісаў" (стральцоў), якому падпарадкоўваліся 5 палявых штабоў блізу польскай мяжы[2]. Тады ж паўстала ідэя стварэння і беларускіх стралецкіх аддзелаў пад літоўскім камандаваннем.

На пачатку 1922 г. палявыя штабы стральцоў былі рэарганізаваны. Кожны цяпер адказваў за канкрэтны адрэзак дэмілітарызаванай дэмаркацыйнай лініі на польска-літоўскай мяжы. Асобны рэжым гэтай лініі, названай іменем французскага маршала Фоша, быў уведзены ў ліпені 1919 г. У памежную зону быў забаронены доступ рэгулярных вайсковых фармаванняў Польшчы і Літвы. Гэты рэжым, які дзейнічаў да студзеня 1923 г., значна спрашчаў мясцоваму насельніцтву нелегальны пераход мяжы.

Акрамя таго кожны штаб „шаўлісаў" адказваў за дакладна акрэсленую тэрыторыю пад „польскай акупацыяй" — г.зн. тэрыторыю Польскай дзяржавы, якую Літва лічыла акупаванай. Да падкантрольнай тэрыторыі групы IV са штабам у мястэчку Мерач належалі наступныя акругі на тэрыторыі Польскай дзяржавы: Баранавіцкая, Беластоцкая, Бельская, Ваўкавыская, Гродзенская, Кобрынская, Лідская, Нясвіжская, Навагрудская, Пружанская, Сакольская, Слонімская. Такім чынам, гэта тэрыторыя ахоплівала большую частку Заходняй Беларусі. Да камандавання групы IV быў накіраваны беларус Вячаслаў Разумовіч (псеўд. Хмара). У розных крыніцах ён фігураваў як „атаман беларускіх партызанаў" альбо начальнік Галоўнага штаба беларускіх партызанаў, што не адпавядала рэчаіснасці, паколькі беларускія партызанскія фармаванні функцыянавалі выключна ў межах структуры Літоўскага стралецкага звязу[3]. Але IV група ў Мерачы сапраўды адыграла вельмі істотную ролю ў арганізацыі падпольных узброеных фармаванняў на тэрыторыі Польскай дзяржавы.

Сакрэтная інструкцыя ад 11 снежня 1921 г. акрэслівала задачы беларуска-літоўскіх партызанаў: збор інфармацыі пра польскія войскі, падрыхтоўка і выкананне дыверсійных акцый, падрыхтоўка масавага ўзброенага выступлення беларусаў у тылах польскай арміі на выпадак вайны паміж Польшчай

2 T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940*, s. 231.
3 *Ibidem*, s. 233.

і Літвой[4]. Прапаганда партызанскай барацьбы супраць Польскай дзяржавы сярод беларускага насельніцтва разгарнулася з шырокім размахам, асабліва ў памежных паветах. Праводзілі яе мясцовыя актывісты беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў. Варта прыгадаць, што тады ў Літве знаходзіўся ў эміграцыі ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі пад кіраўніцтвам Вацлава Ластоўскага, дзейнічала даволі шматлікая палітычная дыяспара, якая падтрымлівала сувязі з беларускімі дзеячамі ў Польскай дзяржаве. Пад уплывам гэтай агітацыі маладыя хлопцы пачалі пераходзіць польска-літоўскую мяжу з мэтай далучэння да партызанкі. Напрыклад, на самым пачатку 1922 г. група моладзі з вёскі Бершты Гродзенскага павета падалася ў Мерач, дзе ўступіла ў партызанскі аддзел[5].

Польскія спецслужбы ўважліва сачылі за працэсам арганізацыі канспірацыйнай сеткі і партызанскіх аддзелаў. На Беласточчыне ім удалося ўкараніць у шэрагі партызанаў свайго агента Эдварда Лянкевіча, ураджэнца горада Саколка. Яго інфармацыя дазволіла паліцыі на пачатку сакавіка 1922 г. распачаць арышты найбольш актыўных удзельнікаў падполля на Беласточчыне[6]. Пасля правядзення некалькіх збройных акцый на тэрыторыі Белавежскай пушчы, самай гучнай з якіх стаў напад на паліцэйскі пастарунак у мястэчку Кляшчэлі Бельскага павета ў ноч з 27 на 28 красавіка 1922 г., партызанскі рух у тым рэгіёне быў фактычна разгромлены сумеснымі намаганнямі паліцыі і войска[7].

Паведамленні паліцэйскіх камендантаў Гродзенскага павета за першы квартал 1922 г. таксама сведчылі пра нарастанне антыўрадавых настрояў сярод беларускага насельніцтва і актывізацыю антыпольскай канспірацыі[8]. Напрыклад, камендант Каменскай гміны Гродзенскага павета адзначаў у сваёй справаздачы: „Ludność białoruska jest nadchniona duchem Litwy iż da im wybawienie i swobodę, gdyż polski rząd sciska różnemi podatkami i daninami”[9].

Камендант пастарунка паліцыі ў Берштах пісаў, што ў гэтай вёсцы пад шыльдай сельскагаспадарчага гуртка дзейнічае беларускі камітэт, які падтрымлівае цесныя сувязі з беларускімі арганізацыямі ў суседніх гмінах і ў Гродне[10]. Інфарматар паліцыі Ян Шурпа з Жыдамлянскай гміны паведамляў, што сярод мясцовых жыхароў „wszędzie chodziły pogłoski, że w prędkim czasie musi być wojna, że powstanie republika białoruska”[11].

---

4 *Ibidem*, s. 234.
5 Lietuvos centrinis valstybės archyvas (далей — LCVA), f. 127, ap. 1, b. 84, l. 1.
6 *Ibidem*, s. 190.
7 J. Kalina, *Związek Włościan Białorusinow*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne” 1994, nr 1, s. 29–38.
8 Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл. (ДАГВ), ф. 17, воп. 1, спр. 12, арк. 21 адв.
9 Тамсама, арк. 19 адв.-20.
10 Тамсама, арк. 26.
11 Archiwum Państwowe w Białymstoku (dalej: APwB), Prokurator Sądu Okręgowego w Białymstoku (dalej: PSOwB), sygn. 86, k. 32.

Гродзенскі павятовы камендант падсумаваў гэтыя справаздачы з пастарункаў: „Stosunek do ludności białoruskiej naprężony z powodu szerzącej się pośród tej ludności agitacji wywrotowej, prowadzonej przez osobników z obozów lewicowych na czele których stoją Baranow, Jakowiuk i inni, wspierani przez Rząd Łastowskiego w Kownie”[12].

Асабліва абвастрылася сітуацыя вясной 1922 г. Напрыклад, справаздача пастарунка паліцыі аб становішчы ў Берштаўскай гміне за II квартал 1922 г. выглядала вельмі трывожнай: „Ludność białoruska-litewska tut[ejszego] rejonu zaagitowana przez agentów litewskich wielką ilością stale rozżucanych odezw w języku przeważnie białoruskim jest b[ardzo]. wrogo usposobiona. Według wiadomości konfidencyjnych wymieniona ludność przygotowuje się do zbrojnego powstania — co potwierdza się, iż młodzież w znacznej części zbiega do m. Merecza, w którem to wstępują do formacji białoruskich, zaś niektórzy otrzymawszy broń i zapisawszy się do organizacji wojskowej powracają z bronią do domów. Wobec powyższego jest przypuszczenie że młodzi ludzie, którzy jeszcze pozostali się na miejscu — należą do organizacji wojskowych i bezwględnie wszyscy posiadają broń. Stwerdzono zostało, że z Merecza często wysyłają litwini uzbrojone świetnie bandy białoruskie celem rozżucania literatury agitacyjnej oraz dla dokonania zamachów”[13]. З гэтага рапарту вынікае, што частка моладзі, якая пабывала ў Мерачы, атрымала там зброю і вярнулася дадому, дзе гатова была прыняць удзел у дыверсійных акцыях.

У ліпені 1922 г. з’явілася нелегальнае прапагандысцкае выданне — газета „Беларускі партызан”, рэдакцыя якой нібы мясцілася ў Белавежскай пушчы. Насамрэч газета выдавалася ў Коўне[14]. Асобнікі „Беларускага партызана” праносіліся праз мяжу і раскідваліся на тэрыторыі памежных паветаў. Беларускі актывіст з мястэчка Скідзель Гродзенскага павета Пётр Сяўрук напісаў у сваім дзённіку, што „Беларускі партызан” у яго мясцовасці знаходзіў амаль кожны[15].

У першым нумары „Беларускага партызана” паведамлялася, што партызаны забілі 19 ліпеня ў баі каля вёскі Зубрава Берштаўскай гміны 18 польскіх жаўнераў[16]. Дадзеная інфармацыя была ні чым іншым, як сродкам прапагандысцкай барацьбы і не адпавядала рэчаіснасці. Але да барацьбы з партызанамі ў памежных гмінах сапраўды былі прыцягнуты рэгулярныя войскі. Напрыклад, у Берштаўскай гміне размясцілі жаўнераў 76-га пяхотнага палка. Перастрэлкі паміж партызанамі з аднаго боку, войскамі, паліцыяй і ляснoй вартай з другога, сапраўды здараліся ў гэтай мясцовасці, але застаецца ўражанне, што насамрэч ніхто нікога не імкнуўся забіваць.

12 ДАГВ, ф. 17, воп. 1, спр. 12, арк. 2.
13 Тамсама, спр. 3, арк. 35.
14 T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej…* s. 235.
15 Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, адз. зах. КП-89095.
16 „Беларускі партызан”, 1922, № 1, с. 7.

Акруговае ўпраўленне дзяржаўных лясоў у Вільні 30 кастрычніка 1922 г. звярнулася да каменданта паліцыі Гродзенскага павета: „Nadłesnictwo Bersztowskie pismiem z dnia 23.X r.b. [...] zawiadomiło tut[ejszy] zarząd, iż po usunięciu się wojska bandyci-partyzanci z powrotem zaczęli grasować na terenach nadlesnictwa i że w przeciągu ostatnich kilka dni zaszły trzy potyczki administracji leśnej z bandytami [...]. Straż leśna jest bezsilna w walce z partyzantami-bandytami”[17]. Павятовы камендант загадаў паліцыі ўзмацніць начное патруляванне ў гэтай мясцовасці і наладзіць сціслую супрацу з лясной вартай.

Вайскоўцы жа зноў вярнуліся ў гміну Бершты, пра што сведчыць рапарт каменданта пастарунка паліцыі Аляксандра Сламчынскага ад 23 снежня 1922 г. У рапарце паведамлялася, што жаўнеры залезлі праз акно ў кавярню нейкага Яна Пэлнага і скралі 40 бутэлек гарэлкі і 50 пачак папярос. Камендант паліцыі скардзіўся ў Гродна, што праз такія дзеянні мясцовае насельніцтва траціць давер і павагу да дзяржаўнай улады: „[...] wypadek taki wprost oburza i zniechęca takowych do organów wykonawczych władz, jak również wypadki pijaństwa przez podoficerów i żołnierzy wprost do utraty przytomności i wyzywania się publicznie słowami nieprzyzwoitymi, przez co ludność niema poszanowania do władz”[18]. Зрэшты, піццё гарэлкі было ўсё ж лепшай справай, чым перастрэлкі з такімі ж маладымі хлопцамі з партызанкі.

Адным з гучных дыверсійных актаў беларуска-літоўскіх партызанаў з Мерачы стаў напад 23 чэрвеня 1922 г. на маёнтак Глыбокае памешчыка Аляксандра Мікульскага ў Навадворскай гміне Лідскага павета. У гэтым нападзе, паводле сведкаў, удзельнічалі 20–30 узброеных людзей, якія прыйшлі з боку літоўскай мяжы[19]. Былі спалены жылыя дамы і гаспадарчыя пабудовы. На шчасце, абышлося без людскіх ахвяр, паколькі самога ўласніка ў тым часе не было дома, а яго старую маці дыверсанты не чапалі. Пры гэтым яны не дазвалялі парабкам тушыць пажар, заявіўшы, што будуць нішчыць „усіх польскіх паноў і ўсё, што польскае”.

Паліцыя знайшла на месцы спаленага маёнтка пустыя гільзы ад патронаў і неўзарваную гранату, а таксама „paczkę broszur w języku białoruskim i polskim, wśród których było 74 egzemplarzy białoruskiej broszury p[od] t[tytułem] «Pańsko-polskie facecje», 5 egzemplarzy broszury «Sielanskaja dola», jedna książka p[od] t[tytułem] «Wspomnienia polskiej okupacji Grodzieńszczyzny w latach 1919–1921», oraz 5 proklamacji białoruskich”[20]. Пасля аналізу гэтых агітацыйных матэрылаў паліцыя прыйшла да высновы, што „wszystkie artykuły umieszczone w broszurach zawierają treść agitacyjną i wrogą względem Polski, wzywanie do powstania zbrojnego, którego ostatecznym celem ma być niepodległa republika białoruska, zaś prokłomacje podpisane przez Sztab partyzantów

---

[17] ДАГВ, ф. 38, воп. 1, спр. 2, арк. 494.

[18] Тамсама, ф. 17, воп. 1, спр. 14, арк. 10.

[19] LCVA, f. 127, a. 1, b. 84, l. 125.

[20] *Ibidem*, l. 125 адв.

białoruskich wzywają Białorusinów by palili i mordowali panów polskich i w ten sposób oczyścili Białoruś od Polaków"[21].

У ліпені 1922 г. у вёсцы Бершты, якая лічылася цэнтрам партызанскага руху, паліцыя арыштавала шасцярых мясцовых сялян, падазраваных у сувязях з партызанамі. Пракурор пры акруговым судзе ў Гродне пісаў 17 ліпеня 1922 г. пракурору пры апеляцыйным судзе ў Вільні: „Wnioskować należy że ruch partyzantów białoruskich zorganizowany jest przez emsarjuszy z Litwy Kowieńskiej, z Merecza, wspólnie z miejscową ludnością białoruską objął już kilka miejscowości w powiecie Grodzieńskim, a w szczególności gminy Berszty, Porzecze, Jeziory i Krynki, oraz że ruch ten szerzy się stale nie tylko w powiecie Grodzieńskim, lecz i w sąsiednich powiatach […]. Z dochodzenia policyjnego wynika, iż przed Wielkanocą r.b. ze wspomnianej wsi Bersty zbiegło do Litwy Kowieńskiej kilkadziesiąt osób; osoby te podrzymują stały kontakt z miejscową ludnością, i, uzbrojeni w karabiny i granaty ręczne, przychodzą do Berszt, przynoszą ze sobą odezwy (odpis takiej odezwy w języku białoruskim dołączony jet do dochodzenia), podburzając ludność białoruską do walki z Polską drogą organizacji zbrojnego powstania, i urządzając we wsi zebrania z udziałem miejscowej ludności"[22].

Арыштаваныя жыхары вёскі Бершты нібыта мелі кантакт з партызанамі, якім пастаўлялі харчаванне і раздавалі ў вёсцы партызанскія ўлёткі. Напрыклад, гаспадар Антон Ханевіч чытаў і тлумачыў гэтыя ўлёткі непісьменным аднавяскоўцам, а ў яго хаце таксама адбываліся сходы ўзброеных партызан. Усе арыштаваныя абвінавачанні адмаўлялі. Напрыклад, Сцяпан Язэпчык паведаміў паліцыі, што ён стары чалавек і палітыкай не цікавіцца, пра партызанаў нічога не ведае, а чуў толькі, што апошнім часам з Берштаў збегла на Літву моладзь у веку 16–18 гадоў. На працягу двух месяцаў, паводле яго слоў, усяго ўцёк 21 чалавек, пераходзячы мяжу невялікімі групкамі па 2–4 асобы[23]. Арыштаваных адправілі ў турму ў Гродне. Забягаючы наперад, варта адзначыць, што ўсе яны былі пазней апраўданы.

На пачатку ліпеня 1922 г. на пастарунак вайсковай жандармерыі ў Друскеніках заявіўся жыхар мястэчка Крынкі Канстанцін Шыгаловіч, які прызнаўся ў прыналежнасці да беларуска-літоўскіх партызанаў. Гэта падзея мела ключавое значэнне для распрацоўкі партызанскай арганізацыі ў Мерачы. Шыгаловіч даў падрабязныя паказанні, назваўшы цэлы шэраг прозвішчаў камандзіраў і шараговых байцоў. Ён нават меў з сабой аркуш паперы з запісанымі прозвішчамі партызанаў. Шыгаловіча перавезлі для допытаў у Вільню, а потым адпусцілі з-пад арышту, пакінуўшы пад наглядам паліцыі[24]. Зрэшты, Шыгаловіч неўзабаве зноў трапіў пад арышт, але ўжо па іншай крымінальнай справе.

---

21 *Ibidem*.

22 LCVA, f. 127, a. 1, b. 84, l. 7.

23 Тамсама, l. 7 v.

24 Тамсама, l. 5.

Канстанцін Шыгаловіч паказаў, што ў лютым 1922 г. ён атрымаў павестку на вайсковую службу. Пад уплывам зямляка Аляксандра Станкевіча, які агітаваў мясцовых хлопцаў „do wstępowania do oddziałów partyzanckich białoruskich, znajdujących się na Litwie Kowieńskiej, wychwalając tamtejsze stosunki, oraz zapewniając słuchaczy, że Grodzieńszczyzna wkrótce odpadnie od Polski i albo wejdzie w skład Litwy albo niepodległej Białorusi”[25], Шыгаловіч разам з тым самым Станкевічам і групай крынкаўскай моладзі перайшоў польска-літоўскую мяжу і апынуўся ў Мерачы. Там Станкевіч прывёў іх у штаб IV групы беларускіх партызанаў, дзе „камендант” Разумовіч прапанаваў хлопцам уступіць у шэрагі партызанаў. Шыгаловіч, з яго ўласных слоў, не пагадзіўся, за што быў арыштаваны. Але нібыта пад прымусам пазней усё ж уступіў у шэрагі партызанаў і пэўны час выконваў вартаўнічую службу пры штабе, што дазволіла яму пазнаць шмат асоб, якія там бывалі.

Паводле паказанняў Шыгаловіча, на пачатку чэрвеня 1922 г. Разумовіч-Хмара выслаў групу партызанаў у колькасці каля 15 асоб з заданнем узарваць чыгуначны мост праз Нёман каля станцыі Масты, але праз 5 дзён гэта група вярнулася, не выканаўшы задання, бо ім нібыта перашкодзіла нейкая кабета[26]. У канцы чэрвеня 1922 г. Разумовіч-Хмара выслаў у Гродна Пятра Пералайку і нейкага Сароку (абодва паходзілі з вёскі Верцялішкі) з заданнем узарваць будынак штаба польскіх войскаў, для чаго яны атрымалі піраксілін, 10 гранат і рэвальверы. План гэты таксама не быў рэалізаваны.

Неўзабаве Разумовіч выпрацаваў новы план нападу на Гродна, для чаго ў Мерач былі выкліканы Пётр Адаменя (той самы Сарока), Васіль Юрэчка, а таксама браты Мікалай, Павел і Уладзіслаў Апонікі. У штабе Разумовіч выклаў ім план падрыву Д.О.К. III (Dowództwo Okręgu Korpusu Nr III) і абрабавання Польскай крэдытнай касы. Таксама ўзнікла, паводле паказанняў Шыгаловіча, ідэя атруціць польскіх афіцэраў у афіцэрскім казіно, для чаго Разумовіч выдаў гэтай групе грошы, атруту і выбухоўку. Арыштаваны пазней Пётр Адаменя прызнаў на допыце толькі заданне ўзарваць тартак у мястэчку Азёры. Усе гэтыя планы, калі яны і існавалі ў рэчаіснасці, так і не былі выкананы. Можна меркаваць, што асобы, якім яны былі даручаны, не гарэлі жаданнем іх выконваць, разумеючы цяжар магчымых наступстваў.

Паказанні Шыгаловіча выклікалі цэлы ланцуг арыштаў удзельнікаў беларускай канспірацыі. Падчас вобшуку ў Васіля Юрэчкі ў Гродне былі знойдзены: “8 pocztowek z napisem w języku białoruskim: «Niech żyje Białoruska Narodowa Republika», i z wizerunkami białoruskich województw: Wileńskiego, Brzeskiego, Mińskiego, Trockiego, Połockiego, Witebskiego, Mścisławskiego, Smolenskiego i Nowogródzkiego, a nadto białoruski kalendarz na r. 1922, w którym podaje się, że część terytorjum państwowego Polski winna wejść w skład

[25] Тамсама, l. 114.
[26] Тамсама.

Białorusi”[27]. Тут варта адзначыць, што Юрэчка яшчэ да паўстання беларуска-літоўскай партызанкі быў сябрам Беларускай моладзевай грамады ў Гродне і з таго часу мог мець такія паштоўкі і мапы.

Яшчэ адзін тэрарыстычны акт быў праведзены ноччу з 22 на 23 ліпеня 1922 г. у маёнтку Лецішчы Скідзельскай гміны, у выніку яго быў пашкоджаны выбухам гранаты лакаматыў вузкакалейкі для перавозкі лесу. Паліцыя абвінаваціла ў гэтай дыверсіі Міхала Хацяна і братоў Яна і Аляксандра Багатырэвічаў[28]. У турэмнай камеры да Яна Багатырэвіча падсадзілі „стукача” Зыгмунта Масіеўскага, які засведчыў, што „siedząc w jednej celi z Janem Bogatyrewiczem, dowiedział się od niego, że ten ostatni ma zakopane w swym ogrodzie 2 granaty i 2 rewolwery, nadto, że Bogatyrewicz jemu się przyznał, iż rzucał granaty pod jakaś kolejko”[29]. Цікавым ёсць факт, што браты Багатырэвічы паходзілі з дробнай засцянковай шляхты з ваколіцы Сікорыца. Такім чынам, да беларускага партызанскага руху далучыліся і прадстаўнікі гэтай сацыяльнай групы, якая лічылася апірышчам польскасці на „ўсходніх крэсах”. Зрэшты, у ходзе судовага працэсу віна братоў Багатырэвічаў не была даказана.

Усяго паліцыя летам 1922 г. арыштавала каля 70 асоб, падазраваных у прыналежнасці да беларуска-літоўскай партызанкі[30]. Многія на першых допытах прызнавалі сваю віну, некаторыя паказвалі месцы, дзе хавалі зброю, выбухоўку і агітацыйную літаратуру. Праўда, потым усе адмаўляліся ад сваіх паказанняў і тлумачылі іх катаваннямі з боку паліцыі. Большасць арыштаваных належала да жыхароў розных гмін Гродзенскага і Лідскага паветаў. У Каняўскай гміне Лідскага павета былі арыштаваны Ігнат Бернатовіч і Дамінік Віджбель, якіх паліцыя лічыла камандзірамі лакальных партызанскіх груп[31]. 1 верасня 1922 г. быў злоўлены ў Навадворскай гміне таго ж павета Уладзімір Брыкач, збеглы з турмы ў Гродне, якога падазравалі ў нападзе на маёнтак Глыбокае. Брыкач прызнаўся, што сапраўды быў у Мерачы і адбыў там двухтыднёвае вайсковае навучанне, але пазней уцёк і хаваўся ў лесе каля сваёй вёскі. Брыкач таксама назваў паліцыі прозвішчы цэлай групы партызан.

11 лістапада 1922 г. у гміне Марцінканцы быў затрыманы ад'ютант Разумовіча-Хмары Уладзімір Бортнікаў[32]. У часе допыту паказаў на многіх партызанаў, праўда, толькі тых, якія ўжо былі раней затрыманы. Бортнікаў стаў адным з галоўных абвінавачаных на пазнейшым судовым працэсе супраць партызанаў у Гродне.

27 Тамсама, l. 117.
28 Тамсама, l. 122 v-123.
29 Тамсама, l. 123.
30 Тамсама, l. 14.
31 Тамсама, l. 119 v-120.
32 Тамсама, l. 123 v.

Сярод арыштаваных партызанаў быў і адзін яўрэй — жыхар гміны Марцінканцы Арон Каброўскі, які разносіў па сваёй ваколіцы партызанскія пракламацыі[33]. Арону было ўсяго 16 гадоў[34]. Цікава, што ў вялікім доме яго заможнага бацькі ў Марцінканцах месціўся паліцэйскі пастарунак. Дом Каброўскіх меў 9 пакояў і асобную кухню, з якіх 4 пакоі былі прызначаны для паліцыі[35]. Мясцовы камендант пісаў, што адносна Каброўскага-старэйшага паліцыя таксама мела доказы ягоных кантактаў з партызанамі, а старэйшы сын нават працаваў некаторы час у штабе партызанаў у Мерачы ў таго самага Разумовіча-Хмары"[36].

Самая брутальная акцыя партызанаў адбылася 25 лістапада 1922 г., калі яны застрэлілі ў вёсцы Шумы Берштаўскай гміны мясцовых жыхароў Аляксандра Сяргейчыка і Вінцэнта Язэпчыка, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве з польскай паліцыяй[37]. У выкананні гэтага забойства быў абвінавачаны жыхар той жа вёскі Леанард Казюкевіч, які пазней атрымаў вялікі турэмны тэрмін. Камендант паліцыі Гродзенскага павета прапанаваў пасля гэтага здарэння неадкладна размясціць у нейтральнай памежнай паласе войскі, паколькі паліцыя з прычыны сваёй малалікасці[38] не магла перашкодзіць партызанам пераходзіць мяжу.

Найбольш аддаленую ад Мерачы партызанскую групу на мяжы Лідскага і Слонімскага паветаў арганізаваў Ігнат Шэршань з вёскі Руда Ліпічанская Лідскага павета, „rzekomy nauczyciel, były oficer armji rosyjskiej będący w okresie przedwyborczym w kontakcie z esserami białoruskimi w Wilnie i Kownie, następnie z posłem Owsiannikem"[39]. Да гэтай групы належаў Ян Місевіч з вёскі Галынка Арлянскай гміны Лідскага павета, які быў у 1922 г. схоплены са зброяй у руках і расстраляны разам з двума іншымі партызанамі паводле прыгавору ваенна-палявога суда. У маі 1923 г. слонімская паліцыя затрымала нейкага Яна Суботніка, у якога знайшла рэвальвер „Маўзер". Апошні падчас допыту выдаў месца схованкі групы Шэршаня, якая ўжо ажыццявіла некалькі дыверсій. Паліцыя на чале з камендантам Слонімскага павета Марыянам Макавецкім акружыла месца, дзе хаваліся Шэршань разам з яго таварышамі Юліянам Белашам і Базылём Крупіцам. У выніку

---

33 Тамсама, l. 124.

34 З кнігі Ісаі Трунка пра яўрэйскі супраціў у часы Другой сусветнай вайны ва Усходняй Еўропе вынікае, што Арон Каброўскі стаў адным з лідараў паўстання ў Марцінканцаўскім гета ў лістападзе 1942 г. Калі 2 лістапада немцы збіраліся вывезці мясцовых яўрэяў у канцлагер, менавіта Арон кінуў заклік да ўцёкаў (Isaiah Trunk, Judenrat: The Jewich Councils in Eastern Europe Under Nazi Occupation, University of Nebraska Press Lincoln 1996, p. 473).

35 ДАГВ, ф. 17, воп. 1, спр. 89, арк. 105.

36 Тамсама.

37 LCVA, f. 127, a. 1, b. 84, l. 26.

38 Тамсама.

39 Тамсама, l. 30 v.

перастрэлкі ўсе трое былі забіты[40]. Гэта была хіба што апошняя збройная сутычка беларускай-літоўскай партызанкі.

На пачатак 1923 г. пракурор акруговага суда ў Гродне пісаў у Вільна, што лічба абвінавачаных у датычнасці да партызанкі асоб перавысіла 200, але павінна яшчэ значна ўзрасці і дасягнуць як найменш лічбы 300. Гэта ацэнка, напэўна, больш-менш адпавядала рэчаіснасці. У гродзенскай турме на той момант знаходзілася каля 60 арыштаваных па дадзенай справе[41].

У маі 1923 г. у Беластоку прайшоў судовы працэс супраць партызанаў, якія дзейнічалі пераважна на тэрыторыі Беласточчыны. На лаву падсудных трапілі 45 абвінавачаных, сярод якіх былі[42] беларускія паслы ў польскім Сейме — Сяргей Баран і Сымон Якавюк (апошні, праўда, паспеў збегчы ў Літву). У выніку працэсу дваццаць асоб атрымалі розныя турэмныя тэрміны (Вера Маслоўская-Матэйчук і Сяргей Баран па 6 гадоў зняволення), а дваццаць пяць (у тым ліку пасол Сымон Якавюк) былі апраўданы.

У той час адбываюцца палітычныя падзеі, якія аказваюць самы непасрэдны ўплыў на лёс партызанскага руху. Падчас з'езду беларускіх дзеячаў у Коўне 26–27 лютага 1923 г. было абвешчана аб стварэнні Беларускага стралецкага звязу, але яго дзейнасць была заблакаваная фактычна адразу пасля ўтварэння[43]. У выніку змен у міжнароднай геапалітычнай сітуацыі Літва страціла зацікаўленасць у падтрымцы беларускай партызанкі. Польска-літоўская вайна стала нерэальнай, паколькі Савет Лігі Нацый прызнаў у сакавіку 1923 г. усходнія межы Польшчы[44].

Ліквідацыя дэмаркацыйнай лініі на дзяржаўнай мяжы вельмі моцна ўскладніла перамяшчэнні саміх партызанаў, перанос зброі і агітацыйнай літаратуры. У выніку такога збегу акалічнасцей у красавіку 1923 г. распачалася фактычная ліквідацыя партызанскай арганізацыі. У групе IV у Мерачы на 10 красавіка 1923 г. служылі 7 афіцэраў-інструктараў, 2 ураднікі і 167 партызанаў. З гэтага ліку 5 афіцэраў і 162 партызаны паходзілі з тэрыторыі, якая належала да польскай дзяржавы. Увесь штаб групы і каля паловы партызан лічылі сябе беларусамі. Амаль усе яны згадзіліся на далейшую службу ў літоўскай арміі. Вячаслаў Разумовіч-Хмара прапаноўваў літоўскаму камандаванню, каб хаця б частку іх улучыць у склад асобнага беларускага батальёна. Але партызаны беларускай нацыянальнасці ўжо не былі патрэбны літоўскаму боку. Беларускі стралецкі звяз фактычна спыніў сваю дзейнасць у ліпені 1923 г., хаця няма афіцыйных дакументаў аб яго ліквідацыі[45].

40 Тамсама.

41 Тамсама, l. 65 v.

42 Я. Мірановіч, *Уступ,* [у:] *У новай айчыне. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд,* Беласток 2001, с. 14.

43 T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej…* s. 244.

44 Я. Мірановіч, *Навейшая гісторыя Беларусі…* с. 85.

45 T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej…* s. 245.

Узнікла дамоўленасць з савецкім бокам аб пераходзе беларускіх партызанаў на тэрыторыю СССР. Гэта ідэя была рэалізавана ў чэрвені 1923 г. Разумовіч-Хмара з гонарам пісаў пазней, што ўратаваў ад рэпрэсій польскіх улад 89 партызанаў, якія здолелі перайсці савецкую мяжу[46].

Але гэта ўдалося не ўсім. Напрыклад, 7 чэрвеня 1923 г. камендант памежнай аховы Пшыбыльскі з 5 жаўнерамі спрабаваў затрымаць групу падазроных асоб, але апошнія зрабілі ў іх бок некалькі стрэлаў і кінулі гранату. Адзін быў усё ж затрыманы, а другі, цяжка паранены ў сутычцы, неўзабаве памёр. Затрыманым аказаўся жыхар вёскі Бершты Гродзенскага павета Максім Шаставіцкі. На допыце ён прызнаў, што належыць да беларуска-літоўскіх партызанаў і служыў у Мерачы пад камандаваннем Разумовіча (Хмары)[47].

З паказанняў Шаставіцкага вынікала, што група IV у Мерачы, якая налічвала каля 150 чалавек, атрымала ў канцы мая 1923 г. загад пераходу асобнымі аддзеламі па 15–20 чалавек праз Польшчу ў СССР. Кожнай групе выдавалася па 100 даляраў[48]. З Максімам Шаставіцкім ад пачатку ў бок савецкай мяжы ішлі 16 партызанаў. Імі камандавалі 5 „раяновых", якія мелі рэвальверы і ручныя гранаты, астатнія зброі не мелі. Праз 5 дзён група Шаставіцкага дайшла да савецкай мяжы, дзе падзялілася на групкі па 3–5 чалавек.

У сутычцы з польскімі памежнікамі, калі Шаставіцкага затрымалі, быў смяротна паранены партызан па прозвішчы Матэйчук. У Шаставіцкага знайшлі фотаздымкі, як яго самога, так і іншых партызанаў, а таксама пасведчанне на літоўскай мове, што ён служыў у партызанах ад чэрвеня 1922 г. па май 1923 г. і „służbę pełnił sumiennie i górliwie"[49].

Варта падкрэсліць, што Максім Шаставіцкі не выдаў нікога з сваёй вёскі Бершты. Ён прызнаў, што, загітаваны праз аднавяскоўца Васілевіча, пайшоў праз мяжу ў Мерач, дзе ўступіў у шэрагі партызанаў і атрымаў псеўданім Рыбакоў. Партызанаў у Мерачы, па яго словах, налічвалася каля 200, і яны былі падзелены на 10 узводаў. На чале ўсёй групы да сакавіка 1923 г. знаходзіўся Разумовіч-Хмара, а пасля яго пераводу ў Коўна ў галоўны штаб партызанаў начальнікам стаў нейкі літоўскі афіцэр. Шэфам аперацыйнага аддзела ў Мерачы быў спачатку капітан Дабравольскі, а ад снежня 1922 г.— літоўскі паручнік Здэмцэвіч. Мэтай партызанаў, як павучаў іх Разумовіч, было ў момант выбуху польска-літоўскай вайны ўзняць паўстанне сярод

[46] М. Шчур, *Вялікі няўдачнік. Вячаслаў Разумовіч-Хмара. „Грымасы ўсясьветнай вайны". Трылёгія („Зманлівы сьвет", „Бяз маскі", „Куюцца кайданы", 1930–1937),* [online] http://niamiesta.se/archiu/november2009/razumovich/razumovich.htm, [дата доступу: 04.05.2021].

[47] LCVA, f. 127, a. 1, b. 84, l. 33.

[48] Тамсама, l. 33 v.

[49] Тамсама, l. 13.

беларусаў і рабіць атакі на тылы польскіх войскаў[50]. На судовым працэсе ў Гродне Шаставіцкага прыгаварылі да 2 гадоў турмы[51].

Некаторыя партызаны пастанавілі самі здацца ўладам. 6 жніўня 1923 г. у пастарунак паліцыі ў Берштах прыйшоў мясцовы жыхар Міхал Сяргейчык. Ён прызнаўся, што перайшоў мяжу і ўступіў у шэрагі партызанаў, але потым папрасіў перавесці яго ў асобны беларускі батальон у літоўскім войску, дзе праслужыў пад псеўданімам Пятрэнка да расфармавання батальёна. Меў на руках пасведчанне на прозвішча Пятрэнка і службовы атэстат, выдадзены камандаваннем батальёна, што службу выконваў належным чынам[52]. Нікога з аднавяскоўцаў Сяргейчык таксама не выдаў.

Найбольшую падтрымку з боку мясцовага насельніцтва беларуска-літоўскія партызаны атрымалі ў Берштаўскай гміне Гродзенскага павета. Паводле дадзеных польскай адміністрацыі ў 1915 г. каля 60% насельніцтва Берштаўскай воласці выехала ў бежанства на ўсход, а вяртанне ў родныя вёскі расцягнулася да пачатку 1920-х гадоў. Паводле дадзеных усеагульнага перапісу насельніцтва 1921 г. у гміне Бершты налічвалася 6 119 жыхароў, сярод іх 3 002 мужчын і 3 117 жанчын. Паводле нацыянальнай прыналежнасці, беларусаў было 4 121 (67,3%), палякаў — 1 418 (23,2%), літоўцаў– 472 (7,7%), яўрэяў — 58, расіян — 50 (расіянамі з невядомай прычыны запісаліся жыхары невялікай вёскі Бабіна, якія былі насамрэч беларусамі). Паводле канфесійнай прыналежнасці склад насельніцтва выглядаў наступным чынам: праваслаўныя — 4 244 (69,4%), каталікі — 1 767 (28,9%), іўдзеі — 108 (1,8%)[53].

Ужо ў часе нямецкай акупацыі на тутэйшым абшары пачынае развівацца беларускі нацыянальны рух. Сын палясоўшчыка Аляксандр Сініла, які ў 1918 г. вярнуўся з бежанства, дзе вучыўся на курсах землямерных тэхнікаў, быў прызначаны нямецкай адміністрацыяй ляснічым і адначасова ўступіў, паводле яго ўласных словаў, у „Літоўска-Беларускую арганізацыю"[54]. Яго родны брат Уладзімір Сініла ў часе нямецкай акупацыі заснаваў у Берштах беларускую прыватную школу. Уладзімір Сініла скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю і яшчэ да вайны з 1912 г. працаваў настаўнікам Берштаўскага народнага вучылішча. У часе вайны быў на фронце і атры-

---

50 Тамсама, l. 130 v.

51 Максіму Шаставіцкаму было на той час 26 гадоў. На судовым працэсе супраць беларуска-літоўскіх партызанаў у Гродне ў красавіку1925 г. ён атрымаў 2 гады турмы, а ў чэрвені 1926 г. быў вызвалены і вярнуўся ў родную вёску. Як аказалася, турма не змяніла яго палітычных перакананняў, а хутчэй, наадварот. Максіма Шаставіцкага неўзабаве пасля роспуску Грамады прызвалі ў польскую армію, але ён уцёк з вайсковай часткі і здолеў перабрацца праз мяжу ў БССР. Далейшы ягоны лёс нам невядомы.

52 Тамсама, l. 130.

53 *Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej, opracowany na podstawie wyników pierwszego powszechnego spisu ludności z dn. września 1921 r. i innych żródeł urzędowych, m.V. Województwo Białostockie*, Warszawa 1924, s. 30.

54 ДАГВ, ф. 689, воп. 1, спр. 70, арк. 24–24 адв.

маў чын штабс-капітана расійскай арміі. Пасля выбуху рэвалюцыі ў Расіі вярнуўся на радзіму, дзе распачаў навучанне дзяцей. Пасля ўсталявання ў 1919 г. польскай улады гэта беларуская школа была зачынена, а замест яе створана польская дзяржаўная школа. Уладзімір Сініла ў выніку страціў працу настаўніка.

15 лістапада 1924 г. камендант паліцыі Берштаўскай гміны Аляксандр Сламчынскі склаў спіс асоб, якія на той час нелегальна знаходзіліся за мяжой (Табліца 1). З іх ліку 26 чалавек ужо перабраліся ў СССР, а астатнія заставаліся ў Літве[55]. Гэта былі маладыя хлопцы і мужчыны ва ўзросце ад 16 да 37 гадоў. Большасць складалі жыхары праваслаўных беларускіх вёсак. З літоўскіх каталіцкіх вёсак Шумы, Кабялі і Мустэйка паходзілі 10 чалавек. Усе яны на той час знаходзіліся ў Літве. Толькі Юзаф Грык паходзіў з вёскі Новая Руда, жыхары якой былі беларускамоўнымі каталікамі і ў большасці лічылі сябе палякамі. З вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што лёс большасці партызанаў, якія перайшлі ў Савецкі Саюз, быў трагічным. Ва ўмовах „вялікага тэрору" ў 1937–1938 гг. яны сталі ідэальнымі кандыдатамі на ролі польскіх і літоўскіх шпіёнаў. І звесткі пра рэпрэсіі даходзілі да іх сваякоў у Берштах, што занатоўвалі ў сваіх справаздачах і мясцовыя каменданты паліцыі.

*Табліца 1*

**Спіс жыхароў Берштаўскай гміны Гродзенскага павета, якія ў 1922 г. далучыліся да беларуска-літоўскай партызанкі і ў лістападзе 1924 г. знаходзіліся за мяжой (на мове арыгіналу)**

| п/п | Імя і прозвішча | Узрост | Месца пражывання | Актуальнае месца знаходжання |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Jan Kozun | 27 | Bersztу | Mierecz |
| 2. | Nikifor Jezepczyk | 20 | Berszty | Mińsk |
| 3. | Serafim Szestowicki | 22 | Berszty | Rosja |
| 4. | Mark Worobiej | 23 | Berszty | Rosja |
| 5. | Antoni Sergiejczyk | 24 | Berszty | Litwa |
| 6. | Piotr Wasilewicz | 33 | Berszty | Moskwa |
| 7. | Władysław Ilkiewicz | 24 | Berszty | Borysow |
| 8. | Klemens Rusiłko | 26 | Berszty | Borysow |
| 9 | Jakób Milinkiewicz | 24 | Berszty | Miński |
| 10 | Jerzy Sakowicz | 25 | Berszty | Litwa |
| 11 | Jan Lebiedziewicz | 22 | Berszty | Litwa |
| 12 | Tomasz Pawlukiewicz | 24 | Berszty | Litwa |

55 Тамсама, ф. 17, воп. 1, спр. 42, арк. 226–229.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 13 | Józef Rusiłko | 27 | Berszty | Rosja |
| 14 | Krysztof Rusiłko | 30 | Berszty | Litwa |
| 15 | Grzegosz Wasilewicz | 20 | Berszty | Litwa |
| 16 | Atanazy Tokć | 23 | Berszty | Litwa |
| 17 | Berko Mejerow | 23 | Berszty | Litwa |
| 18 | Polikarp Rusiłko | 24 | Berszty | Mińsk |
| 19 | Paweł Szestowicki | 20 | Berszty | Mińsk |
| 20 | Jan Tokć | 26 | Berszty | Mińsk |
| 21 | Aleksander Woronko | 27 | Berszty | Mińsk |
| 22 | Bernard Sergiejczyk | 26 | Szummy | Litwa |
| 23 | Kazimierz Jozepczyk | 23 | Szummy | Litwa |
| 24 | Szymon Radkiewicz | 26 | Szummy | Litwa |
| 25 | Michał Zalewski | 26 | Szummy | Litwa |
| 26 | Aleksander Siergiejczyk | 25 | Szummy | Litwa |
| 27 | Józef Siergiejczyk | 24 | Szummy | Litwa |
| 28 | Wincenty Jasiukiewicz | 26 | Szummy | Litwa |
| 29 | Rusiłko Mikołaj | 26 | Zaścianek Scieżka | Rosja |
| 30 | Rozmysło Jan | 27 | Suchary | Rosja |
| 31 | Władzimierz Górski | 28 | Suchary | Rosja |
| 32 | Gabryel Gołub | 28 | Szklensk | Rosja |
| 33 | Makar Chocha | 22 | Szklensk | Rosja |
| 34 | Sylwiestr Worobiej | 28 | Szklensk | Rosja |
| 35 | Dymitry Chocha | 25 | Szczeniec | Rosja |
| 36 | Kazimierz Pozniak | 24 | Kobiele | Litwa |
| 27 | Michał Uszkiewicz | 25 | Suchary | Litwa |
| 28 | Michał Rozmysł | 27 | Suchary | Litwa |
| 39 | Jan Trojanowicz | 24 | Kobiele | Litwa |
| 40 | Piotr Owerko | 25 | Mustejka | Litwa |
| 41 | Józef Gryk | 20 | Nowa Ruda | Rosja |
| 42 | Szymon Doroszkiewicz | 28 | Przedługie | Rosja |
| 43 | Aleksandr Wasilewicz | 16 | Suchary | Rosja |
| 44 | Sergiusz Chocha | 20 | Szczeniec | Rosja |
| 45 | Ignacy Chocha | 37 | Szczeniec | Rosja |
| 46 | Aleksander Worobiej | 25 | Jakubowicze | Rosja |
| 47 | Grzegorz Trojan | 24 | Jakubowicze | Rosja |

*Крыніца: Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, ф. 17, воп. 1, спр. 42, арк. 226–228.*

Як можна меркаваць на падставе крыніц, мясцовымі лідарамі партызанскага руху сталі прадстаўнікі вясковай інтэлігенцыі, а ў першую чаргу — настаўнікі. Да такіх лідараў у Берштаўскай гміне, напрыклад, належаў Клімент Русілка. Наколькі можна меркаваць, ён у часе вайны не выязджаў у бежанства, паколькі вучыўся ў Свіслачы ў беларускай настаўніцкай семінарыі, арганізаванай Баляславам Пачопкам у 1916 г. У выніку атрымаў пасведчанне Гродзенскай цэнтральнай вучыцельскай рады ад 26 верасня 1919 г., што скончыў 2 класы гэтай семінарыі, падпісанае Лукашам Дзекуцем-Малеем[56]. У спісе паліцэйскага каменданта месцам пражывання Клімента Русілкі на 1924 г. пазначаны горад Барысаў у БССР. Там ён скончыў педагагічны тэхнікум, пасля працаваў загадчыкам аддзелаў народнай адукацыі ў некалькіх раёнах савецкай Беларусі. Быў арыштаваны ў 1937 г. і расстраляны як вораг народа ў студзені 1938 г.

Аднавясковец Русілкі Пётр Васілевіч меў пасведчанне на званне народнага вучыцеля, выдадзенае яму папячыцелем Петраградскай навучальнай акругі 15 ліпеня 1911 г. У 1919 г. Васілевіч быў слухачом кароткачасовых Беларускіх вучыцельскіх курсаў у Вільні, на каторых „слухаў лекцыі Беларускае мовы, Беларускае літаратуры, гісторыі Беларусі, географіі Беларусі, педагогікі і дыдактыкі, пяяньня, кооперацыі і тэатру". Атрымаў пасведчанне з запісам: „Можа займаць урад вучыцеля ў беларускай школе". Кіраўніком гэтых курсаў быў ксёндз Адам Станкевіч, а лектарамі — Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Клаўдзій Дуж-Душэўскі[57]. У 1919 г. Пётр Васілевіч друкаваўся ў гродзенскай беларускай газеце „Беларусь". У 1924 г. яму было ўжо 33 гады, і, па звестках польскай паліцыі, ён знаходзіўся ў Маскве. Такім чынам, Русілка і Васілевіч належалі да той часткі мясцовай інтэлігенцыі сялянскага паходжання, якая пастанавіла далучыцца да ўзброенай барацьбы.

У кастрычніку 1922 г. у прыналежнасці да партызанкі быў абвінавачаны жыхар вёскі Бершты Аляксандр Мілінкевіч. Паводле паведамлення Аддзела II Генеральнага штаба: „Na mocy poufnych informacji Milinkiewicz jest organizatorem oddziałów partyzanckich białoruskich i wywiadowcą, często jezdzi do sztabu IV grupy partyzantów w Mereczu na Litwie, gdzie cały czas spędza z naczelnikiem tego sztabu Razumowiczem […], również często przebywa w towarzystwie agentów Razumowicza; partyzanci w Mereczu nazywają Milinkiewicza «swoim człowiekiem», który im dużo pomaga".

Аляксандр Мілінкевіч быў цікавай асобай. Да вайны ён жыў у Санкт-Пецярбургу і працаваў на чыгунцы, г. зн. належаў да эліты рабочага класу. Пасля выбуху рэвалюцыі вярнуўся ў родную вёску разам з жонкай, настаўніцай па прафесіі. Такім чынам, Мілінкевіч належаў да новай сацыяльнай групы ў заходнебеларускай вёсцы, прадстаўнікі якой прайшлі

[56] ДАГВ, ф. 689, воп. 1, спр. 70, арк. 117.
[57] Тамсама, арк. 135.

працэс своеасаблівай рээміграцыі. Выехалі ў свой час з вёскі ў горад і добра там адаптаваліся, а ў выніку рэвалюцыйных падзей вярталіся да сваёй малой Радзімы, аднак цяжка было ім зноўку адаптавацца да звыклага сялянскага жыцця. Таму яны імкнуліся заняць высокія пазіцыі ў вясковай супольнасці, дзякуючы ведам і досведу з гарадскога жыцця. Мілінкевіч на допыце прызнаў, што сапраўды бываў у сваім прыватным інтарэсе ў Мерачы і атрымліваў пропуск у штабе партызанаў, а Разумовіч (Хмара) прапанаваў яму працаваць на партызан і здабываць інфармацыю пра польскія войскі ў Гродне, але ён адмовіў[58]. З-за адсутнасці доказаў Мілінкевіча неўзабаве выпусцілі з турмы, і ён адразу ўцёк у Літву, дзе прымаў удзел у тамтэйшым беларускім руху[59].

Не ўсе прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі падтрымлівалі ідэю ўзброенай барацьбы супраць Польскай дзяржавы. Існавалі і цалкам легальныя магчымасці дзейнасці. Выдатны шанс нацыянальнай агітацыі давалі парламенцкія выбары восенню 1922 г., якія сталі першымі ў гісторыі ўсеагульнымі выбарамі для жыхароў Заходняй Беларусі. Лідары беларускіх палітычных арганізацый пастанавілі далучыцца да выбарчага Блока нацыянальных меншасцей разам з яўрэямі, немцамі і ўкраінцамі.

Дастакова хутка аформіліся лакальныя структуры гэтага блока, якія пачалі праводзіць агітацыю на карысць сваіх кандыдатаў. Напрыклад, у верасні 1922 г. у Гродне быў утвораны Беларускі выбарчы камітэт[60], а неўзабаве паўсталі яго філіі амаль ва ўсіх гмінах павета. У Гродзенскай выбарчай акрузе беларускімі кандыдатамі па спіску № 16 (Блок нацыянальных меншасцей) сталі Сяргей Баран і вышэйзгаданы Аляксандр Сініла з Берштаў. Выбарчую кампанію яны пастанавілі праводзіць пад наступнымі лозунгамі: „Хочаш, каб уся тутэйшая зямля дасталася тутэйшаму працоўнаму сялянству? Хочаш школы ў роднай мове? Хочаш, каб уся адміністрацыя была свая, тутэйшая, каб урадоўцамі былі нашы людзі? Хочаш служыць у войску ў сваім родным краі? Хочаш быць гаспадаром на сваёй зямлі, хочаш аўтаноміі нашага краю з сваім Соймам у Вільні?”[61].

У тых мясцовасцях, дзе быў пашыраны партызанскі рух, гэты спіс № 16 атрымаў безумоўную перамогу[62]. Напрыклад, у Берштаўскай гміне вынікі выбараў былі наступныя: № 1 (Polskie Stronnictwo Ludowe „Piast”) —

58 LCVA, f. 127, a. 1, b. 84, l. 15.

59 Неўзабаве Мілінкевіч вярнуўся ў сваю вёску, бо ў 1925 г. ён ужо працаваў памочнікам гміннага пісара ў Берштах, а пасля звальнення з прычыны палітычнай нядобранадзейнасці перабраўся ў Гродна, дзе працаваў у мясцовым аддзяленні апазіцыйнай „Gazety Chłopskiej”, на той час органа „Stronnictwa Chłopskiego”.

60 Л. Глагоўска, *З дзейнасці беларускіх парламентарыяў на Гродзеншчыне ў 1922–1930 гг.* [у:] *Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа,* Гродна 2001, с. 133.

61 „Беларускі звон”, 1922, № 30, с. 2.

62 ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 6, арк. 27, 33.

204 галасы, № 2 (Polska Partia Socjalistyczna) — 2, № 3 (Polskie Stronnictwo Ludowe „Wyzwolenie" i „Lewica Ludowa") — 119, № 5 (Związek Proletarjatu Wsi i Miast) — 35, № 7 (Unia Narodowo-Państwowa) — 3, № 8 (Chrześcijański Związek Jedności Narodowej) — 48, № 10 (Unia Narodowo-Państwowa) — 2, № 12 (Polskie Centrum) — 38, № 16 (Blok mniejszości narodowych) — 1 064[63].

Такім чынам, за Блок нацыянальных меншасцей у гэтай гміне аддалі свае галасы 70,2% з тых, хто прыйшоў на выбарчыя ўчасткі. На другім месцы аказалася PSL „Piast" — 13,5%, на трэцім PSL „Wyzwolenie" і „Lewica Ludowa" — 7,9%. За польскія палітычныя групоўкі левага кірунку PSL „Piast" і PSL „Wyzwolenie" і „Lewica Ludowa" галасавалі пераважна жыхары каталіцкіх беларускамоўных вёсак. Пераможца выбараў па ўсёй краіне, а таксама і па Гродзенскай выбарчай акрузе — „Chrześcijański Związek Jedności Narodowej" — атрымаў у Берштаўскай гміне толькі 3,2% галасоў. Цікава, што камуністычны „Związek Proletarjatu Wsi i Miast" здабыў яшчэ менш — 2,3%.

У красавіку-траўні 1925 г. у Гродне прайшоў судовы працэс, на якім 67 асоб былі абвінавачаны ў прыналежнасці да беларуска-літоўскага партызанскага руху. Амаль усе абвінавачаныя з'яўляліся сялянамі і паходзілі з вёсак. Толькі двое жылі ў Гродне, але таксама мелі вясковае паходжанне. Амаль усе былі ўраджэнцамі Гродзенскага (39 чалавек) і Лідскага (24) паветаў. Самым старэйшым з абвінавачаных быў Сцяпан Язэпчык з вёскі Бершты, які меў 64 гады. Самаму малодшаму Антону Юрканісу споўнілася 18.

Паводле дадзеных беларускай газеты „Беларуская Доля", карэспандэнт якой сачыў за працэсам, пяцёра арыштаваных партызанаў — Антон Венцусь, Адольф Грык, Клеманс Валянкевіч, Эдвард Гайдзіс і Мікола Рудзяк — памерлі ў гродзенскай турме да пачатку працэсу, а яшчэ адзін — Аляксандр Басько — звар'яцеў. Карэспандэнт той жа газеты падаў дадзеныя, што паводле нацыянальнасці сярод абвінавачаных было 40 беларусаў, 20 літоўцаў, 4 палякі і 1 яўрэй[64].

У выніку працэсу да розных тэрмінаў зняволення судом былі прыгавораны 30 асоб. Самы суровы прысуд — 12 гадоў катаргі — атрымаў Леанард Казюкевіч, абвінавачаны ў падвойным забойстве ў вёсцы Шумы. Да 6 гадоў катаргі быў прыгавораны памочнік Разумовіча (Хмары) Уладзімір Бортнікаў. Па 4 гады катаргі атрымалі асобы, якіх прызналі камандзірамі мясцовых партызанскіх аддзелаў — Пётр Адаменя, Базыль Юрэчка, Ігнат Бернатовіч, Фларыян Туроніс, Дамінік Віджбель, Ян Суботнік. Астатнія атрымалі ад ад 1,5 да 3 гадоў папраўчага дому[65]. Віна 37 чалавек не была даказана, і яны выйшлі на волю.

[63] Тамсама, спр. 10, арк. 123, 129, 145.
[64] „Беларуская доля", 1925, № 29, с. 1–2.
[65] Тамсама, № 32, с. 2–3.

*Табліца 2*

**Спіс асоб, абвінавачаных у партызанскай дзейнасці на судовым працэсе ў Гродне ў 1925 г.**

| п/п | Імя і прозвішча | Узрост | Месца нараджэння | Прысуд |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Уладзімір Бортнікаў | 24 | Вёска Явар Марыям-польскага павета | 6 гадоў цяжкай турмы |
| 2 | Леанард Казюкевіч | 28 | Вёска Шумы Берш-таўскай гміны Гро-дзенскага павета | 12 гадоў цяжкай турмы |
| 3 | Пётр Адаменя | 35 | Вёска Верцялішкі Вер-цялішкаўскай гміны Гродзенскага павета | 4 гады цяжкай турмы |
| 4 | Васіль Юрэчка | 24 | Гродна | 4 гады цяжкай турмы |
| 5 | Ігнат Бернатовіч | 27 | Вёска Паддубы Каняў-скай гміны Лідскага павета | 4 гады цяжкай турмы |
| 6 | Фларыян Тароніс | 36 | Вёска Даліна Каняў-скай гміны Лідскага павета | 4 гады цяжкай турмы |
| 7 | Дамінік Віджбель | 24 | Вёска Лініца Каняўскай гміны Лідскага павета | 4 гады цяжкай турмы |
| 8 | Ян Суботнік | 21 | Вёска Шчара, Курыло-віцкая гміна Сло-німскага павета | 4 гады цяжкай турмы |
| 9 | Мікалай Апонік | 37 | Вёска Верцялішкі Вер-цялішкаўскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 10 | Уладзіслаў Апонік | 29 | Вёска Верцялішкі Вер-цялішкаўскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 11 | Павел Апонік | 24 | Вёска Верцялішкі Вер-цялішкаўскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 12 | Пётр Пералайка | 28 | Вёска Верцялішкі Вер-цялішкаўскай гміны Гродзенскага павета | 3 гады турмы |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 13 | Міхал Хацян | 30 | Вёска Сікорыца Скідзельскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 14 | Уладзімір Брыкач | 26 | Вёска Алешкаўцы Навадворскай гміны Лідскага павета | 3 гады турмы |
| 15 | Максім Шаставіцкі | 24 | Вёска Бершты Берштаўскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 16 | Сымон Грык (Грыгас) | 21 | Вёска Дзержалі Марцінканцаўскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 17 | Антон Юрканіс | 18 | Вёска Мізеры Лейпунскай гміны Сейненскага павета | 2 гады турмы |
| 18 | Юзаф Клімовіч | 19 | Вёска Кракшлі Каняўскай гміны Лідскага павета | 2 гады турмы |
| 19 | Станіслаў Краўневіч | 24 | Вёска Пелуньцы Радуньскай гміны Лідскага павета | 2 гады турмы |
| 20 | Ян Круш | 37 | Вёска Капянішкі Марцінканцаўскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 21 | Юзаф Мішчук | 25 | Вёска Новы Востраў Шудзялоўскай гміны Сакольскага павета | 2 гады турмы |
| 22 | Баляслаў Мішкін | 24 | Вёска Грыбашы Каняўскай гміны Лідскага павета | 2 гады турмы |
| 23 | Міхал Моліс | 33 | Вёска Kруклі Каняўскай гміны Лідскага павета | 3 гады турмы |
| 24 | Леанард Піленка | 23 | Вёска Kруклі Каняўскай гміны Лідскага павета | 2 гады турмы |
| 25 | Кароль Русілевіч | 22 | Вёска Дубеньцы Радуньскай гміны Лідскага павета | 2 гады турмы |
| 26 | Эпіфан Ушкевіч | 19 | Вёска Сухары Берштаўскай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 27 | Ян Валентукевіч | 23 | Вёска Свіны Лес Парэцкай гміны Гродзенскага павета | 2 гады турмы |
| 28 | Юзаф Хвясько | 28 | Мястэчка Вялікая Бераставіца Вялікабераставіцкай гміны Гродзенскага павета | 1,5 гады турмы |
| 29 | Сцяпан Шакалей | 25 | Вёска Кавалі Малабераставіцкай гміны Гродзенскага павета | 1,5 гады турмы |
| 30 | Фёдар Дзешка | 31 | Вёска Плюскалаўцы Вялікабераставіцкай гміны Гродзенскага павета | 1,5 гады турмы |
| 31 | Аляксандр Багатырэвіч | 33 | Вёска Сікорыца Скідзельскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 32 | Ян Багатырэвіч | 36 | Вёска Сікорыца Скідзельскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 33 | Францішак Борцяк | 27 | Вёска Лініца Каняўскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 34 | Антон Боська | 21 | Вёска Алешкаўцы Навадворскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 35 | Уладзімір Журун | 21 | Вёска Алешкаўцы Навадворскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 36 | Аляксандр Бушнеўскі | 34 | Вёска Нашкунцы Каняўскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 37 | Юзаф Лінкевіч | 34 | Вёска Нашкунцы Каняўскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 38 | Антон Ханевіч | 43 | Вёска Бершты Берштаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 39 | Міхал Язэпчык | 26 | Вёска Бершты Берштаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 40 | Сцяпан Язэпчык | 64 | Вёска Бершты Берштаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 41 | Уладзімір Язэпчык | 28 | Вёска Берdescribed Берш-таўскай гміны Гро-дзенскага павета | Віна не даказана |
| 42 | Мікалай Сяргейчык | 24 | Вёска Берšты Берш-таўскай гміны Гро-дзенскага павета | Віна не даказана |
| 43 | Міхал Цівунчык | 31 | Вёска Кавалі Малабе-лараставіцкай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 44 | Казімір Грыгас | 27 | Вёска Радаманцы Мар-цінканцаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 45 | Мацей Лукшыц | 47 | Вёска Радаманцы Мар-цінканцаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 46 | Казімір Грык (Грыгас) | 19 | Вёска Кабялі Марцін-канцаўскай гміны Гро-дзенскага павета | Віна не даказана |
| 47 | Ян Лукшыц | 24 | Вёска Кабялі Марцін-канцаўскай гміны Гро-дзенскага павета | Віна не даказана |
| 48 | Юзаф Сяргейчык | 20 | Вёска Кабялі Марцін-канцаўскай гміны Гро-дзенскага павета | Віна не даказана |
| 49 | Ян Валангевіч | 19 | Вёска Кабялі Марцін-канцаўскай гміны Гро-дзенскага павета | Віна не даказана |
| 50 | Сільвестр Залеўскі | 25 | Вёска Кабялі Марцін-канцаўскай гміны Гро-дзенскага павета | Віна не даказана |
| 51 | Казімір Мішкініс | 27 | Вёска Бержалі Мар-цінканцаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 52 | Пётр Юрэчка | 40 | Гродна, вул. Брыгіцкая, 4 | Віна не даказана |
| 53 | Казімір Мішкін | 18 | Вёска Кракшлі Каняў-скай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 54 | Арон Каброўскі | 19 | Мястэчка Марцінкан-цы Марцінканцаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 55 | Ян Куц | 20 | Вёска Малыя Рыбакі Навадворскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 56 | Аляксандр Лінкевіч | 27 | Вёска Малыя Рыбакі Навадворскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 57 | Мікалай Макарэвіч | 19 | Вёска Малыя Азераны Галынкаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 58 | Сымон Маркевіч | 31 | Вёска Малыя Азераны Галынкаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 59 | Дамінік Мішкін | 26 | Вёска Міхальчуны Каняўскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 60 | Лявон Швед | 22 | Вёска Міхальчуны Каняўскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 61 | Юзаф Семеняка | 25 | Вёска Азёрскія Крынкаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 62 | Уладзімір Семеняка | 26 | Вёска Азёрскія Крынкаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 63 | Юзаф Шадура | 28 | Вёска Зінякі Навадворскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 64 | Яш Шэлежка | 20 | Вёска Зінякі Навадворскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 65 | Рыгор Жук | 21 | Вёска Зінякі Навадворскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |
| 66 | Канстанцін Шыгаловіч | 21 | Мястэчка Крынкі Крынкаўскай гміны Гродзенскага павета | Віна не даказана |
| 67 | Дамінік Тарашкевіч | 25 | Вёска Багачы Каняўскай гміны Лідскага павета | Віна не даказана |

*Крыніца: Lietuvos centrinis valstybės archyvas, f. 127, ap. 1, b. 84, l. 133–134, 148.*

Насамрэч беларуска-літоўская партызанка не мела ніякіх шансаў на дасягненне пастаўленых мэт, а таксама і на актыўную падтрымку з боку насельніцтва. Прычыну гэтага даволі трапна вызначыў аналітык польскага генштаба, які падкрэсліў, што беларускі селянін меў ужо досыць усялякай няпэўнасці ў заўтрашнім дні, таму перспектыва новай магчымай вайны ці нейкай завірухі, якая пагражала канчатковым зруйнаваннем усяго таго, што яшчэ пасля апошніх войнаў засталося, і таго, што ён паспеў адбудаваць, яго зусім не радавала[66]. Дакументы дазваляюць заўважыць даволі выразны падзел паводле стаўлення да партызанкі сярод моладзі і старэйшага пакалення. Менавіта моладзь складала абсалютную большасць партызанаў і іх прыхільнікаў.

Уласны мемарыял пра барацьбу з антыдзяржаўнай партызанкай напісаў і знакаміты антысавецкі партызан Станіслаў Булак-Балаховіч. Адной з прычын пашырэння партызанскага руху ён лічыў поўную адарванасць паліцыі ад народа: „Policja jest odzielona jakby chińskim murem, gdyż ne znając miejscowego języka, nie utrzymuje potrzebnego kontaktu nawet z lojalną ludnością"[67]. Дзеля выпраўлення сітуацыі Булак-Балаховіч прапаноўваў набіраць у паліцыю вайскоўцаў беларускага паходжання, якія адзначыліся на тэрміновай службе: „Zapobiec temu skutecznie można, werbując do szeregów policji tych Białorusinów, służących w wojsku, którzy swoim nienagannym prowadzeniem się zasłużyli na zaufanie. Ponieważ obecnie z ludności kresowej białoruskiej nawet najlojalniejszej nikt się nie zgłasza dobrowolnie do służby w policji przeto przydzelenie wojskowych Białorusinów do policji przełamało by lody i zachęciłoby niechybnie ludzi lojalnych pragnących właściwie pracować do wstępowania w szeregi policji, a ludność miejscowa również widząc na posterunkach policiantów swych rodaków chętniej przyjdzie z informacjami i pomocą.Taktyki tej trzymała się Rosjia carska, utrzymując na terenach kresowych korpus policyjny rekrutujący się jedynie z miejscowej ludności i tylko wyższe stanowiska obsadzane były rosjananim"[68]. Другой мерай Балаховіч лічыў стварэнне і падтрымку праўладных кааператываў на беларускай вёсцы. Мемарыял Балаховіча быў разасланы паліцэйскім камендантам, але ягоныя прапановы ўладамі былі па сутнасці праігнараваны.

І тут паўстае пытанне: наколькі важную ролю ў развіцці партызанскага руху адыгрывала менавіта беларуская нацыянальная свядомасць? Даследчык Тамаш Блашчак лічыць, што ідэнтычнасць партызанаў была хутчэй „заходнерускай", якая стаяла ў выразнай апазіцыі да польскасці і польскай дзяржаўнасці[69]. Гісторык Яўген Міранович адзначае, што „людзі нават не

[66] Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (далей: ДАБВ), ф. 67, воп. 1, спр. 22, арк. 29–30.
[67] ДАГВ, ф. 17, воп. 11, спр. 1924, арк. 290.
[68] Тамсама.
[69] T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej*… s. 239.

надта цікавіліся тым, пад якімі лозунгамі прапануецца ім змагацца з Польскай дзяржавай, а найважнейшым ім было само змаганне”[70].

І ўсё ж, як нам уяўляецца, не варта перабольшваць абмежаванасць кругагляду тагачасных сялян, якія паспелі шмат чаго пабачыць у сваім жыцці, нават нягледзячы на маладосць. Як сведчаць крыніцы, вяскоўцы абмяркоўвалі паміж сабой партызанскую агітацыю і тую сітуацыю, у якой апынуліся. Партызаны ўсведамлялі, што змагаюцца за Беларусь, якая ўяўлялася ім ідылічнай сялянскай краінай без паліцыі, абшарнікаў і падаткаў. У агітацыйных дакументах шмат гаварылася пра незалежную беларускую дзяржаву. Напрыклад, на судовым працэсе ў Гродне была зачытана партызанская ўлётка на беларускай мове, у якой гаварылася: „[…] трэ не дапускаць асаднікаў, што зямля беларускага насялення, што трэ выгнаць войска, і калі будзе свая Беларуская Народная Рэспубліка, дык і ўсё будзе для беларусаў”[71].

Можна вылучыць шэраг аб’ектыўных фактараў, якія ўзмацнялі радыкальныя настроі на беларускай вёсцы: надзвычай цяжкае гаспадарчае становішча сялян (асабліва тых, хто вярнуўся з бежанства), высокія дзяржаўныя падаткі, дэмаграфічная сітуацыя з вялікім працэнтам моладзі ва ўзросце ад 15 да 30 гадоў (нават ваенныя страты не зліквідавалі праблему перанаселенасці беларускай вёскі). Асабліва варта адзначыць той чыннік, што адбыліся істотныя змены ў ментальнасці сялян, а найперш моладзі. Пражытае ў часы акупацыі і бежанства зрабіла вясковых хлопцаў больш дзёрзкімі і агрэсіўнымі. У асяроддзі сялянскай моладзі фармуецца культ героя-партызана, культ змагання.

У тых мясцовасцях, дзе актыўна дзейнічала беларуска-літоўская партызанка, у 1926 г. актыўна развіваецца дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Напрыклад, у кастрычніку — лістападзе 1926 г. ва ўсіх праваслаўных вёсках у Берштаўскай гміне былі заснаваны гурткі БСРГ, а агульная колькасць іх сяброў дасягнула 309 чалавек[72]. Пасля забароны Грамады актывізуецца дзейнасць гурткоў Таварыства беларускай школы. Толькі ў самым канцы 1920-х гадоў беларускі нацыянальны рух пайшоў на спад, а ў 1930-я гады палітычная актыўнасць фактычна абмяжоўвалася нелегальнымі структурамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Як можна ацаніць вынікі беларуска-літоўскай партызанкі для мясцовага грамадства і з перспектывы развіцця беларускага нацыянальнага руху? З вайсковага пункту гледжання ўзброеная барацьба супраць Польскай дзяржавы на той момант з’яўлялася безнадзейнай авантурай. На шчасце, абышлося адносна невялікай колькасцю ахвяр. Існавалі мірныя магчымасці змагання за палітычныя і нацыянальныя правы беларускага насельніцтва, а найперш — удзел у выбарах цэнтральных і мясцовых улад, стварэн-

[70] Я. Мірановіч, *Уступ,* [у:] *Бежанства 1915 года*, Беласток 2000, с. 11.

[71] *„Беларуская Доля”,* 1925, № 32, с. 2–3.

[72] ДАГВ, ф. 38, воп. 1, спр. 19, арк. 250.

не легальных палітычных і грамадскіх арганізацый, барацьба за школу на роднай мове.

Дыверсійныя акцыі, а нават і сама агітацыя на карысць узброенай барацьбы, прадстаўлялі нагоду для дыскрэдытацыі ўсяго беларускага нацыянальнага руху і падставу для жорсткага стаўлення да існуючых легальных арганізацый з боку дзяржаўнай улады. Тая частка мясцовай беларускай інтэлігенцыі, якая падтрымала партызанку, у выніку яе ліквідацыі ў большасці сваёй вымушана была пакінуць свой край і эміграваць у Літву і СССР. Гэткі ж лёс напаткаў і шмат простых сялянскіх хлопцаў, якія ўступілі ў шэрагі партызанаў. Вельмі важным з'яўляецца і той факт, што на падзеях партызанкі не было створана прадуктыўнага для беларускага нацыянальнага руху гераічнага міфа змагання.

Разам з тым, партызанскі рух засведчыў вялікі крок у развіцці нацыянальнай самасвядомасці беларускага сялянскага насельніцтва. Прычым гэты крок быў зроблены за вельмі кароткі адрэзак часу. Да пачатку Першай сусветнай вайны гэта насельніцтва амаль не было закранута беларускай нацыянальнай агітацыяй і ўвогуле не чула нават пра саму ідэю беларускай дзяржаўнасці. А ўсяго праз некалькі гадоў бурлівых ваенных і рэвалюцыйных падзей сялянская моладзь ужо гатова была ўзяцца за зброю пад лозунгамі стварэння незалежнай Беларусі.

**Siarhei Tokć.** ***Białorusko-litewscy partyzanci w powiecie grodzieńskim wojw. Białostockiego i lidzkim wojew. Nowogródskiego w latach 1922–1923***

W 1922 r. na obszarze Zachodniej Białorusi powstały struktury antypolskiego ruchu partyzanckiego wspieranego zza granicy przez władze Litwy. Szczególnie silne wsparcie białorusko-litewska partyzantka otrzymała pośród ludności wiejskiej w przygranicznych powiatach grodzieńskim i lidzkim. Główny ośrodek organizacji i koordynacji grup partyzanckich znajdował się w litewskim miasteczku Merecz (Merkine). Powstał tam oddział liczący około 150 partyzantów. Byli to przeważnie mieszkańcy powiatów grodzieńskiego i lidzkiego, którzy nielegalnie przekraczali granicę polsko-litewską. Większość partyzantów stanowiła młodzież chłopska w wieku poborowym, do której dołączyła część wiejskiej inteligencji. Starsi mieszkańcy wsi odnosili się do ruchu partyzanckiego negatywnie, ponieważ mieli dosyć tej długiej wojny. Partyzanci zorganizowali wiele akcji dywersyjnych, co zmusiło władze do wykorzystania przeciwko nim regularnych oddziałów wojskowych.

Latem 1922 r. policji udało się wykryć konspiracyjną siatkę białorusko-litewskich partyzantów w powiatach grodzieńskim i lidzkim. Aresztowano około 70 osób. Wiosną 1923 r. na skutek zmiany sytuacji geopolitycznej władze Litwy straciły zainteresowanie wspieraniem ruchu partyzanckiego. Partyzanci narodowości białoruskiej znajdujący się na terytorium Litwy okazali się być niepotrzebni państwu litewskiemu. Większość z nich została zmuszona do

emigracji do ZSRR, gdzie znaczna część z nich stała się później ofiarami represji politycznych.

Wiosną 1925 r. w Grodnie odbył się proces przeciwko 67 osobom oskarżonym o udział w ruchu partyzanckim w powiecie grodzieńskim i lidzkim. Wyrokiem sądu 30 osób zostało skazanych na wyroki więzienia w różnej wysokości, resztę zaś uniewinniono. Polityczne skutki działań partyzanckich dla białoruskiego ruchu narodowego okazały się być negatywne. Władze państwowe wykorzystały je do zwiększenia kontroli nad legalnymi organizacjami społecznymi i kulturalno-oświatowymi. Badacze spierają się o motywy przyłączania się ludności wiejskiej do ruchu partyzanckiego. Wielu z nich podkreśla, że chłopi byli słabo zorientowani w sytuacji politycznej. Jednakże ruch partyzancki stanowił milowy krok w rozwoju świadomości narodowej białoruskiej ludności wiejskiej na tym obszarze. Do początku pierwszej wojny światowej miejscowa ludność niemal nie zetknęła się z białoruską agitacją narodową i nie wiedziała nic o idei białoruskiej państwowości. Zaś w 1922 r. chłopska młodzież chwyciła za broń pod hasłem utworzenia niepodległej Białorusi. Wyobrażali ją sobie jako wolny kraj chłopski, w którym nie będzie podatków i policji. Dlatego też białorusko-litewska partyzantka miała w sobie rys zbrojnych ruchów chłopskich, które miały miejsce w tamtym czasie w różnych regionach świata.

## Siarhei Tokć. *Belarusian-Lithuanian partisans in the Grodno poviat, voiv. Białystok and in the Lidzki poviat, voiv. Nowogródek in the years 1922–1923*

In 1922, structures of the anti-Polish partisan movement were formed on the territory of Western Belarus. These structures were supported by the Lithuanian government. The Belarusian-Lithuanian partisans received the broadest support among the rural population in the Grodno and Lida districts. A coordination center for the partisan movement was established in the town of Merech in Lithuania. A combat partisan group was also created in Merech. The group included residents of the Grodno and Lida districts, who illegally crossed the Polish-Lithuanian border. The majority of the partisans were young people. There were also rural intellectuals. Elderly residents of the Belarusian villages had a negative attitude towards the partisan movement. People were tired after the long war. The partisans organized several acts of sabotage. The government used a regular army against them. In the summer of 1922, the police uncovered a conspiratorial network of partisans in the Grodno and Lida districts. As a result, about 70 people were arrested. In the spring of 1923, the geopolitical situation in Europe changed. The Lithuanian government lost interest in supporting the partisan movement. Partisans of Belarusian nationality were now unnecessary for Lithuania. Most of them were forced to emigrate to the Soviet Union. Later, many became the victims of political repression.

In the spring of 1925, a trial was held in Grodno against the arrested members of the partisan movement. The charges were brought against 67 people. As a result, 30 people were sentenced to various terms of imprisonment. The

political consequences of partisan activities for the Belarusian national movement were negative. The state authorities increased pressure on legal Belarusian public and cultural organizations. Historians have investigated the motivation of rural youth to join partisan units. Many authors note the weak orientation of the peasants in the political situation. However, the partisan movement reflected the growth of the national consciousness among the peasant population. Before the First World War, this population had not heard about the idea of Belarusian statehood. In 1922, the peasant youth took up arms under the slogan of an independent Belarus. The peasants presented independent Belarus as a free peasant country without police and taxes. Therefore, the Belarusian-Lithuanian partisan movement had the characteristic features of armed peasant uprisings, which have taken place in different parts of the world.

# Дыскусія „Здабыткі і страты: вынікі збройнага змагання за беларускую дзяржаўнасць у 1917–1923 гг.”[1]

Удзельнікі дыскусіі: Ніна Стужынская (Менск), Яўген Мірановіч (Беласток), Тамаш Блашчак (Коўна), Аляксандр Смалянчук (Варшава — Гародня), Аляксандр Краўцэвіч (Варшава — Гародня), Ігар Мельнікаў (Менск), Генадзь Сагановіч (Варшава — Менск), Андрэй Чарнякевіч (Варшава — Гародня). Мадэратар — Алег Латышонак (Беласток).

***Алег Латышонак:*** Шаноўныя калегі, запрашаю да размовы пра здабыткі і страты беларускай барацьбы за дзяржаўнасць, пра наступствы збройнага змагання за незалежнасць у 1917–1923 гадах.

***Ніна Стужынская:*** Пытанне пра наступствы тагачаснай барацьбы для мяне вельмі важнае. Яшчэ нядаўна я пісала пра сімвалізм таго, што сучасны пратэстны рух у Беларусі выбухнуў у 100-годдзе Слуцкага паўстання. Можна казаць, што традыцыя супраціву жыве ў народзе.

Канешне, паўстанне было лёсавызначальнай падзеяй, якая пацвярджае суб’ектнасць Беларускай дзяржавы. На шляху незалежнай і суверэннай дзяржавы павінна быць шмат падобных доказаў яе суб’ектнага становішча.

Але з памяццю не ўсё так проста. Калі ў 1990-я гады я размаўляла з нашчадкамі ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну, то колішнія дзеці паўстанцаў распавядалі пра ідэю паўстання, пра яго лозунгі, пра тое, які водгук гэта падзея мела сярод насельніцтва і які след пакінула ў гісторыі краіны. Але калі казаць пра больш шырокія колы нашых сучаснікаў, то сітуацыя выглядае інакш. Народную памяць пра паўстанне, якую захоўвалі пераважна вяскоўцы, даволі моцна падкарэктавалі спецслужбы ды іншыя карныя органы, а таксама афіцыйныя гісторыкі. Адмоўную ролю адыграла зачыненасць архіваў у савецкі час і г.д. У выніку атрымаўся каласальны разрыў паміж самой падзеяй і сучаснымі ведамі пра яе. Людзі былі пазбаўлены гістарычнай памяці, сапраўдных ведаў пра сваю гісторыю. І гэта, канешне, накладае пэўны адбітак на свядомасць сучаснікаў.

Да таго ж памяць пра паўстанне — гэта памяць пра ахвяры. І ў тым ліку пра ахвяры ўжо пасля паўстання. Так, у 1921 годзе савецкую мяжу нелегальна пераходзілі лодзінскія ці варшаўскія курсанты з беларусаў. Спачатку іх было так шмат, што іх толькі і штрафавалі. У 1924–1925 гадах пачаліся публічныя судовыя працэсы. У 1929 г. такім працэсам была „справа балахоўцаў”. І пайшло-паехала… У 1937–1938 гадах знішчылі тых, хто яшчэ застаўся ў жывых.

[1] Заключная дыскусія на онлайн канферэнцыі „Збройнае змаганне за беларускую дзяржаўнасць у 1917–1923 гг.” (13 лістапада 2020 г.).

Як фармуецца народная памяць? Гісторыя Слуцкага паўстання — гэта не толькі прыклад народнага ўздыму і патрыятызму, не толькі падзея, якая правільна арыентуе грамадства ў гістарычнай перспектыве, але гэта яшчэ і адчуванне паразы, глыбокая траўма народа. На жаль, вось гэты аспект мы нават не абмяркавалі.

***Яўген Міранові́ч:*** Мне здаецца, што здабыткі тагачаснага ўзброенага супраціву з сучаснай нацыянальнай перспектывы значна большыя, чым іх непасрэдныя вынікі ў змаганні за незалежнасць. Можна сабе ўявіць, што было б, каб у 1918 г. не была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, што было б, каб не было Слуцкага паўстання. Проста нічога не было б.

А мы ж маем наступныя пакаленні, якія ўжо ў міжваенны перыяд засвойвалі ўрокі гэтага змагання. Напрыклад, моладзь у Віленскай гімназіі навучалі людзі, якія мелі непасрэднае дачыненне да падзей, якія нядаўна адбываліся. Што запомнілі гэтыя маладыя людзі? Запомнілі барацьбу за дзяржаўнасць. Няважна, які быў вынік. У памяць увайшло, што хтосьці браў зброю ў рукі і змагаўся.

І нават працяглы савецкі перыяд бяспамяцтва не выкрасліў. Як толькі адбыўся палітычны пералом пачатку 1990-х гадоў, адразу пачалі пісаць пра ранейшае змаганне. Сотні тысяч маладых людзей даведаліся, што была іншая форма дзяржаўнасці (БНР) і была спроба вайсковага змагання за яе.

Усё ж такі міфалогія кожнай нацыі будуецца на аснове такіх падзей. Менавіта як элемент стварэння такой нацыянальнай міфалогіі падзеі 1917–1923 гадоў маюць вялікае значэнне. Мы гэта не ацэньваем належным чынам, а трэба гэта разумець.

***Алесь Смалянчук:*** У адным з рэфератаў нашай канферэнцыі прагучала думка, што беларуская партызанка ў нечым была авантурай. А я прыгадаў, як ацэньвалі Студзеньскае паўстанне 1863 года г.зв. „літоўскія палякі" ў другой палове XIX стагоддзя. Вельмі часта згадвалі пра яго як пра авантуру, якая толькі пагоршыла стан польскай супольнасці, абярнулася ўвядзеннем „мураўёўскага" антыпольскага заканадаўства і г.д. Дарэчы, сітуацыя беларусаў таксама пагоршылася.

Сапраўды, першасныя наступствы і Студзеньскага паўстання, і партызанкі пачатку 1920-х гадоў былі трагічнымі. Усё выглядала толькі як страта. Але прайшоў час, пачалося адраджэнне Польскай дзяржаўнасці, і мы ўжо бачым міфалагізацыю Студзеньскага паўстання як трагічнага і адначасна гераічнага збройнага чыну, важнага кроку да дзяржаўнасці. У пэўны момант галоўным становіцца тое, пра што казала Ніна Стужынская ў канцы свайго выступу, а менавіта значэнне памяці. Падзеі, якім прысвечана сённяшняя канферэнцыя, з'яўляюцца велізарным здабыткам беларускай нацыі, часткай яе міфалогіі, без якой нам не абысціся.

І тут важна думаць тое, пра што казаў Андрэй Чарнякевіч у сваім выступе, а менавіта пра патрэбу навуковага падыходу да падзей і постацей ай-

чыннай гісторыі і адкрытай публічнай дыскусіі вакол іх. Трэба размаўляць пра пэўныя „цёмныя бакі” змагання і дзейнасці вядомых палітыкаў. Гэта важна, каб не займацца самападманам. Нацыянальны рух у кожнай краіне меў апрача станоўчых рыс пэўныя адмоўныя, якія не трэба ігнараваць. Інакш можам трапіць у пастку гларыфікацыі нацыянальнага руху як выключна гераічнага. Хоць з погляду суседніх народаў гэта часта выглядала зусім па-іншаму.

***Тамаш Блашчак:*** Калі кажам пра баланс беларускай прысутнасці ў літоўскім змаганні за незалежнасць, то, напэўна, вялікі плюс будзе на літоўскім боку. Падтрымка з беларускага боку была рэальная, і літоўцы яе выкарысталі, нічога не даючы ўзамен.

Калі кажам пра памяць, то хачу адзначыць вялікую колькасць беларускіх сюжэтаў у апошнія месяцы на літоўскім тэлебачанні. Напрыклад, учора была гістарычна-папулярная перадача, тэма пра Вацлава Ластоўскага і ягоную жонку пісьменніцу Лаздзіну Пяледу. Гэта кароткі сюжэт на 10 хвілін са згадкай беларускіх жаўнераў у літоўскім войску. Апошнім часам гэта тэма стала актуальнай. Нядаўна выйшла манаграфія на літоўскай мове пра беларускія вайсковыя часткі. Пра яе ўзровень можна спрачацца, але ёсць манаграфія!

Шкада толькі, што маем шмат архіўных дакументаў, з якімі трэба працаваць, але пакуль многія тэмы не ўзнятыя. Тое, што спадар прафесар Алег Латышонак распачаў 30 гадоў таму ці нават больш, трэба працягваць. Сапраўды, можна шмат зрабіць і трэба зрабіць.

***Ігар Мельнікаў:*** Прыгадалася гісторыя шасцігадовай даўніны, калі паблізу майго дома здымалі кліп „Хлопцы-балахоўцы” для Белсата. Мы былі ў вайсковай форме. Нехта патэлефанаваў у міліцыю. Прыехалі два аўтазакі, і нас усіх адвезлі ў аддзяленне. А там мы размаўлялі з кіраўніком, з міліцыяй. Яны кажуць: „Ну вось, вы выйшлі з апазіцыйным сцягам”. Я кажу: „Дык я з чырвона-зялёным пайшоў бы, але тады не было чырвона-зялёнага”. „Так?” — „Так,— кажу,— у 1950-я гады з’явіўся”.— „А што гэта было за паўстанне?” Я пачаў расказваць, што хлопцы за Беларусь змагаліся, за незалежнасць, што гэта не польская авантура і не бальшавіцкая. Проста за Беларусь змагаліся. І ўбачыў, што людзям цікава. Прынамсі, пра нешта задумаліся.

Праз чатыры гады пасля гэтага, у 2018 годзе ў Баранавічах адзначалі 100-годдзе БНР. Мяне запрасілі. Я таксама ў вайсковай форме паехаў. Міліцыі прыйшло больш, чым людзей. І стаяць гэтыя „таварышчы” [імітуе здымкі камерай, мае на ўвазе супрацоўнікаў КДБ]. Я пачаў расказваць. Яны камеры апусцілі і сталі слухаць.

І вось, да чаго я ўсё гэта кажу? Сапраўды, веды пра БНР, пра Слуцкі збройны чын настолькі мізэрныя ў беларускім грамадстве, што жудасна. Дзяржаве, зразумела, гэтая памяць не патрэбная, яе цікавіць толькі савецкая гісторыя. А вось грамадству вельмі патрэбная… Сёння грамадства пацягнулася да нацыянальных сімвалаў, да гісторыі Слуцкага збройнага чыну,

да вайсковай гісторыі Беларусі. І вось зараз час прыйшоў час яшчэ больш зацікавіць людзей, паказаць, кім былі паўстанцы, што гэта была за Беларуская Народная Рэспубліка.

І канешне, нейкія элементы міфатворчасці будуць прысутнічаць. Не ўсё ж у Беларусі заканчвалася паразай і знішчэннем! Перамогай быў сам факт паўстання, я так лічу. І гэта важна данесці праз навуковыя манаграфіі, папулярную літаратуру, дваровыя лекцыі, нейкія квэсты, экскурсіі. Трэба ўсе формы выкарыстоўваць. Калі здолеем гэта ўсё данесці да людзей, то атрымаем зусім іншае беларускае грамадства. Думаю, што ў гэтым накірунку мы робім досыць шмат і даволі паспяхова.

***Андрэй Чарнякевіч:*** Сённяшняя тэма сапраўды вельмі актуальная. Лозунг „Армія з народам” — гэта галоўны лозунг той сітуацыі, якую мы маем. А трагічныя выпадкі і забойствы паказваюць, што інстытуцыянальна армія не з народам. Тым не менш думаю, што нацыянальная свядомасць у людзей, звязаных з войскам і сілавымі структурамі, усё ж прысутнічае, як і ў 1920–1921 годзе. Вось толькі манаполія на гвалт сёння не ў руках саміх беларусаў.

Мне падаецца, што для навуковага даследавання беларускага збройнага супраціву эфектыўным можа быць кампаратывісцкі падыход, менавіта параўнанне беларускай сітуацыі з бліжэйшымі суседзямі — Украінай, Польшчай, дзяржавамі Прыбалтыкі. Вядома, што Украіна ў той перыяд мела сваё войска. Нядаўна ў цэнтры Варшавы адкрылі помнік 1920-му году, дзе прысутнічае постаць Сямёна Пятлюры. Балаховіча там няма. Але для незалежнасці Украінскай дзяржавы гэты факт не адыграў вялікай ролі… Як і БНР, яна не здабыла незалежнасць у 1919–1920 гг. А вось краіны Прыбалтыкі яе дамагліся. Паміж гэтымі прыкладамі месціцца Беларусь. І тут паўстае прынцыповае пытанне: У які момант войска пачынае адыгрываць дзяржаватворчую і нацыятворчую ролю?

У гісторыі беларускага нацыяналізму вельмі не хапіла менавіта вайсковых эліт. Вядома, што яны паўставалі. Маем прыклады генерала Кандратовіча, Езавітава, іншых генералаў. Але гэта адзінкі. З іншага боку, цікава, што значная колькасць актыўных дзеячаў нацыянальнага руху 1918–1920 гг. выйшла якраз з вайсковага асяроддзя, з вайсковых камітэтаў, якія былі вынікам Лютаўскай рэвалюцыі. Але потым яны пераважна дзейнічалі не як вайскоўцы, а як грамадскія актывісты. Гэта праблема вартая даследавання. Дзякуй вялікі!

***Алег Латышонак:*** Мне здаецца, што падзеі, пра якія мы тут гаворым, настолькі даўнія, што яны ўжо не так і важныя для фармавання нацыянальнай свядомасці. Яна сфармавалася і без гэтага ці ў вялікай ступені без гэтага. Маю на ўвазе тое, што людзі адчуваюць сябе беларусамі. Я, калі пачынаў працу над гісторыяй беларускіх вайсковых фармаванняў і, перш за ўсё, гісторыяй войска Булак-Балаховіча, у пэўным сэнсе адказваў на грамадскі запыт пра герояў. Да мяне звярнуліся з беларускага студэнцкага руху:

„Хлопцам патрэбны героі. Вось быў такі Булак-Балаховіч". Так, я тых герояў і шукаў. Думаю, што спрычыніўся да таго, каб у свядомасць людзей увайшоў факт гэтага змагання за Беларусь. Асабіста мяне ў свой час вучылі, што ніхто за яе не змагаўся, апрача бальшавікоў.

Але, з другога боку, я выразна бачу, калі гаворка ідзе пра Балаховіча, што ён авантурыст. Будзем шчырымі. Ніякі беларускі міф на ім не павінен быць збудаваны. Я таксама перакананы, што мы не адказваем за тыя пагромы, якія рабілі ў абсалютнай большасці не беларусы. Вядома, што яны складалі толькі каля 20% усяго войска Балаховіча. З тым, што рабілі гэтыя адсоткі, мы павінны разлічыцца. Але за ўсе тыя „маскоўскія пагромы" беларусы не нясуць адказнасці.

Я лічу, што тое збройнае змаганне абышлося беларусам адносна невялікім коштам. Яно не было вялікае і вялікім коштам не абышлося. Магчыма, найбольш за гэта заплаціла Случчына, заплаціла высяленнямі і расстрэламі. Бальшавікі пазабівалі беларускіх дзеячаў, выселілі вёскі і засценкі. Але, як сказаў прафесар Міраловіч, важна, што паўстанне адбылося, што хтосьці за Беларусь змагаўся. Сёння мы ведаем, да чаго можам звярнуцца…

Што датычыць памяці пра Слуцкі збройны чын, то я лічу, што вялікую памылку зрабілі адраджэнцы пачатку 1990-х гг., якія пачалі святкаваць Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасня, у дзень бітвы пад Оршай (1514). А Слуцкае паўстанне неяк адышло на другі план. Я лічу, што беларусы павінны ганарыцца толькі тым, што яны зрабілі менавіта як беларусы. Адпаведна для мяне гэта паўстанне заўсёды было найважнейшым. Але мусім усведамляць, што гэта было даўно.

Я прыхільнік тэорыі, што на грамадства дзейнічае толькі тое, што адбылося прыблізна гадоў 70 таму і не пазней. Важна, каб былі жывыя сведкі тых падзей. Для мяне былі вельмі важнымі сустрэчы з жывым слуцкім паўстанцам і беларускімі партызанамі, якія змагаліся за БНР на Беласточчыне. Нам вельмі цяжка знайсці штосьці пазнейшае. Вядома, чым скончылася Другая сусветная вайна і як пераможцы будавалі яе міф. Да таго ж тыя, што змагаліся, шчыра ці не шчыра, на боку Гітлера, не былі рэабілітаваны. Думаю, што сённяшнімі ахвярамі беларусы наноў будуюць сваю памяць, бо без памяці пра тых, што змагаліся за Беларусь, моцнае грамадства не збудаваць.

***Алесь Краўцэвіч:*** Мы цалкам слушна шмат гаворым пра страты, але таксама трэба казаць пра здабыткі. І, хіба, найвялікшым здабыткам усіх гэтых вялікіх і малых праяў барацьбы ад Слуцкага збройнага чыну да паасобных дзеянняў партызанкі з'яўляецца тое, што сёння мы маем дзяржаву. І гэта дае надзею, што змагарскі чын не будзе забыты. Ён застанецца ў гістарычнай палітыцы, у нацыянальнай памяці. І тут шмат залежыць ад гісторыкаў, якія займаюцца найноўшым перыядам. Чым больш будзе грунтоўных даследаванняў, тым большым здабыткам стане гэтае збройнае змаганне за Беларусь.

Таксама хачу падыскутаваць з апошняй тэзай Алега Латышонка, што нібыта дарэмна Днём вайсковай беларускай славы зрабілі 8 верасня. Мне

здаецца, што патрыятычныя стэрэатыпы нацыянальнай памяці не так лёгка змяняюцца. Іх цяжка стварыць, але нашмат лягчэй выкараніць. Як, напрыклад, бальшавікі выкаранілі памяць пра Слуцкі чын. І гістарычная памяць народа-нацыі не канцэнтруецца толькі ў тым, што памятаюць жывыя людзі, яна канцэнтруецца па ўсёй мінуўшчыне. Глядзіце, як нашы суседзі-палякі святкуюць сярэднявечную бітву пад Грунвальдам! Гістарычная памяць складаецца не толькі з найноўшай гісторыі, падзеі якой яшчэ памятае старэйшае пакаленне.

Праца даследчыкаў найноўшага перыяду гісторыі ў нечым больш складаная, а ў нечым лягчэйшая, чым у гісторыкаў-медыявістаў. У нас значна менш гістарычных крыніц, а ў вас шмат архіваў, дзе можна знаходзіць новыя дакументы. Я вельмі спадзяюся, што каласальная праца даследчыкаў найноўшага перыяду гісторыі Беларусі калі-небудзь аформіцца ў грунтоўную, літаратурна апрацаваную сінтэзу. Хочацца, каб, напрыклад, той жа гісторык-медыявіст Краўцэвіч мог узяць у рукі і прачытаць гэтыя 2–3 тамы. Не кажу ўжо пра людзей, якія не маюць гістарычнай адукацыі. Дзякую!

***Алег Латышонак:*** Я гаварыў не пра гістарычную памяць, а пра эмоцыі, якія выклікае памяць пра пэўныя падзеі. Тое, што я сказаў, тычыцца толькі эмоцый. Напачатку 1990-х гг. яшчэ жылі людзі, якія памяталі Слуцкае паўстанне, і яно выклікала эмоцыі. Бітва пад Оршай ужо не можа выклікаць эмоцый. Таксама як Грунвальд. Грунвальд — гэта забава, гэта не памяць. Я так гэта ўспрымаю. Сам займаўся арганізацыяй канцэнтрацыі на Грунвальд. Вялікіх нацыянальных эмоцый Грунвальд не выклікае. Ужо і Слуцкае паўстанне іх не выклікае, бо даўно было. Без эмоцый не будзе міфа, эмоцыі выклікаюць нядаўнія або сённяшнія падзеі.

***Алесь Смалянчук:*** Не пагаджуся, што ў 1990-я гады Слуцкаму паўстанню не ўдзялялі належнай увагі. Насамрэч удзялялі. І першыя гістарычныя працы пра збройны чын, і першыя зборнікі дакументаў з'яўляюцца якраз у тыя часы. Тады шмат было зроблена. Але Слуцкае паўстанне ўсё ж прайграла, пацярпела паразу. Затое Аршанская бітва, прынамсі, як уяўлялася асабліва ў 1990-я гады, была вялікай перамогай. Да таго ж гэта быў час, калі эпоха Вялікага Княства Літоўскага, дзякучы працам Міколы Ермаловіча, фактычна напоўніла цалкам беларускую гістарычную памяць. XX стагоддзе з гэтага неяк выпала. І на жаль, па сённяшні дзень яно туды не вярнулася. Выключэнне складае толькі БНР, якая пастунова становіцца важным месцам памяці і ўсё больш успрымаецца як рэальная альтэрнатыва пракрэмлёўскай БССР. Ды яшчэ ў афіцыйнай гістарычнай палітыцы ўвесь час „раскручваецца" гісторыя г. зв. „Вялікай Айчыннай вайны" і г.д.

Між тым памяць пра змаганне за дзяржаўнасць у XX стагоддзі, канешне, надзвычай важная, калі думаць пра будучыню дзяржавы і яе народаў. Дзякуй.

***Генадзь Сагановіч:*** Я з вялікай цікавасцю праслухаў усе рэфераты і выступы ў „круглым стале". Мяне асабіста закранула, што Алег Латы-

шонак палічыў памылкай выбар Аршанскай бітвы як сімвала беларускай вайсковай славы. Паколькі я быў сярод людзей, якія тады рабілі выбар, то хачу яго патлумачыць. Мне падаецца, што ў тым кантэксце не было ніякай памылкі, бо пагроза для беларускай ідэнтычнасці была толькі з усходу, толькі з Расіі. А пасля распаду Савецкага Саюза быў пэўны вакуум сваёй гераічнай гісторыі, сваёй вайсковай славы. Менавіта таму Аршанская бітва ўсё ж была найлепшым выбарам.

А тая тэорыя, пра якую казаў Алег Латышонак, гэта тэорыя іншага вымярэння памяці, магчыма, памяці камунікатыўнай. Для яе жыцця сапраўды максімальны тэрмін — 70–80 гадоў, магчыма — да 100 гадоў. Але памяць нацыі — гэта культурная памяць! Для яе час вечны. Тут ужо не істотна, колькі прайшло гадоў. Можа тысяча, можа дзве тысячы. У культурнай памяці важнасць вызначаецца патрэбамі грамадскага жыцця, а не часавай адлегласцю ад падзеі. Гэта памяць ствараецца інстытуцыямі. І яна эмацыйна можа перажывацца не слабей, а мацней, чым камунікатыўная. Якраз яна стварае трывалую ідэнтычнасць нацыі.

Таксама мяне закранула думка, што мы, гісторыкі, нібыта займаемся стварэннем міфа. Думаю, што гэта не наша справа. Наша справа — крытычная рэфлексія. Міф і без нас будзе створаны грамадствам. Мы ж, як гісторыкі і як даследчыкі, можам толькі карэктаваць гэтыя міфы. Прыблізна так, як слушна казаў Алег Латышонак, каб не было міфаў, збудаваных на фальшывых постацях і фальшывых героях.

***Андрэй Чарнякевіч:*** Так сталася, што напачатку гэтага года, яшчэ да выбуху пандэміі ковіда і да беларускіх пратэстаў, я з часткай калег, якія сёння ўдзельнічаюць у канферэнцыі, быў з кароткім візітам у Швецыі. І вось, вяртаючыся назад, мы шмат размаўлялі з прафесарам Генадзем Сагановічам. Між іншым ён распавёў пра працу над артыкулам пра Слуцк у час вайны XVII стагоддзя. Яго аповед зрабіў на мяне неверагоднае ўражанне. Я вельмі чакаю гэты тэкст, бо з таго, што я пачуў, высвятляецца, што падзеі 1919–1921 гг. на Случчыне не паўсталі на пустым месцы. Можна шукаць іх карані ў сялянскіх рэформах, звяртаючыся да працы Сяргея Токця, а можна паглыбіцца ў больш старадаўнюю гісторыю. Для мяне відавочна, што абмяжоўвацца толькі XX стагоддзем нельга. Гэта моцна звужае перспектыву. Дзякуй вялікі.

***Аляксандр Краўцэвіч:*** Хачу запытаць Генадзя Сагановіча. Ты сапраўды лічыш, што стварэнне міфа не з'яўляецца задачай гісторыка, што наша справа — рэфлексія і навуковая карэкцыя міфа? Я правільна зразумеў?

***Генадзь Сагановіч:*** Слушна. Мы не павінны заходзіць у сферу памяці. Наша месца ў сферы акадэмічнай навукі. Гэта значыць, што нашым правілам ёсць крытычны падыход. У памяці зусім іншыя правілы гульні.

***Аляксандр Краўцэвіч:*** Я з гэтым абсалютна не магу пагадзіцца. Упэўнены, што якраз задачай прафесійных гісторыкаў з'яўляецца прафесій-

нае фармаванне гістарычнай памяці. Спашлюся на прыклад, які ты сам прыводзіў, калі распавядаў пра свой удзел у выбары Аршанскай бітвы як галоўнай падзеі для Дня беларускай вайсковай славы. Гэта якраз прыклад удзелу прафесійнага навукоўца ў фармаванні нацыянальнага міфа. Вельмі добра, калі навуковец у гэтым фармаванні ўдзельнічае ад пачатку. Многія міфы ствараюцца хаатычна, стыхійна. Яны вельмі часта неадэкватныя, і цяжка іх потым змяніць. Прыкладам можа быць міф „беларускага героя" Булак-Балаховіча або міф камуніста Пятра Машэрава, якія паўсталі без удзелу прафесійных навукоўцаў.

Я лічу, што мы не проста можам удзельнічаць у стварэнні нацыянальнага міфа, а гэта ёсць наш прамы абавязак. У гэтым выпадку міф будзе мець пад сабой рэальныя навуковыя падставы, будзе зроблены дабротна і прафесійна. Перакананы, што мы абавязаныя ўдзельнічаць у стварэнні нацыянальных міфаў як навукоўцы і падыходзіць да гэтага з навуковага пункту погляду. Дзякую.

***Генадзь Сагановіч***: Не трэба блытаць паняцці. Мы пра розныя рэчы гаворым. Я маю на ўвазе, што памяць і гістарычная навука — гэта дзве розныя актыўнасці. Памяць па прыродзе сваёй суб'ектыўная. Гістарычная навука, якой мы займаемся, прадукуючы веды, імкнецца да аб'ектыўнасці, карыстаецца навуковымі метадамі, мае ўласную працэдуру даследавання. І мы гаворым не ад першага імя. Гэта памяць заўсёды гаворыць ад „Я". Яна атаясамліваецца з падзеямі. Мы гэта не павінны сабе дазваляць. Іншая рэч, што мы таксама людзі, якія маюць розныя ўстаноўкі. Вось і ўсё. Дзякуй!

***Яўген Міранович:*** Цікавая дыскусія пачалася. Перш за ўсё мы, як гісторыкі, павінны пісаць гісторыю. А ў гісторыі павінна быць, як у кожнай навуцы: 2+2=4. Нельга прыдумляць, што павінна быць 6 або 8. Іншая справа, як даўно даведзена, што гісторыяй можна карыстацца па-ўсялякаму. Найлепшую нацыянальную палітыку можна будаваць толькі на праўдзівай гісторыі.

Аднак нацыю на аснове гісторыі немагчыма збудаваць. Вакол Беларусі ўсе будуюць нацыі на міфах. Паглядзіце расійскія, польскія, украінскія, літоўскія падручнікі. Там няма ніякай гісторыі. Там толькі набліжэнне да гісторыі. Гляньце на падручнікі гісторыі Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі. Што яны маюць супольнага з гісторыяй? Гісторыя занадта кашмарная, каб на аснове яе будаваць нацыю. Трэба выбраць штосьці з гісторыі. Яна павінна быць абмытая, чысценькая. Усе гэта робяць.

У нас не павінна быць такой дыскусіі. З гісторыі проста бяруцца нейкія факты, якія паказваюць у прывабным выглядзе ўласную нацыю. І толькі! Сёння мы гаворым пра вельмі складаны перыяд, пра пераломны час. Праўду кажучы, у тых падзеях нічога вялікага не было. Але ёсць знакамітая аснова для пабудовы міфа. Давайце карыстацца гэтым. І не трэба саромецца, бо ўсе карыстаюцца гісторыяй.

***Алег Латышонак:*** Але не мы гэтым павінны карыстацца?

***Яўген Мірановіч:*** Так, не мы, не гісторыкі. Я гавару пра тое, што беларусы як нацыя павінны карыстацца міфам. Але не гісторыкі яго ствараюць! Мы павінны пісаць гісторыю. Гісторыя сама ў сабе не надта прывабная. Які перыяд гісторыі ні возьмеш, нецікава ён выглядае. Дастаткова зблізку глянуць на людзей, прачытаць іх шчырыя выказванні… Я маю ўжо так шмат гадоў, што канчаю даследчыцкі перыяд. Але памятаю, калі ўваходзіш у архіў, зазірнеш там у нейкую сакрэтную стэнаграму размоў, дзе прамаўляюць генералы, высокапастаўленыя ўраднікі — і ўбачыш, якімі словамі яны карыстаюцца… Гэта ж кашмар! Але гэта праўдзівая гісторыя.

Апошнім часам я цікавіўся партызанкай на тэрыторыі Беларусі і пастаянна сустракаў дакументы, якія не на машынцы набраныя, а напісаныя ад рукі. Яны даносяць праўду. Там сапраўдныя эмоцыі. Мы, як даследчыкі, павінны гэта выкарыстаць і перакласці гэта на мову, зразумелую для ўсіх. Але вынік можа быць і станоўчы, і адмоўны. Выбар залежыць ад таго, у чым заключаюцца патрэбы нацыі ў дадзены момант. Зразумела, што сёння ёсць праблема з самой беларускай нацыяй. Але я думаю, што гісторыя сучасных падзей адыграе таксама вялікую ролю. Гэта відавочна.

***Алег Латышонак:*** Калі зайшла размова пра архівы, то я падумаў, што без нармальнай дзяржавы мы гэтага ўсяго не зробім. Патрэбны дзясяткі і сотні дысертацый на тэмы, пра якія мы гаварылі. Тут маем толькі вузкі хранalагічны адрэзак, колькі пад сілу аднаму чалавеку зрабіць. Але адзін чалавек панарамы не створыць. Неабходны даследаванні ўсіх партызанскіх атрадаў, усіх збройных фармаванняў… Крыніцы для гэтага існуюць.

Я, напрыклад, з фільма Белсата даведаўся, як ваявала беларуская дывізія ў Адэсе. Але гэта тэма не для кароткага фільма, а для грунтоўнай дысертацыі. А дзе біяграфіі нашых дзеячаў? Не маем біяграфій нават прэм’ер-міністраў БНР. А што гаварыць пра іншых?! Ніводны вайсковец не стаў героем сур’ёзнай манаграфіі.

Я разумею, што мы павінны заахвочваць сябе да працы. Але ж гэтыя даследаванні мы не зробім без падтрымкі на дзяржаўным узроўні, без дзяржаўных інстытутаў. Гэта немагчыма. Напэўна, мы можам уплываць на грамадскае меркаванне і лічыць, што наша праца не прайшла марна. Тое, што мы нават малымі групкамі даследчыкаў сустракаліся, чыталі даклады, дыскутавалі, усё гэта якраз можа служыць матэрыялам для пабудовы міфа. Але асноўнае даследаванне гісторыі яшчэ перад намі.

***Яўген Мірановіч:*** Калі казаць па шчырасці, то мы павінны ведаць, што на наш адзін артыкул ёсць дваццаць артыкулаў, якія пашыраюць міфалогію іншых нацый, іншых палітычных цэнтраў.

***Алег Латышонак:*** Не дваццаць, а сто!

***Яўген Мірановіч:*** Магчыма, нават тысяча. Залежыць ад тэмы. Згаджаюся, што толькі дзяржаўныя структуры могуць вырашаць асноўныя задачы

гістарычных даследаванняў. Толькі дзяржава гэта можа вырашаць, і яна мусіць быць манапалістам у фармаванні міфалогіі. Сучасная дзяржава — найважнейшае дасягненне беларусаў. Раней ці пазней яна абавязкова стане сапраўды беларускай. Галоўнае, што інструмент ужо ёсць.

***Алег Латышонак:*** Шаноўныя калегі, прыйшоў час закрыць нашу дыскусію. Вельмі цешуся, што ў нас атрымалася сустрэцца і шчыра паразмаўляць. Аказваецца, нават анлайн-форма дае магчымасць абмену думкамі. Лічу, што наша сустрэча была надзвычай плённай, і спадзяюся, што ўсе мы яшчэ не раз сустрэнемся. Дзякую ўсім!

# ДАКУМЕНТЫ

## Pułkownik Aleksander Uspienski i jego wspomnienia o Pierwszym Białoruskim Pułku Piechoty w Grodnie

Biografia Aleksandra Arefjewicza Uspienskiego (1876–1951), pomimo jego niewątpliwych zasług dla białoruskiej wojskowości, nie doczekała się dotychczas opracowania w białoruskiej historiografii, podobnie sprawa wygląda z perspektywy litewskiej. O jednym z twórców litewskiego wojska, działającego na jego rzecz praktycznie od pierwszych tygodni jego tworzenia, wiemy niewiele, a wiedza ta ogranicza się praktycznie do oficjalnych zapisów z kariery A. Uspienskiego jako wojskowego.

Oprócz zasług na gruncie wojskowości dał się on poznać jako sprawny literat. W latach trzydziestych ukazały się trzy tomy jego wspomnień wojennych, które doczekały się kilku przekładów. Tom pierwszy „Na wojnie", wydany w Kownie w języku rosyjskim[1], doczekał się przekładu na język czeski[2] i litewski[3]. Potwierdza to, że książka okazała się ogromnym sukcesem wydawniczym, spotkała się z wieloma niezwykle pochlebnymi recenzjami zarówno zawodowych wojskowych (płk Vladas Skorupskis), jak i profesjonalnych literatów (Kazys Binkis). W przedmowie do kolejnej części swoich wspomnień A. Uspienski przywołuje wiele listów zawierających pozytywne opinie o jego książce, które napływały od przedstawicieli rosyjskiej emigracji z całego świata. Wstęp do litewskiego wydania książki napisał gen. Silverstras Žukauskas, który w okresie tworzenia Wojska Litewskiego, w grudniu 1918 roku krótko pełnił funkcję Ministra Obrony Kraju, a w okresie walk o niepodległość m. in. głównodowodzącego wojska i szefa Sztabu Generalnego.

W 1933 roku ukazały się dwa kolejne tomy wspomnień pod tytułem „W niewoli" obejmujące odpowiednio lata 1915–1916[4] i 1917–1918[5]. Czwarty tom wspo-

1 А. А. Успенский, *На войне. Восточная Пруссия — Литва. 1914–1915*, Каунас 1932.
2 A. Uspenskij, *„Ve válce" Východní Prusko — Litva r. 1914–1915: vzpomínky důstojník*a, Praha 1934.
3 A. Uspenskis, *Didžiajame kare. Lietuva — Rytų Prūsija 1914–1915 m. karininko atsiminimai su Didž. karo vaizdais ir kovų schemomis*, [Kaunas] 1935.
4 А. А. Успенский, *В плену. Воспоминания офицера,* ч. 1. 1915–1916, Kaunas 1933.
5 А. А. Успенский, *В плену. Воспоминания офицера*, ч. 2. 1917–1918, Kaunas 1933.

mnień „W Litwie" miał obejmować okres służby w Wojsku Litewskim i podobno był już w przygotowaniu, nie ukazał się jednak drukiem i na chwilę obecną nie udało się ustalić, na jakim etapie zatrzymały się prace nad nim. Do literatury wspomnieniowej należy zaliczyć również prezentowany czytelnikowi tekst „Pierwszy Białoruski Pułk w Grodnie i jak został rozbrojony przez Polaków. (1.XI.1918–17. VIII.1919)", który ukazał się drukiem w języku litewskim w 1925 roku w pierwszym tomie czasopisma „Karo archyvas" (Archiwum wojskowe)[6]. Możliwe, że na potrzeby oddzielnej książki autor miał zamiar przygotować jego szerszą wersję. W drugiej połowie lat trzydziestych w obliczu zbliżającego się dwudziestolecia niepodległej Litwy, wielu twórców litewskiej państwowości, a w szczególności wojskowości, pisało i publikowało swoje wspomnienia[7].

Prezentowany tekst jest, zdaje się, jedynym tłumaczeniem twórczości A. Uspienskiego na język białoruski. Chociaż publikacja w „Ranicy" nie zawiera informacji o samym autorze przekładu, to dzisiaj już udało się jego ustalić. Tłumaczenie wspomnień płk. A. Uspienskiego zostało wykonane przez mjr. Aleksandra Rużańcowa (1893–1966), który w czasie pierwszej okupacji sowieckiej i podczas okupacji niemieckiej, po zwolnieniu ze służby w Wojsku Litewskim, zaczął opracowywać materiały do dziejów białoruskich oddziałów w Wojsku Litewskim, wygłosił kilka wykładów w wileńskim Białoruskim Towarzystwie Naukowym, aktywnie współpracował zarówno z wydawaną pod okupacją prasą litewską, jak i białoruską (berlińska „Ranica" i wileński „Biełaruski Hołas")[8]. W ramach tego prywatnego projektu powstało m. in. tłumaczenie wspomnień („Успаміны з жыцця 1 Беларускага поўка ў Горадні (Gardinas) палкоўніка Літоўскага войска Лаўрэнцьева"[9]) i, zapewne, niniejszy tekst.

Przekład zasadniczo oddaje treść opublikowanego wariantu litewskiego, widać jednak znaczne ingerencje w tekst, zapewne ze strony redaktorów samej „Ranicy". Z tekstu usunięto wszelkie wzmianki o społeczności żydowskiej Grodna, która w litewskim tekście pojawia się dość często. W tym czasie szeroko dyskutowano kwestię żydowskiej autonomii kulturalnej w Litwie, a samych Żydów na równi z Białorusinami uważano za sojuszników we wzrastającym konflikcie z odradzająca się Polską.

„Ranica" była białoruskojęzyczną gazetą wydawaną w Berlinie od grudnia 1939 roku do marca 1945 roku przez Białoruskie Przedstawicielstwo, organizację pomocową funkcjonującą przy Ministerstwie spraw wewnętrznych Rzeszy Niemieckiej. Na jego czele, a zarazem na czele redakcji, stanął Fabian Akińczyc

---

6 A. Uspenskis, *I-as gudų pulkas Gardine ir kaip jis tapo lenkų nuginkluotas (1918.XI.1–1919. VIII.17)*, „Karo archyvas", 1925, p. 161–177.

7 A. Uspenskis, *Baltgudžių dalių veikla*, [w:] *Savanorių žygiai: Neprikalusomybės karų atsiminimai*, t. 1, red. P. Ruseckas, Kaunas 1937, p. 203–212.

8 Zob. A. Антонаў, *Аляксандр Ружанцоў: Накіды да біяграфіі*, „Беларускі гістарычны агляд" 2009, т. 16, сш. 2, с. 504–506.

9 Wersja litewska opublikowana jeszcze w 1923 r. Zob.: „Musų Žinynas" 1923, t. V, nr 15, p. 485–486.

(1886–1943), jeden z twórców powstałej w 1933 roku Białoruskiej Partii Narodowosocjalistycznej. Po delegalizacji partii przez władze polskie w 1937 roku, F. Akińczyc wyjechał do Berlina, gdzie zgromadził wokół siebie grupę kolaborantów współpracujących z władzami Rzeszy. Linia polityczna „Ranicy" opierała się na ścisłej współpracy z Rzeszą, stąd w niepodpisanym słowie wstępnym od tłumacza, odwołania do budowy Nowej Europy i roli w nim narodu białoruskiego.

Poza wspomnieniami płk A. Uspeński był autorem broszury „Jak należy uczyć żołnierzy strzelania. Praktyczne porady dla dowódców kompanii i plutonów", wydanej w 1926 roku, czyli jeszcze w czasie aktywnej służby w wojsku[10].

***

Zgodnie z dokumentami litewskimi Aleksander Uspienski urodził się 11 sierpnia 1872 roku w Wilnie, chociaż niektóre źródła podają również jako miejsce urodzenia miasto Galicz w guberni kostromskiej[11]. Na pewno w Wilnie spędził lata młodzieńcze, ukończył pięć klas Wileńskiego Seminarium Duchownego, jednak zamiast kariery prawosławnego duchownego wybrał karierę wojskową[12]. W dniu 6 sierpnia 1891 roku wstąpił jako ochotnik do 108. Saratowskiego Pułku Piechoty, skąd został skierowany na naukę do Wileńskiej Szkoły Wojskowej, którą ukończył 6 sierpnia 1894 roku w stopniu podchorążego i został skierowany na służbę do 106. Ufimskiego Pułku Piechoty. W dniu 13 sierpnia 1899 roku otrzymał stopień porucznika, a od 2 lutego 1900 roku został przeniesiony na służbę do dyslokowanego w Olicie 169. Nowotrockiego Pułku Piechoty. Od 18 października 1903 roku w stopniu sztabskapitana, od 3 października 1907 roku — kapitan. W dniu 12 lutego 1908 roku został przeniesiony do 106. Ufimskiego Pułku Piechoty. Służył w nim do rozpoczęcia działań wojennych, od 26 sierpnia 1914 roku w stopniu podpułkownika.

Podczas I wojny światowej uczestnik walk w Prusach Wschodnich, awansowany na pułkownika. 8 lutego 1915 roku w Puszczy Augustowskiej dostał się do niewoli i został osadzony w obozie jenieckim Gnadenfrei (aktualnie w granicach

---

10 A. Uspenskis, *Kaip turi būti mokomi kareiviai šaudyti. Praktiški patarimai kuopų ir būrių vadams*, Kaunas 1926.

11 Miasto Galicz guberni kostromskiej jako miejsce urodzin A. Uspienskiego widnieje przy jego biogramie (zgadza się również data, podana w nowym stylu 23 sierpnia) w popularnym serwisie genealogicznym geni.com (za tym portalem podaję dane biograficzne innych członków rodziny A. Uspienskiego). Z kolei wpisywanie do dokumentów Wilna czy innych miejscowości Wileńszczyzny i Grodzieńszczyzny, które po 1920 roku nie znalazły się w granicach Republiki Litewskiej było dość powszechnym zabiegiem stosowanym przez osoby pochodzące z innych części byłego Cesarstwa Rosyjskiego, mogło ułatwiać uzyskanie obywatelstwa litewskiego. W przypadku A. Uspienskiego proces naturalizacji został przeprowadzony zgodnie z ówczesnym prawem, po dziesięciu latach nieprzerwanego zamieszkiwania w Republice Litewskiej, czyli w roku 1928.

12 Jeżeli nie zaznaczono inaczej, podstawowe fakty z biografii A. Uspienskiego podaję za jego biogramem w słowniku oficerów Wojska Litewskiego: *Lietuvos kariuomenės karininkai 1918–1953*, t. X, Vilnius 2015, p. 112–113.

miasta Piława Górna w powiecie dzierżoniowskim, woj. dolnośląskie). W dniu 6 listopada 1918 roku został zwolniony z obozu i wrócił do Wilna, gdzie zaciągnął się jako ochotnik do Wojska Litewskiego. 1 grudnia został powołany na dowódcę formowanego 1. Białoruskiego Pułku Piechoty. Zgodnie z ustaleniami władz litewskich, 1. BPP w obliczu zagrożenia bolszewickiego został ewakuowany do Grodna, gdzie rozpoczęło się dalsze jego formowanie.

Od 16 stycznia 1919 roku płk. Uspienski był odpowiedzialny za szkolenie oficerów, a od 1 marca został bezpośrednim pomocnikiem dowódcy pułku. W czasie wyjazdu K. Jezawitawa z misją J. Šaulysa do Warszawy, przejął od niego obowiązki dowódcy pułku. Po rozbrojeniu pułku przez Polaków został aresztowany 22 sierpnia, po tygodniu udało mu się zbiec z więzienia i dostać do Kowna, gdzie został skierowany do rezerwy przy Komendanturze miasta Kowna. 1 września 1919 roku mianowany instruktorem 2 batalionu rezerwy piechoty.

W dniu 14 lutego 1920 roku potwierdzono jego stopień pułkownika z wojska rosyjskiego. 2 marca 1920 roku mianowany naczelnikiem Wyższych kursów oficerskich. Od 15 czerwca był kierownikiem dwumiesięcznych kursów oficerskich przy Kowieńskiej Szkole Wojskowej. 16 sierpnia 1920 roku po raz kolejny przeniesiony do rezerwy przy Komendanturze miasta Kowna i skierowany do Ministerstwa Spraw Białoruskich.

Po przyznaniu Wileńszczyzny Litwie przez litewsko-radziecki traktat pokojowy, 27 września 1920 roku mianowany na dowódcę formowanego w Wilnie Białoruskiego Samodzielnego Batalionu Piechoty. 8 października wraz z Batalionem ewakuował się z Wilna w obliczu zbliżających się oddziałów gen. Żeligowskiego. Po roku, 12 października 1921 roku, został odwołany z funkcji dowódcy batalionu i przeniesiony do Sztabu Generalnego i na służbę do Batalionu Dyscyplinarnego. 23 listopada — młodszy oficer 3. kompanii Miejscowej Brygady Wojska. 5 kwietnia 1922 roku został przeniesiony do Komendantury miasta Kowna. 25 sierpnia 1922 roku jako nieznający języka litewskiego i niedostatecznie odpowiedni do służby przeniesiony do rezerwy przy Komendanturze miasta Kowna.

W dniu 4 stycznia 1923 roku przeniesiony do Litewskiego Związku Strzelców i mianowany naczelnikiem Sztabu Partyzantów Litwy Wschodniej. Od 1 stycznia 1924 roku z powrotem w Wojsku Litewskim, został przeniesiony do 2. Pułku Piechoty i mianowany młodszym oficerem 5. kompanii, a po dwóch tygodniach starszym oficerem drużyny rozpoznania kawalerii.

Służbę w Wojsku Litewskim zakończył 6 marca 1926 roku, na własne zadanie został przeniesiony do rezerwy. Za służbę została mu przyznana emerytura oraz działka rolna, a w pierwszym paszporcie wydanym po otrzymaniu obywatelstwa litewskiego w rubryce zawód widnieje „rolnik”[13]. Chociaż, jak sam określił w podaniu o przyznanie obywatelstwa: „Aktualnie zajmuję się trochę

[13] Kauno regioninis valstybės archyvas, f. 66, b. 4787, l. 2; A. Uspenskio prašymas Piliečiu apsaugos departamento direktoriui, Kaunas, 08.06.1927; ibidem, A. Uspienskio paso kortelė, 11.01.1929.

gospodarstwem na swojej działce, trochę udzielam się w czasopismach «Karo archyvas» i «Kardas» (Miecz)”[14]. Po zakończeniu służby zamieszkał w Kownie. Nieznane są fakty udziału płk. A. Uspienskiego w białoruskim życiu Kowna, spotykamy go jednak wśród różnych rosyjskich inicjatyw, jak np. obchody stulecia śmierci Aleksandra Puszkina w 1937 roku. Angażował się również w działalność rosyjskiego teatru w Kownie, z czym związana jest sprawa dyscyplinarnego pozbawienia go aktem Prezydenta Republiki Litewskiej z 16 grudnia 1927 roku prawa do noszenia munduru Wojska Litewskiego, które zostało mu zwrócone 7 września 1937 roku.

Za służbę w wojsku rosyjskim został oznaczony medalami Św. Anny (3 stopnia), Św. Stanisława (2 stopnia z mieczami), Św. Włodzimierza (4 stopnia z mieczami); krzyżem Św. Jerzego 4 stopnia. W Litwie został nagrodzony Medalem Ochotników Twórców Wojska Litewskiego (lit. Lietuvos kariuomenės kūrėjų savanorių medalis). Oznaczenie to zostało założone w 1928 roku, i nadawane osobom, które w znacznym stopniu przyczyniły się do organizacji Wojska Litewskiego w latach 1918–1920.

Był żonaty z wilnianką Heleną Stankiewicz (ok. 1874–1919), z którą miał dwoje dzieci Tatianę (1899–1919) i Walentego (1901–1988)[15]. W Kownie mieszkał już z drugą żoną Emmą Gregori (1886–1974), pochodzącą z Suwałk Niemką (primo voto: Zagorskienė), z którą ożenił się 19 listopada 1928 roku[16]. W okresie okupacji radzieckiej aresztowany i więziony w Kownie (18 października 1940 roku). 27 marca 1941 roku wraz z żoną repatriował się do Niemiec i zamieszkał w Stuttgarcie. Tam zmarł 4 stycznia 1951 roku, pochowany na miejscowym Cmentarzu Centralnym.

**PhD Tomasz Błaszczak (Kowno)**

## А. Усьпеньскі. І-шы беларускі полк у Гародні й як палякі яго разброілі[17]

*Ад перакладчыка.* Аддзел ваеннае навукі Літоўскага Галоўнага Штабу пачаў у 1925 г. выдаваць журнал пад назовам „Вайсковы архіў”, які рэдагаваў маёр Стэпонайтіс.

---

14 Ibidem, l. 4; A. Uspienskio prašymas Vidaus reikalų ministeriui, Kaunas, 6.11.1928.

15 W ankiecie osobowej sporządzonej w 1926 roku twierdził, że żona Elena (l. 38) i syn Walentinas (l. 17) znajdują się w Rosji. W tej samej ankiecie podano, że ojciec Arefas pochodził z Wilna, a mama Elizawieta, z guberni grodzieńskiej. Ibidem, l. 11; Aleksandro uspienskio kvotos protokolas, Kaunas, 23.07.1926.

16 Ibidem, l. 28; Kauno Voskresenijos cerkvės metrikos pažymėjimas Nr. 284, 11.12.1928.

17 „Раніца”, 1942, № 44 (108), 22 лістапада, с. 3–4; № 46 (110), 6 сьнежня, с. 3; № 47–48 (111–112), 25 сьнежня, с. 2; 1943 г., № 1–2 (113–114), 10 студня, с. 6; № 4 (116), 24 студня, с. 3; № 5 (117), 31 студня, с. 3. Падрыхтоўка да друку і каментар Томаша Блашчака. Пры падрыхтоўцы былі выпраўлены найбольш відавочныя памылкі друку, а таксама папраўлена пунктуацыя.

У першай кніжцы гэтага „Вайсковага архіву" знаходзім цікавы артыкул палкоўніка Аляксандра Ўсьпеньскага пад назовам „І-шы беларускі полк у Гародні й як палякі яго разброілі" (1.XI.1918–17.VIII.1919 г.).

Артыкул мае гістарычна мэмуарны характар, гэта значыць, што аўтар, прытрымліваючыся точна аб'ектыўных гістарычных фактаў, ня мог, зразумела, устрымацца ад іх тлумачэння з свайго пункту гледжаньня, які ў іншага аўтара мог бы выглядаць інакш.

Зь вялікай асновай можна лічыць, што Горадзеншчына зьяўляецца, наагул, месцам, дзе пасьля сьветнае вайны 1914 до 1918 г. беларускі адраджэнскі рух меў раптоўны й вельмі выдатны ўздойм, які дзякуючы суседзтву й адносінам з палякамі й ліцьвінамі меў вялізарны водгук.

Беларусам трэба ведаць добра сваю нядаўную мінуўшчыну, каб кажны, хто кахае сваю бацькаўшчыну й ёсьць горды з сваёй прыналежнасьці да беларускага народу, мог карыстацца лекцыямі гісторыі пры сёньняшняй адбудове бацькаўшчыны, бяручы пры гэтым актыўны ўдзел у будове Новае Эўропы.

***

1 лістапада 1918 г. я вяртаўся зь нямецкае няволі на сваю бацькаўшчыну, у Вільню. Хаця немцы яшчэ былі ў літоўскай сталіцы, аднак літоўскі дзяржаўны сьцяг бесьперашкодна павяваў на праспэкце сьв. Юрага, над палацам дзяржаўнае тарыбы — рады (недалёка ад будынку былога расейскага саду)[18].

Вайсковыя літоўцы зьбіраліся ў сталіцу з Расеі, вярталіся асобныя літоўскія батальёны зь Віцебска, з Смаленска й іншых месц, дзе нараджаліся першыя клеткі гэтых аддзелаў. Вярталіся ваякі зь нямецкага палону й везьлі з сабой думкі аб самаўрадзе, аб адраджэньні, аб нацыянальнай незалежнасьці, якія сустрэлі на бацькаўшчыне радасны водгук.

Даведаўшыся аб арганізацыі літоўскага войска, я зьявіўся да палкоўніка (цяпер генэрал) Кубіліюса[19], як да начальніка штабу, зарэгістраваўся й адразу дастаў назначэньне ў Камісію па арганізацыі беларускіх вайсковых аддзелаў, а разам з гэтым і камандзерам першага батальёну І беларускага палка (загад № 5 § 5 1918 г.).

[18] З восені 1918 г. Літоўская Рада працавала ў былым палацы расійскага Вайсковага суда па праспекце Св. Юрыя, 13. Будынак быў пашкоджаны падчас Другой сусветнай вайны і канчаткова разбураны ў 1947 г. Зараз на яго месцы сквер на скрыжаванні вуліц Віленскай і Гедыміна (перад пабудаваным у 1952 г. будынкам на Гедыміна, 13).

[19] Юргіс Кубіліюс (Jurgis Kubilius) (1875, Германішкі (Armoniškiai) — 1961, Коўна) — літоўскі вайсковец, генерал (1926). Выпускнік Віленскага ваеннага вучылішча. Удзельнік расійска-японскай і Першай сусветнай войнаў. У 1917–1918 гг.— камандзір Літоўскага рэзервовага батальёна. З траўня 1918 г. у Вільні, з лістапада — начальнік штаба Міністэрства абароны і арганізатар Літоўскага войска. З 1919 г.— генерал брыгады, у 1919–1923 гг.— начальнік аддзела Генеральнага штаба, у 1923–1926 гг.— камандзір 3-й дывізіі пяхоты. З 1926 г. у рэзерве.

Спачатку было пастаноўлена зарганізаваць два беларускія й два літоўскія палкі[20]. Успаміны аб супольнай слаўнай гісторыі, калі ў працягу некалькіх стагодзьдзяў Беларусь і Літва складалі адну супольную, магутную дзяржаву давалі нам надзею, што яны стануць зноў хутка незалежнымі, й таму думка аб арганізацыі працы сустрэла з абыдвух бакоў вельмі падняты настрой.

Камандзерамі былі назначаны — літоўскіх палкоў ген. Гальвідзіс-Быкоўскі[21] й ген. Грыгалюнас-Главацкі[22], а I беларускага палка — палк. Лаўрэньцяў[23]. Яго полк павінен быў фармавацца ў Вільні. Другі беларускі полк так і застаўся толькі ў праекце.

Гарачая любоў да бацькаўшчыны падыймала дух ліцьвіноў, якія ў самых цяжкіх умовах стварылі маленечкае войска, якое хутка (1920) даказала гэтую любоў у сваёй адданай барацьбе з палякамі.

Беларусам не пашанцавала. Прычын да гэтага было многа. Аднэй з галоўных я лічу нявыкарастаньне важнага мамэнту, калі праз Вільню зь нямецкага палону йшлі адзін за другім транспарты з ахвіцэрамі й жаўнерамі,

[20] У лістападзе 1918 г. у Вільні пачалося фармаванне двух літоўскіх і двух беларускіх палкоў пяхоты. Першы праект-канцэпцыю структуры Літоўскага войска прапанаваў у снежні 1918 г. генерал Кіпрыян Кандратовіч (гл. спасылка 7). Літоўскія і беларускія часткі павінны былі суадносіцца на аснове колькаснага парытэту 2:1 (16–20 тыс. жаўнераў у літоўскіх частках і 8–10 тыс.— у беларускіх). Літоўскія часткі ўтваралі адну дывізію, а беларускія — брыгаду ў складзе: два палкі пяхоты (шэсць батальёнаў), артылерыйскі дывізіён (12 гармат у трох батарэях), кавалерыйскі полк (4 эскадроны) і рота сапёраў. Праект быў адхілены літоўскім бокам.

[21] Ёнас Гальвідзіс-Быкоўскі (Jonas Galvydis-Bykauskas) (1864, Дегесе, Вілкамірскі пав.— 1943, Коўна) — літоўскі вайсковец, палітык. Выпускнік Санкт-Пецярбургскага пяхотнага юнкерскага вучылішча (1886). Удзельнік расійска-японскай вайны. З 1915 г.— палкоўнік. Паранены пад Лоддзю, трапіў у нямецкі палон. З лістапада 1918 г. у Вільні, у студзені 1919 г. прызначаны начальнікам Ваеннай школы ў Коўне. У 1920–1922 гг.— дэпутат Устаноўчага Сейма Літвы (ад Уцянскай акругі), прадстаўнік фракцыі Літоўскага саюза фермераў. З 1926 г. у адстаўцы.

[22] Вінцас Грыгалюнас-Главацкі (Vincas Grigaliūnas-Glovackis) (1885, Езна — 1964, Тунха (Калумбія)) — літоўскі вайсковец, генерал. Выпускнік Віленскага ваеннага вучылішча (1907), служыў у Туркестане. З кастрычніка 1918 г. у Вільні, камандзір пяхотнага палка, удзельнік вайны за незалежнасць Літвы. У 1922–1925 гг.— начальнік Аддзела мабілізацыі Генеральнага штаба. Удзельнік дзяржаўнага перавароту 1926 г. З 1927 г.— генерал-лейтэнант, з 1934 г.— у рэзерве. У 1930 г. скончыў юрыдычны факультэт Універсітэта Вітаўта Вялікага, працаваў адвакатам. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, адтуль — у Паўднёвую Амерыку.

[23] Мікалай Лаўрэнцьеў (Mikas Lavrentjevas) (1865, Рагачоў –?). Выпускнік Магілёўскага рэальнага вучылішча (1882), уступіў ахвотнікам у расійскую армію. Выпускнік Кіеўскага ваеннага вучылішча (1886). З 1901 г.— капітан. Удзельнік расійска-японскай вайны, у 1907 г.— падпалкоўнік, пераведзены ў рэзерв. У час Першай сусветнай вайны быў кантужаны і трапіў у нямецкі палон. З кастрычніка 1918 г. у Вільні, першы камандзір I Беларускага палка, з сакавіка 1919 г.— інструктар Міністэрства аховы краю, старшыня Камісіі па прыёму нямецкай вайсковай маёмасці. Пазней служыў у інтэндантуры. З красавіка 1926 г.— у адстаўцы.

пераважна зь беларусамі з Меншчыны, Горадзеншчыны, Вільні, Віцебску, Магілева й іншых акругаў. Усе яны былі добрыя, кадравыя ваякі. Даведаўшыся, што арганізуецца беларускае войска, многія зь іх зьвярталіся ў наш штаб, каб уступіць у войска. Аднак-жа ў той час б. ваенны віцэ-міністр (у літоўскім урадзе — дапісак наш) ген. Кандратовіч[24] (паляк)[25] павёў справу так, што абурыў супроць сябе й ліцьвіноў і беларусаў. Беларусам, якія хацелі ўступіць у сваё войска, ён гаварыў, што няма грошаў, аружжа й г.д. Гэткім чынам праз Вільню праехала шмат вайсковых, якія супроць сваей волі апынуліся у шарэгах чырвонай арміі.

Другой прычынай маруднага фармаваньня беларускіх аддзелаў было маруджаньне з атрыманьнем дазволу на ўзбраеньне як беларусаў, так і ліцьвіноў. Нямала перашкаджала ў працы й тэрорыстычная дзейнасьць мясцовых бальшавікоў і палякоў.

З прычыны бальшавіцкае офэнзывы ў канцы сьнежня 1918 г. ген. Кандратовіч фармаваньне I беларускага палка перавёў у Горадню, а сам у хуткасьці быў заменены ген. Вэлікісам[26]. Палк. Лаўрэньцяў захварэў і застаўся ў Вільні, а замяніў яго я. Атрымаўшы інструкцыі, грошы, зь невялічкай жменькай ахвіцэраў я выехаў у Горадню[27].

---

[24] Кіпрыян Кандратовіч (1865, Зіновічы — 1932, Гародна). На ваеннай службе з 1875 г. Удзельнік расійска-турэцкай вайны 1877–1878 гг. У 1884 г. закончыў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба. З 28.03.1893 г.— палкоўнік. За ўдзел у падаўленні г. зв. „паўстання баксёраў" у Паўночным Кітаі (1900) атрымаў званне генерал-маёра. Быў паранены падчас расійска-японскай вайны, у якой атрымаў званне генерал-лейтэнанта. У 1910 г. Кандратовічу нададзена годнасць генерала ад інфантэрыі. Падчас Першай сусветнай вайны — удзельнік Усходнепрускай кампаніі. Пасля паразы — у адстаўцы. На службу вярнуўся ў 1917 г. як камандзір 75-й пяхотнай дывізіі. У 1917 г. на з'ездзе жаўнераў-беларусаў Заходняга фронту абраны ў Цэнтральную беларускую вайсковую раду. Адзін са стваральнікаў беларускага нацыянальнага войска. У другім урадзе БНР (Р. Скірмунта) — міністр абароны. У лістападзе 1918 г. прызначаны на пасаду віцэ-міністра абароны Літвы, на якой утрымаўся толькі месяц. У пачатку 1919 г. у Гародні, адкуль у лютым выехаў на Парыжскую мірную канферэнцыю. Пражыўшы некалькі гадоў у Францыі, вярнуўся ў набыты яшчэ да вайны маёнтак Гародна Лідскага пав.

[25] Дапіска „паляк" у літоўскім варыянце адсутнічае.

[26] Міколас Вялікіс (Mykolas Velykis) (1884, Ліняны, Панявежскі пав.— 1955, Вільня) — літоўскі вайсковы і грамадскі дзеяч. У 1902–1905 жыў у Іркуцку і працаваў на Забайкальскай чыгунцы, паступіў у Іркуцкае юнкерскае вучылішча. Выпускнік Віленскага ваеннага вучылішча (1907). Працаваў у вайсковай адміністрацыі. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Адзін са стваральнікаў Літоўскага войска, у снежні 1918 г.— начальнік аддзела Міністэрства аховы краю, з 24 снежня 1918 г. па 24 сакавіка 1919 г.— міністр аховы краю, пазней начальнік Генеральнага штаба. Са студзеня 1920 г. у рэзерве. У верасні вярнуўся на службу як камандзір пяхотнага палка. У 1921–1926 гг.— камандзір 2-й пяхотнай дывізіі. З 1927 г. у рэзерве. Потым працаваў у гандлі. У 1944 г. арыштаваны НКУС, асуджаны на 25 гадоў лагера і высланы ў Карлаг. У 1955 г. быў вызвалены. Памёр пасля вяртання на Радзіму.

[27] Прапушчаны фрагмент пра арганізацыю літоўскага штаба і работнікаў Міністэрства абароны Літвы.

З Горадні полк разаслаў па правінцыі сваіх хадакоў да беларускага жыхарства Горадзеншчыны з адозвамі, загадамі ды ўмовамі ўступленьня ў войска.

Ахвотнікаў зьбіралася ўсё больш і больш. У хуткасьці сфармавалася пяць страявых ротаў, падахвіцэрская школа й кулямётная каманда, а пры штабе палка палкавы суд. Казарма палка на Полацкай вуліцы[28] зрабілася цеснай, і тады нямецкія ўлады аддалі нам Аляксандраўскія казармы на пляцы Аляксандра-Неўскай царквы[29], недалёка ад палацу праваслаўнага япіскапа. У тым-жа самым часе ў Горадні сфармавалася й беларуская камэндатура, а пры ёй батальён і эскадрон. Кватэру камэндатуры даў япіскап Уладзімер[30] у сваім палацы[31]. Вышкаленьне маладых рэкрутаў адбывалася перад казармаю на пляцы сьв. Аляксандры Неўскага, там-жа адбываліся заняткі з старымі жаўнерамі й падрыхтоўка падахвіцэраў.

Недачакаўшыся абяцанага аружжа, пачалі яго скупляць, дзе толькі было можна, але гэтая справа йшла даволі марудна. У сакавіку 1919 г. мы мелі толькі 150 стрэльбаў, 3 кулямёты й 20 рэвальвэраў.

Горда глядзелі мясцовыя беларусы[32] на фармаваньне свайго войска. Палякі адносіліся з зглыгаю, а бальшавікі закідвалі полк сваімі дурнымі адозвамі й пагражалі нам хуткай расправай „зь літоўскімі белагвардзейцамі". Аднак-жа дух у палку быў настолькі добры й моцны, што жаўнеры самі выкрывалі бальшавіцкіх агітатараў і тых палякоў, якія праціснуліся ў нашыя шарэгі з мэтай вядзеньня польскае прапаганды. Гэткі нягодны элемэнт мы проста выкідалі з палка.

Тутака трэба было-б асьветліць чытачу палітычные абставіны, якія тады злажыліся ў Горадзеншчыне.

Ад сьнежня 1918 г. нямецкая акупацыя з прычыны вялікіх зьменаў у Нямеччыне блізу не адчувалася. Нацыянальная сьведамасьць, якая ўсё сільней узрастала, стварыла для беларускае інтэлігенцыі вельмі карысныя ўмовы працы. Яна энэргічна ўзяла ў свае рукі ініцыятыву скліканьня ў Горадні Зьезду прадстаўнікоў усяе Горадзеншчыны (у межах б. губэрніі). Гэтая

28 Правільна: вул. Палацкая. Зараз вул. Урыцкага.

29 Зараз пл. Тызенгаўза.

30 Уладзімір (Ціханіцкі) (1873, Быстрыца, Вяцкая губ.— 1959, Парыж) — праваслаўны святар, выпускнік Вяцкай духоўнай семінарыі (1893) і Казанскай духоўнай акадэміі (1898). З 1906 г. настаяцель Супрасльскага Свята-Благавешчанскага манастыра. З пачаткам Першай сусветнай вайны выехаў у Расію. У верасні 1918 г. вярнуўся ў Гародню і ўступіў у кіраванне Гродзенскай епархіяй. Прымаў актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці, сябра Гродзенскай губернскай беларускай управы. У 1922 г. адмовіўся прызнаць аўтакефалію Польскай Праваслаўнай царквы і быў адхілены ад кіраўніцтва епархіяй. У студзені 1923 г. быў вывезены з Гродна і пазней высланы ў Чэхаславакію. У 1925 г. прызначаны вікарыем цэркваў поўдня Францыі і настаяцелем праваслаўнага сабора ў Ніцы. З 1947 г.— мітрапалітэкзарх Заходнееўрапейскага экзархата Канстанцінопальскага Патрыярхату.

31 Зараз пад адрасам вул. М. Горкага, 2/2.

32 У літоўскім варыянце дадаткова „і частка жыдоў".

падрыхтоўка пачалася яшчэ ў ліпені 1918 г. Праца была спачатку вельмі цяжкой і адказнай. Часта ініцыятары пехатой абыходзілі самыя далёкія парахвіі, паветы, заходзілі ў самыя далёкія куткі, рабілі кансьпіратыўныя валасныя сходы й выносілі пастановы, выбіралі на Зьезд прадстаўнікоў, якім сходы давалі мандаты, па магчымасьці з подпісамі жыхароў усяе вёскі ці воласьці.

У гэткі спосаб з гэтымі мандатамі й пастановамі 1 сьнежня 1918 г. сабраліся ў Горадні дэлегаты амаль што з усяе губэрніі ў ліку каля 600 асоб з паветаў: Горадні, Беластоку, Саколкі, Берасьця, Слоніма, Ваўкавыску, Бельску, Пружаны[33]. Пасьля спраўджаньня мандатаў Зьезд урачыста адчыніўся.

Прадстаўнікі беларускае Горадзеншчыны станоўча й ясна заявілі сваю волю аб тым, што мясцовая (краёвая) ўлада павінна быць у рукох самога народу. Беспадстаўныя агрэсіі палякоў на Горадзенскі край змусілі Зьезд з асаблівай увагай затрымацца над справай абароны народнае свабоды. І вось тады, шукаючы сабе саюзьніка, Зьезд зьвярнуў увагу на Літву[34]. Зь ліцьвінамі беларусаў лучыла ня толькі супольная гістарычная мінуўшчына, прыязьнь, але й рэальныя эканамічныя карысьці й інтарэсы. Зьезд ужо ведаў аб тым, што 20 лістапада 1918 г. літоўскі ўрад у згодзе зь Віленскім Беларускім Камітэтам хацеў стварыць у сваім складзе Міністэрства беларускіх справаў[35]. Пасьля двухдзённых напружаных абрадаў, усебаковага абмяркаваньня й абгаварэньня гэтае справы 2 сьнежня 1918 г. Горадзенскі беларускі Зьезд, званы падаўнейшаму „Соймам", пастанавіў усю Горадзеншчыну ў межах б. губэрніі на шырокіх фэдэрацыйных асновах злучыць зь літоўскай рэспублікай, з захаваньнем собскага беларускага сойму[36]. Зьдзейсьненьне гэтае й іншых пастановаў Зьезд даручыў выбранай ім Горадзенскай Беларускай Управе[37].

У пачатку 1919 г. праца Ўправы была ў поўным ходзе. Стварылі валасныя ўрады, беларускія пачатковыя школы, рэальную гімназію ў Горадні. Беларускія хаўрусы й каапэратывы расьлі, як грыбы пасьля дожджу. Былі

---

33 У з'ездзе ўдзельнічалі 186 выключна праваслаўных дэлегатаў, з якіх больш за палову паходзілі з Гародні альбо павета.

34 Былыя гарадзенскія губернскія чыноўнікі шукалі кантакты з Літоўскай Радай яшчэ летам 1918 г.

35 Міністэрства беларускіх спраў літоўскага ўрада было створана 9 снежня 1918 г. (пачатак працы лічыўся з 1 снежня) у выніку перамоў паміж Літоўскай Радай і Віленскай беларускай радай, якія вяліся ў лістападзе 1918 г.

36 Рэзалюцыя з'езда: „Першы Гродзенскі Губернскі Беларускі З'езд, абмеркаваўшы ўсебакова палітычнае становішча губерні, выказаўся за тое, каб такое гістарычнае і надзвычайна важнае пытанне, як далучэнне губерні да той або іншай дзяржавы, было вырашана ўсім народам губерні шляхам рэферэндуму, але, беручы пад увагу захопніцкія планы Польшчы і не жадаючы да яе далучацца, выказаўся за далучэнне да Літвы на аўтаномных пачатках, калі яму будуць гарантаваны: унутранае самакіраванне, наша беларуская мова і школа".

37 Губернская беларуская ўправа праіснавала да лета 1919 г., калі была зліквідавана палякамі. Частка яе сяброў перабралася ў Коўна і спрабавала дзейнічаць пад шыльдай „Управы на выгнанні".

вызначаны начальнікі паветаў, выбраны, а ў іншых мясцох вызначаны судзьдзі. Справа бурліла, заціхшае ў часе вайны грамадзскае жыцьцё пачало ажыўляцца. З другога боку расла небясьпека ад бальшавікоў, якія ўжо акупавалі Вільню. З гэтае прычыны ваеннае міністэрства перабралася ў Коўню, а з прычын камунікацыйных зносіны зь ім скамплікаваліся, бо трэба было ехаць з Горадні празь Нямеччыну, дзе пачалі панаваць ужо спартакаўцы (бальшавікі). Дзеля сувязі міністэрства вызначыла кап. Гедрайтыса[38].

У лютым у Горадню прыбыў галоўны ўпаўнаважаны літоўскага ўраду сп. Аляксандра Жылінскі[39] з сваім сакратаром сп. Лазарайтысам (які ў 1937–39 гг. быў міністрам замежных справаў Літвы — дапісак пераклад.)[40], каб на месцы азнаёміцца з палітычнымі ўмовамі й абставінамі ў Горадні, а таксама даведацца аб асобах, якім было даручана фармаваньне беларускага палка, ды, між іншым, выясьніць пытаньне ягонае эвэнтуальнае эвакуацыі, калі-б гэта аказалася патрэбным. Галоўны ўпаўнаважаны зрабіў першы агляд беларускага палка ў Горадні. Казарма была аздоблена беларускімі й літоўскімі сьцягамі. Упаўнаважанага сустрэў камандзер 1 батальёну. Яму таварышылі міністр беларускіх справаў сп. Язэп Варонка[41], сакратар сп. Лаза-

---

[38] Баліс Гедрайціс (Balys Giedraitis) (1890, Рыга — 1941, Чэрвень) — літоўскі вайсковы і дзяржаўны дзеяч. Выпускнік Аляксееўскага ваеннага вучылішча (Масква, 1916). З чэрвеня 1918 г. у Літве, арганізатар Літоўскага войска, удзельнік вайны за незалежнасць. У 1920 г.— сябра дэлегацыі на мірных перамовах з савецкай Расіяй у Маскве і сябра Камісіі па літоўска-латышскім арбітражы. У 1923 г. скончыў Вышэйшыя вайсковыя курсы. У 1924–1927 гг.— ваенны аташэ ў Чэхаславакіі, у 1927–1930 гг.— у краінах Балтыі. У 1930–1934 гг.— міністр аховы краю, пазней працаваў у Канцылярыі прэзідэнта і Міністэрстве ўнутраных справаў. У траўні 1941 г. арыштаваны НКУС, 26 чэрвеня 1941 г. расстраляны ў Чэрвені.

[39] Аляксандрас Жылінскас (Aleksandras Žilinskas) (1885, Вейвэры — 1942, Крывашэйна) — літоўскі юрыст, грамадска-палітычны дзеяч. Выпускнік юрыдычнага факультэта Юр'еўскага ўніверсітэта. Удзельнік Вялікага віленскага сейма 1905 г. У незалежнай Літве — начальнік Марыямпольскага павета, у 1919 г.— Галоўны ўпаўнаважаны літоўскага ўрада па Гродзенскім краі. Пазней працаваў у Ковенскім акружным судзе, у 1928–1934 г.— міністр юстыцыі. Пазней працаваў у Коўне натарыусам. У чэрвені 1941 г. арыштаваны НКУС і высланы ў Томскую вобл.

[40] Стасіс Лазарайціс (Stasys Lozoraitis) (1898, Коўна — 1983, Рым) — літоўскі палітычны дзеяч і дыпламат. Выпускнік літоўскай гімназіі ў Варонежы (1918). З 1918 г. працаваў у Міністэрстве ўнутраных справаў Літвы, потым ў Канцылярыі ўрада. З 1923 г.— у Міністэрстве замежных справаў, у 1923–1929 гг.— працаваў у Берліне, у Ватыкане. З 1932 г.— начальнік палітычнага дэпартамента МЗС, у 1934–1938 гг.— міністр. З 1939 г.— пасол у Італіі. Пасля савецкай акупацыі Літвы і да 1983 г.— кіраўнік дыпламатычнай службы ўрада Літвы ў выгнанні.

[41] Язэп Варонка (1891, Кузніца, Сакольскі пав.— 1952, Чыкага) — беларускі палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст. Выпускнік Беластоцкай гімназіі, быў вольным слухачом юрыдычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта. У 1917 г. уключыўся ў палітычную дзейнасць. Сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый, камісар юстыцыі і ўнутраных справаў Вялікай беларускай рады, дэлегат Усебеларускага з'езда і старшыня яго Рады. У 1918 г.— першы старшыня Народнага сакратарыята Беларусі. У снежні 1918 — красавіку 1920 г — міністр беларускіх справаў Літоўскай Рэспублікі.

райтыс, ахвіцэр сувязі кап. Гедрайтыс, камандзер палка й іншыя. Упаўнаважаны абыйшоў усе роты, каманды, кухню, гутарыў зь некаторымі асобнымі жаўнерамі. Усе роты былі сабраныя й сп. Жылінскі сказаў да ахвіцэраў і жаўнераў гарачую прамову аб сучасных цяжкіх умовах жыцьця, заклікаў усіх да супольнае працы, да абароны Літвы й Беларусі ад ворагаў. У адказ на гэта доўга не змаўкалі воклікі нашых ваякоў „няхай жыве Літва й Беларусь", „валіё".

Пасьля аглядзінаў палка ўпаўнаважаны злажыў візыты беларускаму міністэрству, Горадзенскай Беларускай Управе, дзе яму былі прадстаўлены ўсе важнейшыя дзеячы, камэндатуры, розным беларускім установам і арганізацыям, а таксама й праваслаўнаму япіскапу Ўладзімеру. Усюды яго спатыкалі ветліва, з радасьцю, усюды ён меў магчымасьць пазнаёміцца зь мясцовымі абставінамі й справамі. Вечарам у залі гатэлю „Раяль"[42] адбылася супольная вячэра ў чэсьць літоўскіх гасьцей. Было сказана шмат гарачых і шчырых прамоваў з абыдвух бакоў аб беларуска-літоўскіх узаемных сымпатыях, традыцыйнай гістарычнай дружбе, супольнай працы й фэдэрацыі Літвы зь Беларусьсю.

Пасьля гэтых адведзінаў вязі беларуска-літоўскага еднаньня й даверу ўзмацнелі яшчэ больш, што было для нас вельмі карысным, бо нам тады пагражала небясьпека з захаду ад палякоў і з усходу — ад бальшавікоў, якія ўсё больш і больш пасоўваліся на Літву й Горадзеншчыну.

***

З трывогай сачылі беларусы, ці змогуць ліцьвіны абараніць незалежнасьць сваёй бацькаўшчыны й даць адпор бальшавіцкім бандам, якім тады ўжо ўдалося захапіць некалькі літоўскіх гарадоў і ваколіц. Кажную перамогу ліцьвіноў мы сустракалі з радасьцю. Хоць заняткі ў палку йшлі тады ў скарочаным тэмпе, але маладыя рэкруты прайшлі добра скарочаны курс страляньня. Трэба, аднак, сказаць, што фармаваньне палка спаткала шмат розных перашкодаў, асабліва-ж адчуваўся недахоп зброі й людзёў. Жаўнераў палка горадзенскай камэндатуры, якія былі высланы па паветах заклікаць моладзь да ўступленьня ахвотнікамі ў войска, палякі затрымлівалі й садзілі ў турмы, а палкавыя загады, адозвы й грошы нішчылі або рабавалі.

Польскія легіёнэры з гранатамі й стрэльбамі ўсё глыбей праціскаліся ў Горадзеншчыну, нападалі на гарады й сёлы, арыштоўвалі й зьбівалі сяброў валасных камітэтаў і Горадзенскага Зьезду й пагражалі ўсялякімі рэпрэсіямі беларусам, якія згаджаліся ўступіць у беларускую фармацыю.

---

Пазней рэдактар-выдавец расейскамоўнай штодзённай газеты „Вольная Литва". У 1923 г. з'ехаў у ЗША, жыў у Чыкага, вёў беларускія і расійскія праграмы на чыкагскім радыё, выдаваў газету „Белорусская трибуна". Адзін з заснавальнікаў Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады.

[42] Будынак гатэля „Раяль" захаваўся. Цяперашні адрас — вул. Гараднічанская, 20.

З другога боку, у самой Горадні мясцовыя бальшавікі пад уплывам зьбліжэньня бальшавіцкага фронту паднялі галаву, закідалі полк сваімі адозвамі, стараліся працісьнуцца ў нашыя казармы. У горадзе адбываліся мітынгі, на якія заклікалі й нашых жаўнераў.

Дысцыпліна ў немцаў, якія тады яшчэ былі ў Горадні, зусім упала. Нямецкія бальшавікі рабавалі й нападалі на мясцовых жыхароў. Аднае раніцы натоўп гэткіх бальшавікоў з стрэльбамі ўварваўся ў гатэль пры Саборнай вуліцы[43], дзе жылі ахвіцэры беларускага палка й пад відам рэвізіі ў трох ахвіцэраў адабралі грошы, гадзіньнікі й партсыгары. Праўда, нямецкія ахвіцэры ў той жа дзень прыслалі ахвярам гэтага нападу выразы свайго спачуцьця й грошы, але з усяго было відаць, што іхні аўтарытэт вельмі паў.

Бальшавіцкая пятля каля Горадні сьцягвалася ўсё вузей, і ў горадзе паўстаў трывожны настрой. Баяліся, што сувязь чыгункаю з Коўняй спыніцца. Аднаго сумнага дня беларускае міністэрства выехала ў Коўню, а зь ім разам выехаў туды й горадзенскі камандант сп. Дзямідаў[44].

Пад камандай палк. Лаўрэньцева полк вёў далей працу над умацаваньнем сваёй арганізацыі, вышкаленьня маладых ахвотнікаў, а адначасова нёс варту й падтрымоўваў парадак у горадзе. Зь вялікай падзякай я змушаны тут успомніць аб дапамозе, якую полк меў ад старшыні Горадзенскай беларускай управы[45]. Ён зрабіў і даў мне карту Горадзеншчыны, на якой адзначыў вёскі, дзе жылі сьведамыя беларусы й ліцьвіны, даваў нам пэўных людзёў і пасылаў зь імі свае адозвы й загады палка.

У гэты страшэнна адказны час у канцы сакавіка 1919 г. на месца палк. Лаўрэньцева за камандзера палка быў вызначаны пар. Езавітаў[46], як мне ка-

---

43 Маецца на ўвазе гатэль „Эўропа”, які стаяў на месцы ўнівермага „Нёман” на вул. Савецкай.

44 У літоўскім варыянце „сумна вядомы / сумнай памяці”. Мікалай Дзямідаў (1888, Гарадок — 1967, Чыкага) — беларускі вайсковы, грамадскі і палітычны дзеяч. Да Першай сусветнай вайны працаваў на чыгунцы і быў настаўнікам у Беластоку. У 1917 г. скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Пецярбургу. У сакавіку 1918 г. трапіў у нямецкі палон. Са снежня 1918 г. у Вільні, арганізатар Беларускага войска. Ад’ютант, потым начальнік штаба I Беларускага палка, з 31 студзеня 1919 г.— камендант Гародні. Арыштаваны польскімі ўладамі, пасля вызвалення — сябра Беларускай вайсковай камісіі, з восені ў арміі Ст. Булак-Балаховіча. У 1921–1922 гг.— настаўнік у Гарадку. Баючыся арышту, уцёк у Латвію, дзе працаваў настаўнікам у Дзвінску, потым у Рызе. У 1940 г. арыштаваны НКУС, у 1941 г. вызвалены. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускім школьніцтве Латвіі і Беларусі. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. З 1950 г. у ЗША.

45 У літоўскім варыянце згадваецца імя і прозвішча Яўгена Курлова.

46 Кастусь Езавітаў (1893, Дзвінск — 1946, Менск) — беларускі вайсковы, грамадскі і палітычны дзеяч. У 1916 г. скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і Паўлаўскае ваеннае вучылішча. У 1917 г.— намеснік старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, удзельнік Першага Усебеларускага з’езда. У 1918 г.— камендант Менска і гарнізона. Сябра Рады БНР, першы народны сакратар ваенных спраў БНР. З канца 1918 г. у Літве. 15 сакавіка прызначаны камандзірам I Беларускага палка. У верасні 1919 г. адхілены ад службы ў Літоўскім войску, працаваў у Міністэрстве беларускіх спраў. У 1919–1920 гг.—

залі, на прапазыку міністра беларускіх спраў сп. Варонкі. Дзеля розных непаразуменьняў, якія паўсталі ў палку, ваенны міністар вызначыў за камандзера палка сп. Антонава[47].

Бальшавіцкія абручы ўсё цясьней сьцягваліся каля Горадні, а ў самым горадзе мясцовыя бальшавікі злучыліся з спартакаўцамі. Дзеля гэтага й нямецкае камандаваньне рупілася вывесьці з гораду свае няпэўныя часткі. У рэзультаце дзеля падтрыманьня парадку ў горадзе застаўся прыблізна адзін батальён немцаў і 1 беларускі полк.

І вось бальшавікі пачалі сваю акцыю. Аднаго вечара нашыя й нямецкія дазоры даведаліся, што гэтай ноччу бальшавікі маняцца напасьць і абязброіць нас і немцаў, а ўладу захапіць у свае рукі. Мы даведаліся, што бальшавікі й спартакаўцы маюць ня толькі стрэльбы й гранаты, але й хуткастрэлы (кулямёты). Месца свайго сходу яны выбралі каля гатэлю „Рояль", скуль можна было добра абстрэльваць нашыя Александраўскія казармы, а наступаючы з двух бакоў, захапіць наш полк і нямецкі батальён. У той самы час меўся адбыцца напад на нашых вартаўнікоў у горадзе. Параіўшыся зь нямецкім камандаваньнем, мы апрацавалі супольны плян абароны, а яго зьдзейсьненьне было даручана мне й камандзеру нямецкага батальёну.

Напружаным тэмпам мы ўзяліся зараз-жа за працу. Каля спуску з Аляксандраўскага пляцу, дзе стаялі нашыя казармы (на Мар'інскім завулку, пры дзядзінцы б. губэрнскага архіву[48]) мы зрабілі акопы, а ў патрэбных месцах паставілі нашыя й нямецкія хуткастрэлы, узмоцнілі варту ў месьце, асабліва-ж каля турмы, зь якой бальшавікі маніліся выпусьціць усіх вязьняў, а апрача ўсяго, выслалі ў бок ворага патрулі.

Усю ноч нямецкія й беларускія ахвіцэры дыжуравалі ў акопах і ў сваіх казармах, а перад гэтым вечарам у месьце былі арыштаваныя ўсе больш-менш падазроныя бальшавіцкія агітатары. Гэтыя нашыя сродкі спынілі бальшавіцкія намеры захапіць уладу ў месьце.

Аднак-жа, ня гледзячы на гэта, Горадню усё-ж акупавалі палякі. Здарылася гэта так. У пачатку красавіка мы даведаліся, што дзеля барацьбы з бальшавікамі маршал Фош[49] вымагае, каб праз Горадню прапусьціць польскае войска.

---

кіраўнік Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. Застаўся ў Латвіі і працаваў настаўнікам. Быў лідарам беларускай меншасці ў Латвіі. У 1944 г. на Другім Усебеларускім кангрэсе абраны ў склад Беларускай цэнтральнай рады. У красавіку 1945 г. затрыманы СМЕРШ. Памёр ці расстраляны ў Менску.

47 Іван Антонаў (? –?) — з 1912 г. працаваў настаўнікам у Гародні. У званні палкоўніка служыў ў І Беларускім палку. У красавіку — чэрвені 1919 г. быў камандзірам палка. З 16 чэрвеня ў рэзерве. Быў арыштаваны палякамі, зняволены ў Кракаве і Беластоку. Пасля вызвалення нейкі час жыў у Коўне.

48 Зараз пл. Тызенгаўза, 2.

49 Фердынанд Фош (Ferdinand Foch) (1851, Тарб — 1929, Парыж) — французскі вайсковец, ваенны тэарэтык. Удзельнік франка-прускай вайны. Выпускнік Інжынернай афіцэрскай школы артылерыі і Акадэміі Генеральнага штаба (1887), пазней прафесар. З 1907 г.—

Хоць з сваёй горкай практыкі беларусы й ліцьвіны ведалі, што значыць прыход гэтых гасьцей, ведалі якія гвалты адбыліся ў Вільні, Беластоку, Бельску, Лідзе, Ваўкавыску й г.д. адносна беларусаў, калі палякі займалі гэтыя гарады, аднак-жа маленькая Літва была змушана згадзіцца з гэтымі дамаганьнямі саюзьнікаў.

На ноту літоўскага ўраду (№ 473 з II.IV.1919), каб нямецкае войска нейкі час засталося ў паўдзённай частцы Літвы, генэральны паўнамоцнік немцаў сп. Цыммэрле[50] адказаў, што Горадню трэба эвакуаваць і што гэта, апрача ўсяго, адказвае загаду маршала Фоша, які яшчэ 21.1.1919 г. дамагаўся свабоднага праходу (толькі „праходу" — зацемка аўтара[51]) праз Горадню для частак польскае арміі, каб адкінуць бальшавікоў, і што адмова нямецкага ўраду дазволіць палякам акупаваць гэтыя абшары зьяўляецца доказам таго, што нямецкі ўрад ня хоча ставіць бальшавіком якіколечы супраціў (нота паўнамоцнага прадстаўніка нямецкага ўраду ў Ліцьве сп. Цыммэрле (№ 507 з 14.IV.1919 г.). Праўда, у ноце гаварылася, што эвакуацыя Горадні й акупацыя яе палякамі яшчэ не вырашае самога пытаньня аб прыналежнасьці гэтых абшараў да тае ці іншае дзяржавы.

Перад самай акупацыей Горадні Беларуская Ўправа паслала па радыё да мірнай канфэрэнцыі ў Парыжу тэлеграму наступнага зьместу: "Беларуская Ўправа Горадзеншчыны, як выканальны орган мясцовае ўлады, просіць канфэрэнцыю ў Парыжу не перашкаджаць нямецкім войскам застацца ў Горадзеншчыне дзеля падтрыманьня парадку, пакуль не закончыцца фармаваньне беларускіх і літоўскіх вайсковых аддзелаў. Старшыня Беларускае Ўправы Горадзеншчыны В. Боеў[52]". Другая тэлеграма такога-ж зьместу была паслана беспасрэдна маршалу Фошу.

Выконваючы загады марш. Фоша, палякі, заняўшы станцыі Скідэль і Кузьніцу, зьбліжаліся да Горадні. Выходзячы з гораду, немцы ўзарвалі ўмацаваньні цьвярдніцы.

---

генерал-маёр. У пачатку Першай сусветнай вайны — каардынатар армій на поўначы Францыі, з мая 1917 г.— начальнік Генеральнага штаба. З сакавіка 1918 г.— каардынатар войск саюзнікаў на Заходнім фронце, з 6 жніўня — маршал Францыі. Адзін з арганізатараў ваеннай інтэрвенцыі ў савецкую Расію.

[50] Людвіг Цымэрле (Ludwig Zimmerle) (1867, Эльванген — 1925, Бад-Урах) — нямецкі юрыст і палітычны дзеяч, доктар юрыдычных навук. З лістапада 1918 г. па красавік 1919 г.— кіраўнік нямецкай цывільнай адміністрацыі Літвы. Пазней (да снежня 1919 г.) — нямецкі паўнамоцны прадстаўнік у Літве. Пасля вяртання ў Нямеччыну працаваў у юстыцыі.

[51] У літоўскім варыянце ў спасылцы.

[52] Усевалад Боеў (Vsevolodas Bojevas) (1885, Гродна — 1954, Чыкага) — грамадскі і палітычны дзеяч, юрыст, журналіст. Віцэ-старшыня Гродзенскай губернскай беларускай управы. Летам 1919 г. арыштаваны палякамі і вывезены ў Кракаў, пасля перабраўся ў Коўна. Ад студзеня 1921 г. па 1944 г.— адвакат у Коўне. Сябра Камітэта абароны Літвы, працаваў у Міністэрстве беларускіх спраў і МЗС Літвы. Супрацоўнічаў з газетамі „Эхо", „Lietuvos žinios", „Lietuva", „Lietuvos aidas", журналамі „Teisininkas", „Policija", „XX Amžius". У 1940 г. быў арыштаваны НКУС. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у ЗША, быў сакратаром Расійскага манархічнага клуба ў Чыкага.

Сумна выходзілі тады немцы з Горадні, але й беларусам было ня весела глядзець на іхні выхад, бо ў жыхароў зь немцамі ўстанавіліся, асабліва ў апошнім часе, добрыя адносіны. Што маглі нам даць польскія акупанты? Прыкрыя весткі аб гаспадараваньні іх у раней занятых абшарах дайшлі й да Горадні.

Ахову горада й падтрыманьне нутраного парадку ў ім нямецкае камандаваньне, пакідаючы Горадню, перадало беларускаму палку.

***

Камандзер палка пар. Езавітаў у той час выехаў у Варшаву зь беларускалітоўскай камісіей[53], на чале якой стаяў палкоўнік французскай арміі Рэбуль[54], а я быў вызначаны часова камандавяць палком (загад № 73 § 4) і начальнікам горадзенскага гарнізону (тэлефонаграма ваеннага міністра). Найадказьнейшым месцам варты былі: турма, вакзал, электроўня й патруляваньне па горадзе. У сувязі з зблiжэньнем польскага войска настрой палякоў у горадзе падымаўся. Яны пачалі распаўсюджваць па горадзе розныя плёткі[55]. У горадзе й павеце знайшліся людзі, якія, прыкрываючыся быццам атрыманымі загадамі польскага ўраду, распачалі самаволю. Былі прыпадкі, калі гэтыя „рыцары спад цёмнае зьвязды", апранутыя ў форму польскіх легіяністых, проста грабілі насельніцтва[56], чуючы, што ніякае адказнасьці за гэта яны несьці ня будуць і ніякае кары не дастануць.

Тут ахову бясьпечнасьці жыхароў гораду пераняў на сябе 1 беларускі полк. Я даў загад гарнізону, што віноўныя ў распаўсюджваньні плётак і іншых непраўдзівых вестак будуць адказваць перад ваенным судом паводле законаў ваеннага часу. Гэты загад зрабіў добрае ўражаньне. На аснове жалабаў жыхароў аб самаволі, якія складаліся ў штаб палка, былі высыланы ў горад і павет адпаведныя каманды, якія затрымоўвалі буяноў і разбойнікаў і да суду замыкалі іх у турмы. Гэткім чынам удалося падтрымаць парадак і адвярнуць анархію.

У тую пару можна было яшчэ тэлефанічна паразумецца з Коўняй, і я асабіста данёс міністру абароны сп. Мэркісу[57] аб палажэньні ў Горадні. На пытань-

---

[53] Маецца на ўвазе літоўская дыпламатычная місія ў Варшаву (16 красавіка — 23 траўня 1919 г.) пад кіраўніцтвам Юргіса Шаўліса (1879–1948). Яе сябрамі былі М. Вялікіс, К. Езавітаў і Владас Даўмантас.

[54] Селестын Рэбуль (Celestin Alexandre Reboul) (1882, Тулон –?) — французскі вайсковец. У лютым 1919 — верасні 1920 г.— кіраўнік Французскай ваеннай місіі ў Літве, якая між іншым збірала інфармацыю для МЗС Францыі пра палітычнае становішча.

[55] У літоўскім варыянце згадваюцца плёткі пра „падрыхтоўку жыдоўскіх пагромаў".

[56] У літоўскім варыянце „беларускае і жыдоўскае насельніцтва".

[57] Антанас Мяркіс (Antanas Merkys) (1887–1955, Уладзімірская вобл.) — літоўскі юрыст, дзяржаўны дзеяч, вучыўся ў Юр'еўскім універсітэце, скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1918). Служыў у Літоўскім войску. Тройчы міністр аховы краю (1919 і 1926–1927). У 1927–1932 гг.— губернатар Клайпедскага краю, у 1934–1939 гг.—

не міністра, ці мог-бы полк з аружжам у рукох даць адпор палякам пры іх уступленьні ў горад, я расказаў аб палажэньні палка, аб нястачы аружжа, аб тым, што трэба шмат жаўнераў вызначаць на варты й высылаць на патрульную службу, чаго няможна зьменьшыць, бо ад гэтага магло-б пацярпець жыхарства гораду, дзеля чаго, каб бараніць горад ад палякаў, патрэбна дапамога зь іншых абшараў Літвы. Калі выясьнілася, што палякі хутка маюць прыйсьці ў Горадню й што мясцовыя палякі варожа настроены адносна беларусаў, ваенны міністар даў загад палку рыхтавацца да пераходу ў Марыямпаль.

Я ўжо быў загадаўшы палку выступаць з Горадні, аднак, калі аб гэтым даведаліся ў горадзе, дык у штаб палка пачалі зьбягацца мясцовыя беларусы й наагул прадстаўнікі розных арганізацыяў і прасіць, каб полк не пакідаў Горадню на ласку надыходзячых палякоў і сьляпога лёсу. Усе казалі, што полк будзе адзінай абаронай беларусаў і наагул жыхарства[58] гораду ад польскіх гвалтаў, як ён да гэтай пары бараніў усіх ад бальшавікоў.

Просьбы ўстаноў, беларусаў і іншага насельніцтва гораду я далажыў ваеннаму міністру Мэркісу тэлефонічна. Язэпа Варонкі ў той час ані ў Горадні, ані ў Коўні ня было. У хуткасьці я дастаў новы загад: полк мае застацца ў Горадні й яму на падмогу пасылаецца адна ці дзьве роты літоўцаў.

Гэта было зусім справядліва й натуральна, што родны беларускі полк заставаўся ў сваім горадзе ў той час, калі праз горад павінна было праходзіць чужое польскае войска на змаганьне з бальшавікамі.

У тую пару адбываліся заўзятыя баі палякоў і ліцьвіноў з бальшавікамі. Ген. Жукоўскі[59] на чале маладога літоўскага войска памысна вёў барацьбу з бальшавікамі й ачышчаў ад іх Літву.

Зь беларускага палка ў Горадні была выдзелена невялікая частка (зь 5 роты) і пад камандаю палк. Міхайлоўскага[60] выслана ў Коўню як асноўная кадра дзеля арганізацыі беларускага палка тамака.

---

бурмістр Коўна. Восенню 1939 г. — паўнамоцны прадстаўнік урада ў Віленскім краі. У 1939–1940 гг. — апошні прэм'ер-міністр незалежнай Літвы. 17 ліпеня 1940 г. арыштаваны НКУС. Вызвалены ў 1954 г. без права вяртання ў Літву.

58 У літоўскім варыянце „беларускіх і жыдоўскіх жыхароў".

59 Сільвястрас Жукаўскас (Silvestras Žukauskas) (1860, Давайнішкі — 1937, Коўна) — расійскі і літоўскі генерал. У 1884 г. скончыў Віленскае ваеннае вучылішча, у 1903 г. — Кіеўскае артылерыйскае вучылішча. Служыў у пяхотных палках на тэрыторыі сучасных Літвы і Украіны. Удзельнік расійска-японскай і Першай сусветнай войнаў. У 1911 г. атрымаў званне палкоўніка, у 1916 г. — генерал-маёра. У снежні 1918 г. — міністр абароны краю, пазней —начальнік Генеральнага штаба. У 1919–1920 г. — Вярхоўны галоўнакамандуючы Літоўскага войска. З 1921 г. у адстаўцы. У 1923–1928 гг. — ізноў Вярхоўны галоўнакамандуючы.

60 Уладзімір Міхалоўскі (Vladimiras Michalovskis) (1865, Коўна –?) — выпускнік Віленскай вайсковай школы (1885), з 1904 г. — капітан. Падчас Першай сусветнай вайны — удзельнік Усходнепрускай кампаніі, дзе быў двойчы паранены. З 1917 г. — палкоўнік. У сакавіку 1919 г. уступіў у Літоўскае войска, у лістападзе пацвердзіў званне палкоўніка. З сакавіка 1920 г. у адстаўцы па ўзросце.

Яшчэ раней у Коўню быў камандыраваны капітан беларускага палка сп. Казлоў[61] дзеля сувязі палка з міністэрствам абароны. Кап. Казлоў пры беларускім бюры сфармаваў дзьве роты зь беларусаў ахвотнікаў. Спачатку яны былі пад камандаю палк. Міхайлоўскага, а потым маёра Ружанцова й бралі ўдзел у баёх з бальшавікамі. Аб баёх гэтых дзьвюх рот маёр Ружанцоў падрабязна пісаў у артыкуле „Частка беларускага войска ў Ліцьве", які зьмешчаны ў літоўскім журнале „Musu Zininas" за 1921 г. у № 2[62].

З узростам польскае інвазіі на ўсходзе Горадня стала напаўняцца наплывовым польскім элемэнтам, ахвіцэрамі польскага генэральнага штабу, якія дзеля сваёй аховы мелі розныя пасьведчаньні пераможніцы Антанты. У горадзе зьявіліся таксама й францускія ахвіцэры. Знаёмячыся зь мясцовымі грамадзкімі дзеячамі й з ахвіцэрамі беларускага палка, французы запэўнялі ўсіх у добрых намерах Польшчы абараніць сваіх менш зарганізаваных суседзяў ад бальшавіцкае навалы. Тымі-ж днямі ў Горадню прыбыў упаўнаважаны польскага генэральнага штабу палк. Нямірскі[63], які затрымаўся ў гатэлю, у якім жылі й ахвіцэры беларускага палка. Тут ён пазнаёміўся з начальнікам штабу нашага палка Шчэрбай-Равічам[64] і начальнікам гаспадарскае часткі палка Юшкевічам[65] і пачаў запэўняць іх, каб яны ўплылі на мяне, данесьці ў Коўню, каб беларускі полк не спраціўляўся ўступленьню польскіх войскаў у Горадню, бо нятрэба бяз прычыны праліваць крыві, а наадварот, трэба разам бараніцца ад бальшавікоў, каб літоўскае й польскае войска змагаліся ў кантакце між сабой ня толькі ў Горадзенскім, але й Ковенскім раёнах. Апрача таго, супакой патрэбны й дзеля падтрыманьня парадку ў горадзе. Ён параіў нам усё гэта напісаць у форме ўмовы.

Ахвіцэры Шчэрба-Равіч і Юшкевіч перадалі мне падрабязна аб сваім знаёмсьцьве й аб прапановах палк. Нямірскага. Я згары заявіў маім ахвіцэрам, што магу гутарыць з палякамі толькі пры ўмове, каб яны прызналі належнасьць беларускага палка да літоўскага камандаваньня й літоўскага ўраду й каб яны ня ўмешваліся ў нутраное жыцьцё палка. Палк. Нямірскі

---

61 Віталь Казлоў (1896, Невель –?) — выпускнік Канстанцінаўскага артылерыйскага вучылішча (Пецярбург, 1917). Са студзеня 1919 г. у Літве, малодшы афіцэр I Беларускага палка. З лютага — кіраўнік Беларускага ваеннага бюро ў Коўне. З 1919 г.— капітан. Служыў у тэхнічных і інжынерных войсках. У 1929 г. прыняў літоўскае грамадзянства, з 1930 г.— маёр. Службу ў Літоўскім войску завяршыў у траўні 1939 г. Далейшы лёс невядомы.

62 A. Ružancovas, *Gudų kariuomenės dalys Lietuvoje*, „Mūsų Žinynas" 1921, nr 2, p. 96–104.

63 А. Успенскі пераблытаў прозвішча палкоўніка Адама Нянеўскага (1886–1947).

64 Павел Равіч-Шчэрба (1881 –?) — вайсковец, выпускнік Віленскага пяхотнага юнкерскага вучылішча (1905). З 1 лютага 1919 г.— начальнік штаба I Беларускага палка. Пасля расфармавання перайшоў на польскі бок.

65 Вінцэнт Юшкевіч (Vincas Juškevičus) (1894 –?) — вайсковец, удзельнік Першай сусветнай вайны. З 1 снежня 1918 г. у I Беларускім палку. З чэрвеня 1919 г. у адстаўцы. Жыў у паўднёвай Літве. Пасля Другой сусветнай вайны падтрымліваў антысавецкую партызанку, за што ў 1947 г. быў арыштаваны. У 1948 г. асуджаны на 7 гадоў і адпраўлены ў Томлаг. Вызвалены ў 1954 г.

з усім гэтым згадзіўся й абедзьве стараны ў хуткім часе апрацавалі праект умовы. Перад тым я ў гэтай справе раіўся з юрыстымі. В. Боевам і В. Вікерам[66]. Праект умовы я зараз-жа далажыў тэлефонічна ваеннаму міністру й паінфармаваў яго аб усіх прапазыках польскага галоўнага камандаваньня.

Прыпамінаю галоўныя пункты гэтага праекту.

1. Першы бел. Горадзенскі полк зьяўляецца неадлучнай часткай літоўскае арміі й падлягае літоўскаму камандаваньню і ўраду;
2. Польскае камандаваньне прызнае тэрытарыяльную незачэпнасьць палка, г.з. ня мае права ўмешвацца ў нутраное жыцьцё палка;
3. Толькі ў прыпадку абароны Горадзенскага раёну ад наступленьня бальшавікоў полк падлягае каманданту Горадзенскае крэпасьці, прычым галоўнае камандаваньне польскае арміі ня мае права вымагаць, каб полк выконваў ваенныя заданьні за межамі Горадзенскае крэпасьці;
4. Па загаду літоўскага галоўнага камандаваньня полк можа ў любым часе выйсьці з Горадні;
5. Польскае камандаваньне не павінна перашкаджаць палку даставаць зь міністэрства абароны з Коўні аружжа, амуніцыю, грошы й г.д.
6. Польскае камандаваньне не павінна перашкаджаць фармаваньню палка, г. зн. вэрбаваньню ў раёне Горадні ахвотнікаў, куплі коняў, перавозных сродкаў, прадуктаў і г.д.

Дастаўшы тэлефонічна гэтыя ўмовы, міністр абароны доўгі час мяркаваў, мяняў рэдакцыю пунктаў, даваў новыя праекты, а ўрэшце з умовай згадзіўся, загадаўшы дадаць да яе яшчэ два пункты: 1) полк далей нясе варту й ахову парадку ў горадзе[67], 2) полк мае магчымасьць заўсёднае тэлефонічнае й тэлеграфічнае сувязі з Коўняй.

Гэткім чынам увечары таго самага дня была напісана й падпісана абедзьвюмя старанамі ўмова, якая давала беларускаму палку поўную гваранцыю аховы сваёй незалежнасьці ад палякоў і магчымасьць абараняць Горадню ад бальшавікоў, зь якімі ў той час ішлі змаганьні на паўдзённых межах Літвы, а, таксама рэпрэзэнтаваць жыхароў у часе, пакуль праз Горадню пройдзе польскае войска.

У той час, г.з. 25 красавіка ў Горадню прыбыў, згодна з загадам Рады Міністраў галоўны ўпаўнаважаны літоўскага ўраду сп. А. Жылінскі. Даведаўшыся аб умове, якая зь ведама й згоды ваеннага міністра была зроблена з прадстаўніком польскага камандаваньня палк. Нямірскім, ён спраўдзіў зьмест умовы, пагутарыў тэлефонічна з ваенным міністрам, які таксама пацьвердзіў яму йснаваньне гэткае ўмовы, пасьля чаго далажыў аб усім гэтым старшыне Рады Міністраў, пераслаўшы яму копію ўмовы.

[66] В. Вікер — гарадзенскі адвакат. Болей звестак не знойдзена.

[67] У літоўскім варыянце дадаткова: „Гэтым чынам будуць забяспечаны інтарэсы мясцовага беларускага і жыдоўскага жыхарства".

***

25. IV. увечары ў генэральнага ўпаўнаважанага літоўскага ўраду была склікана нарада з галоўных беларускіх дзеячоў — старшыні Беларускае Ўправы Горадзеншчыны Курлава[68], віцэ-старшыні Боева, сяброў літоўскае дзяржаўнае рады (тарыбы) ад насельніцтва Горадзеншчыны — пратаерэя Я. Корчынскага[69] й др. Бялецкага[70] ды інш. У часе гэтае нарады было сьцьверджана агульнае жаданьне жыхарства, каб беларускі полк астаўся ў Горадні ў часе пераходу польскага войска. Зараз-жа пасьля нарады літоўскі ўпаўнаважаны зноў гутарыў тэлефонічна з ваенным міністрам, які йзноў пацьвердзіў, што 1 беларускі полк і камандатура застаюцца ў Горадні, а беларускі эскадрон, які быў пры камандатуры, мусіў перайсьці ў Друскенікі й заняць мост на Нёмане насупроць с. Мізюры, а ў Друскеніках адчыніць камандатуру. Гэтыя загады ўпаўнаважаны асабіста перадаў камандзеру эскадрону, й праз некалькі дзён беларускі эскадрон перайшоў у раён Друскенікі — Мізюры.

Па ўсіх гэтых нарадах, спатканьнях, мяркаваньнях 26.IV. ад ваеннага міністра быў атрыманы гэткі загад: „Тэлефанаграма № 288, Горадня. 25.IV.1919 г., 10 гадз. 20 хв. Камандзеру беларускага палка. 1. Палку з усёй маёмасцю заставацца ў Горадні. 2. Калі ў крытычным часе немагчыма будзе тэлефанічна паразумецца з Коўняй, дык камандзер палка паступае паводле свайго разуменьня. 3. Калі палякі не справакуюць, дык ваеннай акцыі не пачынаць. 4. Пры ўступленьні палякаў трымацца асьцярожна. Прыняць сродкі абароны. 5. Камандатура й полк дзеюць у кантакце. 6. Камандант застаецца на месцы й як да гэтай пары працуе далей. Ваенны міністар Мэркіс".

Вярнуўшыся з Варшавы, камандзер палка Езавітаў прачытаў гэты загад у прысутнасьці ўсіх ахвіцэраў палка, камандатуры і ўрадоўцаў. Праз два дні ён аканчальна выехаў у Коўню й да сваіх абавязкаў у палку больш не вяр-

---

68 Яўген Курлоў (1876, Варшава — 1919, Навасёлкі) — літаратар, грамадскі дзеяч. Выпускнік маскоўскай гімназіі імя Паліванава. Публікаваўся з 1899 г. Разам з А. Альвінгам заснаваў выдавецтва „Жатва". У снежні 1918 г. абраны старшынёй Гарадзенскай губернскай беларускай управы. Застрэлены ва ўласным маёнтку рабаўнікамі.

69 Іван Корчынскі (1885, Кіеў — 1935, Аліта) — праваслаўны святар. Выпускнік Кіеўскай духоўнай семінарыі. З 1900 г. жыў у Гародні. З 1904 г.— протаіерэй Барысаглебскага манастыра. Падчас Першай сусветнай вайны далучыўся да беларускага руху. З 1919 г. пачаў уводзіць у літургію беларускую мову, служыў капеланам І Беларускага палка. 4 красавіка 1919 г. быў кааптаваны ў склад Літоўскай Рады. Летам 1919 г. арыштаваны палякамі і вывезены ў Кракаў. З 1920 г. у Коўне, у 1923–1929 гг.— старшыня Рады Літоўскай Праваслаўнай епархіі. У 1926–1935 гг.— праваслаўны капелан Літоўскага войска.

70 Канстанцін Бялецкі (1874, Лунна — 1926, Гародня) — лекар, беларускі палітычны дзеяч. Выпускнік Пецярбургскай ваеннай медыцынскай акадэміі (1899). Пасля заканчэння службы у Гародні лекарам 102-га пяхотнага палка. Падчас Першай сусветнай вайны — лекар на фронце, быў паранены. Летам 1918 г. вярнуўся ў Гародню. У студзені 1919 г. лекар І Беларускага палка, сябар Гарадзенскай губернскай беларускай управы. 4 красавіка 1919 г. кааптаваны ў склад Літоўскай Рады. Летам 1919 г. арыштаваны палякамі і вывезены ў Кракаў. Пасля вяртання — адзін з беларускіх дзеячаў у Гародні.

нуўся, а на ягонае месца за камандзера палка быў вызначаны палк. Антонаў.

У той самы дзень у прысутнасьці сяброў літоўскае дзяржаўнае рады (тарыбы) ад беларусаў Я. Корчынскага й Бялецкага ўпаўнаважаны Літвы сп. А. Жылінскі ад імя літоўскага ўраду ўручыў польскаму ўпаўнаважанаму й камандзеру польскіх войскаў у Горадні палк. Нямірскаму пратэст наступнага зьместу:

“Камандзеру польскіх войскаў у Горадні.

Уступленьне польскіх войск у Горадню змушае ўрад літоўскае дзяржавы ўручыць гэтую заяву:

1. Бяручы пад увагу, што Горадзеншчына паводле сваіх палітычных, эканамічных і гістарычных традыцыяў заўсёды ўваходзіла ў склад Літвы;
2. Ані перад, ані пасьля Люблінскае вуніі ні польскае войска, ні польскія ўраднікі ня мелі права без дазволу літоўскага ўраду прыяжджаць і прабываць у Ліцьве;
3. Бяручы пад увагу жаданьне беларускага насельніцтва былой Горадзенскай губэрніі, якое было выразна выяўлена на ўсегубэрнскім Беларускім Зьезьдзе (Сойме) ў Горадні 1–2 сьнежня 1918 г. й даведзена да ведама літоўскай дзяржаўнай рады (тарыбы) й старшыні рады міністраў у Коўні ўселітоўскай канфэрэнцыі;
4. Бяручы пад увагу, што польскае войска, уступаючы ў межы былой Горадзенскай губэрніі, мае не адно толькі стратэгічныя намеры, калі вядзе за сабой і гвалтам настаўляе цывільную ўладу, што рашуча пярэчыць міжнародным звычаям і правам вайны;
5. Польскае войска ўступае ў Горадзеншчыну бязь ніякае згоды, ці ўмовы між літоўскім і польскім урадам,— бачучы ў самаўпраўнай акупацыі часьці літоўскае тэрыторыі нарушэньне сувэрэннасьці Літвы, літоўскі ўрад заяўляе свой рашучы пратэст і ўсю адказнасьць за вынікі ўскладае на польскі ўрад.

Ал. Жылінскі

Надзвычайны ўпаўнаважаны Часовага

Ўраду Літвы дзеля Горадзеншчыны

Горадня, 26 красавіка, 1919 г.”

Упаўнаважаны польскага ўраду абяцаў гэты пратэст літоўскага ўраду перадаць свайму ўраду.

У гэткіх абставінах польскае войска ўступала ў Горадзеншчыну. На дамох палякоў і на дамох нешматлікіх спалянізаваных беларусаў[71] і жыдоў зьявіліся польскія сьцягі й арлы. Над штабам палка, на казармах і на будынку камандатуры мы паднялі толькі беларускія й літоўскія сьцягі.

[71] У літоўскім варыянце згадваюцца прозвішчы Алексюка і Вернікоўскага.

Беларускі полк і мясцовыя беларусы[72] сустрэлі палякаў з устрыманаю лёяльнасьцю. У першыя дні й польская ўлада лёяльна трымалася адносна жыхароў і беларускага палка. У першыя тры дні на польскія балі ў замку, у сувязі з уступленьнем палякаў у Горадню, былі запрашаны й частаваны прадстаўнікі насельніцтва, беларускіх устаноў, духавенства й беларускага палка. У горадзе былі расклеяны й распаўсюджаны адозвы аб тым, што „мы (г. зн. палякі) прыйшлі сюды не дзеля заваяваньня, але каб ратаваць вас ад бальшавікоў. Так як да гэтага часу вы былі тут гаспадарамі, так і застанецеся надалей і будзеце працаваць толькі на сваю, а не на чужую карысьць" і г.д.

Ген. Фалевіч[73], камандант Горадзенскае крэпасьці прыехаў у беларускі полк, каб пазнаёміцца зь ім. Яшчэ перад прыходам палякаў у Горадню полк з Аляксандраўскіх казармаў перайшоў у сапэрныя казармы, якія былі лепшыя й вялікшыя. У ранейшых пакінулі толькі пакой дзеля прыйма й амбуляторыю, а на Палацкай вуліцы застаўся палкавы суд й нестраявая каманда. Палк. Антонаў прадставіў свой полк ген. Фалевічу. Генэрал аглядзеў чатыры страявыя роты, кулямётную каманду й адну літоўскую роту, якая толькі што прыйшла з Коўні, але за пару дзён вярнулася туды йзноў. Польскі генэрал вітаўся зь беларускімі ахвіцэрамі й гутарыў зь імі па расейску. У часе агляду генэрал вельмі цікавіўся складам палка, паводле рэлігіі.

Генэрал Фалевіч падзякаваў за агляд палка й выказаў сваё задавальненьне тым, што полк, з гледзішча свайго шыхту, дысцыпліны й выконваньня варты ў горадзе нічым нягоршы за польскіх легіянэраў, і прасіў нас гэтую яго заяву перадаць у Коўню галоўнакамандуючаму літоўскае арміі. На другі дзень, выкліканы ваенным міністрам, я выехаў з рапартам у Коўню.

Напасьледак, пасьля двух тыдняў, у Горадню прыехаў сам маршал Пілсудзкі, які, прыняўшы беларускую дэлегацыю, сказаў ёй: „Мы адсюль выйдзем, і я спадзяюся, што пакінем у вас добрую памяць па сабе".

Так, паводле польскіх заяваў, усё было добра, але ў запраўднасьці аказалася зусім наадварот. Пачалося ад таго, што польскі штаб Горадзенскай крэпасьці загадаў, каб беларускі полк даў яму карыстацца на фортах дзьвюмя палёвымі кухнямі, каб аддаць ім рыдлёўкі й іншы шанцавы інструмэнт, а напасьледак нашыя тэлефоны.

Камандзер палка палк. Антонаў вельмі зьдзівіўся гэтымі польскімі вымаганьнямі й катэгарычна адмовіў выдаць жаданыя рэчы. Але палякі, ня гледзячы на гэта, гвалтам іх забралі.

---

[72] У літоўскім варыянце: „беларусы і жыды".

[73] Войцах Фалевіч (Wojciech Falewicz) (1863, Вільня — 1935, Варшава) — ваенны інжынер, выпускнік Мікалаеўскага інжынернага вучылішча (1884) і Мікалаеўскай інжынернай акадэміі (1889). Працаваў пры перабудове ўмацаванняў Івангорадскай (Дэмблін) і Навагеоргіеўскай (Модлін) крэпасцей, на будоўлі Дубноўскай крэпасці. З 1906 г. генералмаёр, начальнік будаўніцтва ў Пецярбургскай ваеннай акрузе. Са снежня 1918 г. у Войску Польскім. Камендант крэпасцей Гародня (1919) і Грудзёндз (1920). Пасля 1921 г. у адстаўцы.

31. V. камандзер палка атрымаў ад ген. Фалевіча загад, каб полк выйшаў з Гарадні ў Слонім і далучыўся там да польскай рэзэрвовай часьці. На гэта палк. Антонаў адказаў, што на груньце літоўска-польскай умовы полк, як падлягаючы літоўскаму камандаваньню, павінен атрымаць адпаведны дазвол з Коўні на выкананьне гэтага загаду. З гэтай мэтай камандзер палка зьвязаўся тэлефанічна з Коўняй, скуль дастаў ад ваеннага міністра загад заставацца ў Гарадні. Загад міністра зараз-жа быў перададзены ген. Фалевічу, ад якога атрыманы адказ, што ня гледзячы на гэта, полк мае складаць свае рэчы й закончыць зборку 1 чэрвеня у 6 гадзін вечара. Камандзер палка адказаў, што загад генэрала ня можа быць выкананы.

***

1 чэрвеня вечарам палякі абкружылі з усіх старон казармы палка, рассыпаліся ланцугом і мелі гарматы й кулямёты. Увайшоўшы ў казармы, яны разброілі полк, забралі стрэльбы, кулямёты, рэвальвэры й набоі. Усіх жаўнераў грунтоўнаператрасьлі й пазабіралі ня толькі скарбовыя рэчы, але й асабістыя. Не абыйшлося й бяз звычайнага грабества. Польскія жаўнеры аграбілі вайсковыя склады з вопраткай, бялізнай, прадуктамі й г.д. У той самы вечар ператрасьлі ўсе ахвіцэрскія памешканьні. Арыштавалі камандзера палка Антонава. У часе рэвізіі адбіралі аружжа, набоі й г.д. Польскія жаўнеры („пазнанякі") рэвідавалі жорстка, ня мелі ніякага ордэру на рэвізію. Таксама ў начы рабіла рэвізію й польская жандармэрыя. Некаторыя зь мясцовых палякоў ужо служылі ў польскай тайнай паліцыі й стараліся зьвесьці з ахвіцэрамі свае асабістыя рахункі[74].

Памешканьне штабу палка было зачынена. Пры касе, складзе, пры браме казармы была пастаўлена польская варта. Толькі на другі дзень з дазволу польскага штабу крэпасьці можна было ўвайсьці й выйсьці з штабу палка. Беларускія й літоўскія штандары й вывескі зь літоўскім гербам былі сарваныя. Ізь зьдзекам польскія жандармы валачылі іх па вуліцах. На іхняе месца ўсюды былі вывешаны польскія штандары й адзнакі. Коні, вазы й іншыя рэчы былі забраныя.

Часовы камандзер палка заступнік арыштаванага палк. Антонава Гайдукевіч[75] паслаў каманданту Горадзенскай крэпасьці заяву (№ 1008 з 2.VI.19 г.) наступнага зьместу:

---

[74] У літоўскім тэксце пазначаны прозвішчы Шчаглова, Бутовіча і Якубоўскага.

[75] Яўген Гайдукевіч (Eugenijus Gaidukevičius) (1880, Вільня — 1942, Коўна) — выпускнік Віленскага рэальнага вучылішча (1898), у 1899 г. здаў у Вільні афіцэрскія экзамены. Удзельнік расійска-японскай вайны, двойчы паранены. Выпускнік Вышэйшых педагагічных курсаў у Пецярбургу (1904). Працаваў настаўнікам у Вільні. Мабілізаваны ў 1914 г. За ўдзел у абароне Ковенскай крэпасці атрымаў званне капітана. Са снежня 1918 г. у Літоўскім войску, камандзір роты ў І Беларускім пяхотным палку. З верасня 1919 г. у Канцылярыі інтэндантуры. З красавіка 1920 г. у адстаўцы. У кастрычніку 1921 г. вярнуўся на службу як

Прашу

1. зьвярнуць зараз-жа коні, вазы й другія рэчы палка, безь якіх полк ня можа абыходзіцца;
2. зьняць з штабу палка польскі штандар і зьвярнуць беларускі й літоўскі штандары;
3. зьняць польскую варту, пакінуўшы, калі зойдзе патрэба, часовую кантролю пры тэлефонічнай станцыі;
4. дазволіць карыстацца тэлефонам і зьвярнуць усе рэчы, якія забраны з тэлефонічнае станцыі й з канцылярыі штабу;
5. даць загад, каб патрулі забаранілі польскім жаўнерам грабіць беларускіх;
6. аднавіць нармальныя адносіны між палякамі й беларусамі, каб польскія жаўнеры віталі беларускіх ахвіцэраў і ўстрымаліся ад правакацыяў;
7. як найхутчэй звольніць палкоўніка Антонава з арышту й зьвярнуць усім ахвіцэрам палка й палку ўсю забраную маемасьць;
8. на груньце § 2 нашае ўмовы зусім ня ўмешвацца ў нутраное жыцьцё палка.

Ня гледзячы на ўсе вусныя й пісьменныя пратэсты, камандант ген. Фалевіч адказаў: „Я магу ня толькі полк разброіць, але й растрэліць усіх жаўнераў і ахвіцэраў палка, якія адмовяцца выканаць мае загады".

Праз некалькі дзён было абвешчана аб расфарміраваньні палка. Жаўнерам было сказана, што хто хоча, той можа ўступіць у польскае войска, але на гэта адгукнуліся толькі арыштаваныя крыміналістыя, якія чакалі суда. Жаўнераў беларусаў-каталікоў выдзелілі й пад аховаю павялі ў польскія казармы, дзе запісалі іх у польскае войска, бо палякі заўсёды беларусаў-каталікоў лічылі палякамі. Зь іх на другі дзень многа ўцякло з казармаў, бо не хацелі служыць у польскім войску. Жаўнераў-жа праваслаўных грабілі да апошняе ніткі, а потым пушчалі йсьці, куды хто хоча.

У гэтыя цяжкія дні палякі арыштавалі многіх паважаных беларускіх дзеячоў: пратаерэя І. Корчынскага (сябра літоўскае тарыбы), заступніка старшыні Бел. Управы Горадзеншчыны В. Боева, (абыдвух вывезьлі спачатку ў Варшаву, а потым у Кракаў, дзе пратрымалі амаль цэлы год). Старшыня Ўправы Аўгень Курлаў быў жорстка забіты ў сваім хутары каля Го-

камандзір роты ў Беларускім асобым батальёне. У снежні 1922 г. звольнены з Літоўскага войска. Жыў у Коўне, рэдактар часопісаў „Покліч" (1926–1927), „Ekonomistas" (1932–1935).

радні. Апрача таго, былі арыштаваныя: Н. Марозаў[76], П. Марозава[77], браты Сарокі[78], Т. Грыб[79], Мядзёлка[80], Кажэўнікаў[81], Данілюк[82], Дзекуць-Малей[83],

---

76 Мікалай Марозаў (1867 –?) — інжынер-будаўнік. У пачатку 1919 г.— сябар Гарадзенскай губернскай управы і Часовага гарадскога камітэта. Арыштаваны палякамі летам 1919 г. У 1920-х гг.— сябар Гродзенскай гарадской рады.

77 Праскоўя Марозава (1888 (1879?) –?) — адна з ініцыятарак заснавання Гродзенскай вучнёўскай грамады ў сакавіку 1919 г. Была арыштавана палякамі летам 1919 г., але вызвалена. З чэрвеня 1920 г. сябар Гарадзенскай беларускай школьнай рады.

78 Міхаіл Сарока (каля 1896 –?) — сябар БПСР. У канцы 1918 г.— сябар Гродзенскай беларускай павятовай рады. Разам з П. Алексюком з 2 па 16 лютага 1919 г. ездзіў у Коўна ў якасці прадстаўніка беларускага насельніцтва Гарадзеншчыны. Падчас польскіх арыштаў у горадзе ў сярэдзіне 1919 г. збег у Коўна. Пазней дыпламатычны кур’ер пры ўрадзе БНР. Сябра Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Рызе. У снежні 1919 г. быў агітатарам у Асобым атрадзе БНР у Эстоніі. Прадстаўнік Цэнтральнай замежнай Рады БПСР, намеснік старшыні Гродзенскай арганізацыі БПСР. У пачатку 1930 г. ізноў у Гародні, выдаваў газету „Змагар”.

79 Тамаш Грыб (1895, Паляны, Свянцянскі пав. – 1938, Прага) — беларускі грамадскі, палітычны і культурніцкі дзеяч. Да 1914 г. жыў у Пецярбургу, дзе далучыўся да беларускага руху. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Дэлегат Першага Усебеларускага з’езда. Сябар Рады БНР, міністр земляробства і міністр ўнутраных спраў БНР. Адзін з лідараў Беларускай партыі эсэраў. З пачатку 1919 г. вёў выдавецкую дзейнасць у Вільні, потым у Гародні. У чэрвені арыштаваны палякамі. Пасля вызвалення ў лістападзе перабраўся ў Менск. У 1921 г. жыў у Коўне, адкуль напрыканцы 1922 г. выехаў у Чэхаславакію. Актыўны дзеяч беларускай дыяспары. Скончыў філасофскі факультэт Карлава ўніверсітэта ў Празе (1928). Кіраўнік Беларускага замежнага архіва.

80 Паўліна Мядзёлка (1893, Будслаў – 1974, Будслаў) — беларуская дзяячка. З 1909 г. жыла ў Вільні, скончыла прыватную жаночую гімназію, уключылася ў беларускі і сацыялістычны рух. Пасля 1912 г. жыла ў Пецярбургу, вучылася на Вышэйшых камерцыйных курсах. З 1916 г.— сакратар Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны, працавала настаўніцай у Кіеве і Менску. З пачатку 1919 г. у Вільні, потым у Гародні. У чэрвені арыштавана палякамі, у лістападзе вызвалена. Перабралася ў Менск, дзе зноў была арыштавана і пераведзена ў Варшаву, потым у Вронкі. З 1921 г. у Коўне. У 1922 г. пераехала ў Латвію, працавала ў Беларускай гімназіі ў Дзвінску. У 1925 г. выехала ў савецкую Беларусь. Працавала ў Інбелкульце і ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1930 г. арыштавана па справе „Саюза вызвалення Беларусі” і выселена ў Казань, потым у Маскву. Вызваленая ў 1947 г., працавала настаўніцай у Будславе.

81 Знайсці звесткі не атрымалася.

82 Хведар Данілюк (1887, Сурынка, Слонімскі пав. – 1960, Нью-Ёрк) — беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. Мабілізаваны падчас Першай сусветнай вайны. У 1917 г. скончыў Гатчынскую школу прапаршчыкаў. У 1919 г. мабілізаваны ў войска Літоўскай рэспублікі, служыў у Ковенскай і ў Аліцкай камендатурах. У лютым 1920 г. атрымаў званне лейтэнанта, а ў чэрвені збег з Літоўскага войска. Сябра Беларускай вайсковай камісіі, удзельнік Слуцкага паўстання. У 1922 г. прыняў святарскае пасвячэнне. У часе нямецкай акупацыі ў 1942 г. браў удзел у саборы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. З лета 1944 г. у эміграцыі. У жніўні 1950 г. пераехаў у ЗША, быў настаяцелем прыхода БАПЦ у Брукліне, а пазней настаяцелем кафедральнага сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

83 Лукаш Дзекуць-Малей (1888, Слонім – 1955, Гданьск) — пратэстанцкі прапаведнік, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Да Першай сусветнай вайны скончыў рэлігійныя курсы ў Пецярбургу. Пазней жыў у Гародні. У 1918–1919 гг.— камісар літоўскага ўрада ў павеце

палк. Антонаў, я (палк. Усьпенскі), ахвіцэры Бутовіч[84], Паўчэр[85] і камандант Горадні й павету кап. Калугін[86]. Пасьля гэтага пайшлі арышты беларусаў па ўсёй Горадзеншчыне.

Даведаўшыся аб арыштаваньні свайго сябры пратаерэя Я. Корчынскага, дзяржаўная літоўская тарыба заявіла пратэст (№ 1993 з 25.VII.1919 г.) гэткага зьместу:

"24 чэрвеня 1919 г. Прэзыдыюм Літоўскае Дзяржаўнае Тарыбы даведаўся ад міністра беларускіх спраў (ліст № 786) аб тым, што 16 чэрвеня 1919 г. польская акупацыйная ўлада ў Горадні арыштавала, а 21 чэрвеня вывезла ў Варшаву прадстаўніка Горадзеншчыны ў Літоўскай Дзяржаўнай Тарыбе праваслаўнага сьвяшчэньніка Івана Корчынскага.

Прэзыдыюм Літоўскае Дзяржаўнае Тарыбы з гэтай прычыны выражае свой рашучы пратэст супроць такога распараджэньня польскае акупацыйнае ўлады на тэрыторыі літоўскае дзяржавы, якое нарушае прызнаванае ўсім цывілізаваным сьветам права нятыкальнасьці сябру парлямэнту. Старшыня Дзяржаўнае Тарыбы Ст. Шылінгас[87]. Сакратар В. Пэтруліс[88]. Кі-

---

Крынкі — Лунна. Скончыў Віленскія беларускія настаўніцкія курсы (1919). У пачатку 1920 г.— адзін з кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Гародні, уваходзіў у склад Беларускай цэнтральнай школьнай рады. З 1921 г. жыў у Брэсце. У час вайны прэсвітар беларускіх баптыстаў на акупаванай тэрыторыі. З 1945 гг.— у Германіі, з 1946 г.— у Польшчы. Памёр у Гданьску.

84 Рыгор Бутовіч (? –?) — з лютага 1919 г. служыў у І Беларускім палку. У чэрвені арыштаваны палякамі, адхілены ад службы. Болей звестак не ўдалося знайсці.

85 П. Паўчэр (? –?) — у сакавіку 1919 г. камандзір каманды кулямётчыкаў камендатуры Гародні. У чэрвені арыштаваны палякамі. Прозвішча Паўчэр сустракаецца сярод супрацоўнікаў Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Рызе.

86 Леанід Калугін (? — 1919, Коўна) — капітан. Са студзеня 1919 г. служыў у І Беларускім пяхотным палку, часовы камендант Гародні. Арыштаваны палякамі, пазней збег у Коўна. З кастрычніка 1919 г. дарадца Міністэрства беларускіх спраў па школьнай адукацыі. Памёр у снежні 1919 г., пахаваны на праваслаўных могілках у Коўне.

87 Стасыс Шылінгас (Stasys Šilingas) (1885, Вільня — 1962, Кельмы) — літоўскі грамадскі і палітычны дзеяч, юрыст. Выпускнік юрыдычнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта. Адзін з лідараў прарасійскай плыні ў літоўскім руху, у 1915 г. выехаў у Пецярбург. З ліпеня 1918 г. у Вільні. Быў кааптаваны ў склад Літоўскай Рады, з лістапада 1918 г. да 1920 г.— яе старшыня. У 1920–1926 гг.— адвакат у Коўне, удзельнік дзяржаўнага перавароту 1926 г. Са снежня 1926 па 1928 г., у 1934–1938 гг.— міністр юстыцыі. У 1928–1938 гг.— старшыня Дзяржаўнай рады. Арыштаваны НКУС у чэрвені 1941 г. Высланы ў Краснаярскі край. У Вільню вярнуўся ў 1954 г.

88 Вітаўтас Пятруліс (Vytautas Petrulis) (1890, в. Каталішкі, Панявежскі пав.— 1941, Ухта, Комі АССР) — літоўскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Выпускнік Маскоўскага камерцыйнага інстытута. Падчас Першай сусветнай вайны ўдзельнік літоўскага руху. Вясной 1918 г. вярнуўся ў Літву. У снежні кааптаваны ў склад Літоўскай Рады, сябра яе Фінансавай камісіі, з красавіка 1919 г.— сакратар Прэзідыума. Пазней кіраўнік спраў Міністэрства фінансаў, сябра праўлення Літоўскага гандлёва-прамысловага банка. У 1923–1926 гг.— дэпутат Сейма ад Саюза фермераў, на пераломе 1925–1926 гг.— старшыня Сейма. Чатыры разы займаў пасаду міністра фінансаў. У 1925 г. прэм'ер-міністр і міністр фінансаў. У 1926 г. адышоў

раўнік канцылярыі Б. Грыгайтытэ[89]”.

Усе стараньні ахвіцэраў разброенага й расфармаванага палка, каб іх прапусьцілі ў Коўню, засталіся бясплоднымі. Зь першых-жа дзён ахвіцэрам палка й камандатуры пачалі рабіць розныя карысныя прапановы служыць у польскай арміі. Мне асабіста прапанавалі становішча камандзера палка ў літоўска-беларускай дывізіі, якую палякі тады ўздумалі стварыць. Але на гэта пайшло толькі тры ахвіцэры. З Варшавы надыйшоў загад: “Ахвіцэрам беларускага палка выплаціць пэнсію, як палонным (каля 100 польскіх марак). Вось калі палякі скінулі з сваёй твары маску ў сваіх адносінах да беларусаў і літоўцаў!

Некаторыя з ахвіцэраў пачалі хварэць на галодны тыфус, або нат спрабавалі скончыць самагубствам. Голад, бязупынныя пагрозы пабіць за ўсялякую драбніцу, розныя беспадстаўныя прычэпкі, арышты й дэпартацыя ў Польшчу ў турмы й лягеры змушалі ахвіцэраў уцякаць у Літву, ня гледзячы на пагрозы й растрэлы пры пераходзе праз літоўска-польскую дэмаркацыйную лінію. Садзілі ў турмы й тых, каторыя й ня ўцякалі. Гэта была выразная помста палякоў за тое, што беларусы не хацелі змагацца за Польшчу, а хацелі, каб жыла Беларусь.

Капітан Калюгін, які на месца Дзямідава быў вызначаны за камэнданта Горадні й павету, быў арыштаваны й спачатку вывезены ў турму ў Кракаў, а потым у канцэнтрацыйны табор у Берасьце. Ён гераічна перанасіў усе польскія зьдзекі за сваю бацькаўшчыну. Безграматныя польскія падахвіцэры жорстка, як толькі гэта могуць рабіць палякі, зьдзекваліся над старым кадравым ахвіцэрам. У такім лягерным рэжыме капітан Калюгін захварэў на нявылечальную хваробу сэрца й калі, дзякуючы місіі аднае дзяржавы, яму ўдалося з польскага пекла вырвацца на свабоду й прыехаць у Коўню, дык ён ужо хутка памёр. З усімі вайсковымі ганорамі мы пахавалі яго на праваслаўных могілках.

***

22 жніўня ўвечары, калі мяне звольнілі з арышту, падаў дождж, а я вяртаўся дадому. На вуліцы да мяне падыйшоў польскі жандарм і загадаў, каб я йшоў зь ім у жандармэрыю. Я адмовіўся, але ён загразіў рэвальвэрам і ска-

ад палітыкі і пачаў займацца гаспадаркай. Летам 1940 г. арыштаваны НКУС і высланы ў Ухтпячлаг. У 1941 г. расстраляны.

[89] Бірутэ Грыгайтыце-Новіцкене (Birutė Grigaitytė-Novickienė) (1898, Капчуны, Панявежскі пав. – 1972, Нью-Ёрк) — літоўская юрыстка, грамадская дзяячка. Выпускніца Рыжскай гімназіі (1915), актывістка літоўскага руху. З 1918 г. працавала ў Літоўскай Радзе, у 1920–1924 гг.— кіраўнік Бюро пратаколаў Літоўскіх сеймаў. Выпускніца юрыдычнага факультэта Літоўскага ўніверсітэта (1924) і Парыжскага Вышэйшага інстытута міжнародных даследаванняў (1925). З 1926 г. працавала ў Літоўскім каапэратыўным банку. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну, з 1949 г. у ЗША.

заў, што выконвае загад свайго начальства. У жандармэрыі мяне ўвялі ў пакой камандзера й загадалі чакаць. Так прасядзеў я каля трох гадзін. Урэшце прыйшоў урaднік з канцылярыі й сказаў, што „паручнік” чакае мяне ў другім месцы. Жаўнеры з стрэльбамі павялі мяне па розных калідорах і брудных панадворках у іншы будынак. Увайшлі ў калідор, што вёў, відаць, у карцар, дзе сядзелі й жаўнеры й тоўсты вахмістр таўхнуў мяне сілай у нейкую каморку, пасьля чаго зачыніў дзьверы на замок. Я пачаў крычаць, стукаць кулакамі ў дзьверы, але ўсё аказалася дарэмным. У мокрай ад дажджу вопратцы, у бруднай камэры з маленькім ваконцам я правёў бяз сну ноч. Назаўтра праз гэтае аконца я ўбачыў плот з калючага дроту й зразумеў, што палякі зачынілі мяне ў турму на Станіслаўскай вуліцы[90], дзе яны трымалі сваіх палонных бальшавікоў. Якраз у гэтым часе палонных выпускалі на пагулянку ў панадворак. Хутка мяне разам з другімі арыштаванымі вывелі на панадворак, каб памыцца. Я даў сторажу „на чай” і праз яго паслаў запіску камандзеру кулямётнае роты Шчаглову[91], у якога тады жыў, каб ён паведаміў палк. Антонава аб маім арышце.

Атрымаўшы маю запіску, палк. Антонаў пайшоў да ген. Фалевіча зь інтэрвэнцыей аб маім звальненьні. Ген. Фалевіч заявіў, што яму аб гэтым арышце нічога няведама й абяцаў справу выясьніць. Кап. Шчаглову, аднак, у штабе каманданта крэпасьці сказалі, што мяне арыштавалі на загад з Варшавы, як заложніка за арыштаванага ў Коўні паляка Цьвірка-Гадыцкага[92], які перад тым езьдзіў у Варшаву з фальшывым дакумэнтам, быццам беларусы з Наваградчыны просяць, каб іх далучылі да Польшчы[93]. У той-жа самы дзень начальнік турмы пры абходзе арыштаваных перадаў мне гэтую прычыну, паказаўшы нат тэлеграму з Варшавы й дадаў: „Вы арыштаваны як папулярны чалавек у Ліцьве. Вы можаце тэлеграфаваць аб гэтым у Коўню, й мы вас звольнім тады, калі ліцьвіны звольняць нам Цьвірка-Гадыцкага”. Я яму нічога не адказаў.

Палк. Антонаў праз палякоў даў знаць у Коўню аб маім арышце й шчыра рупіўся аб маім звальненьні. У міжчасе мне ўдалося часова звольніцца з турмы на аснове мэдыцынскага пасьведчаньня аб хваробе. Мне загадалі двойчы ў дзень хадзіць рэгістравацца ў „дэфэнзыву”. Апрача таго, да мяне была прыстаўлена якаясьці асоба, польскі абшарнік, які сачыў кожны мой шаг.

---

90 Зараз вул. Я. Каханоўскага.

91 Шчаглоў (? –?) — вясной 1919 г. камандзір кулямётнай роты I Беларускага пяхотнага палка.

92 Казімір Цвірка-Гадыцкі (? –?) — з вясны 1919 г. у Гародні, арыштаваны пасля візіту ў Варшаву і высланы ў Коўна, дзе ў снежні 1919 г. быў асуджаны за дапамогу палякам у заняцці Віленшчыны. Пазней апраўданы. Далейшы лёс невядомы.

93 К. Цвірка-Гадыцкі выступаў ад імя Беларускага краёвага з’езда Наваградчыны, які нібыта прайшоў у студзені 1919 г. у Наваградку і прэтэндаваў на тое, каб стаць II Усебеларускім з’ездам. 23 сакавіка дэлегацыя сустрэлася з прэм’ерам І. Падарэўскім і ўручыла яму мемарыял, у якім „Беларуская Краёвая Нацыянальная Рада” выказвалася за далучэнне Беларусі да Польшчы.

Трэба, наагул, сказаць, што калі палякі акупавалі Горадзеншчыну, дык некаторыя з польскіх абшарнікаў пайшлі на службу з патрыятызму ў польскую тайную паліцыю.

Нядоўга мне, аднак, прыйшлося карыстацца з гэтае свабоды. Нядарма начальнік жандармэрыі быў вельмі незадаволены тым, калі выпушчаў мяне з турмы, кажучы: „Чаго гэты генэрал плютаецца не ў сваю справу, калі яго ніхто ня пытае? Гэты арышт не ягоная справа, й ён яго зьмяніць ня можа". Па сэкрэту ад аднаго паляка кап. Шчаглову ўдалося даведацца, што штаб крэпасьці дастаў з Варшавы загад арыштаваць шмат беларусаў, дзеячоў і ахвіцэраў, у тым ліку й мяне, каб усіх вывезьці ў Кракаў, у турму. Праз палк. Антонава мне ў тым часе ўдалося дастаць з штабу крэпасьці дазвол у Друзкенікі лечыцца. Я й паехаў, але не пасьпеў я зьлезьці з падводы, як мяне затрымаў польскі патруль. Ня гледзячы на ўсе мае пратэсты й дазвол, палякі йзноў арыштавалі мяне й павялі ў памешканьне разьведкі ў Друзкеніках. Перад адходам цягніка з Парэчча ў Горадню мяне пад вартай скіравалі з Друзкенік у Парэчча. У дарозе начальнік варты сказаў мне, што мяне павязуць у Горадню, у турму, каб адтуль адвезьці ў Кракаў.

На станцыі ў Парэччы неспадзеўкі я спаткаў аднаго польскага ахвіцэра, майго добрага знаёмага з расейскае арміі. Я паказаў яму мае паперы й прасіў паруліцца аб маім звальненьні зь бясправўнага арышту. Ён доўга прасіў начальніка „рэвіру", доўга тэлефанаваў у Горадню і ў канцы дабіўся майго звальненьня й дазволу вярнуцца ў Друзкенікі.

Не даехаўшы, аднак, да Друзкенік, на шашы нас (я ехаў у вялікшай кампаніі) затрымала польная застава з „пазнанчыкаў" і распачала агульную рэвізію. Яна грабіла ў жыхароў прадукты й іншыя рэчы, што каму падабалася, нат падушкі. Помню, як ехаўшы з намі ксёндз зьвярнуў увагу, што так жаўнерам рабіць не выпадае. Але „пазнанчыкі" яго за гэта толькі зьлаялі. Калі дайшла чарга да мяне, „пазнанчыкі", убачыўшы маю форму, ізноў мяне арыштавалі…

Ізноў начоўка ў арыштце без яды й спаньня. На раніцы другога дня да мяне прыйшоў начальнік часьці, што мяне арыштавала, малады й сымпатычны ахвіцэр з палка „татарскай язды" (кавалерыі). Прачытаўшы дазвол камандана крэпасьці, ён зараз-жа перапрасіў мяне за ўсе турботы, што мне зрабілі жаўнеры ягонае часткі, пусьціў мяне ехаць у Друзкенікі, ад сябе даў мне свой пропуск, а нават даў мне сваю хурманку.

Праз 10 хвілін, калі я ўжо маніўся ехаць, увайшоў вахмістр. Даведаўшыся, што ахвіцэр мяне адпусьціў, ён кінуўся да тэлефону, каб выклікаць самога ротмістра Рыхтэра[94], камандзера эскадрону. Не засьпеўшы яго, вахмістр

[94] Уладзімір Рыхтэр (Владимир Гвидович Рихтер, Włodzimierz Rychter) (1886, Івангорад – 1968, Варшава) — расійскі вайсковец, калекцыянер-нумізмат. Выпускнік Мікалаеўскага кавалерыйскага вучылішча. Са студзеня 1919 г. служыў у І Беларускім палку, сябра Ваеннага сакратарыята Міністэрства беларускіх спраў. Пасля расфармавання палка перайшоў на

нарв停аўся, бедаваў, лаяўся: „Што яны робяць? Гэта-ж заложнік, якога трэба адвесьці ў Кракаў, у турму!" Але затрымаць ён мяне ня важыўся. Успомнены ротмістр Рыхтэр — характэрная асоба. Ён спачатку працiснуўся ў беларускі сакратарыят сябрам. А калі прыйшлі ў Горадню палякі, дык ён перайшоў у польскую армію. Перад самым прыходам палякоў у Горадню ён выманіў у літоўскага ўпаўнаважанага 1 000 аўксінаў быццам на выдаткі для разьведкі. Вырозьніваўся нязвычайна жорсткім прасьледаваньнем беларускіх ахвіцэраў.

Я выехаў у Друзкенікі. І, запраўды, польскія жаўнеры, бачучы подпіс свайго камандзера на маім пропуску, усюды мяне пушчалі. На гэты раз я добра даехаў да Друзкенік.

Не чакаючы, каб палякі йзноў у начы мяне арыштавалі з мэтай вывязеньня ў Кракаў, як заложніка, я хутка пераапрануўся й каб ня ўбачылі польскія сакрэтныя заседкі, лесам дабраўся да мосту каля Друзкенік праз Нёман, бо добра ведаў, што на другім беразе ракі ў вёсцы Мізэрах стаяў наш эскадрон. Там мяне з радасьцю сустрэлі й адвезьлі да знаёмага парафіяльнага ксяндза. Як толькі я пад'ехаў да касьцёлу, з плябаніі выскачыў насустрэч перапалоханы арганісты, які пачаў гаварыць: „Пане палкоўніку, уцякайце адсюль, бо ў нас у хаце палякі робяць рэвізію, шукаюць ксяндза. Апрача таго, яны парасьцягаліся па местачку й ваколіцах, шукаючы сваіх 48 коняў, што нашы ноччу адбілі ў іх каля Мэрачы".

Аказалася вось што. Польскі эскадрон маніўся напасьць на літоўскую роту, якая стаяла каля мястачка Мэрэчы. Але аб гэтым хтосьці данёс нашым, і яны першыя напалі на палякаў, забраўшы ў іх 48 асядланых коняў, якіх адаслалі ў Коўню.

Мы тут доўга не затрымаліся й выехалі ў м. Лейпалінг, скуль, каб ня лучыць да палякаў, рознымі ляснымі сьцежкамі дасталіся ў Лазьдзеі.

Цяпер я з прыемнасьцю ўспамінаю, як у літоўскіх вёсках мне хутка зьмянялі коні, а дзе паказваліся польскія часткі, мне давалі добрых праваднікоў, што ведалі кажны куток і сьцежку.

З Лазьдзееў я выехаў у Коўню. Тут я пойшоў да начальніка генэральнага штабу палк. Вэлікіса й здаў яму рапарт аб разбраеньні палка й іншых усіх здарэньнях. Такія-ж рапарты й падрабязныя даклады я зрабіў старшыні рады міністраў Сьляжэвічу й міністру беларускіх справаў Варонку.

На аснове гэтых маіх рапартаў літоўскі ўрад 17.VIII.1919 г. паслаў урадам Антанты й Амэрыкі пратэсты[95], але яны, як і другія да таго часу зложаныя пратэсты, засталіся голасам у пустэльні.

польскі бок, камандзір эскадрона ў Татарскім палку уланаў. З 1921 г. у адстаўцы. Жыў у Польшчы. Пасля 1939 г. у Лондане.

[95] Маецца на ўвазе пратэст міністра беларускіх справаў. Гл.: *Протест Министра белорусских дел Литовскаго правительства пред Представителями Антанты по поводу польских насилий над беларусами* [w:] К. Езовитов, *Белоруссы и поляки. Документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 годах*, Ковна 1919, с. 110–116.

Такім вянком таннае й ганебнае „перамогі" ўпрыгожылі свае галовы былы ў 1919 г. першы польскі камандант Горадзенскае крэпасьці генэрал Фалевіч і ўся ягоная кампанія.

## Pułkownik Aleksander Uspienski i jego wspomnienia o Pierwszym Białoruskim Pułku Piechoty w Grodnie

Czynnik białoruski odegrał ważną rolę w okresie tworzenia państwowości litewskiej po I wojnie światowej. Znaczna cześć społeczności białoruskiej wsparła tworzenie niezależnej Litwy na gruncie politycznym, a jednym z ważniejszych efektów tej współpracy było powstanie w Wojsku Litewskiej narodowych oddziałów białoruskich. Proces ich tworzenia rozpoczął się w grudniu 1918 roku i, aż do rozwiązania kwestii wileńskiej na gruncie międzynarodowym, do roku 1923 w strukturze Wojska Litewskiego stale istniały większe lub mniejsze jednostki białoruskie.

Niniejszy tekst jest tłumaczeniem na język białoruski wspomnień jednego z aktywniejszych białoruskich oficerów w Wojsku Litewskim — płk. Aleksandra Uspienskiego (1876–1951). Wydane oryginalnie po litewsku w 1925 roku wspomnienia, dotyczą jednego z najważniejszych epizodów białorusko-litewskiej współpracy wojskowej, czyli organizacji i funkcjonowania 1. Białoruskiego Pułku Piechoty w Grodnie w pierwszej połowie 1919 roku.

## Colonel Aleksandr Uspenski and his memoirs on the First Belarusian Infantry Regiment in Hrodna

The Belarusian factor played an important role in the period of Lithuanian state-building after the First World War. A significant part of the Belarusian community politically supported the creation of an independent Lithuania, and one of the most important effects of this cooperation was the creation of national Belarusian detachments in the Lithuanian Army. The process of their formation began in December 1918 and until 1923, when the question of Vilnius was solved on international level, larger or smaller Belarusian detachments existed in the structures of the Lithuanian Army.

This text is a translation into Belarusian of the memories of one of the most active Belarusian officers in the Lithuanian Army — Col. Aleksander Uspenski (1876–1951). Originally published in Lithuanian in 1925, the memoirs concern one of the most important episodes of Belarusian-Lithuanian military cooperation — the organization and operation of the 1st Belarusian Infantry Regiment in Hrodna in the first half of 1919.

## Палкоўнік Аляксандр Успенскі і яго ўспаміны пра Першы Беларускі пяхотны полк у Гродне

Беларускі фактар адыграў важную ролю ў перыяд літоўскага дзяржаўнага будаўніцтва пасля Першай сусветнай вайны. Значная частка беларуска-

Праф. Эбэрхарт таксама выявіў фальсіфікацыю дадзеных перапісаў у даваеннай БССР адносна польскай супольнасці, абумоўленую палітыкай саветызацыі і русіфікацыі. Ён жа супаставіў дадзеныя перапісаў 1937 і 1939 гг. і сцвердзіў, што колькасць польскага насельніцтва ў БССР за два гады зменшылася на 61,5 тыс., што было вынікам масавых рэпрэсій[7]. Дарэчы, А. Бялы таксама прыгадаў гэту працу П. Эбэрхарта. Праўда, у ягоным тэксце чамусьці фігуруе лічба 65,5 тыс.(?) і сцвярджаецца, што гэта змяншэнне было вынікам г. зв. „Польскай аперацыі" НКУС (с. 352). Пры гэтым раней ён пераказаў апублікаваную беларускім гісторыкам У. Адамушкам статыстыку НКУС БССР па „Польскай аперацыі", дзе фігуравала лічба 21 407 арыштаваных польскіх „шпіёнаў, дыверсантаў і паўстанцаў" (с. 345).

Дарэчы, апублікаваны У. Адамушкам яшчэ ў 1994 г. дакумент знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НАРБ) (Ф. 4п, воп. 1, спр. 13231, арк. 19–24)[8]. Тэкст той першай публікацыі ў некаторых пазіцыях не адпавядаў арыгіналу. У прыватнасці, гэта датычыла колькасці спраў, якія разглядаліся ў НКУС СССР і Асобай тройцы БССР. А. Бялы не зазірнуў у арыгінал і паўтарыў гэтыя недакладнасці ў сваім пераказе дакумента. Але яшчэ больш здзіўляе адсутнасць у гэтым пераказе поўных дадзеных нацыянальнага складу арыштаваных „польскіх шпіёнаў". Аўтар прыводзіць колькасць арыштаваных габрэяў, рускіх, украінцаў, літоўцаў ды інш., якія складалі толькі нязначную частку арыштаваных. Дапаўняючы публікацыю А. Бялага, дадам, што ў згаданым дакуменце згадваецца 9 196 арыштаваных палякаў і 10 120 арыштаваных беларусаў.

Асаблівасцю „Польскай аперацыі" НКУС у БССР было дамінаванне беларусаў сярод агульнай масы асуджаных. Як „польскія шпіёны" альбо іх „пасобнікі" былі арыштаваны многія прадстаўнікі беларускай партыйнай, дзяржаўнай і грамадскай эліты, вядомыя дзеячы беларускай культуры. Дарэчы, разуменне таго, што не толькі польская супольнасць, але таксама іншыя народы БССР і ў першую чаргу беларусы былі ахвярамі рэпрэсій, а таксама таталітарнай палітыкі саветызацыі і русіфікацыі, магло б значна паглыбіць дадзенае даследаванне. Нельга вырываць польскую супольнасць з агульнага гістарычнага кантэксту даваеннай БССР.

Наогул вобразы беларусаў, як даследчыкаў, так і гістарычных персанажаў, намаляваныя аўтарам кнігі, патрабуюць асобнай увагі. Так, А. Бялы абвінавачвае беларускіх нацыянал-камуністаў, якія якраз ажыццяўлялі палітыку карэнізацыі, у намеры асіміляваць польскую супольнасць. Са спасылкай на рэзалюцыю XXII Агульнабеларускай партыйнай канферэнцыі (1922) ён сцвярджае, што з гэтага моманту „беларус, які размаўляў па-польску, лічыўся спаланізаваным беларусам" (с. 124). У тэксце даецца спасылка на гэты

---

7 Тамсама, с. 71.

8 Адамушка У. *Палітычныя рэпрэсіі 20-х – 50-х гг. у Беларусі.* Мінск 1994, с. 55–57.

дакумент з вялікай цытатай, у якой між іншым чытаем: „…кожны сам павінен прыняць рашэнне, да якой нацыянальнасці ён належыць. У гэтым сэнсе не можа быць аніякага прымусу". Як бачым, выснова аўтара ніяк не абапіраецца на прыведзены дакумент.

Перакананне польскага гісторыка, што беларусізацыя 1920-х гг. супярэчыла карэнізацыі і была накіравана супраць палякаў, сведчыць пра адсутнасць элементарных ведаў пра нацыянальна-культурнае жыццё даваеннай БССР. Вядома, што гэта была палітыка аднаго кірунку. Толькі ў гэты час існавалі і развіваліся польскія асветныя і культурныя ўстановы. Згортванне беларусізацыі і расправа з беларускімі нацыянал-камуністамі таксама пагоршылі становішча польскай супольнасці.

Але А. Бялы прытрымліваецца іншага погляду. Часам падаецца, што шаноўны аўтар папросту пераказвае дакументы тагачаснай савецкай прапаганды: „Беларускія нацыянал-дэмакраты з мэтаю пашырэння нацыянальных канфліктаў выступілі з тэорыяй, што ў Беларусі няма палякаў, а ёсць толькі паланізаваныя беларусы. Адпаведна, яны імкнуліся цалкам знішчыць польскае школьніцтва" (с. 147–148). Затым даследчык перакідвае масткі ў сучаснасць і сцвярджае, што і „сёння гэтая тэорыя знаходзіць практычную рэалізацыю ў недаацэнцы значэння масавай працы(?) сярод палякаў, у забароне адкрываць польскія асветніцкія ўстановы, адсутнасці [разумення] важнасці будаўніцтва польскай культуры, нацыянальнай" (с. 148). Пры гэтым даецца спасылка на кнігу М. Іванова „Zapomniane ludobójstwo. Polacy w państwie Stalina. «Operacja polska» 1937–1938" (2015). Паўстае пытанне: няўжо аўтар лічыць, што палітычны рэжым Лукашэнкі ў сваім адмоўным стаўленні да нацыянальна-культурных патрэб польскай супольнасці абапіраецца на канцэпцыі расстраляных беларускіх „нацыянал-дэмакратаў"?

Адказ на гэта пытанне даюць наступныя старонкі кнігі, дзе аўтар на падставе публікацыі праф. М. Іванова прыводзіць цытату з артыкула рэдактара польскай савецкай газеты „Orka" Эўгеніюша Прынца, якую варта прывесці цалкам: „Беларускія нацыянал-дэмакраты ў інтарэсах польскага фашызма з мэтаю пашырэння нацыянальных канфліктаў выступілі з тэорыяй, што ў Беларусі няма палякаў, а ёсць толькі паланізаваныя беларусы. Адпаведна гэтай тэорыі распрацоўваліся планы поўнай ліквідацыі польскага школьніцтва. Сёння рэшткі гэтай тэорыі знаходзяць практычную рэалізацыю ў недаацэнцы значэння шырокай масавай працы сярод польскага насельніцтва, у забароне адкрываць польскія асветніцкія ўстановы там, дзе яны неабходныя, у адсутнасці разумення ўсёй важнасці задачы будавання польскай культуры, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу" (с. 158). Думаю, што ў дадзеным выпадку каментары не патрэбныя…

Кур'ёзна выглядае аўтарскае абвінавачванне беларусаў у намеры скрасці выбітных персанажаў польскай гісторыі, бо яно суправаджаецца цытаваннем згаданага папулярызатара А. Тараса, які нібыта пісаў пра „беларускасць"

Фелікса Дзяржынскага (с. 150). Хочацца супакоіць аўтара. Насамрэч беларуская гістарыяграфія ніякім чынам не прэтэндуе на гэтага „героя". Што датычыць самога абвінавачвання беларусаў ва ўяўнай прыватызацыі персанажаў польскай гісторыі ці польскіх месцаў памяці, папулярных сярод маргінальнай часткі польскай грамадскасці, то варта заўважыць, што на працягу многіх стагоддзяў беларусы мелі агульную гісторыю з палякамі і літоўцамі. Сучасная спроба „нацыяналізаваць" тых дзеячаў беларуска-літоўска-польскай гісторыі, што жылі ў перыяд, аддалены ад „эпохі нацыяналізмаў", звычайна не мае ніякага дачынення да гістарычнай навукі.

Што датычыць стаўлення беларускіх „нацыянал-дэмакратаў" ды іх нашчадкаў да нацыянальна-культурнага развіцця польскай супольнасці, то хочацца спаслацца на кнігу „Пад прэсінгам палітыкі. Польская нацыянальная меншасць у Беларусі ў 1919–2017 гг." (2018) праф. Т. Гавіна, які, дарэчы, быў стваральнікам і першым кіраўніком Саюза палякаў Беларусі (СПБ). У сваёй працы ён пераканаўча паказаў неабгрунтаванасць абвінавачванняў Беларускага Народнага Фронту і ягонага кіраўніка Зянона Пазняка ў стварэнні перашкод польскаму нацыянальнаму Адраджэнню. Наадварот, менавіта з боку ідэйных нашчадкаў колішніх беларускіх „нацыянал-дэмакратаў" дзейнасць СПБ атрымала падтрымку[9]. Упэўнены, што тыя, хто сёння абвінавачваюць беларускую нацыянальную і дэмакратычную апазіцыю ў імкненні да „дэпаланізацыі" або асіміляцыі мясцовых палякаў, насамрэч свядома ці несвядома з'яўляюцца прыхільнікамі дактрыны і практыкі г. зв. „рускага міра". Менавіта яны найбольш зацікаўлены ў пашырэнні варажнечы паміж палякамі, беларусамі, украінцамі і літоўцамі. Яны не шукаюць паразумення, а мэтанакіравана працуюць над стварэннем вобраза ворага з суседняга народа.

Але вернемся да структуры працы. Назва трэцяга раздзела кнігі „Стварэнне Польскага нацыянальнага раёна і яго функцыянаванне ў 1925–1932 гг." выклікае пытанне, ізноў датычнае храналогіі. Вядома, што Польскі нацыянальны раён быў створаны ў 1932 г. і праіснаваў да 1937 г.

Большая частка гэтага раздзела прысвечана не функцыянаванню Польскага нацыянальнага раёна, а стварэнню і дзейнасці Польскага бюро пры ЦК партыі бальшавікоў і яго філіялаў (1919–1923), з'ездам польскіх жанчын (1925), сялян-палякаў (1926), забароне паездкі дэлегацыі палякаў з БССР на Варшаўскі з'езд палякаў замежжа (1929), а таксама развіццю польскай асветы ў сярэдзіне 1920-х гг.

Фактычна толькі на пачатку раздзела аўтар звяртаецца да гісторыі стварэння Польскага нацыянальнага раёна, слушна адзначыўшы палітычныя матывы, якімі кіравалася Масква ў гэтым рашэнні. Праўда, і тут не абышлося без пэўных кур'ёзаў, бо менавіта так можна ацаніць сцвярджэнне А. Бяла-

[9] Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі…*, с. 310–316.

га, што ЦК УсеКП(Б) прыняў рашэнне пра стварэнне Польскага раёна „самавольна і без узгаднення з камандаваннем Беларускай вайсковай акругі" (с. 149). Таксама на намінацыю „лепшы кур'ёз" прэтэндуюць аўтарскія тэзісы пра тое, што Польскі раён ствараўся дзеля абароны польскай супольнасці ад прыгнёту з боку беларускіх „нацыянал-дэмакратаў" (с. 147), а таксама каб знішчыць „пры першай магчымасці ўвесь інтэлектуальны патэнцыял палякаў, што жылі ў БССР" (с. 148).

Таксама не адпавядае назве змест наступнага радзела „Роля рымска-каталіцкага касцёла ў гісторыі польскай супольнасці". Насамрэч раздзел прысвечаны барацьбе супраць касцёла, якую вялі расейскія і савецкія ўлады, і пачынаецца з часоў імператрыцы Кацярыны II (?!).

Апошні раздзел кнігі „*Ліквідацыя Польскага раёна. Тэрор і генацыд савецкай дзяржавы ў адносінах да палякаў у Беларусі (1937–1938)*" толькі ўзмацняе ўражанне бездапаможнасці аўтара ў працы з дакументамі і навуковай літаратурай. Так, ягонае асвятленне „Польскай аперацыі" НКУС у БССР цалкам заснавана на пераказе працы даследчыкаў расейскага міжнароднага гісторыка-асветніцкага таварыства „Мемарыял", імёны якіх не называюцца. Аналіз тэксту дазваляе сцвярджаць, што аўтарам быў выкарыстаны вядомы артыкул Мікіты Пятрова і Арсенія Рагінскага, у якім дамінуе агульнасаюзны аспект гэтай аперацыі[10]. Таксама падрабязна і без належнага навуковага аналізу пераказваюцца архіўныя дакументы (напр., „Дакладная запіска аб мерапрыемствах у сувязі з ліквідацыяй Дзяржынскага раёна" ды інш.), а некаторыя спасылкі на навуковую літаратуру недакладныя. Так, напрыклад, А. Бялы паведаміў пра высылку 1 500 польскіх сем'яў з БССР (с. 294) і пры гэтым спаслаўся на кнігу Леаніда Лыча і Уладзіміра Навіцкага „Гісторыя культуры Беларусі" (1997). Насамрэч у названай працы такой інфармацыі няма.

Апрача ўсяго вышэйсказанага ў кнізе адсутнічае параўнанне лёсу польскай супольнасці БССР з сітуацыяй палякаў у РСФСР і Украінскай ССР. Акрамя таго гісторыя польскай супольнасці вырвана з агульнабеларускага кантэксту, які б стварыў магчымасці для параўнання становішча палякаў БССР з лёсам і станам іншых народаў гэтай савецкай рэспублікі.

Амаль палову кнігі складаюць дакументальныя дадаткі. На вялікі жаль, яны, як правіла, вырваны з кантэксту і пазбаўлены ўласнай „міні-гісторыі", што не дазваляе імі карыстацца і ператварае дакументы ў звычайны ілюстрацыйны матэрыял.

Крытычныя заўвагі выклікае складзеная аўтарам бібліяграфія. У прыватнасці, А. Бялы пры асвятленні дэмаграфічных працэсаў часта цытуе артыкул

10 Н. В. Петров, А. Б. Рогинский, „*Польская операция" НКВД 1937–1938 гг.* [online], htpp://old.memo.ru/history/polacy/00485art.htm [дата доступа: 8.01.2021].

Яна Гайдэля пра колькасць і размеркаванне палякаў у БССР (2003)[11]. Аднак гэта пазіцыя адсутнічае ў бібліяграфіі. Затое ў ёй прадстаўлены А. Тарас, кнігі якога ніякім чынам не належаць да навуковага даробку беларускай гістарыяграфіі, шматлікія выданні польскіх аўтараў часоў ПНР, а таксама дакументальныя стужкі Беларускага тэлебачання, у т.л. пра г. зв. „Лінію Сталіна” (псеўдамузей, створаны ідэолагамі Лукашэнкі). Ізноў жа назвы многіх кірылічных выданняў больш нагадваюць рэбусы, чым бібліяграфічнае апісанне. Гл., напр.: *Biały Andrzej, Белларусь в Взрожденной Польше, Научное Труды Республиканского Института Высшей Щколы, Исторические и психолого-педагогичесуие науки, Сборник научных статей, Выпуск 13 Минск РИВШ 2013.* (с. 377).

Што атрымалася ў выніку? Замест абяцанага ў выдавецкай рэцэнзіі „піянерскага даследавання” з выкарыстаннем раней невядомых гістарычных крыніц маем кампіляцыю фрагментаў чужых навуковых і папулярных прац, ужо вядомых архіўных дакументаў, газетных артыкулаў і… шэрагу кур’ёзных сцвярджэнняў. Гэту кнігу, як і дысертацыю, што стала яе асновай, няма падстаў лічыць навуковым гістарычным даследаваннем. Яна выпадае з кантэксту польскай навуковай беларусістыкі, добра вядомай і шанаванай у Беларусі, і больш нагадвае спробу дыскрэдытацыі польскай навукі.

11 J. Gajdel, *Liczba i rozmieszczenie Polaków na Białorusi Radzieckiej w świetle powszechnych spisów ludności w okresie międzywojennym* [w:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, Grodno 2003

**Андрэй Чарнякевіч,**
**канд. гіст. навук (Варшава)**

# Некананічны прыклад распутвання „гістарычных вузлоў”

*Węzeł polsko-białoruski 1918–1921 Dokumenty i materiały*. Wybór i opracowanie Wojciech Materski, współpraca Uładzimir Snapkouski. Warszawa: Instytut Studiów Politycznych Polskiej Akademii Nauk, 2018. 859 s.

Не так даўно пабачыла свет рэцэнзія прафесара Войцеха Матэрскага на падрыхтаваны Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі зборнік дакументаў „Польшча — Беларусь (1921–1953)” (Мінск, 2012)[1]. Рэцэнзент акрэсліў працу беларускіх калег як „монатэмічную”, анахранічную ды ўпрост — несумленную. На ягоную думку, прычына гэтага не толькі ў ідэалагічнай замове: „Беларуская гістарыяграфія функцыянуе ў спецыфічных палітычных умовах, што можа многае растлумачыць. Але не ўсё”. Фактычна, польскі даследчык закідваў беларускім гісторыкам свядомую адмову ад навуковай аб’ектыўнасці на карысць асабістага канфармізму. Здавалася б, што падобны крытычны водгук з боку аднаго з найбольш аўтарытэтных і абазнаных спецыялістаў павінен стаць падставай для дыскусіі ці, прынамсі, выклікаць рэакцыю складальнікаў згаданага зборніка[2]. На жаль, гэтага не адбылося. Чарговы раз спрацавала спраўджаная ў Беларусі практыка ігнаравання апанента[3].

Тым больш цікава было пабачыць зборнік дакументаў, прысвечаны польска-беларускім адносінам, складзены ўжо самім В. Матэрскім разам з беларускім гісторыкам Уладзімірам Снапкоўскім, вядомым грунтоўнымі публікацыямі крыніц па гісторыі знешняй палітыкі Беларусі[4]. Вынікам

---

1 В. Матэрскі, *Да стандартаў савецкай эпохі?* Рэцэнзія на выданне: *Польша — Беларусь (1921–1953): сб. документов и материалов* / сост.: А. Н. Вабищевич [и др.]. Минск 2012, 423 с., „Беларускі гістарычны агляд” 2013, т. 20, сш. 1–2 (38–39) [online], http://www.belhistory.eu/vojcex-materski-da-standartau-saveckaj-epohi [доступ: 27.01.2021].

2 Сярод шматлікіх прац В. Матэрскага перш за ўсё варта ўзгадаць публікацыі на тэму польска-савецкіх дыпламатычных адносін: *Tarcza Europy. Stosunki polsko-sowieckie 1918–1939* (1994); *NKWD o Polsce i Polakach. Rekonesans archiwalny* (1996); *Pobocza dyplomacji. Wymiana więźniów politycznych pomiędzy II Rzecząpospolitą a Sowietami w okresie międzywojennym* (2002); *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943* (2005) ды інш.

3 Беларускі зборнік вытрымаў ужо некалькі перавыданняў без змен і дапаўненняў.

4 Між іншым У. Снапкоўскі з’яўляецца адным са складальнікаў зборнікаў дакументаў: *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991 гг.)* (2015), *Государственные границы Беларуси. Сборник документов и материалов* (2012–2013); аўтарам манаграфіі

гэтага супрацоўніцтва стала выданне рэцэнзуемага зборніка, дзе сабраны сведчанні няпростых узаемадачыненняў суседніх народаў у надзвычай драматычны момант іх гісторыі.

Структура самой кнігі празрыстая. Яна ўключае прадмову; рэестр скарачэнняў; галоўную частку, у якой дакументы прадстаўлены ў храналагічным парадку; дадатак, дзе змешчаны матэрыялы, якія выходзяць за межы акрэсленага перыяду, але сэнсоўна звязаныя з папярэдняй часткай; геаграфічны ды іменны паказальнікі. Усё гэта робіць працу са зборнікам простай ды эфектыўнай. У *Прадмове* складальнікі заўважылі, што пытанне, якое „праілюстраванае змешчанымі ў томе дакументамі, ужо мае сваю літаратуру", таму яны абмяжоўваюцца пералікам, на іх погляд, найбольш істотных ды актуальных публікацый (с. 46).

Усе дакументы публікуюцца на польскай мове. Тым самым укладальнікі адышлі ад класічных правілаў публікацыі крыніц, аднак, як яны самі заўважылі, зрабілі гэта наўмысна, з разлікам прыцягнуць шырокае кола чытачоў, а не толькі даследчыкаў дадзенай тэмы (с. 45). Дзеля параўнання заўважу, што ў сваёй рэцэнзіі прафесар В. Матэрскі палічыў расійскую мову беларускага акадэмічнага выдання, якая, паводле ўкладальнікаў, таксама павінна была спрыяць росту зацікаўленасці з боку чытачоў, „прыкметай саветызацыі" нацыянальнай навукі і культуры[5].

Абраныя храналагічныя рамкі апублікаваных дакументаў падаюцца цалкам абгрунтаванымі, ахопліваючы перыяд паміж заканчэннем Першай сусветнай вайны і польска-савецкім ваенным канфліктам, якія адыгралі вызначальную ролю ў нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве палякаў і беларусаў. Заключнай падзеяй гэтага перыяду разглядаецца Рыжскае мірнае пагадненне, пра што гаворка ідзе ў *Прадмове* (с. 39). Пачатковай — Брэсцкая дамова, падпісаная ў сакавіку 1918 г. паміж савецкай Расіяй ды Нямеччынай і яе хаўруснікамі, пра што чытач можа здагадацца толькі з кантэксту зборніка.

Таксама з *Прадмовы* мы можам даведацца, што „гульня" Берліна з „беларускім пытаннем" пачалася яшчэ раней, а менавіта падчас нямецкай акупацыі ў сярэдзіне 1915 г.?! Фактычна, паўтараецца адзін з тэзісаў „Кароткага нарыса беларускага пытання"[6], аналітычнага матэрыялу, распрацаванага ў міжваенны час на падставе аперацыйных данясенняў II аддзела польскага Генштаба, паводле якога беларускі рух на тэрыторыі Обер-Ост не меў уласнай суб'ектнасці ды зводзіўся да нейкай „нямецкай інтрыгі". Праўда,

*Шлях скрозь стагоддзе: беларуска-польскія адносіны 1918–2017 гг.* (2017) ды інш. Гл.: М. Стралец, *Снапкоўскі У. Е. як заснавальнік новага кірунку ў беларускай гістарычнай навуцы* [online], https://rep.bntu.by/handle/data/61670?show=full [доступ: 27.01.2021].

5 В. Матэрскі, *Да стандартаў савецкай эпохі?…*

6 *Кароткі нарыс беларускага пытаньня*, рэд.: А. Вашкевіч, А. Пашкевіч, А. Чарнякевіч, Мінск 2009, с. 45.

у адрозненне ад згаданага „Нарыса…” аўтары прадмовы ўпэўнены ў тым, што мэтаю гэтай меркаванай „інтрыгі” быў падзел „адзінага шматнацыянальнага грамадства гэтых зямель, дзеля адмысловай ізаляцыі палякаў” (с. 10– 12). Ці сапраўды ў эпоху нарастаючых нацыяналізмаў можна было казаць пра адзіную шматнацыянальную супольнасць? Пытанне хутчэй рытарычнае.

Затое ў складальнікаў не знайшлося месца нават для кароценькай згадкі „заходнерускай” традыцыі, якая вельмі істотна паўплывала на пераемнасць антыпольскай рыторыкі паміж былой Расійскай імперыяй і выходзячым на палітычную авансцэну беларускім рухам. Таксама варта было б прыгадаць шматтысячнае бежанства, а дакладней прымусовае высяленне жыхароў заходніх беларускіх губерняў царскімі ўладамі ў гады Першай сусветнай вайны, якое не толькі змяніла дэмаграфічную карту рэгіёна, але істотна прычынілася да змены палітычных поглядаў самога насельніцтва. Аўтары абмежаваліся толькі канстатацыяй факта, што на момант распаду Расійскай імперыі „беларускі эмансіпацыйны рух дзейнічаў у вельмі складанай сітуацыі” (с. 13). У выніку гэтага спрашчэння ў разглядзе „польска-беларускага вузла” згубіліся тыя ўнутраныя перадумовы, якія ў далейшым будуць адыгрываць выключную ролю ў стасунку беларускіх дзеячаў да Польскай дзяржавы як палітычнага партнёра.

Замест гэтага складальнікі зборніка галоўную ўвагу звярнулі на знешнія вытокі польска-беларускага канфлікту. Невыпадкова значнае месца ва ўводзінах адводзіцца бальшавіцкаму перавароту ў Расіі ды разгляду нацыянальнай палітыкі бальшавікоў. Але і тут мы не знаходзім нават павярхоўнага аналізу самой праблемы. Маем толькі выснову, што польскія ўлады не мелі магчымасці канкурыраваць з прапагандысцкай рыторыкай бальшавіцкага дэкрэта „Аб зямлі” (с. 13–15)

Разам з тым апісанне ў *Прадмове* вытокаў польска-савецкага канфлікту не адыходзіць ад традыцыйнай для польскай гістарыяграфіі канстатацыі, што польская самаабарона і войска імкнуліся выключна бараніць польскае насельніцтва ад „хаосу” ды бальшавіцкай рэвалюцыі, у той час як польскія палітыкі з непакоем прыглядаліся да „нямецка-беларускай кааперацыі” (с. 16). Цікава, што аналізуючы пазіцыю польскага ўрада адносна дыпламатычных крокаў кіраўніцтва Літоўска-Беларускай ССР, аўтары ставяць пад сумненне не толькі легітымнасць апошняга, але і легітымнасць нібыта „створанай немцамі” літоўскай Тарыбы (с. 21).

Падобных палемічных сцвярджэнняў у *Прадмове* даволі шмат. Напрыклад, сцвярджаецца, быццам Першы Беларускі полк у Гародні пачаў фармавацца ўрадам БНР са згоды нямецкіх улад (с. 23); а беларуска-польскія перамовы летам 1919 г., распачатыя ў Парыжы Ігнацыем Падарэўскім ды Антонам Луцкевічам, не знайшлі свайго працягу па прычыне адсутнасці падтрымкі з боку Францыі (с. 23); што „сацыял-дэмакратычная частка беларускага руха” (чытай: беларуская партыя сацыял-дэмакратаў) была схільная да бальшавіз-

му (с. 25). Таксама нельга пагадзіцца з апісаннем абставін г. зв. „інтэрнавання” Антона Луцкевіча ў Варшаве, якое было хутчэй свайго роду палітычнай гульнёй беларускага прэм’ера, чым свядомым крокам польскіх улад (с. 26). Таксама ў *Прадмове* варта было ўзгадаць беларускі антыпольскі партызанскі рух на Віленшчыне ды Гарадзеншчыне ў пачатку 1920-х гадоў, які скончыўся судовымі працэсамі ў Беластоку (1923) і Гародні (1925). Усё ж такі адным з ягоных арганізатараў польскі бок лічыў урад БНР Вацлава Ластоўскага[7].

Змешчаныя ў зборніку дакументы паходзяць з розных архіваў Польшчы, Беларусі, Літвы, Расіі, Вялікабрытаніі і нават Злучаных Штатаў Амерыкі. Праўда, пераважная колькасць прадстаўленых матэрыялаў ужо была апублікавана, пра што сведчаць адпаведныя спасылкі. Выключэнне складаюць матэрыялы з Цэнтральнага вайсковага архіва ў Рэмбертове і Архіва новых актаў у Варшаве, а таксама — Архіва Інстытута Юзафа Пілсудскага ў ЗША, фонда Галоўнай ад’ютантуры, прычым на апошні прыпадае амаль 20% усіх дакументаў (74 пазіцыі)[8]. Гэта невыпадкова. Паводле ўкладальнікаў, менавіта вайсковыя інстытуты — II аддзел польскага Генеральнага штаба, Ад’ютантура, Міністэрства вайсковых спраў з’яўляліся галоўнымі інструментамі рэалізацыі планаў Юзафа Пілсудскага ў вырашэнні „беларускага пытання”. Яшчэ адной унікальнай першакрыніцай стала публікацыя матэрыялаў брытанскіх дыпламатычных службаў.

З навуковых зборнікаў найбольш шырока на старонках кнігі прадстаўлены выдадзеныя пад рэдакцыяй Сяргея Шупы „Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі” (каля 50 дакументаў)[9]. У гэтым выпадку пераклад дакументаў на польскую мову падаецца цалкам абгрунтаваным, бо знаёміць польскамоўнага чытача з „унутранай кухняй” тагачаснай беларускай палітыкі. Акрамя афіцыйных матэрыялаў беларускага ўрада на старонках выдання публікуюцца вытрымкі з асабістай перапіскі дзеячаў БНР, іх развагі адносна магчымага беларуска-польскага збліжэння і ягоных наступстваў, абмеркаванне стратэгіі і тактыкі падчас перамоў у Рызе ды інш. Гэтыя матэрыялы дапоўнены перадрукам дакументаў з архіваў Мінска і Масквы, якія адлюстроўваюць савецкую пазіцыю па „беларускім пытанні”[10].

Зборнік распачынаецца Другой Устаўнай граматай Выканкама Рады Усебеларускага з’езда 9 сакавіка 1918 г., якая была адказам на падпісанне Брэсцкага міру. Такі пачатак з’яўляецца цалкам апраўданым, калі б не сцвярджэнне ўкладальнікаў у *Прадмове*, што стварэнне БНР „адбылося са

[7] На гэту тэму глядзі зборнік дакументаў: W. Śleszyński, *Walka instytucji państwowych z białoruską działalnością dywersyjną*. Białystok 2005.

[8] Centralne Archiwum Wojskowe w Rembertowie, Archiwum Akt Nowych w Warszawie, Instytut Józefa Piłsudskiego (USA).

[9] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі, уклад. С. Шупа. Кніга 1, тт. 1, 2. Вільня ды інш. 1998.

[10] Найбольш цікавымі ў гэтым сэнсе падаюцца ўжо згаданыя зборнікі *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991 гг.)* і *Государственные границы Беларуси*.

згоды нямецкіх улад”, і за гэту „ілюзію дзяржаўнасці” беларусы расплаціліся „пратэстам на заняцце польскімі войскамі часткі беларускіх зямель” (с. 16). Падобныя высновы не знаходзяць пацвярджэння ў даследаваннях гісторыі БНР, таксама іх нельга абгрунтаваць вядомымі гістарычнымі крыніцамі[11].

Сярод іншага ў зборніку ёсць новыя звесткі адносна пытання, якое даўно цікавіць даследчыкаў, а менавіта прызнання Фінляндыяй незалежнасці БНР — фактычна адзінага афіцыйнага прызнання на міжнародным узроўні. Пра гэта яшчэ 17 снежня 1919 г. з Хельсінкі паведамляў свайму кіраўніцтву лорд Актон. Праўда, брытанскаму дыпламату беларускі ўрад прадстаўляўся не інакш як урад „Заходне-Рускай Рэспублікі” (с. 346). Дарэчы, працяг гэтай гісторыі мы знаходзім ужо сярод дакументаў II аддзела польскага Генштаба, якія захоўваюцца ў Нью-Ёрку. Так, даведаўшыся, што ўраду БНР удалося разарваць дыпламатычную блакаду, польскі прадстаўнік у Фінляндыі пераканаў фінскі бок ануляваць гэта прызнанне (с. 363, 379).

Менавіта складальнікі вызначалі, якія крыніцы найбольш поўна перадаюць змест тых ці іншых падзей. Так, напрыклад, у зборніку друкуецца цэлы шэраг матэрыялаў, прысвечаных дзейнасці г. зв. „бацькі беларускіх паланафілаў” Паўла Алексюка. Гэта справаздачы з сустрэчы беларускай дэлегацыі з Генеральным камісарам Ежы Асмалоўскім вясной 1919 г. (с. 202–203), шматлікія рапарты афіцэраў II аддзела (с. 210–211, 216–217, 219 ды інш.), рапарты самога П. Алексюка пра дзейнасць Беларускай вайсковай камісіі, адрасаваныя польскаму камандаванню (с. 470–471 ды інш.). Пры гэтым выразна не хапае поглядаў „бацькі паланафілаў” на сутнасць беларуска-польскіх адносін, іх ідэалагічнае абгрунтаванне[12].

Яшчэ больш паказальнай выглядае сітуацыя з генералам Станіславам Балаховічам і ягоным „Палескім паходам”. Пры тым, што прозвішча С. Балаховіча ўзгадваецца больш за паўсотню разоў, з прадстаўленых дакументаў мы амаль нічога не даведаемся пра ягоныя ўзаемаадносіны з беларускім рухам. Перыяд г. зв. Асобнага атрада БНР у біяграфіі генерала прадстаўлены ў зборніку эпізадычна, напрыклад, праз справаздачу брытанскай вайсковай выведкі (с. 386–388). А вось пра падзеі восені 1920 г. распавядаюць фрагменты працы С. Ліс-Блонскага, які выконваў абавязкі афіцэра сувязі Польскай арміі пры групе С. Балаховіча (с. 640–642, 656–657). Аднак пра-

[11] Гл.: D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości*, Toruń 2010, s. 232–234; А. Смалянчук, *„Нямецкі напрамак” знешняй палітыкі БНР: першы крок (люты – сакавік 1918 г.),* „Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў” 2018. т. 4, с. 93–98; А. Траццяк, *Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў кантэксце Брэст-Літоўскай міжнароднай сістэмы*, „Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі”. Серыя гуманітарных навук. 2002, № 2, с. 56–61.

[12] У якасці прыкладу можна прывесці пратаколы г. зв. „маршалкаўскага суда” па справе С. Ваяводскага, на якім П. Аляксюк вельмі падрабязна апісаў вытокі асабістага канфлікту з гэтым афіцэрам II аддзела. Гл.: *Sylwester Wojewódzki przed Sądem Marszałkowskim*, Warszawa 1997, s. 97–111.

блема ў тым, што працытаваныя гэтыя фрагменты з’яўляюцца часткай пазнейшых белетрызаваных успамінаў, якія істотна адрозніваюцца ад надрукаваных раней арыгінальных справаздач таго ж аўтара[13].

На жаль, па-за ўвагай укладальнікаў засталася дзейнасць на тэрыторыі Беларусі Першага Польскага корпуса генерала М. Доўбар-Мусніцкага, якому прысвечаны ўсяго два дакументы — фрагмент звароту Народнага Сакратарыята БНР да Рэгенцыйнай Рады і рапарт Дэпартамента па палітычных справах самой Рады (с. 62–65). Як падаецца, гэтага недастаткова для ілюстрацыі той сітуацыі, якая склалася вакол Корпуса і істотным чынам паўплывала на лёс беларуска-польскіх адносін.

Зразумела, што пры велізарным даведкавым апараце зборніка цяжка пазбегнуць некаторых памылак і недарэчнасцей. Напрыклад, згаданы вышэй Павел Аляксюк прадстаўлены ў якасці кіраўніка „эміграцыйнага Беларускага палітычнага камітэта” (с. 203), што не адпавядае рэчаіснасці. Кузьма Цярэшчанка фігуруе як „тайны супрацоўнік бальшавікоў са снежня 1918 г.” (с. 247), але гэта патрабуе тлумачэння[14]. Недакладна перакладзена назва дакумента № 188: „Фрагмент пратакола з сустрэчы дэлегацыі БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі…” (с. 310). Насамрэч гэта быў сход у Берліне прадстаўнікоў БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі[15]. Недакладнасць перакладу змяніла не толькі геаграфію падзеі, але і абставіны. З іншага каментара можна зразумець, быццам Антон Луцкевіч сустракаўся з Юзафам Пілсудскім падчас ягонага візіту ў Мінск у верасні 1919 г. (с. 319), але такой сустрэчы не было. Аляксей Азнабішын не быў „баронам” (с. 372); а дзеяч Гродзенскай управы Курлоў меў імя Яўген, а не Васіль (с. 571). Недакладна тлумачыцца паняцце „варшаўскія беларусы”, бо паводле яго Антон Луцкевіч у ліпені 1920 г. павінен быў знаходзіцца ў Варшаве (с. 580), чаго насамрэч не было. У іншым месцы — гэты тэрмін датычыць ужо ўсіх сяброў Найвышэйшай Рады (с. 602). Адзін з лідараў беларускіх эсэраў Тамаш Грыб другі раз арыштоўваўся польскімі ўладамі ў ліпені 1920 г., тады як у каментары ідзе гаворка толькі пра ягоны першы арышт летам 1919 г. (с. 602).

Некаторыя з дакументаў недакладна датаваныя, а таму публікуюцца з парушэннем храналогіі. Так, дакумент № 192 „Тэлеграма беларускіх дзеячаў да старшыні Рускага палітычнага камітэта” (с. 314–315) не мог з’явіцца ў лістападзе 1919 г. Яго трэба датаваць восенню 1920 г. Дакумент № 263 „Мемарыял сябраў Найвышэйшай Рады” трэба датаваць вераснем, а не сакавіком 1920 г. (с. 422). Дакумент № 451 „Ліст Міністра замежных спраў БНР Аляксандра Цві-

13 A. Garlicki, „*Dwójka” o Grupie gen. Bałachowicza* [w] *Państwa europejskie na drodze do niepodległości (w drugiej połowie XIX i XX wieku)*, red. I. StawowyKawka, W. Rojek. Kraków 2003, s. 283–300.

14 Больш падрабязна гл.: У. Ляхоўскі, А. Чарнякевіч, *Кузьма Цярэшчанка: Acta non verba*, „Arche-пачатак”. 2011, № 11, с. 23–64.

15 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Кніга 1. Т. 1. Ст. 499.

кевіча да старшыні Лігі Народаў…”, які пазначаны сярэдзінай снежня 1920 г., паводле зместу не мог з’явіцца раней лютага 1921 г. (с. 695–696).

Апошні дакумент зборніка — фрагмент Рыжскай дамовы ад 18 сакавіка 1921 г., што з’яўляецца лагічным і абгрунтаваным. Але ў зборніку змешчаны яшчэ *Дадатак*, у якім прадстаўлены каля двух дзясяткаў дакументаў больш позняга часу, але зместам звязаных з папярэднім перыядам. *Дадатак* заканчваецца вытрымкамі са следчай справы ДПУ Аркадзя Смоліча (с. 777–780), „успамінамі” Браніслава Тарашкевіча, якія насамрэч з’яўляюцца часткай ягонай следчай справы ў ДПУ (с. 782–788)[16], і фрагментам з паказанняў Антона Луцкевіча, таксама запісаных падчас допыту ў савецкай вязніцы (с. 790–793). Пры ўсёй значнасці гэтых дакументаў іх з’яўленне ў дадзеным зборніку павінна суправаджацца адпаведнымі каментарамі ўкладальнікаў.

Відавочна, што ўкладальнікі не збіраліся рабіць вычарпальны агляд усіх падзей, якія паўплывалі на „зацягванне” польска-беларускага вузла супярэчнасцей, а абмежаваліся пералікам найбольш істотных момантаў, пакідаючы апошняе слова за крыніцамі.

Перад намі яскравая мазаіка мінулага, складзеная з больш чым пяцісот дакументаў рознага кшталту — мемарыялаў, лістоў, службовых справаздач, фрагментаў успамінаў і паказанняў падчас следства, газетных артыкулаў ды інш. Адпаведна, перад абазнаным у тэме чытачом непазбежна паўстаюць пытанні. Чаму ўкладальнікамі быў абраны той, а не іншы дакумент? Ці можна было яго дапоўніць або замяніць, пашырыўшы пры гэтым прапанаваны ракурс?

Спіс таго, што не трапіла ў кнігу, а насамрэч заслугоўвала публікацыі, даволі вялікі. Перш за ўсё гэта запісы з гродзенскага „Дзённіка” кіраўніка ўрада БНР Антона Луцкевіча за студзень — сакавік 1919 г., дзе між іншым ён апісаў свае кантакты з польскім камісарам Станіславам Іваноўскім[17], а таксама публіцыстыка А. Луцкевіча таго самага перыяду[18], вытрымкі з ідэалагічнага маніфеста Аляксандра Цвікевіча „Адраджэнне Беларусі і Польшча”, выдадзенага адразу пасля падпісання Рыжскага трактата[19], ды шмат чаго іншага.

Аднак, як заўважыла адна з рэцэнзентак выдання прафесар Іаана Гяроўска-Калаўр: „Кожны выбар заўсёды з’яўляецца вынікам суб’ектыўнага погляду на праблему і кожны аўтар мае права на ўласны выбар”.

Навуковы характар выдання абумоўлены шырокім выбарам тэм, палемічным характарам прадстаўленых матэрыялаў, якія часта супярэчаць адзін аднаму, і змястоўнымі каментарамі.

---

16 А. Валахановіч, У. Міхнюк, *Споведзь у надзеі застацца жывым: Аўтабіяграфія Браніслава Тарашкевіча,* рэд. А. С. Ліс. Мінск 1999.

17 А. Луцкевіч, *Дзённік,* „Полымя” 1991, № 4, с. 205–224; тамсама, № 5, с. 168–191.

18 Гл.: W. Kalinowski [А. Луцкевіч], *Kwestia wschodnia a Białoruś*. Warszawa 1920. 43 s.; ён жа. *Польская акупацыя на Беларусі*. Вільня 1920.

19 А. Цвікевіч, *Адраджэнне Беларусі і Польшча*. Менск – Вільня – Берлін 1921. 191 с.

**PhD Таццяна Касатая (Варшава)**
**Ірына Чарнякевіч, канд. гіст. навук (Гродна)**

# Памяць вяскоўцаў і выклікі сучаснасці




В. Іванова, *Ліпляны: біяграфія і штодзённасць беларускай вёскі,* Мінск: Галіяфы, 2019, 404 с., іл. + 1 электрон. апт. дыск.

Паколькі прадстаўленая рэцэнзія з'яўляецца вынікам супрацы двух аўтараў — гісторыка і этнолага,— маналагічнае выкладанне пэўнага пункту гледжання тут немагчымае. Адзіным прыдатным шляхам мы палічылі фармат дыялогу, які дазволіць не толькі адысці ад „рытуальнай" формы рэцэнзіі, але і выказаць уласныя погляды на пэўныя аспекты даследавання, якія могуць не супадаць.

## Кантэкст стварэння кнігі. Ідэя і змест выдання

Аўтаркай рэцэнзаванай кнігі з'яўляецца Вольга Іванова — кандыдат гістарычных навук, адна з пачынальніц Беларускага архіва вуснай гісторыі (www.nashapamiac.org), архівіст, арганізатарка і ўдзельніца шматлікіх палявых даследаванняў па вуснай гісторыі ў Беларусі. Асноўнымі сферамі навуковых інтарэсаў Вольгі Івановай з'яўляюцца архівазнаўства і вусная гісторыя. Рэцэнзаванае выданне — гэта ўжо другая яе кніга, заснаваная на вусных успамінах. Першая — *Прамоўленая гісторыя: XX ст. у памяці жыхароў беларускай вёскі* (2018) — была вынікам шматгадовай працы па запісе ўспамінаў і іх аналізе. *Прамоўленая гісторыя…* — гэта спроба інтэрпрэтацыі гісторыі Беларусі на падставе індывідуальнага вопыту сведак мінулага. Праца над гэтай кнігай і вопыт, атрыманы даследчыцай падчас вуснагістарычных экспедыцый, сталі грунтоўнай базай для падрыхтоўкі рэцэнзаванага выдання.

Ініцыятарам з'яўлення кнігі пра Ліпляны стаў беларускі бізнесмен і фундатар Ігар Жабароўскі, дзяды якога паходзілі з гэтай вёскі. Ягоныя дзіцячыя ўспаміны звязаны з Ліплянамі. Ігар Жабароўскі ў інтэрв'ю, якое змешчана ў прадмове да выдання, зазначыў: „Ліпляны — гэта тая адзіная маленькая радзіма, з якой свет успрымаецца іначай" (с. 13). Напісанне кнігі па ініцыятыве спадара Жабароўскага шмат у чым прадвызначыла яе асноўную ідэю і змест.

У *Прадмове* В. Іванова адзначыла: „Расказ пра вёску Ліпляны мы будзем весці разам з яе жыхарамі, каб захаваць памяць для тых, хто ўжо даўно жыве ў гарадах, па-за сусветам сваіх продкаў" (с. 8). Захаванне памяці, якая павінна стаць арыенцірам для будучыні, на нашу думку, з'яўляецца галоўнай ідэяй кнігі. Гэту ідэю аўтарка рэалізуе пры дапамозе шырокага даследавання гісторыі Ліплян, штодзённасці ліплянцаў, асаблівасцей іх светапогляду і светаадчування. Кніга напісана ў асноўным на аснове вусных успамінаў жыхароў Ліплян.

Кніга мае праблемна-храналагічную паслядоўнасць, дзе аўтарка спрабуе прасачыць гісторыю вёскі ад яе першых жыхароў да сучаснасці, наколькі гэта дазваляе зрабіць разнародны і часам фрагментарны матэрыял даступных для аналізу крыніц. З гэтай прычыны найбольш грунтоўна прадстаўлена гісторыя вёскі ў перыяд ад сярэдзіны да канца XX ст., у тым ліку працэсы калектывізацыі, савецкія рэпрэсіі, падзеі Другой сусветнай вайны (спаленне вёскі, знішчэнне яўрэяў, гісторыя остарбайтэраў), пасляваеннае жыццё (гаспадарчыя, сацыяльныя працэсы, культурныя падзеі). Асобна вылучаны канец стагоддзя, дзе ў якасці дамінуючых тэм успамінаў фігуруюць штодзённасць, Чарнобыльская катастрофа і служба ў войску.

Таксама ў кнізе апублікаваны сучасныя фальклорныя запісы і сюжэт пра каменныя крыжы, аб'яднаныя ў раздзел пад назвай *Этнаграфія вёскі.* Тэматычную разнастайнасць дапаўняе *Дадатак*, у якім змешчаны інвентары, што адносяцца да сярэдзіны XVIII ст. і 1840-х гадоў, са спісамі жыхароў Ліплян, дадзеныя пра ліплянцаў, якія загінулі падчас сусветных войнаў, былі вывезены на прымусовыя працы ў Германію падчас Другой сусветнай вайны, а таксама пра тых, хто быў рэпрэсаваны савецкай уладай. Асобным дадаткам з'яўляецца *Слоўнік ліплянскай гаворкі*. Таксама выданне мае электронны дадатак з фільмам пра вёску Ліпляны, які быў зняты па сцэнарыю Вольгі Івановай. Гэты фільм дапаўняе выданне візуальнымі вобразамі ліплянцаў і сучаснай вёскі, а таксама рэпрэзентуе мясцовую гаворку і тым самым выдатна адлюстроўвае галоўную ідэю кнігі.

## Агульныя ўражанні

Ірына Чарнякевіч (далей І. Ч.): Аб чым гэта кніга? Падаецца, што перш за ўсё аб памяці ў самым шырокім сэнсе. Нават тыя раздзелы, якія на першы погляд успрымаюцца ў якасці фону для асноўнага, найважнейшага, для „ядра" кнігі. У гэтым сэнсе тут усё падпарадкавана памяці — прадстаўляе і выражае яе, папярэднічае ёй. Думаю, сюды можна таксама аднесці рубрыкі, прысвечаныя першым этапам гісторыі вёскі і краю, нават этнаграфічныя нататкі,— фактычна ўсё, што папярэднічае жывому ўспаміну. А гэты ўспамін заварожвае, зацягвае, пагружае ў свет суразмоўцаў.

Таццяна Касатая (далей Т. К.): Кніга сапраўды стварае атмасферу для пагружэння ў штодзённасць ліплянцаў. Апрача атрымання новай інфарма-

цыі і разважанняў пра даследчыя праблемы выданне дае магчымасць суражываць жыхарам Ліплян, радавацца разам з імі, сумесна спяваць песні, чытаць вершы. Перадусім гэта заслуга аўтаркі, якая на працягу ўсёй кнігі дэманструе паважлівае і далікатнае стаўленне да ліплянцаў.

Гэта кніга пра сучасную беларускую вёску, пра тое, кім сябе лічаць вяскоўцы, на чым грунтуюць сваю ідэнтычнасць, што захоўваюць у сваёй памяці.

## Метады рэалізацыі асноўнай ідэі кнігі

Асноўнай мэтай даследавання, як адзначыла Вольга Іванова, з'яўляецца „вывучэнне калектыўнай памяці вяскоўцаў пра гісторыю і штодзённасць вёскі, а таксама выяўленне іх найбольш архаічных уяўленняў, асаблівасцей карціны свету і жыццёвых стратэгій" (с. 21). Праблема калектыўнай памяці[1] дагэтуль знаходзіцца на перыферыі даследаванняў беларускай гуманістыкі, хоць збліжэнне памяці і гісторыі ў заходнееўрапейскім навуковым дыскурсе назіраецца з сярэдзіны XX ст. А ў 2002 г. Пьер Нара (французскі даследчык, які ўвёў у навуковы зварот паняцце „*месцы памяці*") сцвердзіў, што мы жывём у эпоху сусветнай перамогі памяці, мемарыяльную эпоху[2]. Кніга пра Ліпляны і ліплянцаў якраз з'яўляецца адным з нешматлікіх прыкладаў мемарыяльнага дыскурсу ў гістарычных даследаваннях у Беларусі.

**І. Ч.:** У гэтай сувязі паўстае пытанне: дзеля каго стваралася гэта кніга? Яе шматслойнасць дае магчымасць быць запатрабаванай living рознымі коламі грамадства. Безумоўна, гэта важная падзея для беларускіх вуснагістарычных даследаванняў. У гэтым сэнсе кніга адрасавана перш за ўсё навуковай супольнасці, рэакцыя якой будзе паказчыкам зацікаўленасці працаю. Прычым рэакцыя важная як такая. Станоўчасць альбо адмоўнасць рэцэнзіі ў справе зацікаўленасці, калі адкінуць суб'ектыўныя пачуцці, прынцыповага значэння не мае. Як вядома, „крытык, які дыскваліфікуе кнігу, успрымаецца як больш кампетэнтны, чым крытык, які яе хваліць"[3]. З іншага боку, гэта манаграфія вёскі. Яна стваралася для жыхароў вёскі і тых людзей, што вёску пакінулі, для іх дзяцей, якія ўжо нарадзіліся ў іншых мясцовасцях, але для якіх актуалізацыя памяці аб каранях (даруйце мне пафаснасць) можа стаць

1 Калектыўная памяць і гістарычная свядомасць знаходзяцца ў цэнтры ўвагі такога міждысцыплінарнага накірунка, як *memory studies*. З ім цесна звязана вусная гісторыя. Спецыялісты ў сферы *memory studies* выкарыстоўваюць вусную гісторыю ў якасці метадалогіі вывучэння калектыўнай памяці. Таксама практыкі вуснай гісторыі маюць самі па сабе камемаратыўнае значэнне і з'яўляюцца аб'ектам вывучэння *memory studies*. Гл. падрабязней: Е. А. Ростовцев, *Российская наука об устной истории*, „Вестник СПбГУ. История" 2018, т. 63, вып. 2.

2 П. Нора, *Всемирное торжество памяти* [online] https://fly-uni.org/stati/per-nora-vsemirnoe-torzhestvo-pamyati/ [дата доступу: 07.03.2021]

3 T. M. Amable, *Brilliant But Cruel: Percepcions of Negative Evaluators,* „Journal of Experimental Social Psychology" 1983, № 19, p. 146–156. Цыт. паводле: S. Pinker, *Nowe Oświecenie*, Poznań 2018, s. 70.

важным чыннікам фармавання ўласнай ідэнтычнасці. Адсюль метадалагічная разнароднасць. Паклаўшы ў аснову мікрагістарычнага даследавання метады вуснай гісторыі (с. 21), аўтарка ўсведамляе, што заяўлены праект не можа быць рэалізаваны выключна гэтымі сродкамі, што ён патрабуе выкарыстання таксама іншых метадаў.

У *Крыніцах і метадах даследавання* Вольга Іванова змясціла сваю працу сярод мікрагістарычных даследаванняў, падкрэсліваючы арыентаванасць кнігі не толькі на новую лакальную гісторыю, пастулаты якой былі сфармаваныя ў брытанскай гістарыяграфіі яшчэ ў 1960-я гады, але і на пошук месца сярод сучасных мікрагістарычных даследаванняў, актуальнасць якіх выходзіць за межы лакальнай супольнасці (с. 18).

**Т. К.:** Так, аўтарка грунтоўна падышла да аналізу метадалогіі даследавання. Яна шмат увагі надала апісанню метадалогіі штодзённасці, мікрагісторыі, „*сялянaзнаўчым даследаванням*", антрапалагічнаму падыходу ў сучасных даследаваннях гісторыі вёскі. Вольга Іванова спрабавала знайсці метадалагічныя рамкі для рэпрэзентацыі вусных успамінаў ліплянцаў. Сканцэнтраваўшы ўвагу на штодзённасці і лакальнай гісторыі, даследчыца даволі сціпла прадставіла *oral history*, а таксама ўскосна згадала пра сацыяльную памяць[4], вывучэнне якой, як ужо адзначалася, аўтарка лічыла асноўнай мэтай.

Паняцце памяці часта згадваецца ў кнізе (у першую чаргу ў высновах), але непадрыхтаванаму чытачу, які не валодае тэрміналогіяй *memory studies*, будзе складана зразумець, пра што ідзе гаворка і ў чым заключаецца асноўны пасыл даследчыцы. Так, напрыклад, В. Іванова заўважыла, што ўспаміны ліплянцаў „ілюструюць найперш тое, якой вёска ёсць сёння і кім лічаць сябе яе жыхары. Мінулае для іх хаця і з'яўляецца моцным фундаментам ідэнтычнасці, аднак не дастаткова адрэфлексавана і таму ўжо праз тры пакаленні забываецца […] Сярод прычын (такой сітуацыі — Т. К.) расійскі даследчык Таццяна Шчаглова называе адсутнасць у сялян навыку вербальнага выражэння свайго светапогляду, а таксама яго пераважную адрознасць ад афіцыйнай гісторыі" (с. 22).

Тут, па-першае, агучаны агульныя асаблівасці вусных наратываў як спосабу інтэрпрэтацыі падзей мінулага на падставе жыццёвага вопыта суразмоўцаў, а таксама пад уплывам сацыяльнай рэальнасці. Распавядаючы пра былое, сведкі ўздымаюць актуальныя пытанні, звязваюць мінулае з сённяшнім днём. Па-другое, датычна памяці пра мінулае ў якасці падмурка ідэнтычнасці і існавання яе на працягу трох пакаленняў, гэта тэза з'яўляецца адной

4 Тут будзем выкарыстоўваць тэрмін „сацыяльная памяць" для пазначэння з'явы, адрознай ад нацыянальнай і палітычнай памяці, бо, на мой погляд, у кнізе прадстаўлена менавіта сацыяльная памяць. Падрабязней пра адрозненні сацыяльнай памяці ад нацыянальнай і палітычнай гл.: А. Ассман, *Длинная тень прошлого: Мемориальная культура и историческая политика*, Москва 2018, с. 16–24.

з агульных характарыстык сацыяльнай памяці (паводле тэорыі французскага даследчыка, аднаго з заснавальнікаў *memory studies* Морыса Хальбвакса)[5], а не толькі спецыфікі ўспамінаў (памяці) ліплянцаў. Адпаведна тэзіс пра прычыны асаблівасцей сацыяльнай памяці і неадрэфлексаванасці[6] мінулага, на маю думку, з'яўляецца спрэчным[7]. Можна дапусціць, што адметнасці вербальнага выражэння свайго светапогляду і адрознасць памяці вяскоўцаў ад афіцыйнай гісторыі з'яўляюцца асаблівасцямі сацыяльнай памяці ліплянцаў. Такім чынам, адсутнасць тлумачэння тэрмінаў сацыяльнай памяці і вусных успамінаў уплывае на недастатковую выразнасць кантэксту аналізу вусных наратываў, а таксама функцыянавання сацыяльнай памяці.

Верагодна, Вольга Іванова вырашыла не змяшчаць у рэцэнзуемым выданні пастулаты вуснай гісторыі і раскрываць паняцце калектыўнай памяці, якія былі падрабязна прадстаўлены ў яе папярэдняй кнізе *Прамоўленая гісторыя…*

## Вусная гісторыя — асноўны метад даследавання

Працягваючы дыялог на тэму метадалогіі, асобна вылучым пытанне пра *oral history*. Вусная гісторыя — адзін з моцных бакоў рэцэнзаванай кнігі. Ананімная і абстрактная гісторыя набывае канкрэтны змест пры дапамозе індывідуальных біяграфій, жыццёвага вопыту[8]. Вусныя наратывы ліплянцаў, прысутнасць іх прозвішчаў пачынаючы з XVIII ст., партрэтныя фотаздымкі спрыяюць пагружэнню ў атмасферу вясковага жыцця. Эфектыўным для ўспрыняцця інфармацыі з'яўляецца выкарыстанне цэласных тэматычных нарацый. Напрыклад, гэта ўспаміны Ганны Лось пра вайну (с. 135–136) і Міхаіла Гарэліка пра Халакост (с. 148–151).

**Т. К.:** Вуснагістарычны метад, як адзначыла аўтарка, стаў асноўным даследчыцкім метадам вывучэння біяграфіі вёскі (с. 21). Пад кіраўніцтвам даследчыцы былі арганізаваны дзве экспедыцыі ў вёску Ліпляны, падчас якіх былі запісаны ўспаміны 22 ліплянцаў. Вольга Іванова дала кароткую сацыяльнадэмаграфічную характарыстыку суразмоўцаў. Пры гэтым няма інфармацыі пра працэсы знаёмства з рэспандэнтамі і запіс успамінаў. Вусная гісторыя —

5 М. Хальбвакс, *Социальные рамки памяти*, Москва 2007; М. Хальбвакс, *Коллективная и историческая память*, „Неприкосновенный запас" 2005, № 2–3 (40–41), с. 45.

6 Даследчыца пісала ў *Заключэнні* пра імкненне ліплянцаў да рэфлексіі мінулага, сцвярджаючы, што яны шукаюць і выпрацоўваць новыя механізмы перадачы памяці, напрыклад, праз мастацкую самадзейнасць, летапіс вёскі, Дзень вёскі, традыцыйныя святы, стварэнне фільмаў, вершаў, апавяданняў (с. 351).

7 Адна з заснавальніц тэорыі культурнай і камунікатыўнай памяці нямецкая даследчыца Алейда Асман трапна заўважыла, што вусная камунікацыя звязвае нас з сацыяльным асяроддзем, а вось літаратурны тэкст дазваляе дыстанцыравацца ад сацыяльных камунікатыўных рамак, каб зрабіць яго прадметам рэфлексіі. А. Ассман, *Длинная тень прошлого…*, с. 100.

8 А. Ассман, *Длинная тень прошлого…*, с. 155.

гэта дыялог інтэрв’юера і рэспандэнта. Адпаведна, у кнізе, на мой погляд, не хапае інфармацыі пра працу інтэрв’юераў, апісанне якой, магчыма, стала б часткай метадалогіі, запатрабаванай іншымі даследчыкамі *oral history*. Тым больш у *Заключэнні* аўтарка, характарызуючы „лакальнасць і насцярожанасць да чужынцаў” ліплянцаў, пісала, што інтэрв’юеры толькі падчас другой экспедыцыі адчулі давер з боку вяскоўцаў, калі пачалі арыентавацца ў сваяцкіх стасунках і гісторыі вёскі (с. 350). Вядома, што ў вуснай гісторыі вельмі важны кантэкст і асоба інтэрв’юера. І менавіта з апісання працэсу збору ўспамінаў ужо пачалося б знаёмства з вёскай і яе жыхарамі. Варта адзначыць, што ў *Дадатку* змешчаны кароткія біяграфіі кожнага суразмоўца і апісанні інтэрв’ю. Але гэтыя разнародныя кантэксты не даюць агульнага ўяўлення пра „працу ў полі”. Таксама карысным для іншых даследчыкаў было б знаёмства са спісам пытанняў.

**І. Ч.:** З улікам асноўнай задачы кнігі Вольга Іванова, магчыма, не бачыла неабходнасці развіваць тэкст у гэтым напрамку. Тут мы выходзім на пытанне аб прысутнасці аўтара ў гэтай кнізе. У антрапалогіі ёсць паняцце „ўмяшальніцтва даследчыка”. У ідэале класічная антрапалогія патрабуе мінімізацыі ўмяшальніцтва і ўздзеяння на суразмоўцу і праз яго на даследуемае асяроддзе. Аднак гэтага ўздзеяння пазбегнуць немагчыма. Менавіта таму даследчык мусіць ясна ўсведамляць напрамкі і ступені ўздзеяння, каб ягоныя высновы ўлічвалі гэту „пагрэшнасць”. У кнізе, прынамсі ў той частцы, дзе лейтматывам з’яўляецца нарацыя жыхароў Ліплян, як заўважыла Таццяна Касатая, аўтара практычна не відаць. Гэта можа расцэньвацца станоўча, бо незаўважальнасць аўтара дае магчымасць пачуць суразмоўцу. Аднак з іншага боку, неакрэсленасць пазіцыі аўтара не дае магчымасці ацаніць ступень яго ўмяшання і ўплыву. Балансаванне ў гэтай сітуацыі — справа цяжкая.

**Т. К.:** Мінімізацыя прысутнасці аўтаркі, магчыма, звязана з уплывам адной са сфер яе навуковай зацікаўленасці — архівазнаўства. Архівісты звычайна вельмі педантычна ставяцца да крыніц, стараюцца дыстанцыравацца ад іх, каб даць магчымасць іншым даследчыкам самім прыйсці да высноў[9]. Прадстаўлены ў кнізе багаты этнаграфічны матэрыял — замовы, спевы, вершы — адназначна можна выкарыстаць у якасці крыніц.

**І. Ч.:** Хачу звярнуць увагу яшчэ на адзін момант: пераклад асобных інтэрв’ю на літаратурную беларускую мову. Можна пагадзіцца, што тут ёсць пэўны рэзон. Асабліва калі ўлічыць цяжкасці перадачы на пісьме розных адценняў маўлення ў мяшаных гаворках. Аднак В. Іванова, праўда ў іншым кантэксце, сама адзначыла, што „вусныя і пісьмовыя наратывы заўсёды

9 Варта ўзгадаць, што ў кнізе *Прамоўленая гісторыя…* змешчаны суцэльныя біяграфічныя наратывы беларускіх вяскоўцаў з апісаннем методык і ўмоў стварэння ўспамінаў, што *„робіць іх прыдатнымі для выкарыстання ў якасці крыніцы ў іншых гістарычных даследаваннях”* (с. 37).

ўтрымліваюць нашмат больш сэнсаў, чым можа прааналізаваць навуковец, абмежаваны метадамі і методыкай даследавання” (с. 26). У такой сітуацыі ці не было б больш лагічным пакінуць наратывы без перакладаў, прадастаўляючы чытачу магчымасць самому спасцігаць гэтыя пласты і сэнсы?

**Т.К.:** Рэпрэзентацыя вусных успамінаў патрабуе іх інтэрпрэтацыі і пэўнай уніфікацыі. Пераклад наратываў ліплянцаў з’яўляецца адным са спосабаў абагульнення ўспамінаў, што робіць тэкст чытальным і зразумелым у кантэксце аўтарскага тэксту. З прычыны адсутнасці агульных і строгіх правіл рэпрэзентацыі вусных крыніц даследчыца прадставіла ўласны спосаб падачы ўспамінаў.

## Гісторыя вёскі праз прызму вусных наратываў ліплянцаў

Асноўная частка кнігі *Ліпляны: біяграфія і штодзённасць беларускай вёскі* прысвечана гісторыі вёскі ў ХХ ст. Напісана яна на падставе вусных наратываў. У аўтарскі тэкст з апісаннем гістарычнага кантэксту ўбудаваны вытрымкі з успамінаў ліплянцаў. Ніжэй звернем увагу на некаторыя аспекты асноўнага зместу кнігі.

**Т. К.:** Прыярытэтам *oral history* з’яўляецца шматлікасць інтэрпрэтацый падзей. Напрыклад, у вусных успамінах няма адназначнай ацэнкі як калабарантаў (паліцэйскіх), так і партызанаў (с. 142–143). У вуснай гісторыі, як трапна заўважыла даследчыца, няма аднароднасці і ўніфікаванасці, што дамінавалі ў афіцыйным дыскурсе савецкай і нямецкай улад (с. 158).

**І. Ч.:** У гэтым кантэксце звяртае на сябе ўвагу асаблівая роля вусна-гістарычных даследаванняў у айчынным гістарычным дыскурсе. Так склалася, што прафесійная акадэмічная гісторыя часта канцэнтруецца на пэўнай пазіцыі, абумоўленай поглядамі даследчыка, і дыскурс у межах вуснай гісторыі ў пэўным сэнсе дазволіў запоўніць лакуны, што ўтварылася ў выніку недастатковай увагі да „нязручных” альбо „небяспечных” тэм, якія з розных прычын аказваюцца на ўзбочыне акадэмічнай гісторыі. І тут варыятыўнасць і амбівалентнасць ацэнак суразмоўцаў ствараюць тое поле, з якім даследчык мусіць даць сабе рады, аналізуючы яго і робячы высновы.

**Т. К.:** Успаміны ліплянцаў актуалізуюць тыя падзеі, якія амаль цалкам выціснуты з афіцыйнага мемарыяльнага дыскурсу. Гэта ў асноўным траўматычная гісторыя, звязаная з пакутамі ад савецкіх рэпрэсій,— раскулачванне, вывазы ў глыб Расіі (с. 119–127). У дачыненні да гэтых падзей выкарыстоўвалася стратэгія замоўчвання як з боку злачынцаў, так і з боку ахвяр і сведак. „Пражылі пад страхам усю жызнь” (с. 126),— так гучыць калектыўная інтэрпрэтацыя падзей, звязаных з рэпрэсіямі. Забыццё пра злачынствы савецкай улады — адна са стратэгій гістарычнай палітыкі сучаснай улады ў Беларусі.

Таксама ў адрозненне ад палітычнай памяці, якая накіравана на гераізацыю Другой сусветнай вайны, у вусных успамінах ліплянцаў пераважаюць трагіч-

ныя падзеі. Аўтарка зазначае: „Спаленая вёска і хаванне ад карнікаў у балоце — цэнтральны і найбольш траўматычны сюжэт у памяці вяскоўцаў не толькі пра вайну, але і пра ўсё апошняе стагоддзе” (с. 164). Траўматычны характар маюць таксама ўспаміны пра лёс кіраўніка ліплянскай прыгараднай гаспадаркі Янкеля Готліба, якога разам з жонкай, дачкой і сынам расстралялі немцы (с. 152–155). Месца пахавання Готлібаў, як і сама гісторыя гэтай сям’і, стала часткай калектыўнай памяці ліплянцаў. Помнік Готлібам паставіў сын Янкеля, які выжыў. Сёння помнікам апякуюцца вучні і настаўнікі ліплянскай школы.

Дэтальныя і эмацыйныя апісанні спалення вёскі і трагічнай смерці Готлібаў з’яўляюцца прыкладам культурнай траўмы, пра якую заяўлена ў публічнай прасторы. У Ліплянах адбылася мемарыялізацыя гэтай падзеі, злачынцы панеслі пакаранне, а ахвяры адчулі салідарнасць. Менавіта таму, на мой погляд, абагульняючы вывад аўтаркі пра тое, што „траўматычнасць не спрыяла фарміраванню рэфлексіўнасці, падзейнасці і шматаспектнасці тых успамінаў, якія дайшлі да нашага часу” (с. 350), недастаткова абгрунтаваны. Справа не ў самой траўматычнасці, а ў сучаснасці: ці была траўма перапрацавана, ці адчулі жыхары Ліплян эмпатыю?[10] Датычна спалення вёскі і Халакосту — так. А вось што тычыцца калектывізацыі і рэпрэсій, то, на мой погляд, рэпрэсаваныя і сведкі рэпрэсій не атрымалі належнай падтрымкі. Пераасэнсаванне і прыняцце гэтых падзей не адбыліся, што ўплывае на іх сціплую рэпрэзентацыю ва ўспамінах (с. 127).

**І. Ч.:** Я думаю, што варта ўлічваць таксама абставіны палявых даследаванняў, спецыфіку камунікацыі з суразмоўцамі. Тут можна казаць пра „схаванасць” траўматычных перажыванняў, якая мае аснову як у асаблівасцях функцыянавання псіхікі чалавека, дзе выштурхоўванне з памяці разбуральнага досведу выступае як форма самазахавання[11], так і ў акалічнасцях

---

10 Амерыканскі сацыёлаг Джэфры Аляксандэр, апісваючы канструяванне культурнай траўмы, зазначаў, што траўма — гэта ўласцівасць, якая прыпісваецца падзеі пры дапамозе грамадства, бо гэта падзея згубна ўплывае на калектыўную ідэнтычнасць. Для таго каб усвядоміць калектыўную траўму, а тым больш убудаваць яе ўрокі ў ідэнтычнасць, трэба ажыццявіць „працэс траўмы”: шырока заявіць пра траўму праз пераканаўчыя наратывы; злачынцаў прымусіць прызнаць сваю маральную адказнасць; урокі сацыяльнай траўмы павінны быць рытуалізаваныя і ўвекавечаныя; таксама трэба пашырыць сацыяльную салідарнасць і эмпатыю. Зыходзячы з гэтай тэорыі, можна меркаваць, што ў сучаснай Беларусі працэс траўмы, звязанай з савецкімі рэпрэсіямі, пачаўся ў гады перабудовы, прыпыніўся на мяжы стагоддзяў на ўзроўні дзяржаўных мерапрыемстваў, але працягвае ажыццяўляцца з ініцытывы грамадства. Варта прыгадаць гісторыю з Курапатамі. Дж. Александер, *Культурная травма и коллективная идентичность*, „Социологический журнал”, 2012 № 3, с. 6–39.

11 У даследаваннях па клінічнай псіхалогіі гэта тэма прадстаўлена надзвычай шырока. Гл., напр.: О. Ван дер Харт, Э. Р. С. Нейенхэюс, К. Стил, *Призраки прошлого: Структурная диссоциация и терапия последствий хронической психической травмы*, Москва 2013; Э. Лофтус, *Память. Пронзительные откровения о том, как мы запоминаем и почему забываем,* Москва 2018.

самога даследавання[12]. У якасці прычыны можа выступаць занадта малая колькасць часу, каб суразмоўца адчуў магчымасць і патрэбу „раскрыцца" перад даследчыкам, выбар таго, што, на погляд суразмоўцы, можа быць пераказана, урэшце — што вартае пераказу. Як адзначыла Вольга Іванова, „ліплянцам было цяжка расказваць уласную гісторыю. Пераважна з-за неразумення яе значнасці" (с. 350).

## Шматграннасць кнігі

Кніга пра Ліпляны мае шырокі кантэкст — апісанне геаграфіі і старажытнай гісторыі, пераказ апісанняў побыту этнографамі XIX ст. і г.д. Даследчыца апрацавала вялікі масіў крыніц, у тым ліку апублікаваныя дакументы, архіўныя матэрыялы, фотаздымкі. Такі падыход прадвызначыў стварэнне сапраўднай энцыклапедыі вёскі. Кожны чытач знойдзе ў кнізе тое, што яму цікава. Але трэба зазначыць, што пры апрацоўцы вялікага масіву інфармацыі цяжка пазбегнуць некаторых недакладнасцей[13].

**І. Ч.:** Адным з сюжэтаў, да якога звяртаецца Вольга Іванова, з'яўляюцца нататкі этнографаў. Я думаю, аўтарка слушна пакінула іх у якасці замалёвак, не падвяргаючы якому-небудзь сур'ёзнаму аналізу, бо перавод гэтага матэрыялу ў рэчышча гістарычнага дыскурсу непазбежна пацягнуў бы за сабою скрыўленні, выкліканыя эмацыйнай і ацэначнай насычанасцю некаторых апісанняў, у прыватнасці замалёвак Мікалая Улашчыка. З падобным матэрыялам трэба абыходзіцца надзвычай асцярожна, бо шырокія даследаванні даюць падставы таксама для іншых сцвярджэнняў. Так, аналізуючы ўсходнебеларускі варыянт калектывізацыі, крыніцай для якога паслужыла сярод іншага значная колькасць усходнепалескіх матэрыялаў, аўтарка фундаментальнага даследавання калектыўнай ідэнтычнасці беларускіх калгаснікаў Ганна Энгелькінг адзначыла: „Гісторыя аб калектывізацыі ва Усходняй Беларусі — міф аб заснаванні мясцовай супольнасці калгаснікаў — пацвярджае асноўныя пастулаты гісторыкаў. […] Праз апавяданні […] праступае вобраз прадпрымальнай і па меншай меры нябеднай дакалгаснай вёскі"[14].

## Аўтарскія высновы

У *Заключэнні* прадстаўлены погляд аўтаркі, заснаваны на аналізе разнароднага матэрыялу, гетэрагенных успамінаў, вопыце даследчыцы. Вольга Іванова прадставіла не толькі падсумаванні на тэмы памяці, свядомасці,

[12] Пра асаблівасці даследавання траўматычнага досведу ў кантэксце вуснай гісторыі гл., напр.: Н. А. Артёменко, *Устная история и проблема доступа к травматическому опыту*, „Studia Culturae" 2019, вып. 2 (40), с. 128–138.

[13] Так, напр., са зместу кнігі вынікае, што рэлігійная праваслаўная секта чырвонадраконаўцаў — гэта пратэстанты.

[14] A. Engelking, *Kołchoźnicy. Antropologiczne studium tożsamości wsi białoruskiej przełomu XX i XXI wieku*, Toruń 2012, s. 82–83.

ідэнтычнасці, традыцыйных сялянскіх каштоўнасцей, але таксама адзначыла важнасць падобных даследаванняў, якія даюць магчымасць вяскоўцам падаць „свой голас у бязмежжным маўчанні жыхароў тысяч беларускіх вёсак, якія доўгі час не мелі права на ўласную гісторыю” (с. 352).

**Т. К.:** У *Заключэнні* зноў паўстае праблема памяці, таксама назіраюцца некаторыя супярэчнасці ў тэзісах аўтаркі. Даследчыца сцвярджае, што праца па выбудоўванні ўласнай памяці і ідэнтычнасці мала знаёмая вясковым жыхарам (с. 350). Не зразумела, што мае на ўвазе аўтарка — „выбудоўванне” сацыяльнай памяці ці індывідуальнай, лакальнай ідэнтычнасці ці нацыянальнай? Тут мы вяртаемся да пытання адлюстравання ў кнізе праблемы функцыянавання калектыўнай памяці (сацыяльнай, нацыяльнай, культурнай). Трэба адзначыць, што фармаванне сацыяльнай памяці адбываецца ў выніку камунікацыі. Гэта натуральны працэс, які не патрабуе вялікіх інтэлектуальных высілкаў. Што тычыцца ідэнтычнасці, то вывучэнне інтэграцыйных працэсаў з'яўляецца асобнай даследчай праблемай. Але з фрагментаў успамінаў відавочна ўсведамленне ліплянцамі ўласнай адрознасці ад „іншых”. Гэта зазначыла сама даследчыца, сцвярджаючы, што „сучасная свядомасць ліплянцаў будуецца пераважна на настальгічным вобразе вёскі, на спробах аднаўлення і захавання старажытнай вясковай культуры для замацавання ўласнай і калектыўнай ідэнтычнасці” (с. 351).

**І. Ч.** Тут я б хацела выйсці за межы ўласна *Заключэння*, паколькі аўтарскія высновы і падсумаванні мы сустракаем на працягу ўсяго тэксту. Аналізуючы такую вялікую колькасць дастаткова складанага і разнароднага матэрыялу ў заяўленых межах, аўтарка часам аказваецца ў палоне абранай метадалогіі і прыкладаў яе выкарыстання. Не сакрэт, што часам перапрацаваная намі літаратура прадмету наўпрост падштурхоўвае нас да высноў, якія ў сціслым сэнсе не заўсёды вынікаюць з прыведзенага матэрыялу (пры гэтым велізарны масіў крыніц, выкарыстаных аўтарам, зразумела, застаецца па-за аўтарскім тэкстам).

Для мяне такім месцам з'явілася выснова з сюжэта пад назвай „Вяскоўцы і ўлада”, дзе даследчыца зазначыла: „Надзвычай мала вяскоўцы кажуць пра тагачасных кіраўнікоў дзяржавы Сталіна, Хрушчова і Брэжнева, вельмі рэдка спрабуюць ацаніць іх унёсак у развіццё грамадства. І гэтыя нешматлікія ацэнкі цалкам супадаюць з ужо зафіксаванымі і найбольш характэрнымі для сялянскай супольнасці” (с. 213). Тут аўтарка спасылаецца на даследаванне Таццяны Шчагловай, прысвечанае сялянству Алтайскага краю[15]. Падаецца, што пераносіць такія высновы рызыкоўна нават у меншых тэрытарыяльных маштабах. А ў пункце адносна даверу сялян да вярхоўнай улады ў адрозненне ад мясцовых функцыянераў (с. 29–30) стрыманасць крытыкі ў адрас

[15] Т. К. Щеглова, *Деревня и крестьянство Алтайского края в XX веке. Устная история*, Барнаул 2008.

першых можа быць трактавана не столькі як доказ на карысць гэтага даверу, колькі як спроба прымірэння з абсурдам дзеля выжывання.

Звяртае на сябе ўвагу і сціпласць аўтарскай высновы, што „асноўнай стратэгіяй штодзённасці ліплянцаў з часоў вайны было спачатку фізічнае выжыванне, а пазней пошукі матэрыяльнага дабрабыту праз выезды на заробкі, адукацыю, міграцыю ў горад і нават мастацкую самадзейнасць” (с. 351). Падаецца, што „пошукі матэрыяльнага дабрабыту” — занадта вузкі фундамент стратэгіі, тым болей што далей ідзе гаворка пра спробы захавання ідэнтычнасці. А гэта ўжо зусім іншы ўзровень.

## Высновы дыялогу

У прадстаўленай рэцэнзіі мы звярнулі ўвагу толькі на некаторыя аспекты кнігі. Кожны, хто будзе чытаць гэту кнігу, безумоўна, знойдзе для сябе новыя бакі і адценні гэтай сапраўды вартай увагі працы.

**Т. К.:** Кніга Вольгі Івановай *Ліпляны: біяграфія і штодзённасць беларускай вёскі* з’яўляецца запатрабаванай як з боку прафесійных даследчыкаў, так і шырокай грамадскасці. Што тычыцца навуковай сферы, то, па-першае, рэцэнзаванае выданне дае пэўныя метадалагічныя арыенціры для даследчыкаў, якія працуюць з вуснымі ўспамінамі, займаюцца вывучэннем лакальнай гісторыі і вясковай штодзённасці. Па-другое, гэта выданне з’яўляецца цікавым прыкладам збліжэння памяці і гісторыі, развіцця *memory studies* у Беларусі.

Аўтарка гэтай кнігай і сваёй дзейнасцю ў сферы вуснай гісторыі робіць значны ўнёсак у развіццё беларускай гістарычнай навукі, актуалізуючы важныя і рознабаковыя даследчыя праблемы гісторыі Беларусі XX ст., прапаноўваючы новыя практыкі працы з вуснымі ўспамінамі.

Запатрабаванасць кнігі ў шырокіх грамадскіх колах таксама праяўляецца ў некалькіх аспектах. Асабістыя ўспаміны пашыраюць погляд на мінулае, указваюць на адсутнасць універсальнасці, да якой імкнецца нацыянальная памяць. Шмат чаго з асабістых успамінаў (пакуты, траўмы і г.д.) не адлюстравалася ні ў афіцыйнай гістарыяграфіі, ні ў нацыянальнай памяці.

Мы ўжо адзначалі асноўную ідэю кнігі, менавіта захаванне памяці, якая накіравана ў будучыню і дае ўстойлівыя арыенціры для грамадства. Рэцэнзаваная кніга з’яўляецца перадумовай пераходу ліплянцаў ад камунікатыўнай да культурнай памяці[16]. Па-першае, сабраныя ўспаміны зафіксаваны на матэрыяльных носьбітах і знаходзяцца ў архіве, які забяспечвае матэрыяльную даўгавечнасць. Па-другое, частка ўспамінаў рэпрэзентавана ў кнізе, што дае падставы для іх больш шырокага распаўсюду. Праўда, на дадзены момант, выкарыстоўваючы тэрміналогію нямецкіх даследчыкаў Яна і Алейды Асман, можна сцвярджаць, што памяць ліплянцаў мае хутчэй

[16] А. Ассман, *Длинная тень прошлого…*, с. 147.

накапляльны, а не функцыянальны характар. Веды пра жывы вопыт павінны быць прыняты шырокай супольнасцю і ўплываць на яе ідэнтычнасць.

**І. Ч.:** Пагаджаючыся з Таццянай Касатай, я хачу дадаць, што падобныя даследаванні не толькі працуюць на захаванне памяці, асэнсаванне і ўключэнне канкрэтнага досведу ў калектыўную памяць, спрыяюць фармаванню, актуалізацыі і дэкляраванню нашай ідэнтычнасці, але таксама дазваляюць паставіць новыя пытанні. Напрыклад, як гэтыя досвед і памяць, іх асэнсаванне трансфармаваліся ва ўсведамленні саміх сябе сённяшнімі жыхарамі шматпавярховых дамоў — колішнімі ліплянцамі альбо нашчадкамі перасяленцаў з падобных вёсак?

**Аляксандр Краўцэвіч**
**доктар гіст. навук (Варшава)**

# Мяжа, якой не было

Е. Ахманьскі, *Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннай эпохі да XVI стагодзьдзя*, „Arche", 2016, № 2 (147), с. 13–96.

Рэдакцыя часопіса „Arche" ў аб'ёмным нумары пад агульнай назвай „Гісторыя старажытнага Наваградка" апублікавала сярод іншага кнігу польскага гісторыка Ежы Ахманьскага (1933–1996) „Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннай эпохі да XVI стагодзьдзя" ў перакладзе на беларускую мову.

Праца Е. Ахманьскага была выдадзена ў Польшчы ў 1981 г.,[1] і было цікава паглядзець на яе беларускае перавыданне праз тры з паловай дзесяцігоддзі. Напэўна, найперш трэба адказаць на пытанне, чым невялікая кніга (84 старонкі) польскага гісторыка-літуаніста з пачатку 80-х гадоў XX ст. заслужыла ўвагу беларускіх выдаўцоў у другім дзесяцігоддзі XXI ст. Відавочна, важнасцю і цікавасцю праблемы балта-славянскіх кантактаў для сённяшняй Беларусі, якая працягвае шукаць свае карані.

Напрошваецца і другое, важнейшае пытанне: што дае гэта перавыданне гістарычнай навуцы, якая за тры з паловай дзясяткі гадоў пры сучасным тэмпе жыцця, несумненна, пасунулася наперад? Пошуку адказу і прысвечана гэта рэцэнзія. Акрамя іншага, беларускае выданне для мяне — нагода верыфікаваць уласныя ацэнкі працы Е. Ахманьскага, выказаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі[2].

Тэхнічнае параўнанне беларускага тэксту з арыгіналам паказвае, што пераклад выкананы даволі старанна, беларусізавана нават тапаніміка на прыкладзеных картах. Дакладна, амаль без змен перанесена нумарацыя спасылак.

Праўда, здараецца не зусім адпаведная перадача тэрмінаў і проста памылкі друку. Напрыклад, імя летувіскага[3] князя напісана недакладна — Будзівіл (с. 47). Трэба Будзівід. Гэта імя важнае для летувіскіх калег, якія лічаць гэту асобу вялікім князем літоўскім, наступнікам Трайдэна. Замак у Лоску, названы ў польскім арыгінале стражніцай (strażnica), не быў „вартавой вежай" (с. 30), а хутчэй заставай. Выраз з польскага арыгінала „Litwy ściślejszej"

1 J. Ochmański, *Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku*, Poznań 1981. 84 s. [Uniwersytet Adama Mickiewicza w Poznaniu. Seria Historia. Nr 96].

2 А. К. Краўцэвіч, *Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага*. Мінск 1998, с. 56, 104.

3 Тэрміны „Летува" і „летувіскі" тут ужываюцца адносна сучаснай краіны і яе народа, дзеля адрознення ад гістарычнай Літвы і літоўцаў / ліцвінаў.

больш адпаведна перакладаць не „дакладнейшай Літвы" (с. 83), а „Літвы ў вузкім сэнсе". Паняцце „źródła językowe" па-беларуску гэта не „моўныя" крыніцы (с. 24), а мовазнаўчыя або лінгвістычныя. Некаторыя важныя цытаты прыводжу ва ўласным, больш дакладным, перакладзе з арыгінала.

Е. Ахманьскі выбраў для даследавання некалькі этапаў найбуйнейшай з'явы ў гісторыі Беларусі і Летувы — працэсу балта-славянскіх кантактаў, які працягваўся паўтара тысячагоддзя — ад VI да XXI ст.— і з'яўляўся аднačасова працэсам утварэння беларускага народа[4]. Выбар верхняй храналагічнай мяжы — канец XVI ст.— даследчык патлумачыў не зусім зразумела: ад таго часу „…паходзяць дадатковыя крыніцы, а менавіта земскія інвентары, прыдатныя для кантролю вынікаў, атрыманых на іншай падставе" (с. 14). Задачу даследавання Е. Ахманьскі акрэсліў як „рэканструкцыя ўсходняй, найбольш зьменлівай літоўскай этнічнай мяжы ў як мага ранейшы гістарычны пэрыяд", дзеля чаго дэклараваў комплекснае выкарыстанне разнастайных крыніц: гістарычных, археалагічных і лінгвістычных (с. 14).

Менавіта пастаянная зменлівасць і адсутнасць лінейнай этнічнай мяжы (насамрэч існавала даволі шырокая кантактная зона) адлюстравана ў назве гэтага рэцэнзійнага артыкула.

Е. Ахманьскі пачаў сваю працу з грунтоўнага апісання гісторыі даследавання „літоўска-рускай" этнічнай мяжы ў перыяд часу ад племянной эпохі да XVI ст. Ужо ў назве гэтага раздзела, дакладней, у выразе „літоўска-рускай" праяўляецца характэрная рыса для ўсёй працы, менавіта, бачанне існавання летувісаў як народа з часоў племяннога ладу і „нябачанне" беларусаў да найноўшага часу. Яны выступаюць пад тэрмінам „русіны", „рускія" як частка ўсходнеславянскай супольнасці. І ў XVI ст. у Е. Ахманьскага беларусы — рускія, адпаведна, і мова ў іх „руская" (напрыклад, с. 65–67).

Пастаяннае ўжыванне гэтага тэрміна адносна беларусаў увогуле ўласціва польскай гістарыяграфіі, якая „не заўважае" існаванне беларускага этнасу ў Сярэднявеччы і ў Новым часе[5]. Прычына крыецца ў адсутнасці незалежнай беларускай дзяржавы ў міжваенны перыяд. Палякі і летувісы ў той час актыўна распрацоўвалі свае гістарычныя парадыгмы пры падтрымцы ўласных нацыянальных дзяржаў, беларусы ў БССР (гэтаксама і ў пасляваенны час да пачатку 90-х гадоў XX ст.) не мелі магчымасці ствараць нацыянальную гістарыяграфію, ім навязвалі расейска-савецкую. Адпаведна беларусы і Беларусь ігнараваліся ды не разглядаліся як суб'ект уласнай гісторыі.

Узнікаюць цяжкасці і з разуменнем Е. Ахманьскім тэрміна „літоўцы", бо акрамя атаясамлення яго з этнасам, які сёння мае саманазву lietuviai (летувісы, літоўцы), у працы можна сустрэць уласцівае для даўняй гістарыя-

[4] *Гісторыя Беларусі*: *у 6 т., т. 1*, Рэдкал. М. Касцюк і інш, *Старажытная Беларусь: ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст*., Мінск 2000, с. 324–325.

[5] A. Krawcewicz, *Relacje Białoruś — Wielkie Księstwo Litewskie w polskiej historiografii, „Biuletyn Historii Pogranicza"* 2007, nr 8, s. 17–22.

графіі (да сярэдзіны XIX ст.) ужыванне тэрміна „літоўцы” як адпаведніка сучаснаму паняццю „балты”. Так, на стар. 80 у Е. Ахманьскага літоўцамі з’яўляюцца таксама яцвягі.

Назва аднаго з наступных раздзелаў „Барацьба Літвы з Руссю за палітычную мяжу да XIII ст.” паказвае таксама на прысутнасць недакладнага, сфармаванага яшчэ ў XIX ст., гістарыяграфічнага стэрэатыпу агульнай ацэнкі сярэднявечных славяна-балцкіх міжэтнічных адносін як канфрантацыйных. У XIX ст. у атмасферы варожасці ўсіх да ўсіх у Цэнтральна-Усходняй Еўропе фармаваліся нацыяналізмы[6], і дух свайго часу гісторыкі часта пераносілі на даўнейшыя перыяды.

У час, калі пісалася праца Е. Ахманьскага, ужо існавала даволі значная гістарыяграфія працэсу балта-славянскіх кантактаў, якая, наадварот, сцвярджала ягоны агульна мірны, а не канфліктны характар[7]. Аднак у даследчыка менавіта **канфрантацыя / змаганне** ляжыць у аснове і праходзіць праз усю гісторыю адносін паміж летувісамі і беларусамі (русінамі, паводле Е. Ахманьскага). Прычым заўважна, што сам аўтар у гэтым уяўным змаганні заўзее за летувісаў.

Ведаючы вынікі працэсу кантактаў, Е. Ахманьскі не можа сцвердзіць канчатковую перамогу летувісаў над беларусамі „ў змаганні за межы”, але пастаянна знаходзіць нагоды (на жаль, уяўныя), каб адзначыць хоць бы невялікі поспех першых.

Даследчык неаднакроць канстатуе непарыўнае пашырэнне беларускага („рускага”) абшару коштам летувіскага: „Трэба прыняць за гістарычную аксыёму зьяву няспыннага адступленьня літоўскага элемэнту на захад, г. зн. скарачэньня літоўскага моўнага абшару і пашырэньня рускага абшару. У пэрыяд, асьветлены ў пісьмовых крыніцах, г. зн. з XVI ст. па нашыя часы, не зафіксаваныя істотныя калянізацыйныя рухі літоўцаў на ўсходнім памежжы” (с. 25). Вось яшчэ характэрная цытата: “У ходзе шматвяковага працэсу рутэнізацыі і палянізацыі літоўскасьць на сваіх усходніх межах панесла вялізныя страты, у вялікай ступені незваротныя (с. 14).

Е. Ахманьскі канстатуе, што на лініі Вільня — Менск летувіская мова цягам вякоў адступіла прынамсі на 150 км на захад. Пры гэтым у аўтара „Вільня **апалячаная** раней за літоўскую вёску”, ужо ў XVIII ст. апынулася ў **славянскім** атачэнні (вылучэнні мае — А. К.). Пад эўфемізмам „славянскае атачэнне” крыецца беларускамоўнае сялянства (с. 14).

Е. Ахманьскі крытычна падышоў да вядомай працы Яна Якубоўскага з 1912 г.[8] пра міжэтнічныя адносіны, падтрымаў адныя высновы і не пры-

---

[6] *Historia Europy Środkowo-Wschodniej*, Redakcja Jerzy Kłoczowski, t. 1, Lublin 2000, s. 283.

[7] A. Krawcewicz, *Powstanie Wielkiego Księstwa Litewskiego*, Białystok 2003, c. 88–93.

[8] J. Jakubowski, *Studia nad stosunkami narodowościowymi na Litwie przed Unią lubelską*, Warszawa 1912.

няў іншыя (с. 17–18). Як слушную ён ацэньвае выснову Якубоўскага пра шматвекавое адступленне летувіскай мовы і як памылковую — выснову пра большасць карэнна летувіскага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім XVI ст. у параўнанні з „рускім".

Разам з тым у працы Е. Ахманьскага можна сустрэць процілеглыя сцвярджэнні, напрыклад, пра канчатковы „трыумф" Летувы ў выніку ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага: „Барацьба Летувы з Руссю за палітычныя межы, якая працягвалася больш двух стагоддзяў, урэшце законьчылася каля сярэдзіны XIII ст. трыумфам Летувы. Паўстаўшая каля сярэдзіны XIII ст. летувіская дзяржава аб'яднала пад сваёй уладай усе этнічныя летувіскія землі і заняла таксама тэрыторыі, прылеглыя да карэннай Летувы і заселеныя русінамі. Летува вярталася ў свае старыя этнічныя межы, якія былі перад рускай экспансіяй"[9]. Аднак, як аказалася, беларусізацыя летувісаў з утварэннем Вялікага Княства Літоўскага не спынілася, і пасля даволі эмацыйнага выказвання пра перамогу Летувы Е. Ахманьскі зноў вяртаецца да будзённасці — апісання далейшага адступлення „літоўскага элементу" „пад ціскам славянскага расьсялення" (с. 35).

Ці яшчэ ў падсумаванні: „Барацьба Літвы з Русьсю за палітычныя межы скончылася больш чым праз два стагодзьдзі змаганьняў посьпехам Літвы, якая ў першую чаргу ліквідавала неакрэплае і мала самастойнае Менскае княства разам зь меншымі княствамі — памежным Заслаўскім і Лагойскім, прымаючы іх пад сваё непасрэднае панаваньне ўжо на мяжы XII–XIII стст. […] Такім чынам, у межах так званай уласна Літвы (*Lithuania Propria*) апынуліся амаль усе землі, населеныя літоўцамі, але адарваныя дагэтуль ад карэннай Літвы рускімі князямі" (с. 95). У гэтых падсумаваннях недакладна амаль усё: і пра летувіскае панаванне, прынесенае з уласна Літвы (яна тады ўжо не была этнічна летувіскай) і пра населеныя летувісамі землі (там заставаліся адно паасобныя летувіскія выспы).

Апрыёры канфрантацыйны падыход даследчыка да асвятлення гісторыі беларуска-летувіскіх адносін скажае сапраўдную карціну іх развіцця. Так, пасля сцвярджэння нібыта „трыумфу" Летувы ў сярэдзіне XIII ст. у чытача можа скласціся ўражанне, што прасоўванне беларуска-летувіскай этнічнай мяжы на паўночны захад у гэты час было затрымана. На самой справе ніякага заўважнага перапынку ў перамяшчэнні мяжы не было, а прыняцце старабеларускай мовы ў якасці дзяржаўнай для Вялікага Княства Літоўскага, несумненна, яшчэ больш паспрыяла далейшай беларусізацыі летувіскага абшару.

Часам Е. Ахманьскі спрабаваў разгледзець розныя версіі развіцця беларуска-летувіскіх адносін падчас засялення Беларусі ўсходнімі славя-

[9] Прыводжу тут уласны, больш дакладны пераклад з арыгінала. У прыватнасці, у перакладзе „Arche" апушчана ключавое слова „ўрэшце" (ostatecznie). J. Ochmański, *Litewska granica*…, s. 24.

намі, менавіта лёс г. зв. старалітоўскага насельніцтва, якое насяляла гэтыя землі да славян (с. 69). Ён назваў чатыры варыянты таго, што магло быць са „старалітоўскім насельніцтвам”: 1) выцеснена на захад; 2) вынішчана фізічна; 3) патрапіла пад працяглую культурна-моўную асіміляцыю; 4) магло захаваць сваю этнічную адметнасць.

Аднак аргументацыя знайшлася толькі на карысць мірнай асіміляцыі: удзел балтаў у этнагенезе беларусаў, літуанізмы ў беларускай мове і г.д. Тым не менш, Е. Ахманьскі не выключаў і гвалту: „Ці частка старалітоўскага насельніцтва пакінула свае паселішчы, адступаючы на захад пад ціскам славянскага расьсялення, або была зьнішчана, можа адказаць толькі археалёгія” (с. 69). Але якраз археалогія гэтага не пацвердзіла. За мінулыя дзесяцігоддзі археалагічныя даследаванні, у тым ліку праведзеныя мною на Панямонні, не выявілі слядоў беларуска-летувіскай канфрантацыі.

Беларуска-летувіскае змаганне Е. Ахманьскі бачыў ужо ў IX–XI стст. на мяжы між Полацкай дзяржавай і Летувай (тады яшчэ кангламератам плямёнаў): „…экспансія крывічоў на ўсходнія літоўскія землі ў IX–XI стст. ужо атрымала выразны характар тэрытарыяльнай заваёвы” (с. 26).

Даследчык спрабаваў знайсці ўмацаваную „літоўска-рускую мяжу”, менавіта памежныя летувіскія замкі-гарадзішчы, пастаўленыя насупраць полацкіх, каб бараніць мяжу. „Вартавым рускім паселішчам” у X ст. назваў Менск на рацэ Менцы. Потым яго нібыта замяніла Заслаўе, далей нейкі не лакалізаваны Гарадок на Бярэзіне, а „пэўнай супрацьвагай для Гарадка маглі быць літоўскія Бакшты…” (с. 28), пра існаванне якіх у той час нічога не вядома. У якасці летувіскай загароды „экспансіі Русі” беспадстаўна называюцца Лоск і Крэва (с. 28) і г.д. На лініі найбольшай актыўнасці Полацка ягонаму апорнаму пункту Браславу, на думку гісторыка, супрацьстаяла гарадзішча Мажулёніс на возеры Велёнай (с. 29) і г.д.

На некаторых адрэзках той нібыта ўмацаванай мяжы Е. Ахманьскі не здолеў знайсці нават уяўных летувіскіх адпаведнікаў беларускім замкам (с. 30) і тлумачыў гэта іх адсутнасцю. Маўляў, не маглі летувісы стварыць суцэльную лінію абарончых замкаў, бо полацкі і кіеўскі націск былі надта магутнымі, а летувісы ў X–XII стст. яшчэ не мелі ўласнай дзяржавы (с. 31). Тым не менш, паводле Е. Ахманьскага, ужо пад канец XII ст. летувісы падпарадкавалі сабе Менскае княства (с. 34).

Падобныя нестыкоўкі ў працы трапляюцца пастаянна — прычына іх у супярэчнасці паміж прынятымі Е. Ахманьскім a priori тэзамі пра славяна-балцкую (беларуска-летувіскую) канфрантацыю, пра пачатковае Вялікае Княства Літоўскае як нацыянальную летувіскую дзяржаву і неаспрэчным фактам шматвекавой непарыўнай беларусізацыі балтаў.

Можна меркаваць, што сітуацыя ў крывіцка-летувіскай памежнай зоне ў XII–XIII стст. была падобнай да гістарычнай Літвы ў Панямонні, менавіта ўсходнеславянскія (беларускія) гарады выконвалі функцыі адміністра-

цыйных і гаспадарчых цэнтраў змешанай балта-славянскай вясковай ваколіцы[10]. Дзвюх ліній памежных замкаў насупраць не існавала, як не існавала і лінейнай мяжы, а была даволі шырокая кантактная зона[11].

Е. Ахманьскі неправамерна лічыць этнічна летувіскімі гарады, названыя ў вядомым „Спісе гарадоў рускіх дальніх і бліжніх", „А се Литовьскыи" Крэва, Лоск, Гальшаны і Лебедзева (с. 29). Аўтар спіса, складзенага ў канцы XIV ст., бачыў іх часткай усходнеславянскай („рускай") прасторы ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Да літоўскіх сярод многіх іншых залічваў таксама Полацак і Віцебск[12]. Навуцы ўвогуле невядомая такая з'ява, як сярэднявечны летувіскі горад, гэтаксама як латышскі ці эстонскі. Гарады ў прыбалтыйскіх народаў узніклі ў выніку каланізацыі: у Латвіі — нямецкай, у Эстоніі — нямецкай і дацкай, у Летуве — беларускай.

Археолагі сабралі агромністы аб'ём інфармацыі пра ўсходнеславянскія, у тым ліку беларускія, гарады, вылучылі дэфініцыю сярэднявечнага горада, менавіта крытэрыі адрознення яго ад сельскага паселішча, спецыфіку гарадской матэрыяльнай культуры ў параўнанні з вёскай[13]. У Летуве нічога падобнага няма.

Важная праблема ў вывучэнні працэсу балта-славянскіх кантактаў і гісторыі беларускай і летувіскай дзяржаўнасці — месцазнаходжанне гістарычнай Літвы (уласна Літвы, *Lithuania Propria*, Літвы ў вузкім сэнсе) як пачатковага ядра Вялікага Княства Літоўскага. Е. Ахманьскі высвятліў яе лакалізацыю па крыніцах XV–XVII стст. і экстрапаліраваў на сярэдзіну XIII ст.: „Межы *Lithuania Propria*, якія можна акрэсьліць на падставе крыніц XV–XVII стст., несумненна адпавядаюць межам літоўскай дзяржавы (устаноўленым пры Міндоўгу), якая стала ядром будучага Вялікага Княства Літоўскага" (с. 88–89). Тут можна пагадзіцца з усім, акрамя слоў „літоўскай дзяржавы", таму што няма ніводнага факта пра яе этнічна летувіскі характар. Гэта выдумка гістарыяграфіі XIX ст. Гэтаксама недакладнае акрэсленне Е. Ахманьскім пачатковага ядра Вялікага Княства Літоўскага (уласна Літвы) як этнічна летувіскай тэрыторыі. Археолагі даўно давялі, што гарады Наваградак, Гародня, Слонім і інш. былі ўсходнеславянскімі (беларускімі), а вясковая ваколіца — змешанай балта-славянскай[14].

Апісанне лакалізацыі ўласна Літвы ў Е. Ахманьскага пярэчанняў амаль не выклікае: „Згодна з крыніцамі, уласна Літвой у XV–XVI стст. трэба пры-

---

10 А. К. Краўцэвіч, *Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага*, Беласток 2008, с. 86.

11 А. К. Краўцэвіч, *Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага*, „*Białoruskie Zeszyty Historyczne*", 1989, nr 9, s. 13–15.

12 М. Н. Тихомиров, *Список русских городов дальних и ближних „Исторические записки"*, Москва 1952, т. 40, с. 224.

13 *Белорусская археология: Достижения археологов за годы Советской власти*, Минск 1987, с. 85.

14 А. К. Краўцэвіч, *Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні…*, с. 15. Бібліяграфія археалагічных даследаванняў гарадоў у: A. Kraucevič, *Badania archeologiczne starożytnych miast Białorusi*, „*Archaeologica Pragensia. Archeologický sbornik Muzea hlavního města Prahy*", Praha 2006, nr 18, s. 295–304.

знаць два этнічна літоўскія ваяводзтвы — Віленскае і Троцкае, Браслаў, Менск, Наваградак з так званай Чорнай Руссю (Ваўкавыск, Слонім, Камянец) і Горадню" (с. 88). Але і тут у даследчыка не ўсё выйшла гладка. Для ілюстрацыі сваёй дэфініцыі ён прыклаў карту, на якой паказаны іншыя межы *Lithuania Propria*: без Менска, Наваградка, Слоніма, Ваўкавыска, затое з Жамойцю. Акрамя гэтай прыкрай памылкі яўна не адпавядае рэальнасці акрэсленне Троцкага і Віленскага ваяводстваў як этнічна летувіскіх, паколькі ў XV–XVI стст. да іх належалі тыя ж Гародня, Наваградак і іншыя беларускія гарады.

Пасля Е. Ахманьскага праблемай лакалізацыі гістарычнай Літвы, менавіта яе мяжой з Руссю, грунтоўна займаўся беларускі гісторык Міхал Спірыдонаў. Гэты даследчык не толькі ўдакладніў дэфініцыю Е. Ахманьскага, але на падставе скрупулёзнага вывучэння пісьмовых крыніц дакладна размежаваў асноўныя рэгіёны Вялікага Княства Літоўскага Літву і Русь. У прыватнасці, лакалізаваў 122 населеныя пункты, якія ў пісьмовых крыніцах узгадваюцца як размешчаныя на Русі, што дазволіла даследчыку вызначыць найбольш дакладную на сённяшні дзень лакалізацыю гістарычнай Літвы: „Выкладзеныя даныя дазваляюць сцвярджаць, што ў XVI ст. сучаснікі адносілі да Літвы перш за ўсё этнічна летувіскія Віленскі, Вількамірскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі паветы, а таксама поўнасцю ці часткова "беларускія„ паветы ВКЛ: Браслаўскі, Віленскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Лідскі, заходнюю частку Мінскага, большую частку Наваградскага, амаль увесь Ашмянскі і Слонімскі"[15].

Важнай і супярэчнай генеральнай ідэі працы Е. Ахманьскага пра славяна-балцкае змаганне за этнічную мяжу з'яўляецца выснова М. Спірыдонава, падмацаваная дзесяцігоддзямі спецыяльных даследаванняў: „Гістарычныя рэгіёны ВКЛ істотна не супадалі ні з этнічнымі тэрыторыямі насяляўшых яго розных этнасаў, ні з адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі ВКЛ"[16].

Па сутнасці, праца Е. Ахманьскага — сцвярджэнне на падставе разнастайных крыніц даўняй прысутнасці балтаў (у Е. Ахманьскага — літоўцаў) на тэрыторыі Беларусі з акцэнтаваннем працяглага, да XX ст., захавання выспаў балцкага насельніцтва сярод беларускага этнічнага абшару. Гэта прысутнасць навукоўцам даўно вядомая і нікім не аспрэчваецца. Укладам Е. Ахманьскага ў вывучэнне праблемы балта-славянскіх кантактаў з'яўляецца сістэматызацыя даных розных навуковых дысцыплін, крытычны аналіз і верыфікацыя даўнейшай гістарыяграфіі.

Разам з тым, аўтарам не заўсёды вытрыманы крытычны падыход, месцамі праявы асабістага летуанафільства зашкодзілі навуковай аб'ектыўнасці. Гэта праявілася ў сцвярджэнні пра векавое (з кантэксту вынікае, што

---

15 М. Ф. Спиридонов, *„Литва" и „Русь" в Беларуси* в XVI в. [у:] *Наш Радавод*, Гродна 1996, ч. 7, с. 208; В. Насевіч, М. Спірыдонаў, *„Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст.* [у:] *„З глыбі вякоў. Наш край"*, Мінск 1996, вып. 1, с. 4–27.

16 М. Ф. Спиридонов, *„Литва" и „Русь"*…, с. 208.

часта збройнае) змаганне летувісаў з беларусамі за тэрыторыі, пра перамогі летувісаў у гэтым змаганні, у той час як навукова даказаны агульна мірны характар працэсу балта-славянскіх кантактаў. Сёння, прачытаўшы працу Е. Ахманьскага, староннi чалавек можа палічыць, што ў часы, калі яна пісалася (канец 70-х — пачатак 80-х XX ст.), Беларусь была яшчэ часткова занята летувіскім насельніцтвам.

Не адпавядае гістарычнай рэальнасці сцвярджэнне пра нацыянальную летувіскую дзяржаву ў сярэдзіне XIII ст., якая нібыта затрымала славянскую каланізацыю. Тое ж можна сказаць пра спробу прадставіць ядро Вялікага Княства Літоўскага (*Lithuania Propria)* як выключна летувіскую этнічную тэрыторыю.

Ранейшая мая ацэнка гэтай працы Е. Ахманьскага, як памылкова ўгрунтаванай на генеральнай тэзе славяна-балцкай канфрантацыі, не змянілася.

Беларуская публікацыя даўняй працы Е. Ахманьскага шмат бы выйграла пры навуковым да яе падыходзе. Маю на ўвазе дапаўненні / узбагачэнні каментарамі і хоць бы пералік асноўных публікацый па тэме за мінулыя тры з паловай дзесяцігоддзі. Пры тым, што найбольш зроблена якраз беларускімі даследчыкамі. Перакананы, што польскія ці летувіскія выдаўцы не прамінулі б акцэнтаваць дасягненні свайго гісторыка. У беларусаў здараецца інакш. У выніку атрымалася не прафесійная публікацыя помніка гістарыяграфіі, а перадрукоўка састарэлай працы.

## ЛЮБЛІНСКАЯ ЧАЦВЁРКА: ІДЭЯ І РЭЧАІСНАСЦЬ. Форум інтэлектуалаў Літвы, Польшчы, Украіны і Беларусі.

### Вільня, 24 верасня 2020 г.
### Прэзідэнцкі палац Літоўскай Рэспублікі

Форум быў прымеркаваны да 20-й гадавіны смерці славутага польскага інтэлектуала Ежы Гедройца (1906–2000), ідэі якога адыгралі важную ролю ў наладжванні кантактаў паміж культурніцкімі элітамі Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы. Месцам гэтага паразумення на пачатку стагоддзя стаў менавіта Люблін. У верасні 2020 г. Вільня працягнула гэтыя традыцыі. Ініцыятыва сыходзіла ад літоўскіх інтэлектуалаў, сярод якіх асабліва важную ролю адыграў дырэктар Інстытута гісторыі Літвы прафесар Альвідас Нікжэнтайціс.

У асноўных тэматычных напрамках Форуму дамінавала арыентацыя на вядомы тэзіс Ежы Гедройца, што вольная Польшча немагчымая без вольных Літвы, Беларусі і Украіны. Сёння відавочна, што вольнасць і суверэнітэт кожнай з названых дзяржаў недасяжны без вольнасці суседзяў.

Рэдактар легендарнага польскага часопіса „Культура” таксама сцвярджаў, што Польшча павінна адмовіцца ад „гістарычнага імперыялізму”. Ён быў упэўнены, што аднабаковыя гістарычныя ацэнкі без паглыблення ў меркаванне іншага могуць толькі нашкодзіць міждзяржаўным адносінам. Гэта ўніверсальнае правіла нагадвае, што ў дыскусіях на тэмы гісторыі і памяці важна пачуць думку іншага. Менавіта на гэта была арыентавана праграма Форуму, які праходзіў у Прэзідэнцкім палацы і распачаўся прывітальным зваротам прэзідэнта Літвы Гітанаса Наўседы.

У першым дыскусійным блоку (мадэратар Віціс Юрконіс) абмяркоўвалася геапалітычная сітуацыя чацвёркі названых дзяржаў, якія імкнуцца быць самастойнымі суб’ектамі ў міжнародных адносінах, але адначасна застаюцца пасрэднікамі паміж Захадам і Усходам. У дыскусіі ўдзельнічалі Славамір Дэмбскі і Павал Коваль (Польшча), Франак Вячорка і Павал Латушка (online) (Беларусь), Марус Януконіс (Літва) і Уладзімір Фясенка (Україна).

У другім дыскусійным блоку (мадэратар Анджэй Пукшта) гаворка ішла пра выпрацоўку найбольш аптымальнай і эфектыўнай мадэлі адносін з Расіяй. У абмеркаванні ўдзельнічалі Пшэмыслаў Жураўскі вэль Граеўскі (Польшча), Андрэй Дынько (Беларусь), Яўген Кісялёў (Украіна—Расія) і Гедымінас Кіркілас (Літва).

Дзве апошнія дыскусіі (мадэратары Аўрымас Швядас і Віргініюс Савукінас) былі прысвечаны ролі гістарычнай памяці і адказнасці гісторыкаў, дзейнасць якіх можа істотна паўплываць як на падзел, так і на паразуменне суседніх народаў. Абмяркоўваліся праблемы інтэрпрэтацыі гістарычных падзей супольнай мінуўшчыны Літвы, Польшчы, Беларусі і Украіны. Удзельнікамі гэтых дыскусій былі Міраслаў Шуміла, Ян Маліцкі і Агнешка Рамашэўска-Гузі (Польшча), Антон Драбовіч, Еўстраці Зара і Тарас Вазняк (Украіна), Аляксандр Смалянчук і Тадэвуш Кандрусевіч (online) (Беларусь), Рымвідас Пятраўскас і Альвідас Нікжэнтайціс (Літва).

У заключнай частцы і выніковай дыскусіі таксама прыняў удзел былы прэм’ер-міністр Літвы Андрус Кубілюс.

Напрыканцы Форуму Альвідас Нікжэнтайціс прадставіў праект Дэкларацыі, які быў прыняты, а пазней дапрацаваны і набыў форму пэўнага звароту да палітыкаў Літвы, Польшчы і Украіны, а таксама да беларускага грамадства.

**Зварот ініцыятараў Першага форуму інтэлектуалаў Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны „Люблінская чацвёрка: ідэя і рэчаіснасць”, што адбыўся 24 верасня 2020 г. у Вільні, да прэзідэнтаў Літвы, Польшчы і Украіны, ініцыятараў „Люблінскай тройкі” — міністраў замежных спраў і да беларускага грамадства**

*Звяртаемся да вас, каб падкрэсліць гістарычную еднасць нашых дзяржаў і народаў, супольныя каштоўнасці і адказнасць за будучыню рэгіёна.*

*Першы форум „Люблінская чацвёрка: ідэя і рэчаіснасць”, праведзены ў Вільні, стаўся важным складнікам у стварэнні пастаяннай сеткі супрацоўніцтва паміж навукоўцамі, палітычнымі экспертамі, палітыкамі, СМІ, рэлігійнымі канфесіямі і іншымі прадстаўнікамі грамадскасці, якая дапаможа ў ацэнцы развіцця чатырох дзяржаў, перспектыў будучыні рэгіёна на аснове супольнай гісторыі, светапогляду і еўрапейскіх каштоўнасцей.*

*Спадзяемся, што пасля спынення рэпрэсій цяперашняй беларускай улады супраць сваіх грамадзян-іншадумцаў, забеспячэння павагі да правоў чалавека і захавання агульнапрызнаных дэмакратычных стандартаў у нас і іншых дэмакратычных дзяржаў з’явіцца магчымасць аднавіць паўнавартаснае супрацоўніцтва з нашай суседкай. Падчас Форуму мы выказалі падтрымку і салідарнасць беларусам, якія вядуць барацьбу за свабоду, а таксама перакананасць, што гэта ўнікальная мірная барацьба мае патрэбу ў максімальнай падтрымцы.*

*Гэтым зваротам адзначаем, што суседнія Літва, Польшча і Украіна будуць з павагай ставіцца да любога геапалітычнага выбару жыхароў Беларусі. Ра-*

*зам з тым заўважаем, што для дэмакратычнай Беларусі заўсёды адчынены дзверы ў фармат „Люблінскай чацвёркі” і ў яе ініцыятывы.*

*Запрашаем усіх да пастаяннага аналізу і ацэнкі цяперашніх падзей у рэгіёне ды да дыскусіі аб супольных выкліках і будучыні рэгіёна. Мяркуем, што наша думка будзе мець значэнне для прадстаўнікоў улады і грамадства Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, і імкнёмся, каб Форумы, падобныя да арганізаванага ў Вільні, сталі рэгулярнымі.*

*Мэтай такіх Форумаў мае стаць стварэнне фармалізаваных і нефармальных рэгіянальных сетак. Інфармуем, што падчас Віленскага Форуму была створана супольная Камісія беларускіх, літоўскіх, польскіх і ўкраінскіх гісторыкаў, якая мае на мэце ўзмацненне аб’ектыўных даследаванняў гістарычнай мінуўшчыны нашага рэгіёна, распаўсюд акадэмічнай думкі нашых навукоўцаў у Еўропе і свеце, выхаванне маладога пакалення. Запрашаем органы ўлады Польшчы, Літвы, Украіны, грамадскія арганізацыі і неабыякавых да будучыні рэгіёна грамадзян чатырох краін зрабіць унёсак у рэалізацыю гэтых ідэй.*

*Вашыя Яснавяльможнасці Прэзідэнты і міністры замежных спраў Літвы, Польшчы, Украіны!*

*Хочам запрасіць вас стаць апекунамі форумаў гэтай „Люблінскай чацвёркі”, тым самым выражаючы палітычную падтрымку рэгіянальнаму супрацоўніцтву і пазіцыі беларускай, літоўскай, польскай і ўкраінскай грамадзянскай супольнасці.*

Арганізатары Форуму таксама выказалі спадзяванне, што ідэі Ежы Гедройца і сфармаваная на іх аснове праграма Форума паспрыяюць глыбіні інтэлектуальных дыскусій і спрычыняцца да стварэння прасторы бяспекі, стабільнасці і супрацы дзяржаў і народаў паміж Балтыйскім і Чорным морамі.

**Аляксандр Смалянчук (Варшава)**

# ЗБРОЙНАЕ ЗМАГАННЕ ЗА БЕЛАРУСКУЮ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ У 1917–1923 гг.

## Да 100-годдзя Слуцкага збройнага чыну. Міжнародная навуковая канферэнцыя. Варшава, 13 лістапада 2020 г.

У мінулым 2020 годзе Беларусь адзначала стагоддзе Слуцкага збройнага чыну. Натуральна, што дзяржаўная ўлада гэту дату цалкам праігнаравала. Гэта ж самае можна сказаць і адносна афіцыйнай гістарыяграфіі. Ніводная акадэмічная ўстанова Беларусі не арганізавала навуковых мерапрыемстваў,

прысвечаных азначанай даце. Адзіную навуковую канферэнцыю правёў 13 лістапада 2020 г. Цэнтр беларускіх студыяў пры Варшаўскім універсітэце. Падрыхтоўка канферэнцыі ўскладнялася эпідэміялагічнай сітуацыяй у сувязі з пашырэннем эпідэміі каранавіруса. У выніку арганізатарам прыйшлося адмовіцца ад традыцыйнага фармату на карысць анлайн-канферэнцыі. На жаль, з гэтай прычыны не змаглі прыняць удзел некалькі вядомых даследчыкаў, паколькі азначаны фармат пакуль не ўспрымаецца часткай навуковай супольнасці як паўнавартасная замена непасрэднага жывога дыспуту.

У выніку ў працы канферэнцыі прынялі ўдзел 13 даследчыкаў з Беларусі, Польшчы і Літвы. Анлайн-фармат сябе цалкам апраўдаў. Канферэнцыя суправаджалася вельмі цікавымі дыскусіямі. Распачаў яе даклад вядомай даследчыцы беларускага антысавецкага супраціву Ніны Стужынскай „Паўстанцкі рух на Случчыне: працяг супраціву ў 1921–1922 гг." Выступленне прафесара Алены Глагоўскай было прысвечана постаці палкоўніка Гасана Канапацкага — камандзіра беларускіх аддзелаў у польскім войску ў 1919–1920 гг. Прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Юры Грыбоўскі распавёў пра вайскова-палітычную дзейнасць Кастуся Езавітава ў 1917–1921 гг. Даклад д-ра Тамаша Блашчака з Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне (Літва) быў прысвечаны беларускім вайсковым фармаванням у літоўскім войску, а таксама памяці пра іх у міжваеннай і сучаснай Літве.

Другую частку канферэнцыі распачаў вядомы беларускі даследчык вайсковай справы Ігар Мельнікаў з дакладам на тэму „Уніформа беларускіх збройных фармаванняў у 1918–1920 гадах. Ад тэорыі да практыкі". Прафесар Беластоцкага ўніверсітэта Яўген Міратовіч распавёў пра беларускі партызанскі рух на тэрыторыі Польшчы ў 1921–1923 гг. Даклад гарадзенскага гісторыка і супрацоўніка Цэнтра беларускіх студыяў Андрэя Чарнякевіча быў прысвечаны яркай постаці Станіслава Булак-Балаховіча. Іншы супрацоўнік Цэнтра Сяргей Токць распавёў пра дзейнасць беларуска-літоўскіх партызанаў у Гарадзенскім і Лідскім паветах у 1922–1923 гг.

Трэцяй, завяршальнай, часткай у працы канферэнцыі стаў круглы стол „Здабыткі і страты: вынікі збройнага змагання за беларускую дзяржаўнасць у 1917–1923 гг.". Мадэратарам круглага стала выступіў выбітны знаўца беларускай вайсковай гісторыі прафесар Беластоцкага ўніверсітэта Алег Латышонак. У дыскусіі прынялі ўдзел удзельнікі і госці канферэнцыі. Большасць дыскутантаў падзяляла меркаванне, што беларускі збройны чын не дасягнуў сваёй галоўнай мэты — заваявання беларускай дзяржаўнасці. І гэта мэта была недасяжная з прычыны той геапалітычнай сітуацыі, у якой апынулася Беларусь у час бурлівых перамен. Аднак Слуцкае паўстанне, як і іншыя збройныя выступленні беларусаў, якія яшчэ чакаюць ушанавання на ўзроўні дзяржаўнай улады, сталі выключна важным элементам гістарычнай памяці нацыянальна свядомай часткі сучаснага беларускага грамадства.

**Сяргей Токць (Варшава)**

# 100 JAHRE FRIEDENSVERTRAG VON RIGA: Die belarusische Frage und die europäische Nachkriegsordnung. Fachdiskussion der Deutschen Gesellschaft für Osteuropakunde in Kooperation mit der Justus-Liebig-Universität Gießen. 12.03.2021 (online)

The Riga Peace Treaty, signed on March 18, 1921, between the Republic of Poland on the one hand and the Russian Soviet Federative Socialist Republic and the Ukrainian Soviet Socialist Republic on the other, is not well known in Germany. But for Belarusian history this is a very significant date, because the agreement was a brake, even a step back in the development of the Belarusian statehood.

Therefore, it was time to discuss the genesis, results and meaning of this agreement at an international online conference which took place in Belarusian and German language with simultaneous translation on March 12, 2021.

The "right to self-determination" of peoples and nations, which was given importance during and after the First World War, was completely ignored in this treaty, as today's territory of Belarus was divided into two parts. Why that?

Frank Golczewski (Universität Hamburg) noted that the young Polish state had given little promise to the Belarusian movement, but very much to the Ukrainian one. And Soviet Russia added the Ukrainian SSR as a potential signatory state for a probably peace, on which talks begun in 1920. But the Soviet Socialist Republic of Belarus (SSRB), which had been solemnly proclaimed two months earlier, had no place at the negotiating table.

Voĺha Baroŭskaja (Instytut Istoryi, Nacyjanaĺnaja Akademija Navuk Bielarusi) explained why the border was drawn where it was drawn. Neither linguistic, nor ethnic, nor historical arguments could be made in favor of this boundary. Rather, military-geographical issues played a role as well as simply the front line at that time. In any case, peace was made regardless of the interests of Belarusian national actors. With time, the 1,400-kilometer-long Polish-Soviet border was able to ensure peaceful demarcation between Poland and the Soviet Union, but not the security of Belarus and the peoples of Eastern Europe.

Taking this into account, the 18-year duration of the border was actually more stable than originally expected. Anatoli Vialiki (Uniwersytet Warszawski) noted that we can rightly speak of a Versailles-Riga order in postwar Europe.

There was also a discussion about the concepts of Pilsudski against Dmowski, about federalism against incorporationism.

Alieś Smaliančuk (Uniwersytet Warszawski) made it clear in his commentary that federalism was seriously meant only by a small part of Pilsudski's political camp; for the most of them, however, it was simply a tactical moment: Polish rulers only shifted between ignoring, exploiting, restraining, and fighting the Belarusian movement.

Ironically, the Riga Peace Treaty guaranteed the "independence" of "Belarus"; but this did not mean that there was an independent Belarusian statehood. On the contrary.

Welcome speech: Thomas Bohn, Universität Gießen, Historisches Institut

Moderation and introductory speech: Diana Siebert, Universität Gießen, Historisches Institut

Organizer: Deutsche Gesellschaft für Osteuropakunde (Berlin) and Universität Gießen, Historisches Institut.

**Dr Diana Siebert (Gießen)**

## ZBRODNIA W KUROPATACH 1937–1941: PRAWDA I WOLNOŚĆ. Polsko-białoruska konferencja online. 24 lutego 2021 roku.

22 lutego 2021 roku na platformie zoom odbyła się konferencja pt. „Zbrodnia w Kuropatach 1937–1941: prawda i wolność: polsko-białoruska konferencja online" zorganizowana przez Instytut Pileckiego oraz Fundację Dom Białoruski w Warszawie. Konferencja poświęcona była masowym represjom, których Białorusini i Polacy doświadczyli ze strony totalitarnej władzy sowieckiej w latach 1937–1941. Celem konferencji była prezentacja obecnego stanu wiedzy na temat zbrodni w Kuropatach, która pozostaje poza głównym nurtem świadomości historycznej Polaków, a na Białorusi jest bliżej znana tylko w kręgach opozycyjnych. Zależało nam na podkreśleniu wspólnoty doświadczeń Białorusinów i Polaków w konfrontacji z komunizmem. Chcieliśmy także zastanowić się nad rolą pamięci o Kuropatach i — szerzej — sowieckim terrorze w procesie upodmiotowienia społeczeństwa białoruskiego i kształtowania się nowej białoruskiej tożsamości politycznej. Czy wspólna historia narodów Europy Środkowo-Wschodniej może być podstawą porozumienia i współpracy? Jakie znaczenie ma doświadczenie komunizmu dla wysiłków na rzecz budowy i poszerzenia przestrzeni wolności i demokracji w naszym regionie? Jak wprowadzać tę perspektywę do głównego nurtu pamięci europejskiej?

W konferencji wzięli udział wybitni naukowcy z Polski i Białorusi. I panel „Białorusini i Polacy — ofiary komunizmu. Zbrodnie w Związku Sowieckim"

poprowadzony przez Koordynatorkę Sekcji Wschodniej Archiwum Instytutu Pileckiego Olgę Lebedewą poświęcony był badaniom historycznym represji w Białoruskiej Republice Sowieckiej. Słuchacze mogli się dowiedzieć o zbrodniach sowieckich na Białorusi w okresie międzywojennym oraz problemach i wyzwaniach badawczych.

Uczestnicy II panelu „Przebudzenie pamięci: Kuropaty w świadomości historycznej" skupili się na pamięci o zbrodniach reżimu sowieckiego. Panel moderował historyk i antropolog kultury dr Jerzy Rohoziński. Prelegenci opowiadali o pamięci i niepamięci o represjach na obszarze poradzieckim, przede wszystkim na Białorusi i w Federacji Rosyjskiej. Ponadto Słuchacze mieli okazję lepiej poznać badania nad pamięcią z punktu widzenia archeologii.

Trzeci panel pt. „Negacja, trolling, fake news: jak się fałszuje historię komunizmu Dwugłos polsko-białoruski" dotyczył współczesnych wojen pamięci na obszarze poradzieckim. Ze strony polskiej w debacie uczestniczył Kamil Kłysiński z Ośrodka Studiów Wschodnich, perspektywę białoruską zaś prezentowali dziennikarz i bloger Zmicier Mickiewicz oraz założycielka EAST Center Veranika Laputska. Rozmowę poprowadził pracownik naukowy Instytutu Pileckiego dr hab. Andrzej Zawistowski.

Zwieńczeniem konferencji była debata „Siła antykomunizmu. Historia i podmiotowość polityczna w Europie Środkowo-Wschodniej", moderowana przez Tomasza Stefanka. O obecnej sytuacji na Białorusi, stosunkach polsko-białoruskich i zbrodniach komunizmu rozmawiali Agnieszka Romaszewska-Guzy, dr Alaksandr Milinkiewicz, Andrzej Poczobut oraz dr Paweł Ukielski.

Konferencja spotkała się z dużym odzewem zarówno ze strony Słuchaczy z Polski, jak i z Białorusi. Była to okazja do poznania różnych punktów widzenia na wspólne doświadczenie totalitaryzmu sowieckiego, a jednocześnie pole do zastanowienia się nad przyszłością stosunków polsko-białoruskich.

**Olga Lebedewa (Warszawa)**

# Пётр Эбэрхарт (1935–2020)

10 верасня 2020 г. адышоў у нябыт прафесар Пётр Эбэрхарт, адзін з найбольш выбітных польскіх географаў. Гэта высокая пазіцыя стала вынікам яго незвычайных разумовых здольнасцей, эрудыцыі і працавітасці. Пералічаныя рысы былі абумоўлены як унікальнасцю асобы даследчыка, так і выдатнымі сямейнымі традыцыямі, бо як з боку бацькі, так і з боку маці ў радаводзе прысутнічалі асобы, надзвычай важныя для польскай навукі і тэхнікі, культуры і грамадска-палітычнага жыцця.



Пётр Эбэрхарт нарадзіўся ў 1935 г. у сям'і Рамана Эбэрхарта і Галіны з Вакараў. Бацька быў вядомым радыёлагам, маці — укладальніцай збору казак для дзяцей. Прадзед прафесара і пачынальнік варшаўскай лініі роду Ян Эбэрхарт паходзіў з Мекленбургіі, з нямецкага рэгіёна, дзе пражывалі нашчадкі колішніх палабскіх славян. Яго сыны займалі высокія пазіцыі ў грамадскім жыцці Варшавы і Польшчы. Адным з братоў дзеда Прафесара быў выбітны інжынер (між іншым кіраўнік будаўніцтва моста Панятоўскага ў Варшаве) Юліян Эбэрхарт, які ў міжваеннай Польшчы займаў пасаду міністра чыгуначнага транспарту. Іншы брат дзеда Герман Эбэрхарт быў вядомым юрыстам, сябрам Галоўнай рады адвакатаў і адначасна актыўным свецкім дзеячам польскага Евангелічна-Лютэранскага касцёла Аўгсбургскага вызнання.

Вакары, на працягу стагоддзяў звязаныя з Усходняй Беларуссю, былі шляхецкім родам літоўскага паходжання, які меў вялікія заслугі перад Польшчай, Рэччу Паспалітай абодвух народаў і іншымі краінамі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Народжаны ў Расіі (Тамбоў) прадзед Прафесара Анатоль Вакар быў юрыстам і ўзначальваў Генеральную пракуратуру Каралеўства Польскага. Яго сын і дзед Прафесара Уладзімір Вакар у 1920-я гады быў прафесарам дэмаграфіі і статыстыкі Вышэйшай школы гандлю ў Варшаве, а таксама адыгрываў важную ролю ў дзяржаўным і грамадскім жыцці II Рэчы Паспалітай (між іншым належаў да аўтараў сакавіцкай Канстытуцыі 1921 г.). Брат

дзеда Алексы Вакар быў прафесарам эканомікі, а пасля вайны — рэктарам Галоўнай школы планавання і статыстыкі.

Усе гэтыя абставіны паўплывалі на кола інтарэсаў і свядомасць маладога Пятра Эбэрхарта. Тут варта прыгадаць, што навучальную ўстанову, з якой былі звязаны Уладзімір і Алексы Вакары (Вышэйшая школа гандлю / Галоўная школа гандлю / Галоўная школа планавання і статыстыкі) таксама закончыла жонка Прафесара Ёлянта з Южыкуў.

Дзяцінства і маладосць Прафесара прыйшліся на час вайны і акупацыі, на цяжкія пасляваенныя гады. Васьмігадовы хлопчык перажыў два месяцы Варшаўскага паўстання ў родным Жалібожы. Пасля вайны сям'я пасялілася ў Макатове, дзе ў 1954 г. будучы прафесар закончыў гімназію імя Рэйтана, а потым распачаў навучанне ў Інстытуце геаграфіі Варшаўскага ўніверсітэта. Магістарскую працу „Lokalizacja przemysłu mięsnego w Polsce" ён напісаў у 1960 г. пад кіраўніцтвам Станіслава Ляшчыцкага (Stanisław Leszczycki). Пасля абароны Прафесар адразу знайшоў працу ў Інстытуце геаграфіі і засваення прасторы ПАН (Instytucie geografii i przestrzennego zagospodarowania PAN), якому быў верны да канца жыцця. Яго навуковы варштат сфармаваўся пад уплывам згаданага Станіслава Ляшчыцкага, а таксама такіх выбітных даследчыкаў, як Казімір Дзявоньскі (Kazimierz Dziewoński), Андрэй Урубель (Andrzej Wróbel) і Антоні Кукліньскі (Antoni Kukliński).

Апрача гаспадарчай праблематыкі ў коле навуковых інтарэсаў Прафесара апынулася таксама геаграфія асадніцтва, што між іншым знайшло адлюстраванне ў яго доктарскай працы „Rola wielkich miast w strukturze regionalnej powiązań przestrzennych w Polsce" (1968), напісанай пад кіраўніцтвам Казіміра Дзявоньскага, а таксама ў прыцягнуўшым да сябе ўвагу прагнозе развіцця агламерацый у Польшчы „Aglomeracje miejsko-przemysłowe w Polsce (1966–2000)", якую ад імёнаў трох яго аўтараў (Leszczycki, Eberhardt, Heřman) называлі LEH-em (1971) і габілітацыйнай працы „Koncentracja przestrzenna osadnictwa a produktywność przemysłu" (1976).

Пазнейшыя навуковыя інтарэсы Прафесара былі звязаны з геаграфіяй насельніцтва і дэмаграфіяй, дзе таксама прысутнічала тэма асадніцтва. Менавіта гэтымі праблемамі ён займаўся да канца жыцця. Варта прыгадаць такія яго працы, як „Regiony wyludniające się w Polsce" (1989), „Geografię ludności Rosji" (2002) і „Migracje polityczne na ziemiach polskich (1939–1950)" (2010).

Асобнае месца ў дэмаграфічных даследаваннях Прафесара займала нацыянальная праблематыка, у першую чаргу звязаная з усходнімі абшарамі даўняй Рэчы Паспалітай, якія сёння з'яўляюцца тэрыторыяй незалежных Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Варта прыгадаць такія яго працы, як „Przemiany narodowościowe na Ukrainie XX wieku" (1994), „Przemiany narodowościowe na Białorusi" (1994), „Przemiany narodowościowe na Litwie" (1997), „Polska ludność kresowa. Rodowód, liczebność, rozmieszczenie" (1998). Пазней гэта сфера навуковых інтарэсаў пашырылася на ўсю Цэнтральна-

Усходнюю Еўропу, што адлюстравалася ў кнізе „Ethnic groups and population changes in twentieth-century Central-Eastern Europe. History, data and analysis" (2003), якая выйшла ў прэстыжным выдавецтве ў Нью-Ёрку.

Чарговым полем навуковых інтарэсаў Прафесара была палітычная геаграфія і геапалітыка. Як і ў выпадку вывучэння нацыянальных працэсаў, пасля перыяду камуністычнага застою Прафесар належаў да піянераў гэтай тэматыкі. Адначасна ён працягваў і творча развіваў даследаванні, якімі займаўся яго дзед Уладзімір Вакар, а таксама прадстаўнікі геаграфічна-палітычнага падыходу ў Польшчы і ў свеце. Першай працай з гэтага навуковага абшару стала кніга „Polska granica wschodnia" (1993). Сярод найбольш важных варта назваць такія працы, як „Polska i jej granice. Z historii polskiej geografii politycznej" (2004), „Twórcy polskiej geopolityki" (2006), „Słowiańska geopolityka" (2017), а таксама калектыўныя манаграфіі і выданні пад яго рэдакцыяй „Problematyka geopolityczna ziem polskich" (2008) і „Studia nad geopolityką XX wieku" (2013). У гэтай праблематыцы Прафесар выступіў як уважлівы і крытычны рэцэнзент розных канцэпцый, якія даволі часта не столькі тлумачылі рэчаіснасць, колькі з'яўляліся ідэалагічнымі маніфестамі розных імперскіх намераў і спроб стварэння пэўнага палітычнага ладу.

Даследаванні Прафесара патрабавалі вялікіх ведаў з геаграфіі, гісторыі, эканомікі, дэмаграфіі, этнаграфіі і паліталогіі. Этнічная і палітычная тэматыка патрабавала таксама далікатнасці і асаблівага аб'ектывізму, каб пры разглядзе праблем, што выклікалі наймацнейшыя эмоцыі, заставацца ў межах навуковага аналізу. У Прафесара гэта атрымлівалася як найлепей, менавіта таму яго працы атрымалі прызнанне як у Польшчы, так і за яе межамі.

У перыяд ад 1961 па 2020 год ён апублікаваў больш за 400 прац, у тым ліку 35 кніг. Яны выходзілі на польскай, англійскай, расійскай, нямецкай, украінскай, беларускай, балгарскай, чэшскай і французскай мовах.

Пётр Эбэрхарт быў выбітным навукоўцам і цудоўным чалавекам, у чым меў магчымасць асабіста пераканацца аўтар гэтых слоў, які на працягу многіх гадоў быў блізкім супрацоўнікам Прафесара, разам з ім удзельнічаў у навуковых праектах, канферэнцыях і працяглых палявых даследаваннях у краіне і за яе межамі. Прафесар ставіўся да сваіх супрацоўнікаў па-сяброўску, з тактам і памяркоўнасцю.

Ён ніколі не выкарыстоўваў сваёй службовай пазіцыі ў прафесійных стасунках. Падтрымліваў маладых адэптаў навукі і імкнуўся ім дапамагаць самымі рознымі спосабамі, нават калі яны непасрэдна не супрацоўнічалі з ім. Гэта датычыла таксама навукоўцаў з па-за ўсходняй мяжы, галоўным чынам з Беларусі, Літвы і Украіны. Яны маглі разлічваць на дапамогу Прафесара, калі прыязджалі ў Польшчу, але таксама калі працавалі на сваёй радзіме. Пётр Эбэрхарт вельмі шмат зрабіў у справе паяднання і паразумення народаў Усходняй Еўропы.

Супраца з Прафесарам будавалася на падмурку навуковых аргументаў і асабістай культуры. Ён уплываў на супрацоўнікаў сваімі разумовымі здольнасцямі, эрудыцыяй, працавітасцю, дабрынёй і гумарам. Гэта быў найлепшы стымул для інтэнсіўнай навуковай працы, пашырэння кола навуковых інтарэсаў і выканання прафесійных абавязкаў. Дзякуючы гэтаму дасягаліся супольныя і індывідуальныя поспехі.

Дзейнасць і паводзіны Пятра Эбэрхарта атрымалі прызнанне асяродка навукоўцаў, што суправаджалася кар’ерным ростам і новымі тытуламі. Падчас працы ў Інстытуце геаграфіі ён прайшоў усе ступені навуковай кар’еры ад асістэнта (1960), старэйшага асістэнта (1964), ад’юнкта (1968), дацэнта (1977), надзвычайнага прафесара (1992) да звычайнага прафесара (1996).

У 1999–2005 гг. Прафесар кіраваў Аддзелам засваення прасторы Інстытута геаграфіі ПАН. Адначасна быў сябрам Камітэта засваення прасторы краю ПАН (1980–2004), Камітэта геаграфічных навук ПАН (1995–2002) і Навуковай рады факультэта геаграфіі і рэгіянальных студыяў Варшаўскага ўніверсітэта (1993–2006). За сваю навуковую дзейнасць атрымаў шматлікія ўзнагароды, у тым ліку ўзнагароды ПАН (1973, 1980, 2002), узнагароду Старшыні Рады Міністраў (2004), узнагароду „Przeglądu Wschodniego” (1994), узнагароду і медаль Зыгмунта Глогера (2009), ганаровы дыплом Камісіі геаграфіі асадніцтва і насельніцтва Польскага геаграфічнага таварыства (2016) і памятны медаль таго ж Таварыства ў сувязі са 100-годдзем яго існавання (2018).

Даследуючы праблемы гаспадаркі і палітыкі, асадніцтва і дэмаграфіі ў гістарычнай і прасторавай перспектыве, Пётр Эбэрхарт працягваў лепшыя традыцыі польскай і сусветнай антрапагеаграфіі і сацыяльных навук наогул. У гэтай галіне ён знайшоў шматлікіх вучняў, паслядоўнікаў і тых, хто працягнуў ягоныя даследаванні. Між іншым па гэтай дарозе пайшоў яго сын Адам Эбэрхарт, вядомы палітолаг і спецыяліст па ўсходнееўрапейскай праблематыцы, дырэктар Цэнтра ўсходніх студыяў (Ośrodek Studiów Wschodnich im. Marka Karpia) у Варшаве.

Пад кіраўніцтвам Прафесара абаранілі доктарскія дысертацыі Анджэй Мішчук (Andrzej Miszczuk) (1991), Вальдэмар Гожым-Ількоўскі (Waldemar Gorzym-Wilkowski) (1999), Марыуш Кавальскі (Mariusz Kowalski) (2001). Ён быў аўтарам некалькіх дзясяткаў рэцэнзій на доктарскія і габілітацыйныя працы. Неаднаразова даваў ацэнку заявам на атрыманне тутыла звычайнага прафесара. Шмат гадоў Прафесар перадаваў свае веды студэнтам на факультэце сацыяльных навук Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне. Ягоныя дасягненні назаўсёды ўвайшлі ў скарбніцу польскай і сусветнай навукі.

**Д-р габ., прафесар Варшаўскага ўніверсітэта**
**Марыюш Кавальскі**
**(пераклад з польскай мовы А. Смаленчука)**

***

Упершыню пачуў пра прафесара Пятра Эбэрхарта ў 1994 г., калі з цікавасцю прачытаў яго кнігу „Przemiany narodowościowe na Białorusi", а пазней напісаў рэцэнзію, якая была апублікавана ў II томе (1995) „Беларускага гістарычнага агляду" (рэдактар Генадзь Сагановіч). Рэцэнзія месцамі была даволі крытычнай, бо пісаў яе зусім малады беларускі гісторык, які скрупулёзна адзначаў факталагічныя памылкі ў даволі смелых разважаннях польскага даследчыка пра гісторыю Беларусі ў XIX–XX стст. Пры гэтым самое даследаванне было ацэнена станоўча. У рэцэнзіі адзначыў, што даследаванне польскага географа і дэмографа значна ўзбагаціла польскую беларусістыку і паставіла важныя пытанні перад беларускай гістарыяграфіяй. Кніга Пятра Эбэрхарта прысвячалася ў першую чаргу лёсу польскай супольнасці Беларусі, але пры гэтым яна была далёкай ад палонацэнтрызму. Аўтар таксама пазбег дыскурсу „крэсаў усходніх" і вітаў незалежнасць Беларусі.

У 1995 годзе на міжнароднай канферэнцыі ў Любліне пашчасціла асабіста пазнаёмцца з Прафесарам. Пётр Эбэрхарт ужо ведаў пра маю рэцэнзію і горача падзякаваў за яе „вастрыню". Апошняе моцна ўразіла, бо ў айчыннай гістарыяграфіі часцяком крытычныя заўвагі адносна пэўнага тэксту ўспрымаюцца яго аўтарам як асабістая знявага, асабліва калі іх выказвае даследчык маладзейшага пакалення.

На той канферэнцыі мы шмат размаўлялі пра праблемы мінулага і сучаснага Беларусі. Гэта сустрэча стала пачаткам больш чым 10-гадовай супрацы, якая была надзвычай важнай у першую чаргу для мяне. Яна стварыла рэдкую для беларускага гісторыка магчымасць кантактаў з выбітным навукоўцам еўрапейскага ўзроўню і цудоўным чалавекам, які вырашыў падтрымаць маладога калегу з Беларусі.

Дзякуючы Пятру Эбэрхарту бліжэй пазнаёміўся з асяродкам вядомых польскіх географаў, у тым ліку тых, хто схіляўся да антрапалагічнага разумення геаграфіі, прыняў удзел у шэрагу міжнародных навуковых канферэнцый, а ўлетку 1995 г. як „вучань" Летняй школы Студыяў Усходняй Еўропы (дырэктар Ян Маліцкі) атрымаў магчымасць праслухаць лекцыі выбітных польскіх і еўрапейскіх гісторыкаў і палітолагаў. Усё гэта стала сапраўдным адкрыццём свету польскай і еўрапейскай гуманістыкі.

У наступныя гады пашчасціла прыняць удзел у шэрагу навуковых падарожжаў па Беларусі і Літве, якімі кіраваў Прафесар і ў якіх удзельнічаў д-р Марыуш Кавальскі. Фактычна гэта былі палявыя даследаванні, падчас якіх даволі часта закраналіся праблемы польска-літоўска-беларускіх адносін, вывучаўся вобраз Польшчы і палякаў у камунікатыўнай памяці беларусаў і літоўцаў, а таксама адносіны мясцовай польскай супольнасці да Літоўскай і Беларускай дзяржаў.

Трэба адзначыць адкрытасць і цікавасць Прафесара да меркавання кожнага ўдзельніка гэтых падарожжаў, павагу да чужой думкі, уменне спакойна

абмяркоўваць самыя вострыя пытанні мінулага польска-літоўска-беларускіх узаемадачыненняў. Гэта таксама было выдатнай школай. Магчыма, менавіта ў тых падарожжах канца 1990-х–пачатку 2000-х гг. нараджалася мая цікавасць да вуснай гісторыі і закладваліся падмуркі ўласнай працы ў галіне *memory study*.

Навуковая дзейнасць Прафесара і яго асабістыя якасці, у першую чаргу жаданне падтрымаць сваіх супрацоўнікаў і калег і дапамагчы ім у творчых пошуках і жыццёвых праблемах выклікаюць вялікую павагу.

Сёння магу сказаць, што сустрэча і супраца з Прафесарам былі сапраўдным падарункам навуковага лёсу, які між іншым дапамог зразумець важнасць і значэнне кантактаў з польскімі навукоўцамі і даследчыкамі з іншых краін, неабходнасць шырокага дыялогу прадстаўнікоў розных нацыянальных гістарыяграфій і навуковых школ. Гэта сустрэча таксама дапамагла зразумець асаблівую місію гісторыка і навукоўца-гуманітарыя ў рэгіёне Цэнтральна-Усходняй Еўропы, дзе праблематыка памяці і гістарычнай палітыкі ўсё яшчэ не развіталася з эпохай нацыяналізмаў.

**Доктар гістарычных навук**
**Аляксанд Смалянчук (Варшава)**

# Макота Хаясака (19.XI.1948–17.XII.2020)

Напрыканцы мінулага года адышоў у вечнасць прафесар Макота Хаясака, вядомы японскі славіст — гісторык, даследчык Цэнтральна-Усходняй Еўропы эпохі Новага часу. Навуковая зацікаўленасць асабліва моцна звязала яго з Польшчай. На працягу некалькіх дзясяткаў гадоў ён знаёміў сваіх суайчыннікаў з мінулым нашага краю, імкнучыся ў пэўным сэнсе стаць яго пасланнікам у Японіі. Адначасна даследчык адыграў ролю піянера ў японскіх даследаваннях гісторыі Беларусі, Літвы і Украіны.



Макота Хаясака нарадзіўся ў Сапара, і менавіта там падчас навучання ва Універсітэце Хакайда пачалі фармавацца яго навуковыя інтарэсы. Іх выбару і развіццю моцна паспрыяла навуковая стажыроўка ў Польшчы ў 1974–1979 гг. Японскі гісторык як удзельнік доктарскага семінара прафесара Стэфана Кяневіча асабліва зацікавіўся гісторыяй Польшчы XIX ст., якая з таго часу стала галоўнай сферай яго навуковых даследаванняў.

Ён вывучаў палітычную думку Вялікай эміграцыі, займаўся дыпламатыяй „Гатэля Ламбер", праблематыкай „працы арганічнай", польскай гістарыяграфіяй пасля Студзеньскага паўстання. Даследаванні польскай славянафільскай думкі накіравалі ўвагу на гісторыю Усходняга прадстаўніцтва „Гатэля Ламбер" і на постаць яго кіраўніка Міхала Чайкоўскага. Заінтрыгаваны незвычайным лёсам Садыка Пашы, М. Хаясака зацікавіўся польска-турэцкімі адносінамі ў XIX ст. і гісторыяй Украіны эпохі Новага часу, асабліва зменамі ў нацыянальнай свядомасці ўкраінцаў. Вынікамі гэтых даследаванняў сталі дзве кнігі (на японскай мове): *Усходняе прадстаўніцтва — палітычнае жыццё Міхала Чайкоўскага* (Токіа, 1987) і *Украіна — шляхамі яе гісторыі* (Токіа, 1994).

У 1983 г. Макота Хаясака атрымаў ступень доктара ва Універсітэце Хакайда. Яго далейшая кар'ера — ад ад'юнкта да звычайнага прафесара — была звязана з Універсітэтам Ібаракі, у якім ён працаваў у 1983–1996 гг. Пазней быў прафесарам *Tokio Institute of Technology* (1996–2014).

Гісторык пастаянна пашыраў свае навуковыя зацікаўленасці. Паступова да праблематыкі гісторыі Польшчы і, у меншай ступені, Украіны далучыліся даследаванні гісторыі Беларусі і Літвы. Яго найбольш цікавілі нацыянальныя і канфесійныя змены, а таксама той уплыў, які на працягу стагоддзяў аказвала суседства Польшчы і Расіі. Даследчык ужо не абмяжоўваўся

ўлюбёным XIX ст., а пашыраў кола сваіх інтарэсаў як на перыяд Вялікага Княства Літоўскага і Кіеўскай Русі, так і на першую палову XX ст.

Але незалежна ад гістарычных экскурсаў у больш ці менш аддаленае мінулае прафесар Макота Хаясака заставаўся перш за ўсё гісторыкам XIX ст. Яго навуковая цікавасць датычыла ўжо ўсяго абшару Рэчы Паспалітай, і, адпаведна, ён стаўся *de facto* даследчыкам гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Ён звяртаў увагу на агульнаеўрапейскія, а ў пэўнай ступені і пазаеўрапейскія аспекты гісторыі гэтага краю, а таксама на значэнне гістарычных сувязяў, якія яднаді асобныя яго часткі. Адначасна гісторык аналізаваў спецыфіку кожнай з іх і асвятляў мінулае з розных пунктаў погляду, якія параўноўваў і ацэньваў.

У багатай навуковай спадчыне Макоты Хаясакі вылучаюцца працы, прысвечаныя гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Апрача ўжо згаданых варта прыгадаць тры кнігі (на японскай мове), якія выйшлі на мінулай дэкадзе ў Токіа, а менавіта: *Гісторыя Памежжа: разважанні над мінулым Беларусі* (2013); *Літва: уплыў гістарычнай традыцыі на фармаванне нацый. „Краёвая ідэя" з перспектывы сучаснасці (2017)*; *Спецыфіка і ўніверсалізм гісторыі Польшчы ў XIX ст. Розныя шляхі фармавання сучасных нацый* (2019).

У апошняй Аўтар рэпрэзентаваў найважнейшыя накірункі і вынікі сваіх „польскіх" даследаванняў з асаблівай увагай да праблематыкі гісторыі палітычнай думкі і міжнародных аспектаў змагання за незалежнасць. Увесь тэкст падпарадкаваны галоўнай думцы, якая адлюстравалася ў назве кнігі і сведчыць пра пэўную падвоенасць польскай мінуўшчыны. Гэта кніга, таксама як і іншыя працы Макоты Хаясакі, адрозніваецца шматлікімі гісторыясофскімі і кампаратывісцкімі акцэнтамі, што надае ёй дадатковую навуковую вартасць.

Еўрапейскія даследчыкі знаёміліся з навуковай працай Макоты Хаясакі пераважна па яго артыкулах, якія публікаваліся на розных мовах (англійская, французская, польская, расійская, беларуская ды інш.), а таксама па выступах на навуковых з'ездах і канферэнцыях, напр., на з'ездах польскіх гісторыкаў, кангрэсах замежных даследчыкаў гісторыі Польшчы, міжнародных кангрэсах даследчыкаў Беларусі.

Выбітныя рысы яго навуковай творчасці былі хутка заўважаны. Ужо ў 1990-х гадах Макота Хаясака здабыў высокі аўтарытэт сярод спецыялістаў і далучыўся да групы вядучых японскіх даследчыкаў гісторыі Польшчы і іншых краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы. У 2018 г. журы ўзнагароды імя Ежы Скаўронка ўзнагародзіла яго спецыяльным дыпломам за сукупнасць даследчай дзейнасці і навуковы ўнёсак у пашырэнне ведаў пра мінулае Польшчы ў Японіі і ва ўсім свеце.

Асабістыя рысы навукоўца — сціпласць, імпануючая працавітасць і заўсёдны даследчы энтузіязм, а таксама душэўны спакой і сяброўскі стасунак

да іншых — гарантавалі яму прызнанне і добрае стаўленне. Сярод яго сардэчных калег і сяброў было шмат палякаў, асабліва з асяродка гісторыкаў. Іх прываблівала наватарскі погляд японскага даследчыка на мінулае нашага рэгіёна. Адначасна яны дапамагалі зразумець складаныя моманты яго гісторыі. Макота Хаясака праз шмат гадоў з удзячнасцю згадваў тую дапамогу, якую ў свой час атрымаў ад прафесараў Ежы Скаўронка, Славаміра Калембка, Ежы Здрады ды інш.

Асабіста пазнаёміўся з прафесарам Хаясака ў 1990-я гады, і тагачасная знаёмасць з часам ператварылася ў сяброўства. Мяне прывабліваў ягоная адданасць навуцы, уражлівасць да праблем іншых людзей і да прыгажосці прыроды, а ў апошнія гады — вытрымка ў змаганні з анкалагічнай хваробай. Ён мужна трымаўся, не спыняючы навуковай працы. Яшчэ вясной мінулага года планаваў напісаць кнігу пра польскія гістарычныя школы — варшаўскую і кракаўскую. Чарговыя атакі хваробы перашкодзілі рэалізацыі гэтага плана. Затое ён паспеў закончыць і аддаць у друк кнігу, якую прэзентаваў як нарыс уласных „навуковых падарожжаў па гісторыі даўняй Рэчы Паспалітай”. Гісторык спадзяваўся, што ў снежні будзе мець магчымасць парадавацца асобнікам новай кнігі. Кніга выйшла як і планавалася, але Аўтар яе ўжо не дачакаўся.

Смерць прафесара Макоты Хаясакі засмуціла сяброў гістарычных асяродкаў Японіі і Польшчы, а таксама яго калег і сяброў у розных краінах. Ён пакінуў арыгінальную і багатую навуковую спадчыну, якая будзе інспіраваць далейшыя даследаванні і спрыяць развіццю навуковых кантактаў паміж Японіяй і Цэнтральна-Усходняй Еўропай. Засталася памяць пра выбітнага навукоўца, сябра Польшчы, чалавека з вялікім сэрцам.

**Прафесар, д-р габ. Ян Юркевіч (Познань)**
**(пераклад з польскай мовы А. Смаленчука)**

***

З далекого Токіо надійшла сумна звістка — помер відомий японський славіст, професор університетів в Саппоро і Токіо, друг України, Макото Хаясака.

Він народився 19 листопада 1948 року в сім’ї бухгалтера на півночі Японії (острів Хокайдо). Після закінчення університету в Саппоро зацікавився історією слов’ян, почав з старообрядців, але невдовзі зосередився на історії Речі Посполитої XVIII ст. та польського національно-визвольного руху XIX — початку XX ст., опанував польську й російську мови, дещо пізніше — українську й білоруську. У 1974–1979 рр. він проходив наукове стажування у Польщі (переважно у Варшаві і Кракові), наполегливо працював в польських архівах, відвідав Підляшшя — прикордонний регіон, де поляки, білоруси й українці живуть поруч і який зберіг свій строкатий культурний ландшафт. Вже тоді Макото Хаясака зацікавився народами, які населяли Річ Посполиту і навіть мали свою державність.

У 1983 р. він здобув у своїй „альма матер" науковий ступінь (PhD) і став працювати в університеті Ібаракі (ад'юнкт, доцент, професор), у 1997–2014 рр.— професором в Технологічному инстытуце Токіо.

Ще у 1983 р. професор Хаясака видав важливе дослідження „Русские якобинцы и М. П. Драгоманов — споры о путях решения национального вопроса". У 1992–1993 рр. Макото був на стажуванні в Росії, після чого видав монографію „Одне з джерел ідеї революційної диктатури: російське якобінство і польське питання" (Токіо, 1999). В ній він звернув увагу на українські сюжети, насамперед на постать К. Турського з Херсонщини.

Пізніше він приділив увагу постаті Міхала Чайковського — творця козацтва в Османській імперії в роки середини — третьої чверті XIX ст., яке збройно боролося з царатом. Хаясака відзначав, що козацький проект М. Чайковського знайшов своєрідну аналогію в Японії, де на о. Хокайдо виникла військова колонія, котра мала стати початком сучасної армії під особистим контролем і владою імператора. Дослідив учений і постать сподвижника Чайковського Ф. Духінського, який підтримував контакти з Кирило-Мефодіївським товариством у Києві, а в часи Кримської війни висунув тезу „Росіяни — не слов'яни".

У 1992 р. М. Хаясака відвідав Україну (Київ, Дніпропетровськ, Львів). Це спричинилося пізніше до написання його монографії про Україну „Україна: як відбудувати свою вітчизняну історію" (Токіо, 1994). Пізніше вчений перебував у Польщі (1993), Литві (1996–1998), бував в Україні та Білорусі (2012, 2017).

Важливим було те, що науковець звернув увагу на Україну й Білорусь, які досі були в тіні Росії та Польщі, Без перебільшення можна сказати, що завдяки таким авторам як Макото Хаясака в Японії були закладені підвалини сучасного слов'янознавства, в т.ч. українознавства. Чи варто казати яким дорогим для українських і білоруських славістів є неупереджене і доброзичливе слово закордонного дослідника, тим більше з далекої Японії.

Хоча історія визвольного руху в Польщі, його ідеологія, зв'язки і впливи на європейські країни, а також Японію, посідає центральне місце у творчості спадщині Хаясаки, але не меншу увагу він приділяв історії держав, які виникли на теренах колишньої Речі Посполитої, тобто Білорусі, Литви, України, відповідно і народів. Цій проблемі він присвятив своєрідну трилогію, видану в Токіо: „Історія прикордоння: роздуми про історію Білорусі" (2013), „Литва. Вплив історичної традиції на формування народів — крайова ідея з сучасної перспективи" (2017), „Специфіка і універсалізм історії Польщі XIX столітті (мінливі шляхи формування сучасних націй)" (2019).

Важливим є те, що японський славіст підкреслював прогресивність національно-визвольних рухів, піддавав справедливій критиці імперську політику Росії, русифікаторські теорії, позитивно оцінював роль видатних українських (М. Грушевський) і білоруських (М. Довнар-Запольський) істориків, які вплинули на розвиток національної самосвідомості українців

і білорусів. Знайшов Хаясака місце і для розгляду політики білорусизації та її трагічному завершенню в 30-х роках XX ст.

Цікаво, що він зупинився на незвичних для слов'янської історіографії сюжетах: скажімо влучно порівнював польську політику щодо України й Білорусі з політикою японського уряду в Маньчжурії. Врешті він критично розглядав період брежневського застою в СРСР і розвиток історіографії цього періоду, критикував репресивний режим Лукашенка.

На жаль, онкологічне захворювання змусило вченого покинути викладання в університеті. Він вийшов на пенсію і проживав у скромному будинку на березі моря разом із своєю дочкою, але не полишав наукової діяльності. До останнього подиху він невтомно працював…

До його 70-річчя науковці Японії, Білорусі, Польщі й України підготували збірник статей на його пошану, який ось-ось має вийти. На жаль, Макото Хаясака не дочекався цього. 17 грудня 2020 р. його життя обірвалося. Вічна йому пам'ять…

**Професор, доктор історичних наук**
**Юрій Мицик (Кіїв)**

*******

Няма Макоты Хаясакі… Адышоў у нябыт вядомы гісторык, аўтар першай „японскай" гісторыі Беларусі (2013), чалавек, які цікавіўся яе мінулым і перажываў за яе сучаснае становішча, спачуваў праблемам беларускіх навукоўцаў-гуманітарыяў.

Макота Хаясака наведаў Беларусь толькі аднойчы, напрыканцы лета 2012 г. У гэты час ён працаваў над кнігай *Гісторыя Памежжа: разважанні над мінулым Беларусі*, якая выйшла з друку ў наступным годзе. А тады мы здзейснілі аўтападарожжа па маршруце Гародня — Наваградак і воз. Свіцязь — хутар Залессе — Мір і Нясвіж — Менск — Мядзел і воз. Нарач — Ушачы і вёска Бычкі — Полацак. Дарога пачыналася ў Гародні, дзе прафесар выступіў з адмысловым рэфератам, параўноўваючы гістарычныя лёсы Японіі і Беларусі.

Вельмі важнай падзеяй таго падарожжа стала сустрэча з сярэднявечным мастацтвам у царкве Святога Спаса ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры ў Полацку. Гаворка ідзе пра фрэскі XII ст., якія былі адкрыты ў тым самым 2011 г. Толькі дзякуючы прысутнасці японскага гісторыка нам дазволілі ўбачыць гэты выдатны твор мастацтва непасрэдна з „лясоў", збудаваных дзеля рэстаўрацыі, а таксама распавялі пра асаблівасці гэтага ўзору фрэскавага жывапісу.

На працягу ўсёй паездкі падкупала адкрытасць і шчырасць спадарожніка, ягоная цікаўнасць да розных аспектаў беларускай мінуўшчыны, з якой раней ён сустракаўся пераважна ў інтэрпрэтацыі польскіх і расійскіх гісторыкаў.

Упэўнены, што тое падарожжа паўплывала на канчатковую канцэпцыю першай гісторыі Беларусі, напісанай японскім даследчыкам.

Потым была працяглая сяброўская перапіска. Па просьбе Макоты Хаясакі я высылаў у Токіа беларускую гістарычную літаратуру, дзяліўся выданнямі з уласнай электроннай бібліятэкі і, нарэшце, перакладаў з польскай мовы ягоную прадмову да *Гісторыі Памежжа…* У апошнія гады новай тэмай у размовах стаў стан яго здароўя, бо даводзілася змагацца з анкалагічным захворваннем. Зрэшты, гэта праблема заўсёды прысутнічала на другім плане і ніколі не дамінавала.

Адной з тэм, якая найбольш зацікавіла японскага даследчыка, была тэма краёвай ідэі і яе ролі ў гісторыі нацыянальных працэсаў у Беларусі і Літве. Гэты сюжэт знайшоў адлюстраванне ў артыкуле *Краёвая ідэя ў гістарычнай перспектыве. Параўнаўчы аналіз,* апублікаваным на старонках гадавіка *Homo Historicus* (2012, том 3). Варта адзначыць, што ў навуковай творчасці Макоты Хаясакі важнае месца займала якраз кампаратывістыка.

У траўні 2013 г. па запрашэнні Макоты Хаясакі мне пашчасціла наведаць Японію. У памяці засталіся не толькі цікавосткі прыроды і культуры Японіі, але таксама працяглыя размовы з гісторыкам, які ўжо прыняў рашэнне пакінуць *Tokio Institute of Technology*. Пры гэтым галоўнай тэмай размоў былі яго новыя навуковыя праекты, што датычылі гісторыі земляў і народаў былой Рэчы Паспалітай. Ствралася ўражанне, што чалавек жыве толькі навукай, але гэта было не зусім так. Макота Хаясака як адзінокі бацька з маленства выхоўваў дачку. Ён балюча ўспрымаў праблемы захавання і трансфармацыі культурных традыцый Японіі. Адначасна быў адкрыты на кантакты з калегамі, у тым ліку з самага далёкага замежжа, і гатовы прыйсці ім на дапамогу.

…Апошняя наша сустрэча адбылася ў чэрвені 2018 г. у Варшаве. Макота Хаясака прыляцеў у Польшчу, каб пабачыцца з сябрамі і паразмаўляць пра новую кнігу па гісторыі Польшчы, працу над якой толькі распачаў. Нягледзячы на захворванне, ён быў настроены на новыя навуковыя пошукі і знаходкі. Аднак падчас нашых размоў мелася адчуванне, што Макота развітваецца са старымі сябрамі, з краінай, з якой пачалася ягоная асабістая гісторыя як даследчыка народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. На жаль, гэта адчуванне не падманула…

**Доктар гістарычных навук**
**Аляксандр Смалянчук (Варшава)**

# Аляксандр Ільін (1956–2020)

Rok 2020 okazał się trudnym, a niejednokrotnie smutnym okresem także dla kręgu osób zajmujących się dziejami Europy Środkowo-Wschodniej. W listopadzie nadeszła z Pińska informacja, że zmarł Aleksander Ilin — matematyk, historyk i krajoznawca. Człowiek zafascynowany przeszłością ziem tworzących polsko-białorusko-ukraińskie pogranicze. Szczególnie pochłonęły go dzieje Polesia, a więc tego wyjątkowego regionu, na terenie którego krzyżowały się, mieszały, a nierzadko i konkurowały wpływy nie tylko wspomnianych przed chwilą nacji, ale gdzie swoje piętno mocno odcisnęły również społeczności rosyjskie i żydowskie.



Aleksander Ilin opublikował samodzielnie i we współautorstwie około 250 prac z zakresu historii. Reprezentowane są wśród nich takie kategorie tekstów jak monografie, biogramy, hasła encyklopedyczne, artykuły popularno-naukowe[1]. Wśród nich szczególną uwagę zwracają pozycje zwarte. Znalazły się tu m. in. opracowania mniejsze, kilkudziesięciostronicowe[2], ale i ujęcia obszerniejsze, od stu kilkudziesięciu do kilkuset stron[3]. Jest to dorobek znaczący pod względem wartości poznawczej, zróżnicowany zarówno jeśli chodzi o spektrum podjętych zagadnień, jak i urozmaicony jeśli mowa o formie. Tu chciałbym spojrzeć na dokonania historiograficzne Aleksandra Ilina przez pryzmat tych jego prac, które przyjęły postać książek i broszur, autorskich i współautorskich monografii, zbiorów studiów, wreszcie wydawnictw źródłowych. Odwołam się również do własnych doświadczeń z kilku wspólnych przedsięwzięć, zazwyczaj przezeń inicjowanych.

Jego warsztat cechował kilkoma charakterystycznymi znamionami. Jednym z nich było udostępnianie czytelnikowi na szeroką skalę materiałów źródłowych, przytacza-

---

1 Bibliografia prac Aleksandra Ilina udostępniona przez Elenę Ignatiuk, [list do autora z 20 IV 2021].

2 А. Л. Ильин, *Дятловицкий Спасо-Преображенский монастырь*, Лунинец 2013, ss. 20; А. Ильин, *Архимандрит Маркиан (Пётр Платонович) — писатель, лекарь, благотворитель и церковный деятель*, Лунинец 2017, ss. 19 c; А. Ільін, А. Ігнацюк, *Аўген Бартуль — беларускі паэт і старшыня Лунінецкага гарадскога суда*, Лунінец 2018, ss. 30.

3 О. Ільїн, С. Шандрук, П. Мазур, А. Гудима, *Для тебе, Україно… З архіву К. Л. Берез-Картунки (1934–1935), часів II Речі Посполитої Польської*, Тернопіль 2010 [II wyd. 2014, ss. 535]; А. Ильин, Е. Игнатюк, *Очерки истории культуры Пинщины (IX — нач. XX в.)*, Пинск 2013, ss. 220; О. Ільїн, *Борiс Ольхівський — письменник-есеїст, співець та дослідник Полісся*, Пінск 2017, s. 102 [II wyd. 2020, ss. 144]; О. Ільїн, П. Мазур, *Нарисі історії Береза-Картуського концтабору (липен 1934 – вересень 1939)*, Тернопіль 2019, ss. 640; А. Ильин, Е. Игнатюк, *Непростые и загадочные судьбы братьев Русецких и их потомков*, Пинск 2020, ss. 163.

nych *in extenso*. Metodę tę można uznać za dyskusyjną z punktu widzenia klasycznego warsztatu historycznego. Niemniej to dzięki niej i przekonaniu o słuszności takiego działania wprowadził wiele archiwaliów do obiegu naukowego, z pożytkiem dla przyszłych badań. Należy podkreślić, że dzięki prowadzeniu przez Aleksandra Ilina bardzo intensywnych, szeroko zakrojonych tematycznie i terytorialnie kwerend dysponował on interesującym zestawem odpisów. Miałem niejednokrotnie możliwość bezpośredniej obserwacji prac poszukiwawczych Aleksandra Ilina. Prowadził je w sposób bardzo sumienny, nadzwyczaj metodyczny. Konsultował na bieżąco pojawiające się wątpliwości, także językowe. Z rzadka kopiował dokumenty mechanicznie.

Wyróżniającym, a jednocześnie symbolicznym dla Aleksandra Ilina, Jego zainteresowań historycznych, ale także pojmowania przezeń przeszłości wydaje mi się fakt, że swoje książki publikował w trzech językach: białoruskim, rosyjskim i ukraińskim, a dodać wypada, że teksty rozproszone ukazywały się także w języku polskim.

Tematem, który zaowocował najobszerniejszymi publikacjami okazała się historia tzw. Miejsca Odosobnienia w Berezie Kartuskiej (w historiografii białoruskiej często określanego jako *концлагер*). Początkowo A. Ilin skoncentrował swoją uwagę na zagadnieniach związanych z grupą przetrzymywanych, którzy zostali uznani przez władze polskie za osoby powiązane z narodowym ruchem ukraińskim, a zwłaszcza z tą jego odmianą, której symbolem stała się Organizacja Ukraińskich Nacjonalistów. W efekcie powstał rodzaj słownika biograficznego ludzi zakwalifikowanych do tak określonej grupy, którzy znaleźli się w Berezie Kartuskiej w pierwszych latach funkcjonowania obozu (1934–1936).

Ukoronowaniem zaś tego nurtu badań był ponad sześciusetstronnicowy tom, w którym Aleksandrowi Ilinowi udało się zebrać m.in. wątki z dziejów „Miejsca Odosobnienia", które nie funkcjonowały w historiografii mu poświęconej. Na kartach wspomnianej książki mamy nawiązania także do takich spraw jak stosunki polsko-sowieckie, czy geneza II wojny światowej. Jak często dzieje się w publikacjach A. Ilina, tekst wzbogacany jest obszernymi wyciągami z dokumentów, w tym wypadku przechowywanych w Państwowym Archiwum Obwodu Brzeskiego.

Tu pozwolę sobie na odnotowanie kolejnego osobistego doświadczenia. Jesienią 2019 r. miałem okazję uczestniczyć w promocji wskazanej przed chwilą książki, zorganizowanej przez Narodową Akademię Nauk Ukrainy w Kijowie. Pytania, które wówczas padły z sali świadczyły z jednej strony o tym, że wydawnictwo wywołało zainteresowanie, z drugiej dowodziły, że rozpowszechniona orientacja na temat tego, czym było tzw. Miejsce Odosobnienia zawiera niemało uproszczeń. Kijowskie przedsięwzięcie pozostawiło wrażenie, że dalsze prace nad dziejami obozu są wskazane, ale przede wszystkim uzmysłowiło, że ich prowadzenie bez uwzględnienia ustaleń dokonanych przez Aleksandra Ilina jest niemożliwe.

Innym z obszarów badawczych, które były mocno eksploatowane przez A. Ilina okazała się biografistyka. Szczególnie intensywnie zajmował się życiorysami duchownych prawosławnych, ziemian, ludzi związanych z szeroko rozumianą kulturą, wreszcie postaciami działaczy politycznych, często o lokalnym znaczeniu, ale istot-

nych dla tamtejszych społeczności. W swojej twórczości sięgał często po te życiorysy, które wydawały mu się albo niesłusznie zapomniane, albo ujmowane w sposób niepełny bądź taki, który wymagał korekt. Nie będzie przesadą stwierdzenie, że niektóre z nich niejako przywracał świadomości historycznej Białorusinów, Ukraińców i Polaków. Kwerendy archiwalne przynosiły jednakże interesujące szczegóły dróg życiowych i osób znanych. Biografie, które Aleksander Ilin wydał pod postacią książek, oglądane łącznie, zdają się kumulować wspomniane już cechy badań (bogate cytowania jak i aneksy źródłowe) oraz stanową prezentację postaci związanych z historią Polesia. Wydaje się więc, że to właśnie biografistyka była tą sferą, do której w największym stopniu zdaje się odnosić wypowiedź Aleksandra Ilina, jaka ukazała się w 2016 r. na łamach białorusko-ukraińskiego czasopisma „Справа": „[…] sowiecka i postsowiecka nauka historyczna przesiąknięta jest kłamstwem, stereotypami, komunistycznym i szowinistycznym mitotwórstwem. Współczesna nauka historyczna potrzebuje świeżego spojrzenia pozbawionego uprzedzeń".

Cechą prac Aleksandra Ilina była również kreatywność, jeśli chodzi o inicjatywy wydawnicze. Takie przedsięwzięcia jak czasopismo „Гістарычная Брама", czy rozpoczęcie wydawania serii „Палеская бібліятэчка часопіса" świadczą o tym, że myślał w kategoriach poczynań długofalowych. Zapraszał do współpracy historyków spoza Białorusi, sam wiele na jego łamach publikował. Nie udało Mu się jednak podtrzymać klasycznie wydawanego periodyku (Los pisma „Гістарычная Брама" skłania do przypuszczeń, że przeszkody natury organizacyjnej bywały zbyt poważne). Tym bardziej więc należy docenić upór, z jakim walczył o zaistnienia nowego przedsięwzięcia w postaci wspomnianej wyżej serii, w której w latach 2017 i 2020 zdążyły ukazać się dwie pozycje książkowe[4].

Na zakończenie ponownie odwołam się do osobistego doświadczenia. Kilka tygodni przed śmiercią Aleksandra Ilina wymieniliśmy kolejną porcję korespondencji. Pytał o plany badawcze, a kiedy zasygnalizowałem Mu zupełnie wstępnie rysujące się pomysły, natychmiast wskazał na wiążące się z nimi wątki, jednocześnie oferując pomoc i możliwość współpracy. Historia była Jego pasją, którą starał się realizować bez względu na istniejące granice i ograniczenia.

**Dr hab. Piotr Cichoracki (Wrocław)**

Мінулы год быў даволі цяжкім для беларускай гістарычнай навукі. Многія вядомыя даследчыкі страцілі працу ў акадэмічных інстытутах і ўніверсітэтах, што было помстай за іх удзел у пратэстах супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 2020 г. Многія сталі ахвярай пандэміі *covid-19*. Адным з іх быў Аляксандр Ільін.

Яго смерць — гэта вялікая страта не толькі для блізкіх і сяброў, але таксама для гістарычнай навукі. Аляксандр Ільін не заўсёды ўпісваўся ў каноны беларускай акадэмічнай гістарыяграфіі, дзе з савецкіх часоў прыкметную

4 О. Ільїн, *Борис Ольхівський…*; А. Ильин, Е. Игнатюк, *Непростые и загадочные судьбы…*

ролю адыгрываюць пасады і адабрэнне чыноўнікаў ад ідэялогіі, але натхненне даследчыка і вялікая працаздольнасць зрабілі яго імя вядомым на ўсю краіну і па-за яе межамі.

Нашы кантакты распачаліся ў другой палове 1990-х гг., калі я толькі пачынаў паглыбляцца ў даследаванне жыццяпісу краёўца, дзеяча беларускага нацыянальнага руху, сенатара II РП і ўладальніка Парэцкага маёнтка Рамана Скірмунта (1868–1939). А. Ільін падтрымаў мяне і на працягу многіх гадоў шчодра дзяліўся ўласнымі архіўнымі знаходкамі, што датычылі роду Скірмунтаў. Пераважна гэта былі дакументы Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобл., які ён дасканала ведаў.

Таксама мы кантактавалі ў пытаннях публікацыі тэкстаў на старонках „Гістарычнай брамы", дзяліліся меркаваннямі і дыскутавалі па пытаннях беларускай гісторыі, абменьваліся выданнямі. Варта адзначыць зацікаўленасць Аляксандра Ільіна ў належным камплектаванні бібліятэк Пінска і Брэста навуковай гістарычнай літаратурай.

Ведаю, што цікавасць да гісторыі роду Скірмунтаў ніколі не пакідала яго. Пацвярджэнне гэтаму — пасмяротнае выданне кнігі *Палескія Скірмунты ў архіўных дакументах (2021).* У гэтым зборніку разам з дакументамі апублікаваны артыкулы А. Ільіна, прысвечаныя як асобам, так і пэўным падзеям з гісторыі палескіх Скірмунтаў. Гэтыя тэксты выходзяць за рамкі ўласна скірмунтазнаўства і дазваляюць разважаць пра ролю шляхты ў гісторыі Палесся, пра яе стасункі з сялянамі, нарэшце, пра трагедыю гэтага сацыяльнага слоя ўвосень 1939 г. Якраз тады з дазволу або па загаду савецкай улады адбываліся расправы са Скірмунтамі, Друцкімі-Любецкімі ды інш.

Аляксандр Ільін найчасцей пісаў пра падзеі лакальнага жыцця Палесся, пра мясцовых палітыкаў і дзеячаў культуры. Аднак, ацэньваючы значэнне яго навуковай дзейнасці ў галіне вывучэння мінулага, можна канстатаваць, што ён часта выходзіў за межы краязнаўства. Вонкава малы фармат яго даследаванняў насамрэч шмат значыў як для вывучэння агульнабеларускай гісторыі, так і стасункаў Беларусі з Украінай, Польшчай і Расіяй. У дачыненні да навуковай дзейнасці А. Ільіна можна ўжываць тэрмін „мікрагісторыя". Гэты адносна новы накірунак гістарычных даследаванняў ставіць сваёй мэтай аднаўленне суцэльнай карціны мінулага ў маштабах мікрарэгіёна ці вузкай сацыяльнай групы, а часам нават у маштабе аднаго роду, адной сям'і альбо індывідуальнай біяграфіі. Магчыма, не заўсёды высновы яго прац датычылі згаданай „суцэльнай карціны", але яны заўсёды набліжалі да яе.

Пасмяротны зборнік Аляксандра Ільіна — гэта не толькі пэўнае падсумаванне ўнёску Аўтара ў скірмунтазнаўства, але таксама запрашэнне працягваць даследаванні. Упэўнены, што яно знойдзе водгук сярод даследчыкаў.

**Доктар гістарычных навук**
**Аляксандр Смалянчук (Варшава)**

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**PhD Tomasz Błaszczak** — historyk, pracuje na *Vytautas Magnus University* (Kaunas), *Faculty of Humanities.* Zakres badań obejmuje mniejszości narodowe w Rzeczpospolitej Obojga Narodów oraz historię XIX i XX wieku państw bałtyckich i Białorusi. Obecnie bada biografie Władysława Wielhorskiego i Klaudiusza Dušauskasa-Duża.

Najważniejsze publikacji:

*Wielhorski Władysław, Pamiętnik: z archiwów Biblioteki Narodowej*, Wilno 2019 (kompilacja i badania naukowe); *Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940*, Białystok 2017; *Między państwowością a pochodzeniem etnicznym. Budowa polityki interpretacji i pamięci na lata 1918–1939 w Polsce, na Litwie, Białorusi i Ukrainie* [w:] *Narracje narodowe i bohaterowie w Europie Środkowo-Wschodniej po 1989 roku*, Kowno — Wilno 2015, s. 239–316; T. Błaszczak; I. Matiash, D. Michaluk, *Iwan Kraskowski (1880–1955): w służbie Białorusi i Ukrainy,* Białystok 2019.

**Dr hab. Piotr Cichoracki** — historyk, profesor Uniwersytetu Wrocławskiego. Zajmuję się historią polityczna Polski pierwszej połowy XX wieku, zwłaszcza dziejami obozu sanacyjnego, województw północno-wschodnich II Rzeczypospolitej, kwestiami bezpieczeństwa wewnętrznego w okresie międzywojennym.

Najważniejsze publikacje:

*Polesie nieidylliczne. Zaburzenia porządku publicznego w województwie poleskim w latach trzydziestych XX wieku*, Łomianki 2007; *Droga ku anatemie. Wacław Kostek-Biernacki (1884–1957)*, Warszawa 2009; *Stołpce — Łowcza — Leśna 1924. II Rzeczpospolita wobec najpoważniejszych incydentów zbrojnych województwach północno-wschodnich,* Łomianki 2012; *Województwo poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, Łomianki 2014; *Oblicza buntu społecznego w II Rzeczypospolitej doby wielkiego kryzysu (1930–1935). Uwarunkowania, skala, konsekwencje*, Kraków 2019 (wspólnie z J. Dufrat i J. Mierzwą); *Rzeczpospolita niedoskonała. Dokumenty do historii buntu społecznego w latach 1930–1935*, Łomianki-Kraków 2019 (wstęp i opracowanie wspólnie z J. Dufrat, J. Mierzwą i P. Rucińskim).

**Dr hab. Anna Engelking** — etnografka i antropolożka, profesorka Instytutu Slawistyki PAN w Warszawie. Zajmuje się antropologią wsi białoruskiej (w tym pamięcią zbiorową) i historią polskiej etnologii. Prowadziła badania terenowe w Białorusi i Ukrainie.

